

НОВАЯ
АПОВЕСЦЬ ПАЭТА

НАВЕЛЫ
ВОГНЕННАГА ЮНАЦТВА

СЛОВА
ПРА БУРАВЕСНІКА

НІЗКІЯ ТЭМПЕРАТУРЫ
І ТЭХНІКА

ПЕРАД СУСТРЭЧАЙ
ЗА ЭКЗАМЕНАЦЫЙНЫМ
СТАЛОМ

СЛАВУТЫ СЫН
БЕЛАРУСКАЙ ЗЯМЛІ

КАХАННЕ.
ЯК ЯГО РАЗУМЕЦЬ!

ВУЧАНЬ
ПРА СВАЙГО НАСТАЎНІКА

3

САКАВІК

МІНСК, 196

*ШТОМЕСЯЧНЫ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСОПІС*

●

**Заснаваны ў 1953 годзе**

# МАЛАДОСЦЬ

**ОРГАН ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА ЛКСМ БЕЛАРУСІ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР**

## У НУМАРЫ:



**Выдавецтва «Звязда»**

Вокладка і шмуцтытул **В. Шаранговіча.**



# ПАЭЗІЯ ПРОЗА

● РАІСА БАРАВІКОВА ● УЛАДЗІМІР ПАЎЛАЎ ● АНАТОЛЬ ГРАЧАНІКАЎ ● ПАЎЛЮК ПРАНУЗА ● ГАННА КРАСНАПЁРКА ● УЛАДЗІСЛАЎ НЯДЗВЕДСКІ ● УЛАДЗІМІР ФАМІН ● ВАЛЯНЦІНА РУДАВА ● ЕЎДАКІЯ ЛОСЬ ● АЛЕСЬ НАЎРОЦКІ ● АГАТА КРЫСЦІ

# ПАЭЗІЯ

● *Я—дзяўчынка на шары*

●● ______________

●●● ______________

●●●● ______________





Раіса БАРАВІКОВА

●

Я — дзяўчынка на шары,
Што плыве у блакіце.
Над прасторам паўшар'я
Сонца ззяе ў зеніце.
Я нікому не ў цяжкасць,
Я — лёгкая, бы пушынка,
Што трапляе ў бязважкасць.
Я — на шары дзяўчынка.
Шар, вялікі, бязмежны,
У здзіўленні я кратаю.
Быццам белыя вежы,
Быццам чорныя кратэры,
Горы ззяюць снягамі
І дымяцца абшары
У мяне пад нагамі.
Я — дзяўчынка на шары.
. . . . . . . . . . . .

Гляджу на сусвет бясстрашна
І — плыву ў сіняве...
Страціла б я раўнаважжа,
Ды мне шар не дае.
Яго сонцам сагрэта,
Я не падаю — дзіва:
Пада мною планета,
Што мяне нарадзіла.

Я ж — дзяўчынка на шары.

●●

На Ясельдзе маёй зноў крыгаход.
У хвалях сініх плёскае вясна.
Гляджу на грэблю — вузкі пераход —
І бачу побач лодку без вясла.

*Над маім сталом звычайная вучнёўская карта. Бярозы, Брэст, Магілёў, Быхаў — знаёмыя назвы, блізкія, родныя!*

*Задумваюся і — адразу забываюся на ўсё... Толькі ўспаміны... Хочацца крыкнуць: «Дзень добры, Палессе! Як я рада сустрэчы з табой, хоць у думках. Якія высокія ў цябе сосны! Здаецца, кранаюцца неба... А верас, а твой чабор,— ад іх хмялею. Якое ты прыгожае раніцой, калі ласі выходзяць да яшчэ ахутаных туманам лясных рэчак на вадапой, калі першыя промні вясёлкаю граюць у кроплях расы. Таму мне і хочацца пісаць, пісаць аб усім гэтым у сваіх вершах...»*

*Аднекуль здалечыні выплывае той невялічкі раён, на берагах Дняпра, па дарогах якога даводзілася ездзіць, з людзьмі якога прыходзілася размаўляць. Людзі там добрыя, сціплыя і галоўнае — працавітыя.*

*Аб іх хочацца пісаць.*

*А недзе ў вялікіх гарадах жывуць мае сябры, няўрымслівыя, неспакойныя... Колькі спрэчак, гутарак з імі ў думках. Згоды, нязгоды, пытанні, адказы...*

*І аб гэтым таксама хочацца пісаць.*

*Уражанні, успаміны... Усе яны прыводзяць да невялікага зялёнага астраўка з рысачкамі балот на звычайнай вучнёўскай карце.*

*Гэта мая Беларусь! Гэта прастор маіх пачуццяў, якія пераўвасабляюцца ў вершы.*

*Раіса БАРАВІКОВА.*

**Дзіравая, закінута людзьмі,
Рассохлася ушчэнт ад промняў сонца...
І гора ёй не выплакаць слязьмі.
А крыгі ўдалячынь плывуць бясконца,
І нешта абрываецца ў грудзях...
У хвалях шумных лодку тую бачу.
Як добра, што вось тут, не на людзях,
Аб ёй на беразе халодным плачу.
Як добра тым, што лодку абышлі...
Адна стаю у вербавых карчах.
Рака заціхла, крыгі ўжо прайшлі,
І лодка праплывае у вачах.**



**Адчуваю, што нешта не так,
Не туды, куды трэба, лячу я...
Шумны горад гудзе, бы тартак,
Ён ніколі мяне не пачуе.
Ён не так зразумее мяне:
Я у ім не свая, я — чужая.
Год міне, два міне, тры міне,
Там, глядзіш, і дамоў ад'язджаю.
І ўсё роўна штось будзе не так,
Здасца — еду зусім не туды я...
Вось прыпынак, аўтобус, пятак,
Толькі сэрца пакутліва ные.
На вакзал мне, а цягне — назад...
Колы сумны выстукваюць такт.
Зніклі дрэвы, знаёмы фасад.
Усё, як трэба, ды нешта не так...**



**Мабыць, гэта яшчэ дзяцінства.
На стале маім свечка дрыжыць,
І у думках няма адзінства...
Звон будзільніка. Час бяжыць.**

**Я адна у халодным пакоі.
Нехта сон ужо трэці сніць.
Ну, а мне — мне не бачыць спакою,
Хоць усё цішынёй трымціць.**

**Я адна, золка хутаю плечы,
Вее холадам лютым ціш...
Немата... І табе недарэчы,
Што чакаю. Ты — моцна спіш.**

## ПРОЗА



**Уладзімір ПАЎЛАЎ**

**Мал. І. ДАВІДОВІЧА**

# СПЕЛЫЯ ТРАВЫ

## Аповесць



а досвітку, калі шэрая смуга прыпала да вокан і ў лабку, пад дахам, заварушыліся ў гнёздах ластаўкі, Улляна ўстала падаіць і выгнаць на ранкі карову. Свежая золкасць, белы табун туману за агародам на поплаве, вільготная, у цёплым дыханні, пыса рагулі — усё было звыклае, як дзень і два, як год і дзесяць гадоў назад.

Яна ўправілася хутка. Пайшла да калодзежа прапаласкаць вядро-даёнку.

Перш чым узяцца за калаўрот, выглянула з-за плоту на вуліцу, і быццам токам працяло Улляну наскрозь.

Па вуліцы ішлі Хвёдаравы дзяўчаткі-блізняты. У белых капронавых,— аж свіцяцца! — сукенках, з прыціснутымі да грудзей ахапкамі бэзу.

Дзяўчаткі вярталіся з выпускнога вечара. А ёй здалося, быццам не яны гэта, а яна, Улляна, з Волькай, іх нябожчыцай-маці, апынуліся ў той сваёй золкай раніцы, калі можна, забыўшыся на ўсё, ісці па вуліцы, яшчэ здранцвелай ад сну, прытуляць адной рукой бэз, а ў другой несці белыя лодачкі з засунутымі ў наскі панчохамі і са смелым выклікам тэпаць босымі нагамі па халодным і мяккім, як попел, пяску.

Радасць і спагада да іх сірочага лёсу, горнасць,— ужо за сваё беззваротнае,— перамяшаліся ў сэрцы Улляны. Чаго больш — яна і сама не сказала б.

Выцягнула з калодзежа вядро вады, паставіла на калодку, а пераліць у даёнку за-

былася. Стаяла, паклаўшы руку на калаўрот, пазірала на вуліцу, а бачыць нічога не бачыла. Памяць разматвалася ўсё некуды назад, у глыбіню, нібы ланцуг, што сарваўся з калаўрота і рынуўся паўз мокрыя дубовыя абрубы да чорнага люстэрка вады, да самага ўсплёску...

# СУХМЕНЬ

Атаманавіч у іх заседжваўся падоўгу. Пад'ехаўшы да двара, ён стукаў пугаўём па варотах і крычаў яшчэ з вуліцы: «Гэй, ці ёсць хто ў хаце?!» Калі ніхто не выходзіў на ганак, Атаманавіч сам адчыняў вароты, адпуджваў качак, якія жыравалі ў карыце ля плоту, і, прыпадаючы на адну нагу, пад аброць заводзіў у двор каня. Ля хлява выпрагаў яго з брычкі, браў ахапак сена, на якім сядзеў, і кідаў на мураву пад пысу гнядому. «Еш,— гаварыў яму,— у дарозе не дам, а тут — хоць рассупонься. Ну, я пайшоў»,— і кільгікаў у хату.

— Далібог, у цябе, Савета, мне лепш, чым дома,— седзячы за сталом, звычайна гаварыў ён.

Атаманавічу і праўда заўсёды былі рады. Умеў ён паслухаць чалавека, было што расказаць і яму самому.

Дзядзька Сяргей,— так звалі Атаманавіча,— у маладыя гады быў чонаўцам, ганяўся за бандай па ўсёй акрузе, пакуль гэтую банду не насціглі на глухім лясным востраве і не раскалашмацілі на амеці. З яго расказаў Уля ведала, што ў той бандзе былі дэзерціры, два ўпраўляючыя з маёнткаў пана Чырэя, адзін крымінальнік-катаржанін, некалькі канакрадаў і проста хлопцы сарві-галава, якіх зацягнула туды неадумная чалавечая вольніца. «Але каб ты, братка, ведаў, хто ў іх быў за атамана,— перахрысціўся б... Поп! Самы сапраўдны поп. Не малады, у гадах ужо... Недзе гаварыў раней прыхажанам: «Не ўбій!», а сам колькі крыві паспускаў... От мы і бралі таго папа ў лесе»,— расказваў дзядзька Сяргей.

Той поп насіў на сабе вялікі царкоўны крыж. На ланцугу крыжа была прымацавана і другая перавязь — пад паху. Калі папа прывезлі ў воласць, развязалі рукі і пусцілі перад сабой, ён выхапіў з-пад пахі невялікі пісталет, і праз імгненне дзядзька Сяргей качаўся па зямлі: поп пацэліў яму ў нагу.

Пасля папраўкі былы чонавец вярнуўся ў сваю Галіцу. Ён арганізаваў вясковы камсамол, пасля ўзяўся за калгасы, а там і кіраваць сельсаветам стаў. Спраў дзядзьку Сяргею дасталося аднаму за пяцёх. Можа з-за свае занятасці ён позна і ажаніўся, і дзеці ў яго, як ён казаў, былі дробненькія, як бульба, але многа...

Дзядзька Сяргей даводзіўся Улінай маці малодшым стрыечным братам. Але і сястра, забыўшыся, часцяком называла яго Атаманавічам, так яго за вочы звалі ўсе, хто ведаў і хто не ведаў гісторыю з папом-атаманам.

Атаманавіч не крыўдзіўся...

— А далібог, Савета, у цябе мне лепш, чым дома,— гаворыць ён.

— Чаму ж лепш, Сяргейка? Дома — жонка, дзеці...

— Спакайней неяк, разумееш, агледзецца можна, падумаць.

— Ну, то думайце, думайце,— гаворыць маці яму і бацьку, які накроіў хлеба і запрашае Атаманавіча за стол.

На стале ўжо стаіць бутэлька гарэлкі, ляжаць белыя галоўкі цыбулі з доўгім зялёным пер'ем. Іх вырвала з грады Уля. Памыла, ачысціла, паклала побач з салёнкай, а сама ўзялася наразаць чырвоныя, сопкія, таксама толькі з гароду, памідоры. Пакуль прынесла смятану, на загнетку тым часам засквірчэла сала, запуфкала на патэльні яешня.

Маці рэжа сухую каўбасу, нясе цераз усю хату да стала гарачую яешню. Абмахвае фартухом табурэт, садзіцца поруч з мужчынамі.

— Ну, то можа і мне якую кроплю дасце? — не то пытае, не то проста кажа яна і падстаўляе да рыльца бутэлькі, якую бацька трымае ўжо напагатове, гранёную чарку на тоўстай ножцы.

Чарка ў хаце адна — мужчыны нальюць сабе ў шклянкі.

— Будзе, Нічыпар. Даволі... І так замарочыць, няхай на яе...

— Але ж, брат, і без яе нельга,— круціць галавой Атаманавіч.

— Нельга,— коратка пагаджаецца бацька.— Ну, то каб пілося ды елася,— чокаецца ён з маці і яе стрыечным братам.

Пусцілі першую чарку. Апошняя, пэўна, будзе позна. Атаманавічаў конь разматляе сена ля брычкі і травы наскубецца, пакуль яго гаспадар нагаворыцца ўдосталь.

Маці, пасядзеўшы дзеля прыліку, устае ад стала, пачынае бразгаць ля печы чыгунамі і вёдрамі — трэба ж ухадзіцца з гаспадаркай. Сяды-тады ўставіць слова ў гаворку, якая цячэ нетаропка, і зноў маўчыць.

Атаманавіч прыязджаў часта і пра што калі ён гаварыў, Уля не помніла. Але ў тую нядзелю...

... З Заграддзя ў дзесяты клас у Галіцу да вайны хадзілі ўсяго двое — Волька і яна, Уля. У Заграддзі ўмелі цаніць час, умелі падбіць рахунак, і вучыцца «на нікога», гэта значыць у дзесяцігодцы, ахвотнікаў больш не знайшлося.

Класным кіраўніком у іх дзесятым быў Раман Раманавіч, настаўнік матэматыкі. Як ён умеў расказваць! Не тлумачыць сінусы і косінусы, а расказваць. Усхвалявана, быццам цікавую кнігу. Можа з-за Рамана Раманавіча яна больш за іншыя прадметы любіла матэматыку. Ды і не толькі яна. Заўсёдная заклапочанасць і нейкая мяккая суровасць рабілі высокую постаць настаўніка вельмі прывабнай. Многія старшакласніцы сімпатызавалі яму, а недзе ў глыбока схаваных іх пачуццях тлеў вугольчык боязнага кахання. Такое здараецца часта, калі дзеці,— а яны на той час былі яшчэ дзецьмі,— любяць сваіх настаўнікаў. Вялікае пачуццё перад тым, як падступіць да сэрца шчымлівай тугой і ўскінуць крутой хваляй у бязважкасць, прачынаецца, мабыць, спярша да настаўніка.

На вучаніцу, якая кепска ведала ўрок, Раман Раманавіч пазіраў з-пад насупленых броваў, седзячы за сталом або адышоўшыся ў куток да дошкі і заклаўшы за спіну рукі. Вочы яго смяяліся. Расступіся, падлога, ці ўдар, пярун,— толькі б не бачыць стоенага смеху яго карых вачэй і лёгкіх кіўкоў галавы: «Бывае, бывае... У наступны раз, спадзяюся, вы будзеце ведаць лепш. Сядайце».

Такое, праўда, здаралася рэдка, бо ніхто не хацеў крыўдзіць Рамана Раманавіча сваім гультайствам. Яго любілі і трохі пабойваліся.

Пра яе класнага кіраўніка і пачалася гаворка ў тую нядзелю, калі прыехаў Атаманавіч.

— Чорт яго ведае, чым там думаюць у ваенкамаце,— скардзіўся дзядзька Сяргей.— Забягае да мяне ўчора ў сельсавет Раман Раманавіч. Узрушаны — зроду яго такога не бачыў. «Памажыце, Палікарпавіч»,— просіць і кладзе на стол паперку. Позву прыслалі, на

нейкія камандзірскія курсы забіраюць, а ён і не камандзір ніякі, белабілетнік,— я ж ведаю. Ды і якія тут курсы, калі ў яго экзамены на носе?! Паеду заўтра ў раён, разбяруся. Калі пазарэз ужо трэба, то ліха з імі, хай забіраюць.

— Памажы, Атаманавіч, памажы. Чалавек ён добры,— памяркоўна гаворыць маці.

— До-обры,— цягне Атаманавіч, і відэлец у яго руцэ скрыгаціць тарчком па талерцы.— Дзеля справы трэба заступіцца, а не за дабрату. Ды і бяруць не аднаго яго, а ўсіх, хто мае якую адукацыю. А калі бяруць, значыцца, трэба. Загадчыка вашага клуба, як яго...

— Пашку,— падказвае Уля.

— Ага, Пашку — таксама мусяць узяць,— дзядзька Сяргей узнімае вочы на Улю.

— Так сабе нічога не бывае. Нешта ж нейкае,— гаворыць маці і ўздыхае.

— Хопіць пра гэта. Трымайся, Атаманавіч,— куляе чарку бацька.

Уля, разгарнуўшы на каленях кніжку, сядзіць у другім ад стала кутку. Яна любіць тут сядзець, ля акна, побач з ложкам, засланым посцілкай-перабіранкай, па якой разляцеліся вытканыя ружовыя, чырвоныя і белыя матылі. На посцілцы, у галаве — гара падушак. Ложак — як бухматы воз.

У хаце ідзе гаворка, і з кнігі, вядома, нічагуські не вычытаеш. Уля і не чытае яе, а трымае на каленях проста так. Яна то выплывае ў думках з пакоя некуды далёка, то зноў вяртаецца назад.

— Мая дачка! Ого — мая дачка! — захліствае бацьку радасць.

— Ну бо — не хваліся, Нічыпар...— ласкава супыняе маці.

— А чаму мне і не пахваліцца родным дзіцем? Ды і перад кім я хвалюся? Атаманавіч што — чужы?

— Ды не чужы, не чужы.

— То-та. А я і перад чужым не змоўчу.

— Няхай, Савета, не пярэч. Гэта праўда, Уля ў вас малайчына,— падтрымлівае бацьку Атаманавіч. І, ужо звяртаючыся да Улі, гукае: — Праўду я кажу, Уля, га?..

Уля ведае: у такія моманты ў бацькавых вачах набягаюць слёзы.

Расчульваецца і маці:

— Дзякуй богу, не горшая за іншых... І чыстаплотніца, і да навукі здатная.

Апошняе — намёк на тое, што Уля сёлета заканчвае дзесяцігодку.

Яна, «здатная да навукі», насуперак словам маці, не была выдатніцай. З Волькай вучыліся роўна, не адстаючы адна ад адной і не забягаючы наперад. Пра Вольку, праўда, бацькі так не гаварылі. Сям'я ў іх вялікая. Волька самая старэйшая. А меншыя іх яшчэ ў калысцы. А Уля ў бацькоў — адна. Мела б і яна старэйшых братоў і сясцёр, каб пад час калектывізацыі не ўкінуўся ў Заграддзе сыпняк. Памерлі яны ўжо вялікія, яе браты і сёстры. Нерастрачаны свой клопат і ўвагу бацькі цяпер аддавалі Улі. Пабольшаўшы, яна стала асцерагацца бацькоўскай любві,— барані божа, празавуць «мамчынай дачушкай»!

Зачырванеўшыся да вушэй і не павярнуўшы галавы ў іх бок, Уля ўстала і выйшла ў другі пакой. Зачынілася. Пераклала кнігі ў партфель. Натрапіла на паліцы на альбом і, каб перавесці думкі на іншае, узяла ў рукі, пачала чытаць. Васьмікласніцамі яны з Волькай завялі сабе альбомы — звычайныя школьныя сшыткі. Перамалёўвалі туды каляровымі алоўкамі кветкі з паштовак і часопісаў,

запісвалі песні. Хто больш запіша. Разгарнула, пачала чытаць. Нейкім не сваім, новым здаўся ёй гэты сшытак. Кветкі, выказванні вялікіх людзей, песні. На першай старонцы — словы Астроўскага: «Самае дарагое ў чалавека — гэта жыццё... І пражыць яго трэба так...» Далей чытаць не стала, бо ведала на памяць. Зазірнула на апошнюю старонку. Яна была чыстая. Пагартала назад амаль да сярэдзіны. Запіс абрываўся песняй «Любімы горад можа спаць спакойна», а ўверсе імклівы самалёт з чырвонымі зорачкамі на крылах. Почырк незнаёмы, круты і размашысты. І самалёт Уля маляваць не ўмее. «Пашка напісаў,— здагадалася яна.— Гэта яго любімая песня і яго почырк». Усміхнулася. Цікава, калі ён паспеў?

З Пашкам у Заграддзе прыйшло абнаўленне. Прывёз ён шмат песень і звыклае сваё прыслоўе, таксама з песні. З той, што апошняй запісана ў альбоме. І сам Пашка нечым розніўся ад іншых. Ва ўсёй аколіцы не было «вучонага загадчыка клуба», а ў іх быў. Летась з раёна прыслалі яго, Пашку.

Перш-наперш ён завітаў у Заграддзе, знайшоў патрэбную яму будыніну, патупаў вакол яе, зазірнуў у сярэдзіну... «Ну, як?» — спытаў у яго Атаманавіч, калі Пашка зайшоў у сельсавет узяць ключы.

«Любімы горад можа спаць спакойна»,— весела адказаў хлопец. «Ну, то няхай спіць,— усміхнуўся Атаманавіч.— А ты, брат, бярыся за справу смялей. Народ у нас харошы, толькі спяваць нешта развучыўся. Дык ты моладзь, моладзь падымі. Ды так, каб аж гуло ўсё. Ну, а калі што — падсобім».

Цяпер ужо сельсаветчыкі ўсміхнуліся на старшынёвы словы. Цікава, як гэта Атаманавіч будзе падсабляць у клубнай справе? З якога боку? Не, хлопец, калі цябе спецыяльна вучылі ды прыслалі, то сам ты павінен аказваць нам помач.

Былі тыя справы помаччу сельсавету ці не, якія закруціў новы загадчык клуба, а жыццё перамянілася. Уля заўважала па сабе. Кажуць, што ногі дамоў самі ідуць. А пасля прыезду Пашкі яны з Волькай вярталіся са школы траха не подбегам: хутчэй вывучыць урокі і — у клуб.

Зводдаль Пашка здаваўся самавітым хлопцам. На самай справе, прысадзісты малады дзяцюк усяго гады на два-тры быў старэй за Улю. Хадзіў ён у ссунутай на патыліцу рабой кепцы з доўгім казырком, у сінім дыяганалевым галіфэ і ў хромавых ботах. Халявы ботаў заўсёды былі адкасаны — хацеў выдаваць вышэй свайго росту. Белы паднарад халяў і шырокія кішэні галіфэ, насуперак жаданню Пашкі, рабілі яго нязграбным, чымсьці падобным на маладога пеўніка... Затое ў загадчыка клуба была процьма ідэй.

У раёне аб'явілі конкурс на лепшы хор, а пераможцу ва ўзнагароду выдзелілі патэфон. Хору ў Заграддзі яшчэ ніколі не было, не было ў клубе і патэфона. І ў Пашкі загарэліся вочы на той, прэміяльны.

Запісалася ў хор шмат моладзі. Паступілі і Уля з Волькай. Спявалі да трэціх пеўняў. А камандаваў усім Пашка. Ён і рэпертуар сам складаў, і запяваў, і, адскочыўшы ад гурту пасля запеўкі, падыгрываў. Пакуль не стамляліся бегаць па гузіках гармоніка яго пальцы, трымаў харыстаў. Стаміўшыся, махаў кісцямі рук — і ўсё пачыналася спачатку.

Уля не высыпалася да школы, але і не крыўдзілася ні на кога. Вечарам яна забягала па Вольку, і яны ішлі разам у клуб.

Пашка сустракаў іх радасна, памагаў Улі распрануцца, борздка

хадзіў па пакоі, пляскаў у далоні. З падкрэсленай сур'ёзнасцю жартаваў: «Можна пачынаць: мясцовая інтэлігенцыя ўся ў зборы».

Перад ад'ездам у раён сабраў камсамольскі сход,— быў ён на той час ужо калгасным камсоргам,— аб'явіў парадак дня, які складаўся з адзінага пытання — прадстаячага выступлення. «Дзяўчаткі даражэнькія, хлопцы, давайце з душой, з радасцю! Атрымаецца, вось пабачыце... Не можа быць, каб лапці ваду прапускалі».

Хоць ён і перавёў гаворку на жарт, але ўсім спадабалася.

У дарозе Пашка забараняў не толькі спяваць, але і размаўляць, каб не нахапацца сустрэчнага ветру і не ахрыпнуць. Шматала на дзяўчатах касынкі, церабіла хлопцам шавялюры, пузырыла на спінах кашулі. Барты палутаркі паабтыкалі галінкамі бярозы з малюпасенькімі першамайскімі лісточкамі. Пахла клейкім бярозавым сокам, волкім ветрам, сухменню дарогі. Ляцелі, быццам у бой. А прыехалі — разгубіліся. Нібы патанулі ў моры чырвонага кумачу сцягоў, зыркага аксаміту заслоны. Не здаваўся адзін Пашка. Каб не ён, то, магчыма, самі і на сцэну не адважыліся б выйсці.

Выступленне іх было ў канцы. Члены журы за доўгім сталом у зале перад сцэнай шапталіся, нешта запісвалі ў свае блакноты, мабыць, размяркоўвалі падарункі: яны ляжалі на краі стала, загорнутыя ў паперу. А пасярод з узнятым вечкам стаяў галоўны прыз — чырвоны патэфон. Блішчастая галоўка мембраны вострай іголкай застыла на першай баразёнцы пласцінкі. Адпусці тормаз — і з чорнага дыска пальецца музыка.

Пашка заспяваў звонка і ўпэўнена. Здаецца, адна Уля злавіла ў яго голасе ўсхваляванае трапятанне. Яна пабаялася, каб ён не сарваўся, захацелася тут жа самой памагчы яму. Прагнаўшы камячок у горле, пачала ціхі, усё нарастаючы прыпеў і не пачула свайго голасу. Побач з ёй у першым радзе стаяла Волька. Уля не адрозніла і яе спявання ў хоры дзяўчат з другога раду. Але вось з-за дзяўчат, ззаду, загулі, бы чмялі, хлопцы. Суладнае ракатанне прайшлося па сцэне і перакінулася ў залу. Хваля песні разбілася аб сцены і затрапятала звонкімі дзявочымі падгалоскамі.

Кожную іх песню выклікалі на «біс», а яны спявалі ўсё новыя і новыя, ды так і неераспявалі ўсіх, што ведалі.

Едучы назад, зноў спявалі ўсю дарогу. Ад радасці Пашка выраблуяў на сваім гармоніку бог ведае што, а на Уліных каленях стаяў чырвоны патэфон.

Сённяшнім розумам Ульяна бачыць, што сапраўды ім тады пашанцавала. Не на выступленні, а задоўга да яго. У іх, у Заграддзі, быў Пашка...

У яе быў Пашка.

А можа не было яго зусім? Можа толькі прысніўся ёй хлопец, навеяўся мроямі, намаляваўся жаданнем, не раз абняты і прыгорнуты ў думках. Адгукніся, скажы, ці быў ты?!

— А вось і я! Добры вечар у хату... Бачу ў вокнах святло, давай, думаю, зайду,— гаворыць з парога Пашка.

Ён стукае ля прыпечка нага аб нагу, хоць на ботах і няма снегу: Пашка доўга, чутно было, шастаў на ганку дзеркачом.

— Добры вечар, дзядзька Нічыпар,— падае руку Улінаму бацьку.— Вы, бачыў я ўдзень, сена вазілі. І вам, цётка Савета, добрага здароўечка. Вы ўсё сваю работу пыніце. Мая гаспадыня даўно спіць. Так што я ў вас перачакаю халепу, калі дазволіце.

Уля ў сваім пакоі адарвалася ад кнігі. Прыслухалася. Пазнала Пашку і ўсміхнулася. Усяму Заграддзю вядома: бабка Аўдоля, у якой ён кватаруе, пакутуе ад бяссонніцы. А ён кажа — спіць. Ну і Пашка! Толькі б не маўчаць. А там, глядзі, і гаворка завяжацца.

Так яно і ёсць: нізкім голасам штосьці адказвае яму бацька.

Улінай маці Пашка не падабаецца. «Усё роўна — як хворы, бы на іголках увесь»,— звычайна гаворыць яна. «Нармальны хлопец, чаго там,— уступаецца бацька. Трохі памаўчаўшы, дадае: — Скажы дзякуй, што людзі тваёй хаты не мінаюць». Маці злуецца: «Я яму пра гарбузы, а ён мне — пра абразы! Людскай гаворкі ў чалавека няма, абы — з пустога ў парожняе. Дзіцяці ўрокі вучыць трэба...» «Нашаму дзіцяці,— усміхаецца ў прыпаленыя тытунём вусы бацька,— і такую-сякую казку паслухаць не зашкодзіць». «Мама! Тата!— не вытрымлівае Уля,— калі вы перастанеце?! Абы чалавек за парог — толькі і гаворкі ў вас пра яго».

Пакрыўджаная, маці вешае каля шахаўкі ручнік, якім працірала посуд пасля вячэры, і ідзе рассцілаць ложак. Ужо адтуль гаворыць: «Хіба дурань сказаў: які едзе, такую і вязе... (Гэта — Улі, бо не ходзіць жа Пашка гуляць да яе бацькоў — цёткі Саветы і дзядзькі Нічыпара.) Нябось, да Ахрэма Мукавозчыка не пойдзе языком мянціць, а да цябе прэцца... (Гэта дасталася на арэхі бацьку.) Цьфу, даруй мне божа, атопак знайшоў атопка».

Пасміхваецца бацька, а Уля амаль не плача: «Мама, як вы можаце так гаварыць, не ўведаўшы чалавека?» «А ты глядзі мне, а то ўведаеш, ды позна будзе...»

Пашка, мабыць, здагадваецца па няласкавым твары цёткі Саветы і па загадкавай усмешцы дзядзькі Нічыпара пра іх размовы. Што ж, няхай завуць хоць гаршком, абы ў печ не ставілі.

Пагаварыўшы пра халепу, асвойтаўшыся ў хаце, ні з таго, ні з сяго Пашка зазначае:

— Скажу вам, дзядзька Нічыпар, цяжка некалі мяне адвучыць будзе...

— Гэта ад чаго, Павел?

— Ды ад гэтага ўсё, ад курыва.

— Радзей хадзіць трэба было да нас, то не навучыўся б і суслу смактаць,— спавядае маці.

— Ага, праўду кажаце, цётка Савета,— пагаджаецца Пашка.— Другі раз так закурыць захочацца, не раўнуючы, як таму кату валяр'янкі.

— Мятла ды і толькі,— зайшоўшы да Улі, гаворыць пра Пашку маці.— З кім ты дружбу водзіш, спытаць у цябе? Ён у мяне даходзіцца, што вызыру з хаты... разам з табой. Запомні.

Уля моўчкі слухае матчыну сварку. А маці доўга корпаецца ў куфры, нешта выкідвае, нешта перабірае. Дабаўляе ў лямпе кнот, шукае напарстак. Моўчкі падае Улі кацёлку нітак з уваткнутай іголкай, і Уля ўцягвае нітку ў вушка іголкі. «Устань бо!» — усё яшчэ грозна гаворыць маці. Уля ўстае з табурэткі, і маці падсоўваецца бліжэй да святла, уздыхае.

Дачка разумее, што азначае матчын уздых. Калі ў хаце хлопец,— якім бы ён ні быў,— дзеўцы выйсці да яго трэба.

Уля выходзіць у святліцу.

Зноў садзіліся за стол. Наспяваліся ўволю песень. Зноў танцавалі. Абмахваючыся хусцінкамі, выходзілі ў двор, прахаджваліся па сцяжынках між густога кустоўя бэзу. На лавачках у паўзмроку бялелі дзявочыя постаці, а побач угадваліся і хлапечыя сілуэты. Праходзілі, адварочваючыся, быццам не заўважаючы, хоць заўважалі, вядома, усё, бо і самім хацелася пабыць на тых лавачках.

Калі яны з Волькай сабраліся дамоў, да іх падышоў Раман Раманавіч і папрасіўся ў кампанію. Ішлі яны павольна. Працягвалася тая бесклапотная і вясёлая гаворка, што і на вечары. Але неўзабаве Волька схітрыла, сказала, што так павольна хадзіць яна не ўмее, і пачала аддаляцца ад іх. Яе не ўтрымлівалі ні Уля, ні былы класны. Улі і самой хацелася прайсці ўпершыню з «жаніхом», як паспела яна ўжо ў думках назваць Рамана Раманавіча...

Цяпер Улляна ведае, чаго ён праводзіў яе, маладую і такую зялёную. Хоць і тады яна здагадалася.

Здагадалася на лузе за Галіцай, калі Раман Раманавіч паклаў ёй руку на стан, паклаў патрабавальна і настойліва, не гэтак, як у танцы. Яна моўчкі адвяла руку. Тады ён павярнуў Улю да сябе тварам, нагнуўся і хацеў пацалаваць, а яна адхіснулася і строга сказала: «Што гэта такое?» Сэрца ў яе закалацілася, а здагадка, агідная і саромная, адразу сапсавала настрой. Дамоў! Хутчэй дамоў!

Абвяў і Раман Раманавіч. Неяк асунуўся адразу, разгубіўся. Потым развёў рукамі, нядобра засмяяўся: «Ну, я ні з кім бы за цябе не біўся, калі б і пацалаваў нават».

Уперадзе ад Заграддзя нехта ішоў. Раман Раманавіч злосна павярнуўся і пашыбаваў назад, у Галіцу, а Уля амаль подбегам кінулася дамоў.

Неўзабаве перад ёю, нібы прывід, вынырнуў Пашка. У той самай вышыванай кашулі, падпяразаны слуцкім поясам, як быў на выступленні хору ў раёне. Уля адразу пазнала яго. Яна і абрадавалася (усё ж з Пашкам смялей будзе ісці) і раззлавалася (чаго ён выпільноўвае яе!).

— Добрай раніцы, Уля!

Ён трымаў у руках кветкі: сіні і белы бэз, завушніцы, мяцёлкі анюцiных слёзак. Цэлае бярэмя кветак. Кветкі ўжо абвялі — Пашка даўно чакаў яе.

Уля ўзяла кветкі.

Прайшлі да сярэдзіны вёскі. Мінулі хату бабкі Аўдолі, а Пашка не развітваўся. Ішоў побач. Каля веснічак спыніліся.

— Што я хачу сказаць табе, Уля... — ужо каторы раз сказаў Пашка і змоўк.

Улі надакучыла гэта дурнаватае: «Што я хачу сказаць табе...» Калі цяляты язык аджавалі, то не затрымлівай, пусці спаць. Відната разлівалася па небе. Добра такі праступала ў золку вуліца. Не хапала, каб іх убачылі ў такі час!

Уля раззлавалася:

— Гавары — мне трэба ісці спаць!

Гэтыя словы балюча сцебанулі яго па твары. Ён неяк напружыўся, утрымаў, калі яна хацела адчыніць веснічкі, схапіў за руку.

— Пачакай!

— Пусці, а то крычаць буду!

Ён хапіў паветра, нібы пасля глыбокага нырца, і сказаў:

— Уля, я люблю цябе...

Яна вырвалася. Не зачыніўшы веснічак, пабегла ў двор. Сэнс слоў дайшоў толькі тут. Хацела спыніцца. Перадумала. З ганка азірнулася і паказала хлопцу язык. Ён усё стаяў на вуліцу і пазіраў ёй услед.

А далёка, з захаду, на Заграддзе кацілася навальніца. Нямецкая кавалерыя абыходзіла Сувалкі і Беласток. Фашысцкія танкі рваліся на Кобрын. У іх тыле засталася ўжо Брэсцкая крэпасць. І чырвонаармейцы,— тады яшчэ не абаронцы цытадэлі славы, а звычайныя чырвонаармейцы,— кідаліся ў першыя контратакі.

Пайшлі на фронт мужчыны, і Заграддзе нібы вымерла. З самых прыцемак зачынялі наглуха вароты і дзверы, замыкалі замкамі, завальвалі заваламі. Запальваць святло забаранялася. Сядзелі ў цемнаце, доўга не клаліся спаць. І жанкі, і старыя мужчыны, што засталіся ад мабілізацыі, ведалі, што заваламі вайну не ўтрымаеш, калі захоча яна ўварвацца ў хату. Замыканне было самаабманлівай аховай. А што заставалася рабіць?! Мужчыны пайшлі, і вёска засталася сам-насам з усімі чуткамі і трывогамі. На другі ці на трэці дзень вайны, як паведамілі з Галіцы, увесь іх сельсавет, і раён, і вобласць знаходзіліся на ваенным становішчы.

Што вайна так хутка і так блізка падкаціла да іх, людзі ведалі і без сельсавета. Калі ўціхамірваўся дзень, далёка з-за лесу наплывалі грымоты. Суха вухкала ўсю ноч. З кожнай раніцай бліжэй і бліжэй.

Уля чула, як Атаманавіч размаўляў з бацькам пра піянерскі лагер. Там больш як сто дваццаць дзяцей. Амаль усе — з Поўначы. Бацькі забраць не змогуць, а на эвакуацыю каманды ніхто не даваў. Загадчыца лагера паехала ў раён дамаўляцца, каб лагер вывезлі ў бяспечнае месца, «а сама, сцерва, збегла. Дзеці засталіся з хлопцам-піянерважатым».

Адзін важаты на ўсіх! Сярод лесу, сярод вайны, якая падступае ўсё бліжэй і бліжэй! Для таго хлопца вайна ўжо настала, прыйшла. Што рабіць з дзецьмі, куды падацца? Кожнае глядзіць на яго з даверам, з надзеяй... Які ж ён смелы хлопец?!

Дзяжурныя пасты, якія важаты выстаўляў цяпер на кожную ноч, расказвае Атаманавіч, вось ужо трэці раз паведамляюць пра таямнічыя ракеты над лесам. Ён і сам не спіць кожную ноч, сочыць за гэтымі ракетамі. А ўчора з большымі хлапчукамі высачыў. Ракеты ўзлятаюць ля млына, у якім жыве і робіць стары бабыль Іпалітаў. Узлятаюць, калі апоўначы цяжка гудуць над лесам чужыя самалёты.

— Так што збірайся, Сямёнавіч, паедзем, паглядзім, што там за поскудзь завялася,— гаворыць Атаманавіч бацьку.— Сунь на ўсякі выпадак у брычку сваю дубальтоўку. Ды глядзі, каб лішне хто не бачыў. Народ і так напалоханы. І мне во далі,— выцягвае з кішэні наган.

— І я з вамі! — выскоквае са свайго пакоя Уля.—Я ўсё чула.

— Ты дома? — здзіўляецца бацька.— Падслухоўвала?! Ды ты ведаеш...

— Ладна, Сямёнавіч, не гарачыся. Падслухоўвала — не падслухоўвала, а тайны, лічы, няма. Ды і не такая яна вялікая, тая тайна. Уля не маленькая, разумее,— заступаецца Атаманавіч.

Бацька не ведае, за што ўзяцца ад разгубленасці, а Уля ўжо апранацца пачынае.

— І я з вамі!

— Ты... ты!.. Не бабскае гэта дзела! Марш у запечак і — ні рэкні! — крычыць са злосцю бацька.

— Хай едзе,— раптам гаворыць Атаманавіч.— Такі час, Нічыпар. Вунь і ў Галіцы, каторыя засталіся, ідуць сёння ў засаду. Нехта тэлефон на слупах рэжа. Будуць лавіць. Можа і лепш, што паедзе з намі, для маскіроўкі.

Атаманавіч праводзіць даланёй па стомленых вачах.

— Паспаць бы гадзінку,— гаворыць ён.— Ну, нічога, абыдзецца.— І кульгае да дзвярэй.

Бацька злы — не падыходзь! Тупае па хаце, не ведаючы, з чаго пачаць зборы. Уля ўносіць з каморы і падае стрэльбу. Злоўчаным рухам бацька пераломвае яе, хавае пад пінжак рулю і прыклад, заднюю шчочку кладзе ў кішэню штаноў. З патранташа вымае патроны, рассоўвае па кішэнях. Кідае на лаву зняты са стрэльбы рамень.

— Вышлегаць бы цябе гэтым паскам па адным месцы, каб ведала,— бурчыць ён. Ужо выходзячы, прымірэнча гаворыць: — Збегай да маці ў агарод. Скажы, што мы паехалі. Ну, прыдумай што-небудзь! От яшчэ на маю галаву!..

Брычку пакінулі на ўзлессі. Загналі ў кусты, выпраглі каня. Гнядога Атаманавіч спутаў і пусціў пасвіцца. Самі па лесе, трымаючыся дарогі, пайшлі ў лагер.

Непадалёк ад лагера выйшаў ім насустрач стройны высокі хлопец. Ён пазнаў Атаманавіча, а таму павітаўся толькі з бацькам і Уляй:

— Ваня... Іван Чакай,— па чарзе падаў ім руку.

— Каго яшчэ чакаць? — азваўся бацька.

Хлопец засмяяўся.

— Ды прозвішча ў мяне такое — Чакай. А чакаць больш няма каго. Чацвёра хлопцаў са знішчальнага атрада з раёна прыйшлі. Так што ўсе ў зборы.

Апошнія словы ён сказаў Атаманавічу, і той коратка загадаў:

— Хадзем!

Вёў піянерважаты. Ішлі хутка. Спачатку ўперадзе, затым збоку, потым ззаду чулася піянерская труба: адбой, адбой! Знаёмы голас горна здаўся ў затоеным лесе трывожным.

Спыніліся ў кустах каля млына. Атаманавіч выняў з кішэні наган, бацька склаў і зарадзіў стрэльбу. Піянерважаты стукнуў па алешыне палкай — раз, другі, трэці. Ад ракі па лугавіне распаўзаўся туман. З белага малака праступалі ўперадзе чорныя абрысы млына. Адтуль і вынырнуў Пашка.

Ён сумеўся больш, чым Уля.

— Ты?! — нібы хочучы ўпэўніцца, спытаў ён.— Малайчына. Я адчуваў, што ўбачу цябе.

Пашка больш не сказаў нічога. Размаўляць нельга ды і часу не было. Івана Чакая ён тут жа павёў з сабой, а Атаманавіч, бацька і яна засталіся на месцы. Спачатку стаялі ля куста, азіраліся. Потым селі, спіна ў спіну. Кожны ўзіраўся ў свой бок. Ад доўгага ўгляданкя ў ваччу пачыналі мітусіцца нейкія цені,. падобныя на чалавека.

«Там»,— шаптала Уля, і Атаманавіч, які сядзеў паміж ёй і бацькам, паварочваўся, прыпадаў да самай зямлі. Пакруціўшы галавой направа і налева, Атаманавіч супакойваў яе: лёгенька паляпваў па плячы. Яго рука — моцная і гарачая. Золкі туман прабіраў Улю.

Холадам пяклася раса на траве і лісці. А рука ў Атаманавіча была гарачая.

Ад доўгага сядзення знямелі падкурчаныя ногі. Уля баялася выслабаніць іх, перамяніць месца, каб не нарабіць шуму. Кананада гармат пабліжэла ў параўнанні з учарашнім. Каб пачуць яе, сёння не трэба было прыкладвацца вухам да зямлі. А недзе побач «той», таямнічы дыверсант, якога яны прыйшлі лавіць. Магчыма, вунь з-за таго куста ён цікуе за імі.

Да болю ў вачах яна ўзіраецца ў туман, і куст, здаецца, пачынае варушыцца. Уля адводзіць позірк — усё становіцца на месца. Гэта ад напружання, ад таго, што навокал холадна і моцна стукае сэрца. Думкі пераскокваюць з аднаго на другое. І вось яна ўжо думае пра Пашку. Думае, як яны зловяць шпіёна. Самага галоўнага гітлераўскага шпіёна. Зловяць, і вайна скончыцца. І ні заўтра, ні паслязаўтра, ніколі, ні яна, ні Пашка не будуць дубянець паўночы, баючыся паварушыцца. Яны прыгоняць сюды калгасных коней. Выкупаюцца ў нагрэтай за дзень рацэ. Прыбягуць сушыцца да вогнішча, да сваіх сяброў, што прыедуць разам з імі на начлег. Пасля яна з дзяўчатамі пойдзе спаць у свежыя копы. Будзе лічыць зоркі над галавой. Да тысячы, да мільёна. Саб'ецца і — зноў пачне спачатку, пакуль не засне.

Ці спяць дзеці ў піянерскім лагеры?!

Думка маланкай прачарціла след ад далёкіх мар да рэчаіснасці, як над лесам загулі самалёты. Першы іх камарыны піск яна прапусціла, праслухала. Затое зараз не магла памыліцца: гулі самалёты! Цяжка, з надрывам. Іх было, мабыць, многа, бо гудзенне нарастала, шырылася, выпаўзала з цёмнага неба над лесам. І вось ужо, здавалася, хістаюцца дубы ад магутнага гулу. Самалёты нібы бачаць Улю і ўсіх астатніх, быццам кіруюць на іх, каб раздушыць, уціснуць у зямлю. Балюча вушам. А ўверсе бы аддзірае хто бляшаныя кавалкі неба і кідае з грукатам на зямлю.

Раптам навокал стала светла. Адна за адной успыхнулі тры белыя ракеты. У іх дрыготкім святле туман расплыўся, як кропля малака ў вядры чыстай вады. Кропля разыходзіцца, белае воблачка паступова блякне, пакуль уся вада не выроўніваецца колерам.

Агні на зямлі пагаслі. У адказ успыхнула зялёная ракета ў небе і рассыпалася ізумруднымі пацеркамі.

Тры белыя ракеты ўзляталі над млынам.

— Вунь дзе засеў, гад! — злосна сказаў Атаманавіч.

Усе паўставалі з-пад куста. Самалёты густа раўлі над галавой. Той, што ляцеў першым і з якога, пэўна, давалі сігнал у адказ, перацягнуў раку і разварочваўся, чуваць было, над другой паловай лесу. Астатнія паварочвалі над імі.

— О, гад! Ты бачыў, Нічыпар, прама на вобласць навёў. Тут павярнулі і — шпарыць. І над лесам, усё над лесам. І на горад выйдуць знянацку,— скрыгатнуў зубамі Атаманавіч.

У Заграддзі ўжо ведалі, што немцы дайшлі да іх абласнога цэнтра. Там іх затрымалі. Другі тыдзень войскі і народнае апалчэнне адбіваюць атакі. Калі не выстаіць горад...

У кустах зашамацела.

— Стой! — грозна загадаў Атаманавіч, шчоўкнуў засцерагальнікам і адскочыў убок.

— Свой, свой! — пачуўся голас піянерважатага. Ён падбег, задыханы, усхваляваны толькі што бачаным.— З млына сігналілі. Хлопцы ўжо там, каля самага будынка. Вас, Палікарпавіч, прасілі туды.

— Ну, аставайцеся,— сказаў Атаманавіч, і абодва яны зніклі ў тумане.

Млынару пастукалі, калі развіднела. Ён высунуў з акна заспаную галаву, пазнаў старшыню сельсавета і пайшоў адчыняць дзверы. Шчоўкнуў замок, упала на падлогу жалезная папярочка, і дзверы адчыніліся.

— Добрай раніцы, Палікарпавіч. Заходзь.

Хтосьці вынырнуў з-за сцяны, піхнуў насцеж дзверы.

— Рукі ўгару! — уперлася ў грудзі руля вінтоўкі.

Іпалітаў хацеў адступіць назад, але і старшыня сельсавета нацэліў на яго наган.

— Выходзь!

Пашка, а за ім і хлопцы са знішчальнага атрада кінуліся на гарышча.

Падышлі і Уля з бацькам. Млынар стаяў, павернуты да сцяны, з узнятымі рукамі. Рукі дрыжалі, шукалі апоры ці ад хвалявання ці ад таго, што старому чалавеку цяжка трымаць іх над галавой.

— Ладна, апусці,— паспагадаў Атаманавіч.— Стой ціха.

— Ёсць! — радасна закрычаў з гарышча Пашка, і яго ногі загрукацелі па сходках.

Іпалітаў рэзка ўскінуў галаву. Пашка трымаў у руках ракетніцу, адзін з хлопцаў — поўную касету ракет.

— Russisches schwein! *— вылаяўся млынар.

Яго павялі да шляху.

— А ты, браце, збірай сваіх дзяцей,— сказаў Атаманавіч Ваню Чакаю.— Во Сямёнавіч прышле з калгаса фурманкі, і — гайда ў раён! Чуеш, як гудзе! Давай, Сямёнавіч, дзейнічайце! А я — наўздагон за хлопцамі.

Ён заехаў толькі вечарам і ледзь трымаўся на нагах ад стомы. Нязголены твар, упалыя шчокі. Здалёк падобны на кульгавага хлапчука.

— Паглядзі бо, Савета, якога квасу — душу прахаладзіць,— папрасіў ён.

Доўга і прагна піў. Падзякаваў, выцер вусны, спытаў:

— Куды гэта, Нічыпар, збіраешся?

— Калгасных кароў у адступленне пагоніць,— адказала за бацьку маці.

— Дажыліся! Даваяваліся! У родным доме ўсідкі няма...— злосна накінуўся на Атаманавіча бацька.

— Твая праўда, Сямёнавіч, кепскія нашы справы. Немцы захапілі вобласць. Марудзіць нельга. Я, можна сказаць, з-за гэтага і заскочыў.

Дзядзька Сяргей зноў прыпаў да збана з сыроваткай. Зноў прагна піў. Сыроватка разлівалася, цякла па барадзе на грудзі.

— Ну вось, здаецца, і даволі. Дзякуй, Савета,— аддаў ён гладыш маці. Памаўчаў. З болем, з горыччу дадаў: — Гаварылі ў раёне: лютуе немец, здзекуецца з народу. І нам да ўсяго гатовымі трэба быць. А калгасаў, ягамосьці, не чапае. Старшынь расстрэльвае, а калгасаў не чапае. Чаму? Як ты думаеш, Сямёнавіч?

— А халера яго ведае! Не бачыў, сказаць не магу...

Бацька злаваўся.

* Рускія свінні! (ням.).

— Так што — будзь гатовы да ўсяго, Нічыпар...— паклаў ён руку на плячо бацьку.— А зараз хадзем. Ёсць у нас яшчэ адна размова. За жанок тваіх я спакойны — будуць маўчаць...

— А божухна, як ты мог падумаць?! — успляснула рукамі маці.

— Ну, то — бывайце. Кажуць, гара з гарой...

Нездарма спяваецца ў песні пра кароткую летнюю ноч. Не паспела пагаснуць неба пасля вячэрняй зары, як на ўсходзе заружавеў золак.

Ноччу ішлі па бальшаку. А пачало днець, звярнулі на прасёлкі. На Хацінава, Дарасіна, а там — і горад. Яго таксама трэба абысці бокам.

Каровы наровяць скубануць травы, збіваюцца ў кучы. Тады Нічыпар і Ахрэм сцябаюць задніх пугамі-драцянкамі. Жывёла кідаецца ў бакі, топча спелае жыта.

Баліць у Нічыпара сэрца па гэтым жыце. Ён зрывае колас, расцірае на далоні. Дзьмухае на мякіну. Застаецца буйнае насохлае зерне. «Жаць-жаць!» — жаліцца над полем перапёлка.

Жаць няма каму.

Доўгі калгасны гурт расцягнуўся змейкай. Равуць каровы. Нібы туга набітыя торбы, калываюцца з боку на бок набрынялыя вымі. З іх цячэ малако. На дарогу, на пясок. Сонца прыпякае мацней. Сухі пыл павіс над жытамі. Ветру няма, і ён вісіць удушлівай белай хмарай.

Паўз самае жыта — хацінаўскія фермы. Змучаная, жывёла скіроўваецца туды. Ёй распірае вымя, а на фермах — людзі...

Ахрэм забягае наперад, становіцца на заваратак дарогі, што вядзе да фермы. На яго прэ ўся чарада. З размаху, з-за пляча ён лупіць драцянкай па баках, па галовах кароў. Заварочвае. Пайшлі на ўсход! Пайшлі на ўсход!

На хацінаўскім калгасным двары — шум і гвалт. Хто запрагае каня, хто вядзе на повадзе залыганых кароў.

— Што там робіцца? — пытае Ахрэм.

Нічыпар прысланяе да брыля кепкі руку. Углядаецца. З абыякавым выглядам гаворыць:

— Не бачыш хіба? Калгас дзеляць.

— Як дзеляць?! — аж падскочыў Ахрэм.

— Дзеляць, і ўсё. Я ж там не быў, не ведаю — як?

— А ў нас у Заграддзі што робіцца, га?

— Мабыць, тое ж самае.

— Оле-лё! — прыцмоквае Ахрэм. Ён бяжыць трушком за Нічыпарам і ўсё бядуе, усё жаліцца, усё азіраецца на хацінаўскія фермы: — О, так заўсёды. Табе — пугу ў рукі, а самі — распараджацца. Давай назад, Нічыпарка! Куды мы ў белы свет са сваім дабром? Хто дзякуй скажа? Бедная худобінка, бач, як мучыцца. Падаіць просіць. Давай назад!

Нічыпар не адказвае. Злосна ляскае пугай, падганяе жывёлу.

Перайсці чыгуначны мост цераз раку заградскі гурт не паспеў. На падыходзе спыніў яго артылерыйскі камандзір з трыма шпаламі ў пятліцах. Прапылены, з бруднымі пісягамі поту на твары. Каўнер гімнасцёркі расшпілены. Расшпілена і кабура пісталета на рамяні.

— Здарова, папашы! — з абодвума павітаўся за руку.— Паварочвайце назад. Далей вам не прайсці. Вунь, бачыце, што робіцца? — паказаў ён у бок чыгункі.— Разбамбіў фашыст дзіцячы эшалон.

На насыпе чыгункі мітусіліся вайскоўцы. Па той бок палатна ляжалі перакуленыя вагоны. З-за рэек выглядвалі магутныя колы, тырчэлі буксы. Каля месца бамбёжкі пыхкаў паравоз, перасоўваючы ўзад-уперад пару платформ. Вайскоўцы спешна рамантавалі чыгунку.

Ахрэм пабег заварочваць назад кароў. Камандзір з трыма шпаламі ў пятліцах расказваў Нічыпару:

— У горадзе сабралася многа дзяцей: піянерскія лагеры з усяго раёна. Падвезлі яшчэ эвакуіраваных. Павялі па магазінах, адзелі. Загадалі браць на дарогу прадукты: кансервы, хлеб, сыр, каўбасу. Хто колькі панясе і што каму падабаецца. Сфарміравалі эшалон. Вечарам адправілі. А тут наляцелі самалёты. Хто ўцалеў, адправілі па чыгунцы на бліжэйшы паўстанак, дзе аказаўся запасны паравоз з вагонамі.

Артылерыст раптам змоўк. Убачыў штосьці ў жыце і, нічога не сказаўшы, пайшоў туды. Адтуль замахаў фуражкай:

— Насілкі-і!

Падышоў і Нічыпар.

У жыце ляжаў хлапчук гадоў дзесяці-адзінаццаці ў сінім матроскім касцюмчыку. За пояс пад штонікі падаткнута белая панамка. Хлапчук нібы спаў. На твары — ні ценю, ні болю. Толькі ў куточку сцятых губ поўзала мурашка.

Падбеглі два чырвонаармейцы, паклалі хлопчыка на насілкі. Толькі тады заўважылі кроў. Кашуля на спіне малога скарэла, да яе прысохла зямля. Забіла яго, пэўна, асколкам. Шарахнула ў плечы, калі разам з усімі ўцякаў у жыта. Побач ляжала навалачка ад падушкі. А ў ёй — пячэнне. Поўная навалачка... Хлапчук, мабыць, нёс яе за спіной.

Хлапчука панеслі.

— Хутчэй, хутчэй, папашы! Ідзіце адсюль. Тут месца гарачае,— на развітанне сказаў камандзір.

Мужчыны стаялі ў жыце. Нічыпар не мог крануцца з месца. Што ж яны вырабляюць, гады! Невядомая дагэтуль злосць клекатала ў яго грудзях.

Ахрэм нагнуўся над прасечанай навалачкай. Прыўзняў. На зямлю пасыпалася пячэнне.

— Оле-лё, колькі дабра зглумілася.

Нічыпар зірнуў на яго грозна. Бы стрэліў. Ахрэм дробненька затупаў на месцы, але набраць пячэння не адважыўся.

Каля чыгункі загуло. Наляцелі нямецкія самалёты. Ударылі зеніткі.

Нічыпар з Ахрэмам кінуліся падганяць кароў. Ды дзе ты падгоніш! Нядоеныя вымі распіралі каровам ногі. Жывёла сама, як магла, трухляла дамоў па знаёмай дарозе. Мужчыны спыніліся. Папрыгіналіся ў жыце, каб не вытыркацца, і пазіралі на мост.

Паблісківаючы на сонцы, самалёты клаліся на крыло і адзін за адным валіліся ўніз. Над зямлёй выроўніваліся і, выючы, лезлі назад у неба. Адарваныя ад іх чорныя кроплі бомбаў са свістам ляцелі на мост. Там усё завалакло чорным дымам і пылам. Нічыпар адчуваў, як ходзіць ходырам зямля. Аднаго ён жадаў, аднаго хацеў: каб прамазалі, каб не пацэлілі ў мост фашысты.

Яно, мабыць, так і было, бо самалёты надакучліва то падалі ўніз, то выходзілі з піке і строіліся на новы заход. Клявалі і клявалі мост. Без пярэдыху, без паўзы захлёбваліся зеніткі: хлясь-хлясь-хлясь!

Ахрэм перахрысціўся:

— Уцякайма, Нічыпарка, адсюль!

А Нічыпару радасна былоназіраць, як адвальваюць ад моста напалоханыя самалёты. Хацелася пабыць у жыцЕ.

Бабка Аўдоля памерла на пачатку вайны. Хавалі яе ў той якраз дзень, калі адыходзілі ў ваенкамат мужчыны і ў Заграддзі хапала слёз кожнаму ад свайго гора. Па бабцы ж і паплакаць не было каму. Адзінокая Прося ды яшчэ такія, як яна, памылі бабку, дасталі з куфра загадзя падрыхтаваную самой старой адзежу, паслалі на лаве пад абразамі апошнюю пасцель. Яўсей, у якога аказалася нейкая бронь, збіў труну. Ён жа аблюбаваў на могілках месца і хадзіў з Просіным Колем капаць магілу. Капаў, вядома, сам. Хлапчук падносіў туды і назад рыдлёўку — у гэтым і была яго помач.

Бабку даўно пахавалі, а добрая палавіна Заграддзя толькі даведвалася, што яна памерла.

— Матачкі вы мае!? — гаворыць Вольчына маці, цётка Куліна.— Бягу я да вас, а з Аўдолінага двара нейкі чалавек выходзіць. Я падумала, што Пашка вярнуўся, хацела прывітацца, аж бачу — не, не ён. І ростам вышэй і ў шынялі. Няйначай, думаю, акружэнца Аўдоля на кватэру ўзяла. З гэтым і пайшла. Насустрач мне Прося. Так і так,— кажу. А яна мне: «Памерла ж Аўдоля...» Матачкі вы мае! Ці вы чулі такую навіну, людзі? Ці праўда, Савета, што няма на свеце бабкі Аўдолі.

— Праўда, Кулінка. Праўда...

Няма бабкі Аўдолі. Няма больш на свеце і вясёлага яе кватаранта — Пашкі. Не верыцца, проста не верыцца ў яго смерць!

Уля закрывае твар рукамі, кідаецца ў падушку. Слёз няма. У сэрцы адно незразумелае шкадаванне. І нейкая роспач, адчай. Як так?! Яна чула пра смерць, расказвалі людзі, гаварыў бацька. Але каб маглі забіць?! Хіба можа такое здарыцца? Хіба могуць забіваць блізкіх?! Зусім жа нядаўна, калі арыштавалі і павялі Іпалітава, Пашка знайшоў хвілінку, шапнуў ёй, ёй адной і больш нікому: «Помні, пра што я табе казаў!»

Помні, пра што я табе казаў... Помні, пра што я казаў... Помні...

З гадамі словы, нібы крокі ў доўгім калідоры, цішэюць: ні інтанацыі, ні голасу не магла ўспомніць цяпер Ульяна, але сэнс іх усё глыбей і глыбей уваходзіць у яе разуменне. «Уля, я люблю цябе...» «Уля, я люблю...» «Люблю...» Разуменне прыходзіць з кожнай новай маршчынкай на твары. І добра, што яна тады, у пачатку акупацыі, распытала пра Пашку ўсё да апошняга яго кроку.

Расказаў Ваня Чакай.

Ваня Чакай быў той самы піянерважаты, з якім смешна знаёміўся бацька, калі ішлі лавіць ракетчыка.

На фурманках, што прыехалі з Заграддзя, ён адправіў у раён усіх дзяцей, а на апошняй паехаў сам: спяшаўся ў ваенкамат.

У ваенкамаце аператыўны дзяжурны, немалады ўжо лейтэнант, надрываўся над тэлефонам:

— Што ты з ім чыкаешся, Крывуля? Навошта ён нам?! На якога чорта, кажу! Што я, у кішэнь яго пасаджу? Здай палявому суду! — і кінуў на рычаг трубку.— Во дзеці! — Выцер успацелы лоб.— Сам камсамольскі бог раёна парашутыста злавіў, а што з ім зрабіць, не ведае. Тут на чамаданах сядзім, а Крывуля хоча і фашыста ў багаж увапхнуць. А вы, уласна кажучы, хто? Дакументы?

Чакай прад'явіў студэнцкі білет і накіраванне райкома камсамола на работу піянерважатым у лагер.

— Павел! — грымнуў у расчыненае акно лейтэнант.

— Слухаю! — тут жа ўбег Пашка.

— Прымай папаўненне.

Пашка зірнуў на Чакая і ўсміхнуўся:

— Ды мы з ім знаёмыя: ноччу млынара бралі.

Так Чакай трапіў да знаёмых хлопцаў. Усёй іх групай, у якую ўваходзіла пятнаццаць чалавек, камандаваў Пашка. Група адпачывала ў двары ваенкамата пасля начнога паходу.

— Павел! — зноў пачуўся ў акне голас лейтэнанта.— Ка мне!

Пашка вярнуўся хутка. Ваня Чакай не паспеў агледзецца, як ён загадаў строіцца. Чакай стаў апошнім. Кіламетраў за пятнаццаць ад горада, сказаў Пашка, з лесу дыверсанты абстрэльваюць шашу. Забіта некалькі бежанцаў. Рух паралізаваны, на дарозе — затор. Знішчыць дыверсантаў!

— На-ле-ва! Шагам марш! — аддаў каманду Пашка.

— А я? Як жа я? — развёў рукамі Чакай.

— Што — ты?.. — не зразумеў камандзір.

— Дайце мне вінтоўку. З чаго я страляць буду?

— Зброю здабудзеш у баі,— азірнуўся і засмяяўся бялявы хлопец, што ішоў перад ім.

— Вось так, Чакай! Чуў? — падтрымаў Пашка.

На вуліцы фыркала маторам палутарка. Калі садзіліся, Ваня і напраўду ўбачыў у многіх незнаёмыя вінтоўкі, мабыць, трафейныя.

— Хутчэй! Хутчэй, хлопцы! — падганяў шафёр.— Мне няма часу. Падкіну трохі, а там — самі...

Пашка ўскочыў на падножку, і машына рванула з месца.

Дыверсантаў было двое. Добра замаскіраваўшыся, сядзелі яны дзесьці на ўзлессі. Лупілі без промаху па кожным, хто адважваўся праскочыць па дарозе.

Знішчальнікі рассыпаліся ланцугом і кустамі пайшлі да лесу. Але вораг заўважыў іх раней. Хлопец, што прабіраўся побач з Пашкам, схапіўся раптам за галаву і асунуўся на дол. Даляцела раскацістае рэха стрэлу. Чакай зірнуў у той бок і на імгненне злавіў сіні дымок у вершаліне цёмнай высокай елкі. Амаль адначасова шпокнуў і другі стрэл, і такі ж самы сіні дымок закурыўся ў галінах суседняй з елкай сасны.

Ваня Чакай не паспеў апамятацца, як долу абсоўваўся Пашка. Ён не крыкнуў, не войкнуў. Выпусціў з рук вінтоўку і падаў, ламаючы вецце вербалозавага куста. Чакай кінуўся на паратунак. Патармасіў Пашку, зазірнуў у твар. Камандзір быў мёртвы. Ваня падхапіў яго вінтоўку, ускочыў на ногі:

— Наперад!

— Лажысь! — крыкнуў хтосьці з хлопцаў.

Ён упаў на зямлю інстынктыўна, перш, чым зразумеў сэнс каманды. І тут жа ўпала зрэзаная куляй галінка. Пачуўся стрэл.

— Хлопцы! Смаліце па высокіх дрэвах на ўзлессі! — крыкнуў Чакай і стрэліў першым.

Залп ударыў дружна. Ад куста да куста, усё больш агінаючы прыкметныя дрэвы, Ваня кінуўся на ўзлессе.

— Назад! Назад! — даляцеў да яго голас таварышаў.— Назад! Парашутысты!

Чакай узняў галаву. З захаду ішлі на пасадку два пузатыя планеры. А з іх, нібы гарох, сыпаліся парашутысты. Проста на лес.

Бяссільная злосць скаланула яго. А невядомая сіла зацята штурхала ўперад. Ён кінуўся ў той бок, адкуль стралялі нямецкія снайперы. Хацеў зайсці ім з тылу.

Упаў пад маладыя елачкі, густа зарослыя высокім папаратнікам. Сэрца ажно выскоквала ад хуткага бегу.

У лесе страчылі аўтаматы. Бліжэй і бліжэй.

Ланцуг нямецкіх парашутыстаў прабег зусім недалёка. Яны палівалі перад сабой агнём; кіраваліся туды, дзе лопаліся рэдкія стрэлы хлопцаў.

Прабеглі, і на нейкі момант пацішэла. Толькі ссечанае кулямі лісце ўсё яшчэ шархацела, ападаючы на дол.

Нечакана ўверсе, амаль над самай галавой, пачулася адрывістая чужая мова.

З суседняй сасны нешта пралапатаў другі.

Першы прадраўся ўніз з самай макаўкі елкі, саскочыў з яе і пабег за парашутыстамі.

Іван Чакай павярнуўся і ўбачыў другога. За спіной у яго матлялася вінтоўка з аптычным прыцэлам. Быў ён, як і першы, у плямістым маскіровачным камбінезоне. На грудзях віснуў аўтамат.

Штосьці не ладзілася ў немца. А можа проста не мог адвязаць сябе ад сасны. Але во, здаецца, адвязаўся. Палез уніз.

На мушку фашыст сеў адразу. Ваня пачакаў, пакуль з-за ствала паказалася яго галава, і толькі тады стрэліў. Нямецкі снайпер сутаргава ўздрыгнуў. Адкінуўся, быццам адпіхнуўся ад ствала нагамі, і паляцеў уніз галавой. Ужо над самай зямлёй шырокай халявай бота зачапіўся за абламаны сук. Некаторы час мешкаватае цела яшчэ раздумвала: падаць ці не? З зачэпленага бота паволі выязджала нага ў шэрай шкарпэтцы. Выслізнула, нібы шчупак з нерата, і фашыст грымнуўся вобзем.

Чакай не спалохаўся, што яго стрэл могуць пачуць. Пайдзі, разбярыся, хто страляе! Ён адыходзіў у лес. Перад вачыма матляліся завіслыя на шыі снайперская вінтоўка і чорны варанёны аўтамат, а з шырокага бота ўсё выязджала і выязджала нага ў шэрай шкарпэтцы.

Пад сасной ляжаў забіты ім чалавек.

Што гэта быў фашыст, Чакай яшчэ не навучыўся думаць.

Па дарозе ехаў немец. Адзін. На кані. Ззаду да сядла прымацаваны круглячок скручанай плашч-палаткі. Цераз яе перакінута цэлая вязанка курэй. Чырвоныя, белыя, чорныя, яны дасвалі амаль да стрэмя. Здалёк і не пазнаць было, што гэта куры — проста рознакаляровыя ласкуты.

Немец ехаў без шапкі. Каска яго пабліскала пры боку, у суседстве з высокай рабрыстай бляшанкай для патронаў. Караткахвосты бельгійскай пароды конь ішоў спорнай ступою. Час ад часу немец крычаў у лес:

— Рус, война капут! Рус — да маткі! — ускідваў у белых, з закасанымі рукавамі руках вінтоўку і страляў у паветра.



— Кончыць бы шчас табе вайну, фашысцкая морда,— вылаяўся Свістуноў.

Іван Чакай ускінуў на купіну перад сабой вінтоўку.

— Не чапай. Хай едзе,— запярэчыў Слава Харытонаў. — Можа гэта разведка. Стрэліш, а самі куды?!

Сапраўды, можа і не варта. У акружэнцаў жа — ранены. Баец-казах. Вунь ляжыць на разасланым шынялі, услухоўваецца ў гаворку. З раненым, акрамя Івана, у групе пяцёра байцоў. Цераз лясы прабіваюцца яны на ўсход, да сваіх.

Спачатку іх было двое. Спачатку Слава Харытонаў нёс на спіне таварыша-казаха. У адзін з пераходаў яго спынілі: «Давай паможам, браток!»

Сілы прыбавілася. Выламалі альховыя палкі, перавязалі лазінамі, ускінулі шынель. Хоць зробленыя на скорую руку, а гэта былі ўсё ж насілкі. Не тое, што на спіне. Тыя двое, што далучыліся, не давалі спачатку Славу несці раненага: «Адпачні, браток!». Але яны выбіліся з сілы. Мяняліся па чарзе. Днём болей адпачывалі. Ноччу ішлі. Праўда, па лесе ды яшчэ з раненым не разгонішся. І фронту ніяк не дагнаць. Ужо і не чутно, як яго ні даганяй.

Пасля прыбіўся да групы Свістуноў. Радасць, аднак, была невялікая. Свістуноў прыстаў, мабыць, са сваіх меркаванняў: упяцёх ісці смялей. На пераходах ён тым і памагаў, што нёс вінтоўку параненага. Днём неахвотна выпраўляўся ў вёскі раздабыць чаго-небудзь: баяўся трапіць на вочы немцам. Звычайна хадзілі тыя двое, каторыя пайшлі і сёння.

Затым прыбіўся Іван.

Душой групы, як зразумеў Чакай, быў Слава Харытонаў.

— Неча есці — смаж пальто! — любіць гаварыць Слава.

Яго іначай і не завуць, як Смажпальто.

...Немец праехаў. Схаваўся за паваротам дарогі. Следам ніхто не паказваўся.

— Марадзёр эта, а не разведка, вот хто! Нада было стукнуць, а ты струсіў, Смажпальто! Пабаяўся! — запальчыва выгукнуў Свістуноў.

Харытонаў зірнуў на яго:

— Струсіў?! Магчыма, і ён струсіў, калі з бутэлькай на танк ішоў? — паказаў на раненага.— А ты не трусь! Бяры маю вінтоўку і бяжы. Дагоніш за паваротам, застрэль! Падбяры трафей. Ты ж якраз без зброі...

— Ладна, Смажпальто, не ный. Не адны мы ў лесе — найдзёцца каму і падстрэліць фашыста.

Харытонаў прамаўчаў.

Прыйшлі тыя двое. Прынеслі раненаму малака, акраец хлеба, сала.

— А што ж мы будзем есці? — спытаў Свістуноў.

Тыя, што вярнуліся, загадкава ўсміхаліся.

— Для цябе, Свістуноў, падрыхтаваны святочны стол. Як для дарагога госця. Нават з музыкай. Што за барыню дзядзька рэжа! Мёртвы ўпрысядкі пойдзе....

— Карацей. У чым справа? — падсеў да іх Харытонаў.

Хлопцы пасур'ёзнелі.

— Далей, дарагі Слава, не пойдзем. Пальто можаш не «смажыць», насі на здароўе,— сказаў адзін з іх.

Іван прыслухоўваўся да іх гаворкі.

— Перабіраемся ў вёску. Ёсць і хата не занятая,— дадаў другі.— Дарэчы, у вёсцы мы будзем не першыя.

— Партызаны? — устрапянуўся Свістуноў.

— Партызаны — не партызаны, а пажыць можна. Там — пабачым!

# АКУПАЦЫЯ

Бульбу ў Заграддзі выбіралі па загонах — кожны сабе. Калгасную падзялілі. Перад гэтым было многа размоў, многа ваганняў.

Аднаго разу прыйшоў да Нічыпара ўсхваляваны Ахрэм Мукавозчык.

— Паслухай, Нічыпар, што робіцца! Усе людзі — як людзі. А мы — оле-лё! Хацінаўскі калгас даўно падзялілі. У нас толькі чакаюць, пакуль чорту лысаму ўсё дастанецца. Падзялілі хлеб, кожны дзень малако па хатах разбіраем. Ды яшчэ і гэтым даем, акружэнцам. А яны дралі пуп на нашай зямлі? Яны маюць права на наш мазоль?

— Дык есці ж, Ахрэм, усім хочацца. Добра, калі некаторых Яўсей-гарманіст, ці яшчэ хто, корміць. А тых хто пакорміць, што ў Аўдолінай хаце жывуць?

— Во-во, пра іх і гаворка. Сёння з фермы баранчыка выпісалі. Адзін ускінуў на плечы, а трое, з кульгавым гэтым татарынам — ззаду. І павалаклі...

— Не татарын, а казах ён,— паправіў Нічыпар.

— Ліха з ім, хто ён там ёсць,— ускіпеў Мукавозчык,— усё адно — чужы!

— Чаму чужы? Свой чалавек. Татарын ён, казах ці грузін. Да вайны ж мірна жылі. Навошта зараз сварыцца?!

— Да вайны па дармаўшчыну ў іх калгасы я не хадзіў,— не здаваўся Ахрэм.— Гэта яны да нас навалакліся.

— Дык жа вайна. У кожнага, брат, сваё жыццё. Мала куды яно закіне чалавека.

— Вайна вайной, а жыццё, як ты гаворыш, сапраўды ў кожнага сваё. Не раскідаць жа нам на вецер дабро. Адным словам, Нічыпар, давай дзяліць калгас!

Нічыпар памаўчаў, папыхкаў папяросай.

— Што ж, калі людзі не супраць, я — гатоў.

руках у Свістунова бліснула каса, а праз момант з бычынай шыі ўдарыла фантанам кроў.

— О, цэ дзіло! — захапляўся паліцай Ткачэнка.

— Вядро, вядро давайце! Штоб кроў не прападала зра,— мітусіўся Свістуноў. Кепка зляцела з яго стрыжанай галавы, а сам ён ужо сядзеў на тушы верхам.

Ахрэм перахрысціўся. А Яўсей, нібы сляпы, натыкаючыся на стойлы, пайшоў з аборы.

Свістуноў застаўся каля зарэзанага быка галоўным распарадчыкам. Садраў шкуру, асвежаваў тушу. Насіў скрываўленыя кавалкі мяса і кідаў у паліцэйскія вазы на салому. Ад натугі аж увапрэў.

Адвячоркам паліцэйскія фурманкі пацягнуліся ў мястэчка. На адным возе разам з паліцаямі сядзеў Свістуноў.

Раман Раманавіч і яшчэ адзін паліцай забавіліся ў Заграддзі. Яны пахадзілі па вёсцы, зазіраючы ў двары, потым Раман Раманавіч пакінуў паліцая на вуліцы, а сам зайшоў да Сямашкаў — «вады напіцца». Быццам не знайшоў другога калодзежа. Прабыў ён у хаце нядоўга — Уля нават не выходзіла са свайго пакоя, і тут жа, следам за ім убег яго напарнік, што заставаўся на вуліцы. Ён пра штосьці хуценька сказаў Раману Раманавічу, і абое кінуліся на двор.

У гэты час па вуліцы пранеслася палутарка, поўная людзей. Яны былі ў нашых шынялях без рамянёў і стаялі так шчыльна, што крайнія, каб не пападаць, трымаліся за барты. З палутаркі стралялі назад, туды, дзе схаваліся з вазамі паліцэйскія.

Раман Раманавіч кінуўся за калодзеж, яго напарнік ускінуў вінтоўку на плот. Абодва пачалі страляць па машыне, якая праскочыла міма іх, абдаўшы пылам.

Пасля ў вёсцы расказвалі, што ўцяклі з нямецкага гарнізона ў мястэчку нашы ваеннапалонныя. Іх вазілі на работу на нашай трафейнай палутарцы. Па дарозе ў лагер палонным неяк удалося прыдушыць ахоўнікаў. Звярнулі на першы ж прасёлак. Шафёр не глядзеў ні вока, ні бока — гнаў машыну, як толькі мог.

Гаручае скончылася за вёскай. Уперадзе пачынаўся лес. Яны былі на волі.

Палонныя знялі з кузава забітых, а машыну падпалілі. Пагоні не было.

Не пагналіся за ўцекачамі і начальнік паліцыі са сваім памагатым. Мабыць, пабаяліся. Яны ўскочылі ў вазок і памчалі даганяць сваіх.

Тое, што Раман Раманавіч заходзіў да Сямашкаў у хату, не засталося незаўважаным.

Праз некалькі дзён п'яны Федзя Мукавозчык хадзіў па падваканню і гарланіў на ўсю вуліцу прыпеўку:

Ой, Сямёнаўна,
Баба хітрая!
Любіла Сталіна,
А цяпер Гітлера.

Услед за Федзем бегаў яго бацька.

— Сціхні, кажу табе! Хоць раз паслухай — сціхні!

Федзя спяваў.

— Не, сукін сын, або я цябе ажаню, або ў Германь дабравольцам адпраўлю,— пагражаў бацька і амаль па-бабску галасіў: — Оле-лё, каб роднае дзіця бацькі не слухалася! Каб самому на шыбеніцу лезці! Не, сукін сын!..

...Раман Раманавіч зайшоў у сенцы, намацаў рукой дзверы, пастукаў. Гукнуў з парога:

— Добры дзень вам, цётка Прося!

Прося стаяла ля печы. Яна бачыла, што нейкая параконка спынілася на вуліцы, нехта саскочыў і пайшоў у двор. Пазнала ў тым «нехта» Рамана Раманавіча, калі ў акне мільганулася яго постаць. Людцы вы мае, хто да яе ішоў?.. Век не сказала б, не падумала! Цяпер ды і раней чула пра гэтага чалавека, нешта раз ці два бачыла здаля — і ўсё. Чаго ж яму трэба? Можа, памыліўся: думаў да Нічыпара, а трапіў да яе?

— Добры дзень,— разгублена адказала жанчына.

Ён нейк вінавата таптаўся ў парозе, бы намуляўшы ці натрудзіўшы ногі. Хвілю-другую маўчаў, не ведаючы, з чаго пачаць гаворку. Усміхаўся сваёй загадкавай усмешкай. Падышоў і пагладзіў па галаве Колю, які цёрся ля боку маці.

— А я да вас, цётка Прося.

Сказаў і быццам скінуў з плячэй непасільны цяжар. Захадзіў па хаце, пастукваючы дубчыкам па халяве бота. Зняў з пляча вінтоўку, шчоўкнуў затворам, выняў патрон і вышмаргнуў астатнія чатыры з магазіннай каробкі. Падкінуў на далоні і высыпаў у кішэнь свайго чорнага шыняля. Вінтоўку сунуў у качарэжнік. Нават скрывіўся, ставячы: так пагардліва крывяцца, адпіхваючы ад сябе якую-небудзь агіду.

— Адчыняйце, цётка, дзверы!

Прося ўсё не ведала, што яму трэба і чаго ён прыйшоў. Тулячы да сябе сына, яна анямела вадзіла вачыма па хаце ўслед за Раманам Раманавічам і не краталася з месца.

— Чаго ж вы спалохаліся? Што, я звер які, ці што? — спыніўся паліцай перад ёю. Нейкі момант пазіраў на жанчыну, ківаючы прыгожай сваёй галавой. Зноў пагладзіў Колю. Жанчына пастаранілася. Мацней прыціснуўся да яе сын. Целам яна адчула, як забілася, бы ў злоўленага зайчаняці, яго сэрца. Во, зараз ён іх рашыць, гэты паліцай... Але вінтоўка стаяла ў качарэжніку, а патроны дробненька пастуквалі ў кішэні Рамана Раманавіча, як зубы ад холаду.

Самае нечаканае, што скаланула ўсю акругу пасля прыходу немцаў, была здрада галіцкага настаўніка. Як і раней, яго называлі Раманам Раманавічам. Гэта — каб не ўгнявіць паліцая, каб паказаць, што не пахіснуўся яго аўтарытэт, не змянілася да яго людская павага. Казалі, аднак, што ніякі ён не Раман Раманавіч, што імя і прозвішча ў яго чужыя. Ці праўда, ці не, а быццам бы сам ён каецца, што падаўся ў паліцыю. Але не было выйсця, каб адпомсціць Атаманавічу. За Атаманавічам следам ён ішоў усё жыццё, пакуль не насціг яго ў Галіцы. Ён ужо ведаў, як парашылі чонаўцы банду на глухім лясным востраве, хто кінуўся атаману на спіну з-за куста і скруціў рукі. Атамана, яго бацьку, хутка расстралялі, астатніх саслалі ў ссылку. Але ўцёк адтуль крымінальнік-катаржанін, які быў у бандзе, знайшоў яго, тады яшчэ даволі маладога папоўскага ўзрэза, і расказаў пра ўсё. Раман Раманавіч сцяў зубы, пацішэў, прытаіўся. Пераязджаў з месца на месца. Здабыў чужы пашпарт і паступіў у інстытут. Стараўся добра вучыцца, быць уважлівым да таварышаў, каб заслужыць аўтарытэт. Стаўшы настаўнікам, на ўздзіў усім, папрасіўся ў глухую вясковую школу. Ён ведаў, куды едзе.

Новыя ўлады раёна, да якіх з'явіўся Раман Раманавіч, прызначылі яго начальнікам местачковай паліцыі. Раман Раманавіч адчу-

ваў, што ў ім падымаецца тое, што ён некалі затаіў, угнёў у сябе, а зараз выпусціў, і яно стрымгалоў ірвецца на волю. Ён пачынаў быць самім сабою.

— Не бойцеся, цётка Прося,— зноў звярнуўся ён да жанчыны.— Мы — свае. У крыўду вас нікому не дадзім. Пераловім усіх бандытаў, жыццё наладзіцца, як мае быць... А цяпер прыміце ад мяне падарунак.

Ён адчыніў дзверы і крыкнуў з парога на вуліцу:

— Давай, Свістуноў.

Свістуноў і другі дзябёлы паліцай, што быў з ім, пачалі перавашваць цераз драбіну вялікую карычневую шафу.

— На папа! Стаў на папа! — стоячы ў калёсах, крычаў Свістунову яго таварыш.

Паліраваным бокам шафа з'ехала з драбін, і Свістуноў ледзь утрымаў яе.

— Асцярожней, Ткачэнка! Гэтак і разбіць можна.— Раман Раманавіч выйшаў на вуліцу і наглядаў за работай.

— Цяжкая, ліха на яе! Удвух не занесці, пан начальнік,— узмаліўся Ткачэнка.

Тым часам на вуліцу выйшаў Нічыпар Сямашка, і дзябёлы паліцай убачыў яго.

— Гэй, бацька, хадзі падсоб трошкі!

Убачыў яго і Раман Раманавіч.

— Падыдзіце, Нічыпар Сямёнавіч, памажыце хлопцам,— папрасіў ён.

Хавацца ў двор было позна.

Прося выглянула з-за вушака і адступілася перад мужчынамі: у хату ўязджала нешта агромністае і страшнае. Яна пачала здагадвацца, што гэта такое, але не магла ўцяміць, чаму гэтае людское няшчасце нясуць у яе хату.

— Ставуце тут. Во-во, так! — камандаваў Раман Раманавіч.— Гэта вам сюрпрыз, цётка Прося.

Шафу паставілі пры сцяне. У хаце яна выдавала яшчэ большай, чым на дворы — заняла амаль увесь прасценак паміж вокнамі. Прося адчула, як адразу пацяснела ў хаце.

— Уф ты! — усё не мог адсапціся Ткачэнка.

— А дуб — мораны. І разбяр, відна, не плахі быў: такіх ангелаў павырэзваў на дзверках,— выціраючы рукавом пот з ілба, хваліў шафу Свістуноў.— Сто лет прастаіць! Толькі вы, цётка, не мыйце вадой з мылам. Лак мыла баіцца.

Раман Раманавіч, пагойдваючыся на насках, пазіраў на гаспадыню: што скажа яна?

Яна маўчала. Тады Ткачэнка рашыў выручыць нездагадлівую цётку.

— Такую абнову не грэх было б і абмыць...

Раман Раманавіч кіўнуў. Ткачэнка ўмомант выкаціўся на вуліцу.

— Куды вы, Нічыпар Сямёнавіч? Працавалі ж разам... Так што не грэбуйце.

— Што вы, Раман Раманавіч? — азваўся Нічыпар.— Можна б і выпіць, але ў мяне з жыватом бяда. А сядзець ды глядзець, як другія п'юць — адна марока.

— Точна, ацец! — засмяяўся Свістуноў.— Піць так піць. А так нечава фасаду порціць.

— А я пра што кажу?! — узрадаваўся нечаканай падтрымцы Нічыпар.

— Воля ваша,— пакрыўдзіўся Раман Раманавіч,— толькі, помніцца, на выпускным вечары вы прамашкі не давалі...

— То калі тое было,— развёў рукамі Нічыпар і выйшаў.

У паліцаяў і выпіўка і закусь былі свае. Выпілі па адной, закусілі, налілі па другой. Раман Раманавіч хацеў устрымацца, адставіў сваю шклянку. Пасля перадумаў, махнуў рукой: налівай!

Выпілі і па другой. Не брала гарэлка Рамана Раманавіча. А ў тых дваіх развязаліся языкі.

— Помніш, як яна брыкалася ў цябе,— таўхануў пад бок Свістунова Ткачэнка.

— Ладна,— пакрыўдзіўся Свістуноў,— лепш хай Раманавіч раскажа, як старая кінулася боты яму цалаваць.

Раман Раманавіч нахмурыўся, зірнуў з-пад ілба і на аднаго і на другога.

Свістуноў прыклаў руку да сэрца, бы просячы прабачэння, прадэкламаваў:

— Вучыцель, перад імянем тваім, пазволь...

— Не дазволю! Ні піць, ні пахабшчыну несці.— І махнуў рукой: — Марш!

Раман Раманавіч хацеў гаварыць. Павярнуўся на табурэтцы да дзвярэй, дзе нібы аслупянела ля печы Прося. Пачакаў, пакуль выйдуць Свістуноў з Ткачэнкам. Не ўзнімаючы вачэй ад падлогі пачаў ціхім, бы вінаватым, голасам, каўтаючы словы. Нашкодзіўшы, ён так спавядаўся, мабыць, некалі ў бацькі. Спавядаўся і тады і цяпер, хоць і тады і цяпер ведаў: пакарання не будзе...

Страшнейшых хвілін, чым гэтыя, Прося не ведала. У прасценку стаяла вялізная карычневая шафа, а на табурэтцы сядзеў чалавек, які прывалок яе сюды. Гэты чалавек напісаў некалі на яе мужыка пісьмо без подпісу. Напісаў, што яе мужык — вораг, бо баяўся, што той распазнае яго раней за іншых...

— Вось і прыйшоў да вас, што хачу ачысціцца. Расказаў — і лягчэй стала. Чэснае слова! Муж ваш павінен хутка вярнуцца — усе турмы распушчаны. А пакуль прыйдзе, гэта вам мая падмога,— паказаў ён на шафу.

Дастаў з кішэні ключык, падышоў, уставіў у дзверцы і шчоўкнуў замком.

Дзверца адчынілася. Да самага верху шафа была напакавана дабром. Унізе — цэлая гара абутку, на палічцы —футры. На плечыкі падвешаны паліто і сукенкі.

— А тут — бялізна! — Раман Раманавіч расчыніў вузейшыя дзверцы.

Шуфляды таксама былі поўныя.

Роўненькія стосікі белых адпрасаваных прасцін, markednakaляровай бялізны. Вунь той коўдрай нехта акрываўся! У каўнер футры хаваў твар на марозе! А чые ж рукі столькі памылі і напрасавалі? Для каго? Для мяне? Для Колі? Тыя ж рукі хацелі, каб чысцей, тыя плечы любілі цяпло. Дзе яны цяпер?! Чыстыя рукі адбіваліся ад Свістунова, старэчыя вусны лавілі боты Рамана Раманавіча. Каго? Гадзюкі, змяі падкалоднай...

Прося адхінула ад сябе сына, працягнула ў качарэжнік руку, узяла першы, што трапіўся чаранок вілак.

— Вон! Вон! Вон!

Горла перахапілі спазмы, і жанчына ледзьве сіпела, падступаючы да начальніка паліцыі.

У хату ўбег Свістуноў. У яго ў руках бразнуў затвор вінтоўкі.

— Назад!

— Ма-ма! — нема крыкнуў Коля, забегшы ёй наперад і абхапіўшы рукамі.— Ма-мач-ка, не трэ-ба!

Прося апусціла вілкі.

Апусціў рулю вінтоўкі і Свістуноў. Раман Раманавіч абышоў Просю бокам.

— Не трэба. Паспрабаваў бы ты на яе месцы. Я ўсё расказаў. Душа мая чыстая. Астатняе —яе справа. Хадзем! — узяў з качарэжніка сваю вінтоўку і выйшаў.

— Эх, людзі, ім дабра вунь колькі прываліла, а яны і дзякуй не скажуць,— пакрыўдзіўся за свайго начальніка Свістуноў. Ужо ступаючы за Раманам Раманавічам у сенцы, дадаў: — Другі і не прызнаўся б... Ды што гаварыць — баба!

Колькі часу Прося стаяла пасярод хаты, не зварухнуўшыся. Плакаў сын, уткнуўшыся ў яе жывот. Яна гладзіла яго стрыжаную галаву, прыціскала да сябе, адчувала цёплае дыханне заплаканага рота. Каб не ён, яе сын, то і сама Прося заплакала б. Заплакала б ад гора, ад крыўды, ад глыбокай раны, якую толькі што ўскрылі. Яна не ведала, што рабіць, за што зачапіць рукі. Нягрозна прыкрыкнула на сына:

— Даволі!

Падышла, пакратала шафу і не скранула з месца. Тады, не разглядваючы, пачала выкідваць на сярэдзіну хаты ўсё, што там было.

— Насі на поплаў, сынок,— загадала Колю.

Ён ужо не плакаў. Вочы ад слёз падпухлі, сталі круглыя, як банькі. Ён цёр іх кулакамі. Плечы ўздрыгвалі — яшчэ біла горнасць.

Бы нехаця, набраў, колькі мог падняць, адзежы і ледзь не ўпаў, наступіўшы на рукаў нейкай кашулі.

Тады Прося здагадалася: сцягнула посцілку, раскінула на падлозе і натаптала клунак. Малому як падняць. Паддала на плечы. Хістаючыся пад ношаю, ён выйшаў з хаты.

Абутак з шафы яна скідала ў мех і ўзваліла сабе на плечы.

Яны з Колем аднеслі на поплаў па некалькі ношак, пакуль шафа не стала пустая. Тады Прося знайшла ў сенцах сякеру і пачала трушчыць шафу. Секчы і біць, біць і секчы. І чым цяжэй яна паддавалася, тым з большаю злосцю трушчыла яе Прося тупой сякерай.

Вось, нарэшце, і ўсё... Коля выцягаў з хаты на поплаў пашчапаныя дошкі, Прося падмяла падлогу, сабрала друзачкі ў кош, сунула туды бутэльку з газай...

— А я гануў, што ты перасушвацца,— сустрэў яе на поплаве Ахрэм Мукавозчык.— Але падумаў: хто восенню адзежу перасушвае? — І ўжо няяк нядобра спытаў: — Што гэта ты надумала, Прося? Вайна наперадзе. Яшчэ можа кусок хлеба за гэту адзежыну абаб'еш. А ты столькі дабра глуміць! Оле-лё! Пабойся бога!

— Адыдзіце, дзядзька Ахрэм. А то будзе і вам і богу,— яна апліскала газай адзежу, дошкі пасечанай шафы.

— Не дам, не дам! — кінуўся раптам да кучы Ахрэм.— Проська, золатка, не трэба, не палі! Аддай лепш мне!

Яна намацала ў кішэні фуфайкі запалкі, кінула Колю:

— Падпальвай! — і рашуча адштурхнула Ахрэма.

Коля чыркнуў запалкай. Вясёлыя языкі полымя сiганулі ўгару.

— Шалёная, шалёная! Глядзіце — шалёная! — не сваім голасам закрычаў Ахрэм і пабег да сваёй хаты, раз-пораз азіраючыся і паўтараючы: «Шалёная, шалёная! Глядзіце — шалёная!»

Сэрца яго не магло вынесці — ён бачыў, як гарэла дабро.

...Вайна вайной, а жыцця не спыніш. На зыходзе першай ваеннай зімы ў Заграддзі гулялі вяселле. Федзя Мукавозчык браў Вольку.

Стары Ахрэм расшчодрыўся: закалоў парсюка, выгнаў гарэлкі. Гасцей з Галіцы і навакольных вёсак не запрашалі, рашылі сабраць блізкую радню маладога і маладой толькі з Заграддзя. Бяседу дамовіліся сабраць у адной хаце — у Мукавозчыкаў. Час ваенны, на многа не разгонішся! «Калі, свахо, хочаш, каб твая дачка ў Германь не паехала, то не пярэч, слухай мяне...» — сказаў Ахрэм Вольчынай маці.

Федзя браў Вольку ў сваю хату. Жылі яны з бацькам удвух, а ў Волькі меншых братоў і сясцёр — як бобу ў струку. Гэта, праўда, было не галоўнае. Ахрэм нізавошта не ўзяў бы лішняга ядака ў хату, калі б сам быў у ранейшай сіле. Апошнім часам ён паслабеў, а дабра нагроб — дай божа! Некаму ж трэба яго пільнаваць.

Можа Федзя з Волькаю яшчэ і не пакахаліся б, бо Федзя толькі адну зіму і хадзіў да Волькі, калі б не забіралі моладзь у Германію. А тут ратавацца трэба. Ды і наогул на дзяўчат нібы які мор найшоў: ім не спявалася, не гулялася. Хуталіся ў вялікія хусткі, старыліся пад баб, абы не кінуцца якому злыдню ў вока. Няхітрая хітрасць, аднак, мала памагала. Як ты схаваешся, хоць не мыйся, хоць не прычэсвайся, калі ружовыя шчокі аж гараць, а налітыя вусны аж лопаюцца ад соку...

Першы хапун наляцеў у Заграддзе знячэўку. Немцы ачапілі вёску, а паліцаі, падабраўшыся непрыкметна агародамі, пайшлі па хатах. Вылузнуцца ці адкупіцца змаглі нямногія. Астатніх пасадзілі ў машыны, што чакалі за вёскай, і павезлі. Машыны ўжо ад'ехалі далёка, не чуваць было гулу іх матораў, а плач і галашэнне дзяўчат усё яшчэ далятала да вёскі.

Пайшла чутка пра новую аблаву. Калі не пайсці замуж за Федзю, Вольцы можна было спадзявацца толькі на горшае. Любіла яна Федзю ці не, а выбару ў яе не было. Хлопцаў у Заграддзі амаль не засталося. Хто адразу пайшоў з арміяй, а каторыя не паспелі — пазнікалі памалу з дому. Бацькі гаварылі, што яны падаліся ў далёкія вёскі да родзічаў...

Федзя Мукавозчык неяк прыкметна паспакайнеў. Усю зіму не спяваў на вуліцы сваіх песень. Канешне, каму цяпер весела? І з гэтай прычыны не магла нахваліцца ім Волька, калі прыходзіла запрашаць на вяселле Сямашкаў.

Бацькі адразу адмовіліся: хварэла маці. А Уля падручылася прыйсці.

— Ты не крыўдуй, Вулечка, што я за Федзю іду. Ты ж Пашку больш любіла, чым яго,— гаварыла Волька на вуліцы.

— Не гавары, Волька, абы-чаго. Жывіце шчасліва. Я і на вяселле прыйду і не злуюся ніколечкі.

— Адным нам бог шчасця не дае,— застагнала маці, калі Уля, правёўшы Вольку, вярнулася ў хату.

— Пра што вы, мама? — нахілілася над ёй Уля.— Мне ж рана замуж, і я не думаю яшчэ, вы ж ведаеце.

— Ведаю, ведаю...

Маці больш нічога не сказала, але Уля адгадала яе думкі. Першы раз, калі адпраўлялі дзяўчат у Германію, Уля схавалася на гарышчы за комінам, але, на дзіва, паліцаі не зайшлі нават у хату. Ці выпадкова так здарылася?..

Два разы заязджаў да іх са сваімі хаўруснікамі Раман Раманавіч і абодва разы намякаў, што здарылася так не выпадкова. Ён рассыпаўся дробным макам, называў бацьку «бацькам», а маці —

«мамай». Нібы жаваў і ў рот клаў: зразумейце! Ды хіба ясней трэба?

Абодва разы, спаслаўшыся на неадкладныя справы, Уля збягала з дому. З вёскі ў гарнізон дарога вяла цераз лясок, і Раман Раманавіч з паліцаямі заседжвацца ў іх не любілі. Паўздыхаўшы, што недзе забавілася Уля, а маладым хацелася б пагаварыць пра маладое, Раман Раманавіч развітваўся. Цалаваў напаследак маці руку і абяцаў, «калі не выганіце», заглянуць яшчэ.

Цэлы вечар маці мыла і церла ручніком цалаваную руку, нібы на ёй аставалася якое кляймо.

— «Маладым пра маладое...» — перадражнівала яна.— Амаль бацька ёй, а ўсё маладзіцца, здыхаты на цябе няма! «Заеду, калі не выганіце». Заязджай, духі б з цябе выгнала...

Уля і бацька пасмейваліся, хоць смех той быў невясёлы.

Раман Раманавіч не такі прасцяк, каб не ўбачыць, што яго водзяць за нос. Ён пакуль што церпіць, робіць выгляд прыстойнага жаніха. Але ўлада на яго баку, і цярпенне не вечнае. Надта хісткая кладка, па якой яны ішлі...

Дзень за днём — і настала, нарэшце, вясельная нядзеля.

Уля дастала з куфра белае выпускное плацце, квяцістую хустку-тараноўку. Накідала ў прас вуголляў і пачала махаць, каб хутчэй разагрэўся.

— Вулька, донька, не надзявай таго плацця. І тараноўкі не бяры. На выпускным ты была самая прыгажэйшая. Кажу табе не як маці, а як яно было... На вяселле нельга ўбірацца лепш за нявесту. Адзень сабе так што, не кідкае,— прасіла і павучала маці.

Мілая, дарагая мама! Колькі ты нацярпелася, нагаравалася за век? І цяпер, не могучы ўстаць з пасцелі, ты думаеш не пра сябе.

Пяшчота хваляй заліла Улю. Яна высыпала вуголле з праса, назад у куфар паклала ўборы. Прылегла на ложак да маці, прытулілася да яе, пацалавала ў гарачую шчаку. Яны ляжалі моўчкі, гладзілі рукі адна адной, гаварылі сэрцамі.

Маці закашляла.

— Выйдзіце бо, тата, у сенцы пакурыць,— папрасіла Уля.

Бацька выйшаў.

Ім дваім было добра. Каб вечна, здаецца, працягваўся гэты міг — без вайны, без боязі за самае святое.

Яны ляжалі побач і гладзілі рукі адна адной. Сілы адной адыходзілі, другая налівалася імі. І тая, адыходзячы, як старое дрэва пасынку, імкнулася перадаць другой астатак сваіх сіл.

Яны не ведалі, колькі часу прайшло так — імгненне ці вечнасць. Іх вывеў з забыцця скрып палазоў на вуліцы. Ля двара спыніліся сані.

Уля падбегла да акна і зазірнула ў незамарожаны акраек шыбы. Адразу пазнала Мішу Ціханчука з Галіцы. Ён саскочыў з саней, насустрач яму ішоў бацька. Міша нешта сказаў бацьку, бацька паказаў на хату, але Міша закруціў галавой. Мабыць, нехта азваўся і ў санях, бо абодва павярнулі туды галовы. Тады бацька махнуў рукой і пабег назад у двор. Дзверы ў сенцах не бразнулі. Значыць, бацька падаўся да хлява. Уля прыгледзелася да саней і сумелася. Пад посцілкамі на санях нешта варушылася.

Вярнуўся бацька. Адгроб нагой снег з-пад веснічак, патузаў, каб адчыніліся да самага плоту. Нешта сказаў Мішу, і той падняў посцілку. Як гарох, адтуль пасыпаліся дзеці. Меншыя былі ў цёплых хустках, завязаных пад пахі. Смешныя і непаваротлівыя, яны проста

скочваліся, не могучы ўтрымацца на нагах. Іх паднімалі большыя, якія вылазілі следам, і вось ужо ўсе пяцёра зніклі ў двары. Апошняй выкараскалася цётка Паўліна.

— Мама, мамачка,— ускрыкнула Уля.— Да нас цётка Паўліна прыехала. З дзецьмі.

— Чаму ж яны не ідуць у хату? — занепакоілася маці.

— Я зараз выбегу, зірну...

— Марш у хату! — крыкнуў бацька, калі Уля выскачыла на ганак.

Такога злога голасу яна ні разу ад яго не чула. Зайшла ў хату, пакрыўджаная. Хутка ўвайшоў і бацька.

— Едзе Раман Раманавіч. Кажуць, па Сяргеевых дзяцей. На гэты раз паабяцаў перавярнуць усё ўверх дном, а знайсці,— устрывожана расказвае бацька.— Мішу позна сказалі, ён іх ледзь выхапіў. Баіцца, каб не заўважыла чыё ліхое вока, каго ён павёз у Заграддзе. Адсюль падаўся праз усю вёску, каб і тут бачылі, што яго сані праехалі далей. Адным словам, ведайце, што сказаць, калі давядзецца.

— Нічыпарка, куды ты іх схаваў? — заварочалася маці.

— У хляве яны. За стаўпом сена. Адзетыя цёпла. Каб толькі не кашлянула каторае.

Праз якой паўгадзіны ўваліліся і паліцаі. У хату зайшлі знаёмай тройцай: Раман Раманавіч, Свістуноў і Ткачэнка.

Прывіталіся. Раман Раманавіч пацікавіўся здароўем Лізаветы Іванаўны. Мамай называць не стаў, не падышоў пацалаваць і руку, як рабіў раней. Загаварыў з адным бацькам. У размове — тон сухі, афіцыйны. Куды падзелася ранейшая далікатнасць?!

— Нічыпар Сямёнавіч, выйдзем на двор. І ты, Уля, выйдзі,— загадаў начальнік паліцыі.— Лізавеце Іванаўне патрэбен спакой, а ў нас справа сур'ёзная.

— Гаварыце пры мне, здароўя ад таго не прыбавіцца, Раман Раманавіч, калі вы іх на двор паведзяцё,— ціха сказала маці.— Я трывожыцца ўсё адно буду.

— Прабачце, Лізавета Іванаўна, але мы выйдзем. Так будзе лепш,— Раман Раманавіч прапусціў услед за паліцаямі бацьку з Уляй і выйшаў сам.

Спыніліся ў двары ля парога.

— Нічыпар Сямёнавіч, скажыце, дзе нам шукаць дзяцей былога старшыні сельсавета?

— Адкуль жа я ведаю, Раман Раманавіч?!

Начальнік паліцыі патаптаўся перад бацькам, заклаўшы за спіну рукі, патупаў ботамі па снезе.

— Не ведаеце? А я лічыў, што вам вядома лепш, чым каму-небудзь другому. Чаму, вы самі павінны здагадацца.

Ён пазіраў сваімі насмешлівымі вачыма на Улю.

— А ці вядома вам, што нехта Атаманавіч з'яўляецца камандзірам атрада так званых партызан, а па-просту — бандытаў? — зноў загаварыў ён да бацькі.

— Першы раз чую.

— Гм,— усміхнуўся начальнік паліцыі.— Дазвольце ў такім выпадку правесці ў вас вобыск. Уля, правядзі хлопцаў у хлеў, каб ім самім не лазіць.

За ёй пайшоў адзін Свістуноў. Ішоў, нешта мармычучы пад нос, вясёлы, упэўнены ў сваёй удачы. А Уля — ні жывая, ні мёртвая. «Калі знойдзе,— падумала яна,— хаплю дрын і дрынам — па галаве. А там хай будзе, што будзе...»

Маці ляжала як нежывая. Зноў абамлела! Уля разадрала на ёй сарочку, пачала расціраць грудзі.

Раман Раманавіч і бацька адышлі.

— Мама, мамачка!

Маці цяжка адкрыла павекі, хацела штосьці спытаць, але Уля паклала ёй на губы руку. Маці ўсё зразумела. Вочы яе зноў стомлена закрыліся. Папрасіла піць. Уля паднесла конаўку, і маці трохі каўтнула вады.

Падышоў Раман Раманавіч.

— Уля, на вяселлі будзеш? — спытаў ён.

— Якое вяселле? — яна ўзняла на яго заплаканыя вочы.— Хіба ты не бачыш, дзе маё вяселле! — і зайшлася ў плачу, усхліпваючы, як малое дзіця.

Раман Раманавіч бы падрос. Упершыню Уля назвала яго на «ты». Гэта нешта азначала! Ён пружыніста крутнуўся на высокіх нагах, падаў руку бацьку і таропка пайшоў да дзвярэй. За ім паплыў казённы дух рамянёў і дзяшовай паліцэйскай ветлівасці.

— Малайчына, дачка! — бацька падышоў да Улі і пагладзіў яе па галаве.— Малайчына, што знайшла, чым справадзіць. А там мы што-небудзь прыдумаем.

Неўзабаве ўляцеў у хату Коля. Зірнуўшы ваўчком, ці няма каго чужога, сказаў:

— Дзядзька Нічыпар, вы не бойцеся. Яны ўсе ў нас. А я гаварыў паліцаям так, як мама навучыла.

Следам зайшла і Прося.

— Наце, хай мая каўгашка ў вас пабудзе. З пустымі рукамі пабаялася ісці... Ну, сусед, нацярпелася я страху. А пераняла я да сябе іх адразу, калі ты ў хату пайшоў. Схованка ў вашым хляве надта ненадзейная. Зараз яны ў мяне на печы грэюцца. Паўліна гаворыць: да вечара б, а там іх забяруць.

— Дзякуй табе, суседка. Выручыла...

— За што дзякаваць, Нічыпарка? За што? Людзі ж мы. Во, каб Савета хутчэй папраўлялася,— замітусілася Прося.— Ну, то я пайду.

— Куліна! Куліна! Ідзі дарагіх гасцей сустракай! — крычыць Ахрэм у камору свасе.— Праходзьце, дарагія госцікі,— кланяецца ў парозе паліцаям.

Куліна, Вольчына маці, хоць у прыцемку, а пазнала Рамана Раманавіча. Высокі і стройны, туга перацягнуты рамянём, у цёмным праёме дзвярэй ён нагадваў партрэт у раме. Збоку на поясе вісела кабура з пісталетам.

— Дзе тут наша маладая?! — весела гукнуў ён.— Шчасця-долі пажадаць зойдзем, калі дазволіце.

— Заходзьце, заходзьце, Раман Раманавіч. Нам гонар, Волечцы радасць настаўніка свайго пабачыць,— замітусілася цётка Куліна.

Следам за Раманам Раманавічам уваліўся другі, з нямецкім аўтаматам пад пахай — то быў Свістуноў.

Застолле прыціхла, усе павярнулі галовы ў парог.

— Што за фокус? — здзівіўся Раман Раманавіч.— Дзядзька Ахрэм, вы гасцей гарэлкай частавалі ці вадой?

— Гарэлкай, паночку, гарэлкай... Гаварыце бо, людцы, смейцеся!

— Праўду Раман Раманавіч кажа. Не на памінках жа мы. А людзі свае зайшлі,— азваўся Яўсей-гарманіст.

Сядзеў ён за сталом у парозе. Побач ляжаў гармонік. Крычалі

«горка» — Яўсей хапаў яго з табурэткі і выціскаў заліхвацкі перабор. Панясуць з каморы каравай — гарманіст сыграе «туш».

Свістуноў пераглянуўся з Раманам Раманавічам.

— Той, што сватаў,— ціха сказаў Свістуноў, і Раман Раманавіч кіўнуў галавой.

За сталом, побач з маладою і маладым, пачалі выслабаняць месцы.

— Не трэба, не трэба! — запярэчыў Раман Раманавіч.— Дружкі няхай сядзяць з маладымі. Навошта парушаць завядзёнку?!

— Панок даражэнькі, Раман Раманавіч, не крыўдзіце, сядайце туды,— мітусіўся Ахрэм.— Ліда, Ліда, вылазь хутчэй! А ты, свахо, чаго стаіш? Запрашай гасцей!

Паліцаі распрануліся.

Раман Раманавіч прабраўся да маладых, Свістуноў сеў у парозе побач з Яўсеем. Гармонік паклалі за комін, адкуль цікавалі дзеці.

Ахрэм прынёс з каморы ладную бутлю чарнічнай настойкі, сваха падала чыстую гранёную шклянку, і стары Мукавозчык наліў яе да краёў.

Раман Раманавіч устаў, высока ўзняў шклянку і, звяртаючыся да маладых, зычным голасам сказаў:

— Няхай жыццё ў маладых будзе поўнае і багатае, як гэта чарка. За здароўе гасцей!

Выпіў да дна, выцер белай насоўкай губы, нахіліўся і пацалаваў Вольцы руку.

Застолле ажывілася, у запечку хтосьці запляскаў у ладкі.

Яўсей тым часам чокаўся са Свістуновым.

— Давай, братка, за здароўе маладых, за жыццё іх харошае,— прапанаваў Яўсей.

Свістуноў кульнуў і не зморшчыўся. Яўсей адставіў сваю чарку, падаў яму талерку з закуссю.

— Грыбкоў, грыбкоў вазьмі. Пры гарэлцы гэта — першае дзела.

Паліцай засіліў поўную лыжку грыбоў, пачаў смачна хрумстаць. Паказаў на нявыпітую Яўсееву чарку.

— Ты еж, еж. Мы, гэта, перад вамі парадкам урэзалі. Мне ж яшчэ іграць... Але можна прапусціць па адной. Чарка на чарку, гэта не тое, што кій на кій,— і наліў Свістунову.

Выпілі разам. Добра закусілі. Мала-памалу бяседа ажыўлялася. Бабы заспявалі песню:

Зялёная вішня
З-пад кораня выйшла.
Аддала мяне маці,
Бо я была лішня.

Волька заплакала. Федзя пачаў суцяшаць яе. Стары Мукавозчык нешта расказваў Раману Раманавічу, смяяўся і круціў сівымі кудламі. Раман Раманавіч ківаў галавой.

— Нешта, братка, мне цесна стала,— сказаў Яўсей Свістунову. Расшпіліў пінжак, узяўся за пояс, быццам хацеў паслабіць яго.— Калі пераясі, заўсёды так. Пусці, я, гэта, выйду.

Свістуноў устаў. Яўсей вылез з-за стала і пайшоў на вуліцу. Амаль следам за ім, пераглянуўшыся з Раманам Раманавічам, выслізнуў і Свістуноў.

З ганка Свістуноў бачыў, як Яўсей, распяразваючы рамень, накіраваўся да хлява. Ён памкнуўся пайсці назад у хату, нават узяўся

за клямку, але спыніўся. Мінаваўшы хлеў, Яўсей пераскочыў цераз плот і бегма кінуўся на лугавіну, за якой пачынаўся лес.

Мароз апаў, снег быў мяккі і не рыпеў пад нагамі. Ноч выдалася па-веснавому цемнаватая.

Свістуноў дагнаў Яўсея амаль каля самага лесу. Той хоць бы азірнуўся. Ён бег, спатыкаўся, відаць, баяўся, каб яго не хапіліся ў хаце.

Свістуноў пачынаў пазнаваць гэтую мясціну. Ён сам адседжваўся ў гэтым ельніку перад тым, як прыбіцца да Смажпальто. Днём спаў, а ноччу хадзіў на заградскія агароды капаць бульбу. У куратніку, у Ахрэма Мукавозчыка,— цяпер ён гэта ведаў,— сцягнуў з седала куру. Скруціў ёй галаву, з большага абскуб, намачыў у балоце анучу з бота і агарнуў тушку. Выбраў гушчар, выкалупаў палкай ямку, паклаў туды. Прысыпаў зямлёй, а наверсе расклаў агонь. Усю ноч пёк бульбу. Пад раніцу разгроб і затаптаў вогнішча. Кура ўпарылася на славу — костачкі самі вылазілі з мяса. З галадухі ён з'еў яе з бульбай усю. Усярэдзіне знайшоў яйка. Без лушпайкі, абцягнутае тонкай плёнкай. На закуску кінуў у рот і яго. Падгроб пад галаву моху і ўлёгся спаць. Падумаў яшчэ: ноччу зноў трэба схадзіць у куратнік — няма дурных перабівацца на бульбе.

І вось той ельнік... Густыя лапкі хвошчуць па твары, па спіне, колюць рукі.

— Стой! — патрабавальны голас спыніў Яўсея. Ён убачыў перад сабой дзве цёмныя постаці. Паміж імі хтосьці сядзеў і ціха плакаў. Яўсей больш здагадаўся, чым пазнаў: Паўліна! А вунь у нагах, на зямлі, сядзяць і яе дзеці!

Адна постаць трымала напагатове вінтоўку, накіраваную на дзяцей, другая — цэліла ў яго. Яўсей прыгнуўся і хацеў шугануць у гушчар, але нечыя рукі схапілі яго за плечы і кінулі вобзем. Гэта быў Свістуноў.

Назад у хату Свістуноў спяшаўся мудрэй, чым бег за Яўсеем. Стаміўся, задыхаўся. Ірвануў дзверы ў сенцах і ледзь не выбіў у маладзіц рэшата з караваем, які збіраліся несці на покуць. Садзіцца на месца не пайшоў. Успацелы, але задаволены, ён паказаў Раману Раманавічу вялікі палец.

Раман Раманавіч даўно чакаў яго і пачынаў ужо трывожыцца. Неўпрыкмет нават адсунуўся ад акна, быццам бліжэй да свайго цікавага субяседніка, Ахрэма Мукавозчыка. Калі паявіўся ў дзвярах Свістуноў, ён паляпаў па плячы старога і сказаў ласкава:

— Вельмі, вельмі рады, што вы ацанілі «новы парадак». Ён вам развязаў, вы кажаце, рукі. Нямецкія ўлады, аднак,— Раман Раманавіч зрабіў паўзу, даў зразумець, хто тут з'яўляецца прадстаўніком нямецкіх улад,— нямецкія ўлады, аднак, цэняць практычныя справы. Словам мы не верым...

У парозе падаваў нецярплівыя знакі Свістуноў.

— Дзядзька Ахрэм,— звярнуўся Раман Раманавіч да старога.— Выйдзем на хвілінку на двор. Мужчынская справа ёсць.

— Дык каравай жа, паночку начальнік! — запярэчыў Ахрэм.

— Каравай пачакае. Я думаю, даруюць нам мінутную адлучку маладыя. Ну, як? — зірнуў ён на Вольку.

Волька моўчкі апусціла вочы.

Раман Раманавіч мякка, але ўладарна выпхнуў старога ўперад. Яны пачалі прабірацца між сталоў. Уперадзе дыбаў Ахрэм. Ён адварочваўся, тыцкаў кручкаватым пальцам Раману Раманавічу ў грудзі, кляўся:

— Я супраць нямецкіх улад не іду. Улада для мяне — закон...

— Мы зараз праверым,— ступаючы з ганка ў снег, паабяцаў Раман Раманавіч.— Наперад, марш!

— Куды ісці, паночку? Можа вы хочаце гарэлкі, то яна ў мяне ўся ў каморы. У хляве не трымаю.

— За ім ідзі!

Уперадзе з аўтаматам высцяжыўся Свістуноў. Пісталетам у спіну падганяў Ахрэма Раман Раманавіч. Абышлі хлеў, пайшлі паўз плот далей. Ахрэм прасіўся, енчыў, хацеў кінуцца перад Раманам Раманавічам на калені. Адцягнуў за каўнер Свістуноў.

— Абмундзіраванне вазіў, калі ўцякалі бальшавікі? — спытаў Раман Раманавіч.

Ахрэм замяўся. Ага, вунь за што! Як жа адказаць?

— Вазіў! — апярэдзіў яго Свістуноў.

— Хлопчыкі, паночкі, то ці адзін жа я... Усе бралі.

— Усе, хто браў — расстраляны, як марадзёры. Ты — апошні,— сказаў Раман Раманавіч.— Нам вядома, што абмундзіраванне ты аддаў партызанам.

— Самі забралі. Далібог! Во, крыж... Вывелі, паставілі да сцяны... Забралі.— Ахрэм ірваў з шыі маленькі крыжык з распяццем. Гаварыў, што крыжык яшчэ бацькаў, што ён, Ахрэм, насіў яго пры Саветах. Ён прысягае перад Ісусам Хрыстом, перад Багародзіцай, перад самім Раманам Раманавічам, што ні ў чым не вінаваты...

Яму не верылі.

Паставілі пад цёмным дрэвам. Над галавой шумелі галіны, за спіной глуха гаманіў лес. У хаце недзе дзялілі каравай і пілі за здароўе маладых. Смяяліся, жадалі маладым доўгіх гадоў жыцця. А яго зараз не будзе. Ён упадзе на мокры снег, зляціць з галавы шапка. Пад раніцу валасы ўмарозіцца у наледзь.

Ахрэм задыхаўся.

— На, памацай, што гэта такое? — Раман Раманавіч сунуў яму ў руку нешта халоднае і цвёрдае.

Ён пазнаў.

Потым настылае жалеза апякло шыю. Цяпер пісталет абмацваў яго, бы далікатная аса выбірала, дзе джыгнуць.

Ствол тыцнуўся ля брыва. Ахрэм заплюшчыў вочы. Пісталет варухнуўся і застыў. Чорнае вока смерці і яго, Ахрэмава,— адно насупраць другога. Паміж імі — толькі дрыготкае павека. Толькі павека. І ніякай больш абароны! Зараз. Во зараз выскачыць агонь...

Ахрэму захацелася раптам дастаць са ствала патрон. Выкалупаць кулю, высыпаць порах. Кулю — закінуць, расплавіць, закапаць, з'есці... Абысці свой лёс, перахітрыць яго... Жыццё адно! І куля адна! Выдраць кулю!

— Твая хата стала прыстанішчам партызан. З лесу яны ідуць адразу да цябе,— нібы скрозь сон, чуе Ахрэм.

Гаворыць Раман Раманавіч. З ім гаворыць, значыць, жывы ты яшчэ, Ахрэм! Адказвай, хутчэй адказвай! Выдзірай сваю кулю!

— Паночку,— асядае ён на зямлю. Плача.— Паночку, далібог, не заходзяць. Баяцца. Я не хачу... Я баюся... Гадаваў сабак, каб брахалі, калі з лесу ідуць. Каб адпуджвалі. Каб абыходзілі стараной. Пастралялі сабак...

Раман Раманавіч усміхнуўся. Падумаў: «Сам, дзед, нашым сабакам будзеш. Разумны ды хітры! Хочаш, каб чарнавую работу мы рабілі. Хочаш перазімаваць, як рыба, каб гуляць пасля ў чыстай вадзе. Не, даражэнькі, сам у прадуху палезеш». Раззлаваўся:

— А хто на вяселле партызанаў запрасіў? Не ты?!

— Клянуся! Сынам, нявесткай клянуся, ніякіх партызан у мяне не было.

— Не было? — перапытвае начальнік паліцыі і загадвае: — Устаць! Свістуноў, вядзі!

Яго падвялі да людзей.

Ахрэм хутчэй нутром адчуў, чым убачыў іх.

На снезе сядзела старшыніха з дзецьмі, побач са звязанымі рукамі ляжаў Яўсей.

Ахрэм зразумеў усё.

— Ты, ты, гадзіна партызанская! Адкуль ты ўзяўся на маю галаву, хрыстапрадавец...

Яўсей маўчаў. А можа і не чуў Ахрэмавых слоў, бо калі Свістуноў наваліўся на яго, скруціў рукі, прыбегла аднекуль яшчэ двое паліцаяў. Адзін з іх стукнуў прыкладам Яўсея па галаве.

— Свістуноў, дай старасту аўтамат,— загадаў Раман Раманавіч.

Паліцай сунуў Ахрэму ў рукі зброю.

— Страляй!

Дрыжачымі рукамі стары ашчаперыў цёплую рукаятку, знайшоў спускавы кручок. Павярнуўся да Яўсея.

— Не гэтага,— спакойна запярэчыў Раман Раманавіч.— Во іх,— пісталетам паказаў ён на Паўліну і дзяцей.

Нехта ўскінуўся бегчы. Мабыць, большы хлапчук.

— Страляй!

Ахрэм не зразумеў у першы момант: ці то палец сарваўся, ці аўтамат застрачыў сам. Чырвоны гарачы струмень ляцеў у цёмныя сілуэты, у елкі за імі, аддачай біла ў жывот, пакуль аўтамат не папярхнуўся апошняй гільзай. Траскатлівае рэха праляцела па лесе, і звонкая цішыня ўдарыла ў вушы.

Аўтамат валіўся з рук пад ногі. Не сваім голасам закрычаў Ахрэм, хапіўся абедвума за галаву і, не разбіраючы дарогі, пабег назад. Налятаў на ствалы дрэў, чапляўся за галіны, падаў, падхопліваўся.

Убег у сенцы, зачыніў за сабой дзверы, ускінуў на крукі завалу. Прыпёрся плячыма:

— Не пушчу, не пушчу. Хай заб'юць — не пушчу.

Сваха з жанкамі ўсцягнулі Ахрэма на печ, накрылі кажухамі. Дабіцца ад яго не змаглі нічога. Ён паўтараў адно: «Не пушчу!»

Сваха зняла завалу.

...Не пілося, не елася. Хітрэйшыя здагадаліся: дабром не скончыцца. Хто-ніхто вышмыгнуў цішком і падаўся дамоў. Так разбеглася б і ўсё вяселле, каб не распялася ў дзвярах Куліна:

— Сякі бог, такі бог — не пушчу! Што ж вы сабе думаеце?! Калі вернуцца ды хопяцца: дзе людзі? Уцяклі?! Партызаны, значыць? Сабраць! А па хатах кінуцца шукаць, га? Як сабе хочаце — не пушчу!

Напалоханыя недалёкімі стрэламі, усе сядзелі, бы ўтрапёныя. Парадзеўшая застоліца маўчала. Скажа хто-небудзь слова і змоўкне.

Перад маладымі жаўцее каравай. Уторкнутая ў яго свечка гарыць няроўным мігатлівым полымем. У запечку штосьці вярзе п'яны Аўгусцін. Усе крыва ўсміхаюцца, слухаюць Аўгусціна, быццам ён тут галоўны. А можа і не слухаюць? Робяць толькі выгляд...

Вяселле, як памінкі.

Першым зайшоў у хату Раман Раманавіч. За ім увапхнулі звязанага Яўсея. Свістуноў стукнуў гарманіста між лапатак: «Ідзі,

ідзі!» Дурасліва засмяяўся, падміргнуў камусьці. Па хаце прайшоў лёгкі стогн. «Божа ж мой, божа!» — забожкалі бабы, хаваючыся адна за адну. Мужчыны збянтэжана пацепвалі плячыма, нібыта яны заварылі гэтую кашу...

Абапал дзвярэй каля вушакоў сталі Ткачэнка і незнаёмы паліцай. «Астатнія засталіся на двары»,— мільгнула ў гарачай Яўсеевай галаве.

Усміхнуўся. З трэснутай губы прасачылася кроў, падбітае вока заплыло пухлінай. Яўсей памаргаў, але свету ў вачах не пабольшала. Падумалася яшчэ: «Усё роўна як ад пчалы».

Трэба ж было так уліпнуць?! Чаму не азірнуцца, не затаіцца за першай жа хвояй? Тады ўбачыў бы Свістунова! А калі б і ўбачыў, то што б змянілася? Мог бы выратавацца сам? Мог бы. А Паўліна з дзецьмі?..

Яўсей адчувае сябе ў іншым свеце, бы не сярод людзей. Звон у вушах.

Як можна было выратаваць Паўліну? Калі б убачыў Свістунова, збіў бы яго са следу, падаўся б у абход, а не ў ельнік. Здагадаўся б, што там засада, інакш паліцай не кінуўся б адзін так смела ў лес. Недзе на пад'ездзе перахапіў бы Мішу Ціханчука. Ён, пэўна, стаяў дзесьці недалёка са сваім канём. У ельнік з санямі не прадрацца. Міша чакаў партызан. А тыя пазніліся. А можа не падышоў умоўлены час? Можа і так... Тады б яны кінуліся ў ельнік удвох. У Ціханчука ёсць аўтамат. У санях, пад сенам. Не, цяпер аўтамат у яго на грудзях: навошта хаваць зброю ноччу?! Пачуўшы сакатлівую чаргу, Міша кінуў свайго каня, падаўся ў ельнік. Цяпер недзе ходзіць там, шукае. Яўсей не сумняваўся, што гэта так — Ціханчук хлопец смелы! Калі знайшоў пастраляных, пабег насустрач партызанам: папярэдзіць. А можа яшчэ не знайшоў?! Тады ніхто, акрамя яго ды старога вырадка, што стогне на печы, не ведае, як загінулі Атаманавічавы дзеці і жонка.

Іх, мабыць, высачылі гэтак жа, як і яго, Яўсея. Вялі назіркам да самага месца, пакуль Паўліна не сказала: «Тут!», а дзеці не пападалі ў снег. Тады акружылі, наставілі на дзяцей вінтоўкі, прыгразілі маці: «Хочаш, каб дзеці былі жывыя,— маўчы. Адно слова — і на тваіх вачах рашым». Маўчала... Нема, не помнячы сябе, маўчала. Дзеці туліліся да яе, прасілі абароны — кожнае з пяцярых! Апошняе, што заставалася ў жанчыны, быў — плач. Цьмяная надзея на выратаванне, якое з кожнай хвілінай аддалялася, і — плач.

Яўсей не крыўдуе на Паўліну, што, пачуўшы трэск у ельніку і яго зяплівае дыханне, не крыкнула: «Назад!». Яна — маці. Ратавала дзяцей...

— Хто яго жонка, брат, сястра, кум? — пытае Раман Раманавіч і паказвае на Яўсея.

Словы даходзяць да Яўсея, як праз падушку. Упершыню ў жыцці ён радуецца, што адзінокі. Значыць, з ім у паліцэйскі гарнізон, а адтуль у гестапа не пацягнуць нікога. Яго злавілі. Прытварацца няма чаго. Ён бачыць свой канец.

— Во ён — мой пляменнік. Прасіў, каб я адвёў яго ў партызаны,— гаворыць Яўсей і паказвае на Свістунова.

Свістуноў збялеў, падступіў да Яўсея. Хацеў ударыць, але Раман Раманавіч адвёў яго руку. Ён жа ўзяў з-за коміна Яўсееў гармонік:

— На, іграй, хай людзі весяляцца.

Калі развязалі рукі, ён узяў гармонік. Ад вяроўкі пальцы адзеравянелі, кепска слухаліся. Некалькі разоў прабег зверху ўніз па гу-

зіках гармоніка, пакуль адчуў, што можа з яго што-небудзь выціснуць. Адступіў колькі крокаў да сцяны, быццам робячы круг, скамандаваў:

— А ну, барыню, Свістуноў! Ты ж сёння імяніннік. Выпі — і барыню!

Астатніх паліцаяў Яўсей быццам не заўважаў. Для яго існаваў адзін Свістуноў, якога ён паўгода назад абагрэў і накарміў, якому расказваў пра партызан і якога не змог раскусіць...

— Выпі, Свістуноў, выпі, ты ж любіш. Раман Раманавіч, налі свайму сабаку.

Раман Раманавіч з'едліва ўсміхнуўся. Але зноў адвёў руку Свістунова, калі той замахнуўся на Яўсея. На ўздзіў усім, наліў з графіна поўную шклянку самагонкі, паднёс Свістунову. Той адным духам выпіў, астатак лінуў цераз плячо пад столь і, хрумстаючы агурок, кінуў:

— Давай!

Ля дзвярэй выскаляліся Ткачэнка з сябрам, а Свістуноў гоцаў упрысядкі перад Раманам Раманавічам, запрашаючы яго ў круг. Той толькі круціў галавой і пляскаў у ладкі. П'яны Аўгусцін з запечка ўсё парываўся ў кампанію да паліцая, але бабы незаўважна асаджвалі яго таўхалямі ў бок.

Не ўляжаў, вылез з-пад кажуха Ахрэм. Сеў на печы. Ачумелымі вачыма пазіраў на Яўсея, на паліцаяў. Толькі што Яўсей ляжаў звязаны пад елкай. А зараз, як ні ў чым не бывала, рэжа барыню, а паліцай упрысядкі ходзіць па хаце.

Сон, сон! Яго, п'янага, сваха з бабамі ўсцягнулі на печ, і яму прыснілася Паўліна з дзецьмі... Іграе Яўсей, скача паліцай, сядзяць госці, а ён, Ахрэм, гаспадар бяседы, спіць на печы. Ах, якая ганьба!

— Паночкі дарагія, госцікі! Ну, бо гуляйце, ну, бо смейцеся.

Стары пашкробся з печы.

На адзін дых перапыніў іграние Яўсей, каб крыкнуць:

— Людзі! Ахрэм пастраляў Паўліну і дзяцей!

І зноў зайшоўся гармонік.

— Давай, Свістуноў, скачы! Не задыхайся! Яшчэ трошкі — і даскачаш,— гаворыць Яўсей і падступае бліжэй да паліцая.

Паліцай упрысядкі, з выклікам, ідзе на Яўсея. Круціцца ваўчком на руках, выкідвае ўперад ногі. Прысвіствае:

— Эх-ха! Ас-са!

Раман Раманавіч і паліцаі ў дзвярах пляскаюць у ладкі, прытопваюць у такт.

Раптам Свістуноў, схапіўшыся за жывот, пакаціўся клубком па падлозе. Гэта Яўсей, злаўчыўшыся, ударыў яго наском пад пах, калі ён выкінуў перад ім каленца. Усё адбылося імгненна. І паліцаі, і госці разгубіліся.

Свістуноў цягнецца да свайго аўтамата. А Яўсей стаіць у крузе. Позірк — прама перад сабой: міма паліцаяў, міма дзвярэй, якія яны вартуюць. Цяпер ужо не ўцячэш...

Яўсей бачыць, як Свістуноў ускідвае аўтамат. Агрубелыя Яўсеевы пальцы ціснуць на гузікі. Ахрыплым голасам ён выкрыквае:

— Гэта-а ёсць на-аш апо-ош-ні...

Хлёстка ўдарыў аўтамат. Закрычалі жанчыны. Цяжка, з выдыхам, сапнулі мяхі гармоніка, на які наваліўся Яўсей, падаючы на падлогу.

Раман Раманавіч падскочыў да гарманіста, перавярнуў, патрос. Пеўнем наляцеў на Свістунова.

— Т-ты! — грозна, з прыціскам працадзіў ён і агрэў паліцая кулаком.

— Не хацел, чэс-нае... не хацел,— апраўдваўся Свістуноў.

Ён караскаўся на ўслон. Ногі не трымалі. Боль гнуў у крук.

Раман Раманавіч махнуў Ткачэнку і другому, што стаялі ў дзвярах. Тыя падхапілі Свістунова пад рукі, павалаклі на двор. Раман Раманавіч схапіў шынялі і з пісталетам у руцэ апошні пакінуў хату.

На падлозе падплываў крывёю Яўсей.

Услед за паліцаямі паразбягаліся госці. Памыць і прыбраць Яўсея засталася Куліна ды працверазелы ад усяго бачанага Аўгусцін.

Маладыя пайшлі да Волькі.

Яна засталася ў сваёй сям'і.

У тую ж ноч Федзя Мукавозчык кудысьці знік з вёскі.

Вяселлем Заграддзе жыло нядоўга. Успамінаць яго ўспаміналі, але столькі навін і калатнечы неслася на вёску, што новая бяда здавалася і большай і страшнейшай.

У самае разводдзе карнікі спалілі начыста Боркі. Разам з людзьмі. Малых дзяцей, казалі, насаджвалі на шырокія кінжальныя штыкі і кідалі, нібы снапы ў сцірту, праз вокны ў агонь. Завалілі трупамі калодзежы, зраўнялі з зямлёй. Ніводнай жывой душы ў Борках! Быццам на тым месцы адвеку чарнелі абсмаленыя коміны. Некалі тоўстыя смалістыя сцены бачылі і чулі і момант зачатку і момант радзін. А цяпер леглі попелам над усімі тайнамі, галасамі, тварамі.

Ахрэму Мукавозчыку прывезлі з управы вялікі стос лістовак і фашысцкіх газет. Было гэта ўранку. Апоўдні стараста з паліцаямі самі пачалі разносіць іх па хатах.

Да Сямашкаў прывалокся Свістуноў. Бесцырымонна прайшоўся па хаце, агледзеўся. Моўчкі выцягнуў з кішэні і шпурнуў на стол газеты.

— Чытайце!

Сказаў такім голасам, што ў ім чуўся загад: чытайце зараз, пры мне.

Пакуль Нічыпар шукаў акуляры, ён нецярпліва сунуў іх у рукі Улі.

— Чытай!

Яна пачала чытаць.

Што ні радок, то абяцанне раю. Для тых, хто не хоча яго — смерць!

Адна аб'ява асабліва ўразіла. Нямецкія ўлады звярталіся да жыхароў вёскі, каб яны выдалі камандзіра партызанскага атрада Атаманавіча. Так і напісана — Атаманавіча. Узнагарода — карова, надзел зямлі, апека новых улад. Хто яго схавае — смерць!

Свістуноў з-пад ілба сачыў за Уляй і яе бацькам, якія схіліліся над аб'явай. Уля ледзь не выпусціла паперу з рук. А мо яму гэта толькі здалося?.. Ён сунуў ёй у рукі другі шматок.

Пакуль яна разгортвала той шматок, пакуль круціла ў руках, сэрца яе спявала. Жывы, значыць, дзядзька Сяргей Палікарпавіч! Жывы! Брахалі, выходзіць, немцы, што знішчылі атрад і яго самога. Пачакайце ж!

Каб не надта зацягнулася паўза, Уля пачала чытаць пра шчаслівае жыццё ў «Вялікай Германіі».

— Нічыпарка, не чапай ты яе, лепш на мяне сварыся,— прасіла маці.

— Што ўжо цяпер сварыцца?! — кіпяціўся ён.— Мяне слухацца трэба было, у партызаны ісці, а не калецтва даставаць.

— Нічыпарка,— слабым голасам угаворвала маці,— дзе тыя партызаны? Абяцалі табе заходзіць, а ці многа нахадзілі?!

— Многа-мала! — не здаваўся бацька.— Не заходзілі, то зойдуць. Пакуль усіх, каго трэба, абыдуць, і мая чарга настане.

— Ой, божа ж мой, божа! — стагнала маці.

— Лета на двары — любы куст прыме. Ды і нашто хавацца, калі наўкол кожную ноч грымiць. Ты думаеш, там рыбу глушаць або пранікамі бабы малоцяць?

— Тата! — не стрымлівалася Уля.— Хіба вы не ведаеце, што дзеля вас гэта, дзеля мамы рабіла?! Чаго вы крычыцё?

Бацька яшчэ больш злаваўся.

— Дзеля нас? — перапытваў ён.— Можа б ты дзеля нас і за гэту чорную гніду замуж выскачыла, га?

— Ой, нашто вы так гаворыце?

Бацька ляскаў дзвярыма, выходзіў з хаты. Доўга сядзеў на калодцы пад паветкай. Сумнымі вачыма ўглядаўся ў сіні лес. Такі блізкі і такі пакуль што далёкі.

Увесь май сушыла. Ні дажджынкі, ні расінкі. Налятаў сухі вецер і гнаў з агародаў шэры з пяском пыл. Увачавідкі адцвітала чаромха, а бэз усё ніяк не мог распукнуцца. І вайна і засуха — заадно!

І вось у адзін з надвячоркаў неба на захадзе замурзалася. Сонца схавалася за хмару і доўга падсвечвала яе касымі праменнямі. Будзе дождж! Яго чакалі, на яго спадзяваліся. Але хмара сунулася паволі. Недзе за даляглядам красала маланкі сухога грому, а тут ніяк не магла разрадзіцца.

Нарэшце шугануў парывісты вецер, і ўжо блізка, амаль над хатай, трэснула неба. Чорныя вокны азарыліся сінім святлом.

Стуку спачатку ніхто не пачуў, ён уварваўся ў хату, калі заціх гром: нехта настойліва ляпаў клямкай у сенцах.

Адчуўшы штосьці даўно чаканае, Нічыпар адразу ссунуўся з печы. Падаўся ў цемрыва сянец. У бакоўцы борздзенька апранулася Уля, выйшла да маці. Маці таксама не спала. А з сянец гучна, як ніхто не гаварыў з самага пачатку вайны, загаварыў знаёмы голас.

— Добры вам вечар у хату! Ці можна?

Маці, не ведаючы, як радавацца, заварочалася ў пасцелі:

— Заходзь, заходзь, Сяргейка,— і... заплакала.

— Завесь вокны,— сказаў бацька. І Уля зразумела, што гэта—ёй. Схапіла посцілкі, кінулася да вокан.

Неўзабаве ўспыхнуў мітуслівы агонь лямпы. Чырвоны язычок чадзіў. Яшчэ ў пачатку вайны разбілася шкло. А дзе ты яго купіш цяпер?

Атаманавіч стаяў ля ложка, на якім ляжала маці, і трымаў яе рукі ў сваіх. Маці плакала. Няяркі цень калыхаўся па спіне Атаманавіча. Здавалася, што чалавек пахістваецца сам, і яго аўтамат на плячы, і наган пры боку.

— Ці ж ведаеш ты, Сяргейка?..— запытала маці і падавілася слязьмі.

— Ведаю, Савета, ведаю,— гэтак жа цяжка адказаў Атаманавіч.— Ды не час пра гэта, кругом — гора. Іван,— пазваў ён таварыша, які ўсё стаяў у парозе,— праходзь. Ты што, незнаёмы?

Уля пазнала ў другім партызану Івана Чакая. Пазнала тады, калі той выйшаў на сярэдзіну хаты. Абрадавалася, як старому знаёмаму, хоць і бачыла яго ўсяго адзін раз. Тады, каля млына.

— Добры вечар,— ціха і шчыра павітаўся ён.

— Добры вечар.

— Як жа гэта вы асмеліліся насупраць навальніцы? — азваўся бацька.

Атаманавіч пракульгаў да стала, на сваё даўнейшае месца.

— Праўду кажаш, Нічыпар,— будзе навальніца.

Можа здалося Улляне, а можа і напраўду яна ўлавіла на твары Атаманавіча загадкавую ўсмешку.

Бацька папрасіў Атаманавіча перасесці ад акна. Час трывожны. Ды і гаворку можна пачуць з вуліцы.

Атаманавіч усміхнуўся:

— Дзякуй, Нічыпар.

На скорым часе Уля сабрала на стол. Калі падавала хлеб і сала, Атаманавіч уважліва паглядзеў на яе рукі.

Бацька расказаў, што яна з сабою нарабіла.

Іван Чакай толькі ахнуў, а Сяргей Палікарпавіч заўважыў:

— Ёсць у нас адзін танкіст. Дык у яго твар во такі, як твае рукі, Улляна.

Ёй стала і сорамна і горна — чаму не разумеюць і дзядзька, і гэты малады партызан? Хіба яна не хадзіла разам з імі высочваць Іпалітава? Хіба спалохалася тады? Чаму ж не разумеюць цяпер?

Пагаварылі, здаецца, шмат пра што, а навальніца за вокнамі ўсё не сціхала. Самавіта і глуха шумеў буйны дождж. Нібы стары лес.

Перад развітаннем Атаманавіч хацеў нешта сказаць Улі з бацькам, але маці перапыніла яго.

— Гавары бо, Сяргейка, пры мне. Я ім — не чужая.

— Ладна, Савета,— памяркоўна сказаў Атаманавіч,— таіцца, праўду кажаш, няма ад каго. Ёсць у нас з Іванам да Улляны адна просьба. Ну, і да цябе з Нічыпарам, калі так выйшла, таксама...

Бацька і ў маладыя гады, расказвала маці, не надта быў выпівоха. А тут ні з таго, ні з сяго Нічыпар Сямашка трэці дзень гнаў у кустах самагонку. Навошта яна яму? Хіба дачку збіраецца замуж аддаваць?

Па разоры цераз агарод Уля насіла ў вёдрах брагу, назад — бутэлькі. Дома злівала ў біклагу. З каморы ішла ў хату праведаць маці і — зноў спяшалася да бацькі.

Весела шугаў агонь, патрэскваў яловы сухастой. Пачынала параваць выведзеная цераз карыта з халоднай вадой трубка. Неўзабаве па нітцы ў падстаўленую бутэльку пацёк тонкі ручаёк.

— Але ж і злая! Як немец,— узяўшы пробу, сказаў бацька.

Уля адграбла ад агню лішнія дровы, каб не папёрла з чыгуноў у трубку брагу, працерла ад дыму вочы і не паверыла ўбачанаму.

Па другі бок апарата стаяў перад ёй Ахрэм Мукавозчык. Калі ён падышоў — не пачулі ні яна, ні бацька.

— Чаго спалохалася? Гарэлку гнаць не боязна, а чалавека ўбачыла — страшна...

— Вы так ціха падышлі,— апраўдвалася Уля.

— «Ціха...» — передражніў Ахрэм.— Можа ў трубу трубіць, га? Цяпер многія — ціха. Во і вы гарэлку гоніце — таксама ціха.

— Перастань, Ахрэм,— азваўся бацька.— Павітаўся б лепш.

— Павітацца можна — карона не спадзе. Але ты лепш скажы, навошта гэта? — кіўнуў Ахрэм на апарат.

Абышоў кругом. Унурыўшы галаву, ваўкавата агледзеўся.

— Можа ім? — кіўнуў галавою на лес.

— Сыну твайму, ты хацеў сказаць? — не разгубіўся бацька.— У паліцыі ж, кажуць, яго няма?

— Оле-лё! — віскнуў Ахрэм.— І Нічыпар яшчэ мяне палохаць стаў. Ды я не пагляджу, што ён мне сынам быў.

Ахрэм насупіўся. Не ведаў, з чаго пачаць ушчуваць Нічыпара. Раней жылі, здаецца, без зла, калгас разам дзялілі. Быццам свой чалавек Нічыпар, а пячонкамі адчувае Ахрэм: чужы! Канешне, чужы! Во і з самагонкай. Хоць бы дзеля прыліку па дазвол прыйшоў.

— Ладна, Ахрэм. З табой ужо і пажартаваць нельга,— сказаў бацька і дадаў быццам сам для сябе: — Скажы ты, як людзей улада псуе!

Мукавозчыку тыя словы, пэўна, спадабаліся. А мо проста не захацеў з-за дробязі нажываць сабе яшчэ аднаго ворага. Ён прымоўк, прысеў на кукішкі.

Бацька наліў і раз і другі па поўнай шклянцы першаку. Ахрэм выпіў, закусіў. Нічога не адказаў на бацькаў намёк, што самагонка таму-сяму ў мястэчку спатрэбіцца. Ускудлачаны і расчырванелы ад выпітага, утаропленым позіркам пазіраў перад сабой.

Нядзеля — базарны дзень у мястэчку.

Да вайны Заграддзе ў нядзелю прачыналася рана. Іншаму здавалася, што вёска і не клалася спаць. Толькі заціхалі песні ля клуба, а на вуліцы — зноў гамана. Гэта ішлі на базар. Спяшаліся, каб ураннi патрапіць у мястэчка.

Цяпер з заходу і да ўсходу сонца — каменданцкі час. Хто ведае, можа па дарозе, а то і за вуглом кожнай хаты сядзела засада.

Невялікі мышасты конік стаяў у хляве з вечара. Там жа чакалі і наладаваныя калёсы. І каня і калёсы з'ездзіць на базар бацька ўзяў у Аўгусціна.

На вуліцы — ні душы. Быццам вымерла вёска. Конскае пахрапванне ляцела аж на край свету. І ўвесь свет быццам прыслухоўваўся да мернага тарахцення калёс.

Уля ехала няспешна. Павольнай ступою ішоў конь. Колы падскоквалі на каменнях, чыкілялі ў калдобінах. Фурманку пакалыхвала. Тады і кідаліся з прыдарогі цені. Уля раз-пораз азіралася па баках, да болю ў вачах намагалася што-небудзь разгледзець уперадзе. Але нават галавы каня не бачыла. Ёй хацелася пагнаць мышастага ў галоп, птушкай праляцець усю дарогу, каб толькі не кідаліся да калёс цені, каб не палохалі лапатаннем крылаў начныя птушкі.

Лес заўсёды хваляваў яе сваёй таямнічасцю. А ноччу здаваўся чорным і непрыступным. Уля пабойвалася начной цемры, ні разу не была ў лесе пасля змяркання. Да вайны, каб хто і азалаціў, далібог, яна і кроку не ступіла б туды.

Лес насунуўся нечакана цёмнай аграмадзінай, засланіў усё наперадзе. Спачатку яна і не разабралася, што пачынаецца лес. Цёмна і цёмна. Думала — ноч. А тут нечакана ўбачыла, што пашарэла навокал. Вунь і конь увесь з галавой відзён. А во і першыя дрэвы.

Абуджалася лясное птаства. Спачатку нясмела, спрасоння піскну-

ла птушка. Ёй азвалася другая. З узлеску, куды світанне прыходзіць раней, пабег у гусцечу тонкі, пакуль што перарывісты, ланцужок птушынага спеву. Спакойна пагойдваліся хвоі. Шархотка скочвалася раса з патрывожаных галін, холадна лапатала лісце асіны. Лес умываўся.

На ўздзіў сабе, Уля паспакайнела. Не, не паспакайнела, а стала смялейшай. Недзе тут чакалі яе. Дзе — яна не ведала. Сказалі: «У лесе». А лес — вялікі...

Пагнала каня. Пільна ўглядалася ў туманны падлесак абапал бальшака. Вунь з-за таго куста і выйдзе. Не, вунь з-за той камлюкаватай хвоі. Ага, выйдзе з крушынніку. Як яна не магла здагадацца раней? Крушыннік жа падступае сама бліжэй да шляху, пераваліўся ажно цераз адхон і чапляецца за восі калёс.

Скора яна праедзе лес, а яе ніхто не сустрэў. Што сталася? Як быць далей, калі дрэвы застануцца ззаду, а ўперадзе на даляглядзе пакажацца мястэчка? Ехаць туды ці паварочваць дамоў?

Вяртацца дамоў у такі ранні час нельга. Людзей не ашукаеш, здагадаюцца, што не з мястэчка прыехала. А ехаць у мястэчка — яшчэ горш. Апошні раз яна была там гады два назад. Якія там цяпер перамены? Казалі, на ўсіх дарогах стаяць пасты, правяраюць дакументы. Праўда, акупацыйны пашпарт у яе быў. І даведку ў Ахрэма вымучыў бацька. А што рабіць з самагонкай? Пры «новым парадку» яна ж таксама не ў пашане. Не кожнаму скажаш: «Дзядзька, я табе — чарку, а ты мне — жменю солі».

Ваню Чакая Уля прагледзела. Спадзявалася ўбачыць уперадзе, а ён вынырнуў ззаду. Хуткім крокам сігануў да воза, узяўся за біла драбіны.

— Добрай раніцы, Уля,— павітаўся ён прыветна, як і надоечы ў хаце, калі прыходзіў з Атаманавічам.

Уля нацягнула лейцы. Конь стаў.

— Ой! — і спалохана і з нейкай дзявочай радасцю ўскрыкнула Уля.— Напалохаў да смерці...

Іван усміхнуўся.

Ён быў апрануты, як вясковы хлопец: стары пінжак, кашуля расшпілена, на галаве — кепка-васьміклінка. Зброі не бачна. А без яе хлопец зусім неяк змізарнеў у вачах Улі.

Прамільгнула такая думка і ўсароміла яе. Бо ў апошні час,— яна баялася нават сабе прызнацца,— у кожным хлопцу хацела ўгадаць мужчыну. А тут — звычайны падлетак. Куды яму да Пашкі!

Улляна ў думках не адзін раз вярталася на лясную дарогу. За доўгія адзінокія ночы чаго не перадумаеш!.. На адно толькі імгненне мільгануўся тады побач з Іванам цень Пашкі. А цяпер яна кожны раз бачыць іх поруч. Мо таму, што помніць апошнія словы Пашкі, а мо таму, што і сёння гарыць у яе на вуснах пацалунак Чакая?

— Ехала адна? Па дарозе ніхто не спыняў, не бачыў?

— Ехала адна. А калі хто і бачыў, то я яго не бачыла.

Ваня ўсміхнуўся. Ціхенька свіснуў у кусты.

Адтуль выйшаў другі партызан. З двума аўтаматамі. Адзін вісеў на грудзях рамянём цераз шыю, другі — на плячы.

Партызан кінуў нейкую кайстру ў перадок воза, спытаў у Вані: «Норма?» і толькі тады павітаўся з Уляй.

— Нармальна,— адказаў Чакай.— Топайце!

А сам ускочыў на воз і свіснуў каню.

Узыходзіла сонца. Уля заплюшчылася ад яркіх калючых праменняў. А калі яна расплюшчыла вочы і зірнула назад, на дарозе ўжо нікога не было, а ўперадзе, за полем, іскрылася бляшанымі дахамі мястэчка.

Уехалі туды з нейкай глухой вуліцы. Хаты стаялі на адным баку, а па другі быў могільнік. Што трэба рабіць і гаварыць паліцаям ці немцам, калі затрымаюць, па дарозе Ваня навучыў Улю. «Галоўнае— не бойся,— гаварыў ён.— Ты ні пры чым. Ну, а мы,— ён жартаўліва паказваў на сябе,— мы самі з вусамі».

— Но-но, маленькі! — па-гаспадарску клапатліва панукваў ён каня.

Ваня сядзеў уперадзе, звесіўшы з воза ногі. Уля — у задку. Звычайныя вясковыя хлопец з дзяўчынай. А можа нават і брат з сястрою, у якіх адно пра другога ад калыскі ўсё вядома і ўсё перагаворана. Конік на цвярдзейшым падахвоціўся быў прабегчы трушком, але Ваня прытрымаў.

Да базару выбіліся з глухога боку.

Пазлазілі. Ваня кінуў ахапак сена пад пысу каню, абышоў воз. зазірнуў нечага падыспад, паторгаў за біла ля задніх колаў.

Гаспадар агледзеў сваю маёмасць і застаўся задаволены — так прынамсі выглядала збоку. А цяпер трэба збегаць на базар, пакуль маладзіца павартуе воз, прыгледзецца да цэн, купіць месца, і можна заязджаць.

У гэты момант Уля ўбачыла паліцая. Ён ішоў проста да іх воза. Убачыў яго і Ваня.

— Пан начальнік,— кінуўся ён да таго і даверліва ўчапіўся ў яго рукаў.— Пан начальнік, вы падыдзіце да нас. Дзешава аддам, яй-богу. Добраму чалавеку не шкада. Але выручыце нас,— кінуў позірк на Улю.— Мы мяняем на соль. Во, для пробы...

Ваня выцягнуў з кішэні штаноў паўлітэрку самагонкі і сунуў у рукі атарапеламу паліцаю.

Перш чым разабрацца, што ды як, той спрытна сауганув бутэльку ў шырокую кішэнь свайго фрэнча. А Ваня тым часам адгарнуў сена ў задку. Там ляжала біклага.

— Во, глядзіце, поўная, як вока. Задарам аддаю. Некалькі кілаграмаў солі і — па руках.

Паліцай тут толькі скеміў і засмяяўся:

— А ты — таго! Солі, кажаш? Ну што ж, пачакай. Соль будзе!

І пайшоў да ўваходнай брамы.

Да воза неўзабаве падышоў грузны прысадзісты мужчына ў плашчы.

— Што маеш, хлопец?

Пакуль Чакай ацэньваў на вока пакупніка, той нібы незнарок тыцнуў кулаком у сена.

— О-о! — працягнуў ён.— Ды ты смелы.

— Які ўрадзіўся, такі і ёсць,— адрэзаў Ваня.

— На савецкія ці акупацыйныя?

— Ды што толку з тых грошай? Карабок запалак дзесятку каштуе...

— Дзесятка была ў мінулую нядзелю, міл-чалавек, а сёння ўсе пятнаццаць. Вот так-с...

— Нам солі б, дзядзечка. Мы на соль мяняем,—загаварыла і Уля.

— Соль, соль... Адно і чуеш — соль! Ядуць яе людзі, ці што?

— А то як жа, вядома, ядуць,— засмяяўся Чакай.— Кілаграм на кілаграм і — па руках!

Прыцярушаная зверху сенам, вока дражніла вялізная біклага самагонкі. Літраў на дваццаць, калі не больш.

Чалавек муляўся.

— Пяць кілаграмаў,— нарэшце сказаў ён.

— Трыццаць.

Пакупнік аж паморшчыўся.

— Сем.

— Дваццаць пяць! Пабойся бога, дзядзька, задарма бярэш...

— Хоць дзесяць кілаграмаў дайце,— папрасіла Уля.

— Ты што?! — ускіпеў на яе Ваня.

— Дзесяць, і ўстаўляй каня ў аглоблі.

Ваня ўздыхнуў, пачухаў патыліцу. Пратаргаваўся, нічога не скажаш... А сам падумаў пра тое, што пашанцавала яму сустрэць гэтага міраеда. Зараз прыйдзе паліцай з дружкамі, во будзе соль!

Абмен зрабілі ў невялікай карчомцы, гаспадаром якой аказаўся чалавек у плашчы.

— Гэй, дзядзька,— крыкнуў напаследак карчмару Ваня,— купі ў мяне боты!

Чалавек пакруціў у руках ялавыя боты з падношанымі заднікамі і кінуў назад у развязаную Ваневу торбу.

— Едзь на базар, там прадасі! — аскаліўся ў сытай усмешцы і зарыпеў новымі крагамі ў сваю піўнуху.

— Ведае, халера, што на базар нам зараз ходу няма, смяецца,— трохі ад'ехаўшы, сказаў Ваня.— А боты так бы я яму і прадаў! Не босаму ж мне самому хадзіць, га? — весела зірнуў ён на Улю.

Яна здорава нанервавалася спачатку. Адчувала, што ўдзельнічае ў нейкай зацятай і страшнай гульні. Страшней за ўсё цяпер было наткнуцца на Рамана Раманавіча або Свістунова.

Калёсы грукаталі па бруку цэнтральнай вуліцы мястэчка, потым выязджалі на ўскраіну, ажно да самай паліцэйскай заставы. Тады Ваня зварочваў у які-небудзь завулак, выязджаў на суседнюю вуліцу і кіраваў зноў да цэнтра.

Так яны праехалі непадалёку ад чырвонага мураванага будынка школы, у якім размяшчаўся паліцэйскі ўчастак, і паўз былы сельсавет у цэнтры, у якім была нямецкая казарма.

Немцаў, казалі, у мястэчку чалавек дваццаць. Абапал сельсавета вуліца перакапана. На ганку стаяў вартавы.

І ля школы і ля сельсавета тырчалі з дзотаў варанёныя рулі кулямётаў.

Вярталіся з мястэчка па той жа вуліцы з могільнікам. Ехалі недзе пад паўдня. І якраз упару — з базара пакуль ніхто не вяртаўся.

— А «твайго» Рамана Раманавіча сёння няма дома. Ён з хэўраю на нарадзе ў горадзе. У вышэйшага начальства. Нешта зноў задумалі, гады...— сказаў ужо за мястэчкам Ваня.

«А я баялася!»

Ёй стала і радасна за перажытае і сорамна. Чаму Іван сказаў «твайго» Рамана Раманавіча?

Яна пакрыўджана адвярнулася.

А ён, быццам не заўважыўшы, шлёгнуў пугай каня, адкінуўся спіной упоперак фурманкі. Заспяваў:

Страна мая, Масква мая,
Ты самая любімая...

Уля не ўмела доўга злавацца. Яна ўсміхнулася, слухаючы Ваневу песню, успомніла нядаўні Просін расказ.

У Галіцу прыязджаў поп. Пахрысціў дзяцей, сабраў, хто што даў, і папрасіў адвезці яго ў Хацінава. Возчык вёз, а поп усю дарогу спяваў: «Страна мая, Масква мая, ты самая любімая...»

— Ці не ты быў папом?

— Не, не я,— весела зарагатаў Ваня.

Усю дарогу да самага лесу ён спяваў. А даехаўшы да таго месца, дзе сустрэў Улю на світанні, суняў каня, злез з воза, пасур'ёзнеў.

— Ну, мая дарагая партызанская разведчыца, вось і ўсё. Бывай! — і пацалаваў.

Яна не паспела адхіліцца.

— Ах ты, жаніх няшчасны! — Уля замахнулася пугай, але было позна — Ваня ўжо сігаў між дрэў.

Гарнізон разбілі на другую ноч. Бой той быў чуваць і ў Заграддзі. Уля з бацькам стаялі ля плоту, прыслухоўваліся. У вёсцы, пэўна, многія не спалі. Асцярожна рыпнулі дзверы і ў суседняй хаце.

— Ты, Прося? — спытаў бацька.

— Я, Нічыпарка, я,—спуджана адказала суседка і падышла да іх.— Дзе ж гэта, Нічыпарка?

— У мястэчку.

— Ага, і я так падумала...

Неўзабаве ў тым баку, дзе было мястэчка, неба заяснілася. Быццам перадранішняя зара ўзыходзіла на захадзе. Спачатку чырвань палахліва кідалася ў бакі, потым астадолілася, стала вышэй. Значыць, гарэць узялося добра.

Страляніна паступова цішэла. Сакатнулі колькі разоў чэргі, ужо не такія безупынна доўгія, як у пачатку, і абарваліся. Бы з пограба, даляцелі глухія ўдары-выбухі. Зноў завялася чарга і раптоўна папярхнулася.

Да раніцы над мястэчкам румянілася патрывожанае неба.

Уля многае зразумела за гэтую ноч. Да драбніц перабірала ў памяці базарны дзень. Якая ж яна дурная, што не здагадалася адразу. Канешне, Ваня Чакай і яна былі ў разведцы. Нацярпеліся страху. А дзе цяпер гэты страх?! Грэе неба! Хоць ты выскачы на вуліцу і закрычы, каб усе пачулі, каб усе дазналіся, што Уля ездзіла ў мястэчка не абы-чаго, не па нейкую соль, што яна ведае, хто там сёння падсмажыў фашыстаў і іх паслугачоў.

Яна ўсміхаецца ў цемры. А Ваня які малайчына! Круціў, вярцеў па завулках, пакуль усяго не выглядзеў. І пацалаваў на развітанне. Смешны!

І тут успомніўся раптам Пашка. «Помні!..»— здаецца нават пачула Уля. Пасля затрашчала сучча, і з хвоі паляцеў забіты немец. Зачапіўся шырокай халявай бота за сук. Доўга-доўга выязджала з бота нага ў шэрай шкарпэтцы... І зноў — Ваня. Гэта ён расказвае. Расказвае зараз, а не ў той раз, калі прыходзіў ноччу з Атаманавічам.

Уля садзіцца на пасцелі. Невідушчымі вачыма ўглядаецца ў цемру. Ловіць галасы за перагародкай: бацькаў — з печы, матчын — з ложка. Пра што яны гавораць, пра што? «Помні, помні, помні!..», «Страна мая, Масква мая...»

Рукі абхопліваюць галаву, і яна валіцца на падушку.

Пакуль не сплачашся, не палягчэе.

...А з мястэчка партызаны неслі цяжкую навіну.

Яны наступалі на гарнізон брыгадай. Яна ўтварылася нядаўна, калі прыбылі з-за фронту прадстаўнік ЦК і Беларускага штаба партызанскага руху. У брыгаду ўлілося тры атрады. Адным з іх камандаваў Сяргей Палікарпавіч. Тыя, хто быў побач з ім у час бою, расказвалі пра яго страшную злосць да ворага, пра нечаканую і такую недарэчную смерць.

Ні сярод жывых, ні сярод забітых партызаны не маглі знайсці Рамана Раманавіча. Як скрозь зямлю праваліўся і Свістуноў. Пасля ўжо сувязныя і партызанскія разведчыкі ўдакладнілі пра іх усё. Раман Раманавіч у ноч нападу на гарнізон начаваў у сваёй каханкі. А Свістуноў, які быў начальнікам каравула, даў драла ў поле пасля першых выстралаў. Калі прыехалі ў мястэчка з горада камендант і карнікі разбірацца, з імі быў і Свістуноў. Немцу-каменданту трэба было даваць справаздачу вышэйшаму начальству, і ён знайшоў вінаватага. Звалілі ўсё на Рамана Раманавіча. І расстралялі. Расстрэльваў Свістуноў. Раман Раманавіч, казалі, поўзаў у нагах і каменданта і Свістунова, прасіўся. Але гэта было некалькімі гадзінамі пасля. А тады, пасля бою, іх шукалі абодвух.

Апошняя фурманка схавалася за могілкамі, а Сяргей Палікарпавіч усё чакаў. З атрадам пайшоў яго начштаба Слава Харытонаў. А сам ён запыніўся, забавіўся ў мястэчку. Не можа быць, каб хлопцы не знайшлі тых вырадкаў. Не можа быць! Нервова гарцаваў пад ім конь, кусаў цуглі. Наравіў сарвацца з месца, каб дагнаць калону.

Нарэшце на ўзмыленым жарабку падскакаў да Атаманавіча Ваня Чакай.

— Таварыш камандзір...— пачаў ён.

Атаманавіч роспачна махнуў рукой. Зразумеў усё і так.

— ...Не знайшлі,— вінавата прызнаўся Ваня.— Я і хлопцаў адпусціў уперад. Вунь яны...

Уперадзе выскачыла з бакавога завулка і памчалася купка коннікаў. Праляцела паўз могілкі і знікла за імі.

Моўчкі выехалі за мястэчка. Атаманавіч прычмокваў на каня, бы падганяючы, а сам тужэй нацягваў павады. Хацелася праехаць ступою, разабрацца ва ўсім. Раскалашмацілі гарнізон — добра! Шкада, што не злавілі начальніка паліцыі. Шкада!..

А Ваню здавалася, Атаманавіч дакарае яго. «Які з цябе разведчык? А яшчэ — сакратар міжрайкома камсамола! Чакай, Чакай, не чакаў ад цябе...»

Каб хутчэй дагнаць сваіх, за могілкамі звярнулі з дарогі на сцяжынку. Па ёй сяды-тады хадзілі крадком ад немцаў і паліцаяў мястачковыя бабы і дзятва ў лес па ягады.

Дзіўна было глядзець, хоць, здаецца, вочы ўжо нагледзеліся на вузкія загоны жыта і бульбы. Некалі ж калыхалася тут суцэльнае поле. А зараз сеюць хто што. Хто проса, хто бульбу, хто жыта. Жытніх палосак, аднак, было больш. Мабыць, яно тут добра радзіла, бо палоскі часам зліваліся ў прыкметныя жытнёвыя кліны. Іх падзялялі толькі ўгібістыя шнуры разораў.

Збоку, з разоры, нечакана ўдарыў аўтамат.

Сяргей Палікарпавіч зваліўся адразу. Клубком скаціўся з каня і Ваня Чакай. Кінуўся да Атаманавіча.

— Таварыш камандзір! Таварыш... Сяргей Палікарпавіч!..

Паспрабаваў падняць, адцягнуць у жыта. Перавярнуў і ўбачыў — напавал!

Ад бяссілля і роспачы Чакай скрыгатнуў зубамі, хапіўся за аўтамат на грудзях. Крутануўся: а ну, пакажыся, гадзіна!

За спіной у яго прыўзняўся на калена Свістуноў і выпусціў цэлую чаргу. Пасля падскочыў да натапыранага Ваневага каня. Жарабок заржаў. Свістуноў ірвануў яго цераз поле на шлях, што вёў у горад. Біў пад рэбры. Азіраўся назад і біў, біў і азіраўся.

Партызаны, каторыя не ўехалі ў лес, спыніліся, як па камандзе. Верхавыя прышпорылі назад, на стрэлы, на выручку.

Насустрач ім імчаў без седака напалоханы конь іх камандзіра.

Разам з атрадам у Заграддзе вярнуўся і Федзя Мукавозчык. Не зайшоў да цешчы, дзе жыла і чакала дзіця яго жонка Волька. Мінуў вёску, накіраваўся да лесу, да сваёй хаты. За ім ішлі хлопцы-партызаны.

Усе, хто бачыў яго ў тую раніцу, жахнуліся: чорны пасля бою, ён, здавалася, яшчэ больш пачарнеў ад таго, што надумаў.

Ён падышоў да акна, пастукаў у раму. Праз шыбу зазірнуў у хату.

У споднім бялізне, бацька стаяў на каленях перад абразамі. Маліўся. Пачуў стук, павярнуў галаву. Убачыў Федзю, а за ім — узброеных партызан. Замітусіўся па хаце, заскуголіў.

Федзя зноў пастукаў.

Тады Ахрэм, трасучыся ад страху і лютасці, выцягнуў з запечка абрэз. Падляцеў да акна.

Бабахнуў стрэл.

Федзя паспеў адскочыць за вугал. Упалі і пачалі адпаўзаць хлопцы.

Ахрэм страляў і страляў. Гулкае рэха разлягалася па лесе.

Федзя прабраўся паўз прызбу да таварышаў. Аб нечым пагаварылі. Зноў папоўз. Каля дрывотні ўстаў, адвязаў з пояса гранату. Падышоў да дзвярэй, зачыненых знутры на завалу. У скабу пад клямкай ушчаміў гранату, вырваў чаку. Адскочыў. Грымнуў выбух, і ў сенцы зачарнеў праём. Сказаў тым, што чакалі:

— Ідзіце...

А сам, хістаючыся, нібы п'яны, пайшоў у вёску.

Атрад Атаманавіча асталяваўся ў Заграддзі. Стаяў паўгода, а можа і больш. Да самай блакады. Так выйшла,— усё яшчэ хварэла маці,— што Уля амаль не хадзіла на заданні. У іх хаце і ў Просінай размясціўся шпіталь. І яна глядзела раненых. Рабіла перавязкі, памагала трымаць дужых хлопцаў пры аперацыях, калі ад любога наркозу абуджала іх піла-нажоўка ў руках фельчара.

Стаяў канец зімы. За шчокі яшчэ шчыпаў мароз, круцілі мяцеліцы. Але па ўсім было відаць: зіма адступае. Са стрэх віслі грабянцы ледзяшоў, з сонечнага боку падтаваў снег.

За зіму ўсіх цяжка параненых партызан адправілі самалётамі на Вялікую Зямлю. Адтуль самалёты прывозілі зброю, газеты, абмундзіраванне. Хоць кожны дзень нешта недзе гарэла, ірвалася, бралася штурмам, усе разумелі: гэта толькі асобныя эпізоды.

Пасля цяжка параненых сталі адпраўляць у савецкі тыл дзяцей і лёгка параненых. Камандаванне развязвала сабе рукі. А гэта таксама быў немалаважны доказ таго, што чакаюцца сур'ёзныя баі.

Напрадвесні па ўсім абводзе партызанскага краю на станцыях і паўстанках выгружаліся нямецкія рэгулярныя часці. Папаўняліся фашысцкія гарнізоны. Часцей праляталі над вёскамі самалёты-разведчыкі. Немцы рыхтаваліся да летніх баёў. Яны імкнуліся ачысціць ад партызан свае тылы.

Блакада была страшнай.

Раніцай наляцелі на Заграддзе варожыя самалёты. Зрабілі адзін круг, другі, пачалі скідваць бомбы.

З вёскі ў лес беглі людзі. З клункамі, з дзецьмі. «Вуф-вуф!» — бухала ў іх за спіной. Людзі падалі ў снег. Белае поле скрозь было ўсыпана распластанымі постацямі.

«Вуф-вуф!»

У вёсцы гарэла ўжо некалькі хат. Плакалі дзеці, крычалі жанчыны. Куды бегчы: тушыць хаты ці ў лес? Зноў выбухі. Дрыжыць зямля. Свішчуць асколкі. Некалькі бомбаў падае сярод чорных чалавечых постацей на полі. І гэта ўзнімае людзей. Ломяцца ад бегу ногі. Вось і луг, і кусты. За імі — лес.

Уля з бацькам вядуць пад рукі маці. Не бягуць, а вядуць. Маці вельмі слабая. Людзі абганяюць іх.

Але вось іх дагналі санкі. Ля самых кустоў. Спыніліся. На санках ляжала, скурчыўшыся, жанчына. Стагнала. Побач стаяў на ўвесь рост партызан і страляў з вінтоўкі па самалётах. Гэта быў Федзя Мукавозчык. Злы, разгублены. На санках стагнала Волька. Яна перамянілася з твару. Пад вачыма сінія кругі. І боль, страшэнны боль мучыў яе. Волька хапалася за жывот. Нібы спрабавала затрымаць таго, хто так уладарна прасіўся на свет.

Маці цяжка апусцілася на снег каля куста.

— Няма больш сілы, Нічыпарка. Далей не пайду, Вулька. Хай тут забіваюць. А можа во і жанчыне яшчэ пасоблю. Ёй — цяжэй.

Бацька апусціўся побач. Не ведала, да каго кінуцца і Уля: ці то да маці, ці да сяброўкі. А Федзя Мукавозчык усё смаліў і смаліў з вінтоўкі. Нібы стрэламі хацеў заглушыць і гул самалётаў, і свіст бомбаў, і жончын стогн.

— Гарыць, гарыць! Падае! — пачуўся крык.

Адзін самалёт цягнуў на правым крыле доўгую чорную пасму дыму. Неўзабаве з яго выкінуліся і павіслі на парашутах чорныя кропкі. Астатнія самалёты набралі вышыню і зніклі за лесам.

Гарэла вёска, а па полі да парашутыстаў беглі людзі.

— Лётчыкаў лавіць,— сказаў Федзя.

Ён прысеў на кукішкі перад Волькай. Што рабіць? Чым ёй дапамагчы?

«Куды ж мы дзенемся з маці?» — падумала Уля.

У зімнім свінцовым небе над Заграддзем успыхнула чырвоная ракета.

— Нас клічуць,— сказаў Федзя.

Гэта быў сігнал збору.

Уля кепска памятае развітанне з маці, з Волькай. Цераз боль сяброўка паспрабавала ўсміхнуцца ёй. Ціха, адными губамі папрасіла: «Глядзі майго Федзю».

— Ідзіце, дзеці. Вас чакаюць. Як-небудзь абыдзецца з намі,— сказала маці.

— Я вас вельмі прашу, цётка Савета. Паглядзіце Волькі, пакуль маці знойдзецца. Яна з малымі адбілася ад нас...

— Не кінем, Федзя, будзь спакойны,— запэўніў бацька.

Пацалаваўшыся з маці, Уля пачула яе словы:

— Забяжы ў хату, калі не згарэла, надзень паўкажушок. Той новы, што па святах я надзявала.

Каб ведала Уля, што гэтыя матчыны словы былі апошнія, якія яна пачула?! Доўга яны грэлі яе. І грэюць. Знасіўся кажушок, а яны грэюць...

Колькі было баёў — злічыць цяжка. Два тыдні цягнулася блакада. Два тыдні грымелі баі. Карнікі захапілі Галіцу, Заграддзе, усе навакольныя вёскі. Партызанскія брыгады, сабраныя ў адзін кулак, абаранялі толькі невялікую частку партызанскага краю.

Аднойчы ноччу пайшлі на прарыў. Прама на эсэсаўскія часці. Стралялі ва ўпор, адзін у аднаго. Хто ўпаў там забіты ці паранены— застаўся ляжаць назаўсёды. Выскачыўшы да чыгункі, з ходу разбілі ахоўны паліцэйскі полк на станцыі. Падарвалі, колькі можна было, чыгунку. І — далей! Далей у лясы. Назад у шырокі партызанскі край. Біць ашаломленага ворага.

Але сілы былі ўжо не тыя. Самім трэба было аддыхацца. Астаткі брыгад ручайкамі расцякаліся да былых баз. Атрад Атаманавіча прыкрываў адыход сваёй брыгады.

...Іх спрабавалі перахапіць ля Баяніч. Вёска ушчэнт згарэла. У ёй не засталося ніводнага чалавека. Разведка далажыла, што да Баяніч ідзе калона немцаў. Вырашылі прыняць бой.

Немцы ішлі па дарозе. Калонай. У паходным страі. Іх было чалавек сто пяцьдзесят. У кожнага на грудзях — бляшаны паўмесяц. Палявая жандармерыя.

Перад Баянічамі пачыналася драбналессе. А ў ім — паляна.

Выпусцілі жандараў на паляну. Усю калону. Уперадзе ішлі тры афіцэры. Яны вялі сваё войска да лесу, за вёску. Там хацелі зрабіць засаду. Таму і былі спакойныя тут.

Афіцэры ішлі, як на парадзе. Каб не снег, то і пошчак быў бы чуцён. Уся калона выйшла на гала. Іх, тых першых, вядуць чорныя зрэнкі ствалоў. Яны ўжо даўно адбіваюць крок на прыцэльных планках, скачуць на мушках. Як толькі стрымаліся хлопцы, каб не страліць без каманды?!

Ляснуў пісталетны стрэл. Сігнал. Каманда Славы Харытонава, камандзіра. Ляснуў стрэл і патануў у залівістым перахлёбе аўтаматаў, у безупынным сакатанні кулямётаў.

Колькі ж куль дасталося тым, першым?!

На гэтым і скончылася блакада. А з блакадай і Уліна партызанскае жыццё.

Яна адчула сябе кепска яшчэ перад апошнім боем. Страшэнна кружылася галава, адольвала млявасць. Хацелася ўпасці на снег і ляжаць. Так было б добра! Цёпла і добра.

Да Заграддзя аставалася недалёка. Камандзір паслаў з ёю двух партызан, каб памаглі дабрацца дадому. А яна адмовілася. Дарога знаёмая, блакада — ззаду. У яе яшчэ аставаліся сілы. А дадому ж ногі самі нясуць.

Ішла, натыкалася на дрэвы. Рукой змахвала з вачэй чырвоныя кругі. А яны ўсё роўна круціліся, туманілі розум. Прыкладвала да ілба снег — гарачка не праходзіла.

Цьмяна памятае, як узбілася на папялішча роднай хаты. Як прышкрэблася ў Просіны сенцы.

У дзвярах у хату яе падхапіла Прося. Кінуўся насустрач бацька.

— Вось і адны мы, дачушка,— сказаў ён.

Сказаў ці крыкнуў? Не памятае. Словы бацькі падкасілі ёй ногі, і яна правалілася ў бездань.

Прыязджалі партызанскія дактары. Заходзілі суседзі, таварышы. Яна нічога не памятала.

Тыф доўга трымаў яе ў сваіх кіпцюрах. На зыходзе зімы захварэла, а ў сярэдзіне лета ўпершыню ўстала з пасцелі. Вучылася хадзіць, як дзіця. Другі раз за жыццё...

...Летам прыйшлі нашы. Напалову спаленае Заграддзе сустракала іх слязьмі і кветкамі.

Яна ляжала ў Просінай хаце ля акна. Прыўзнялася і бачыла, як бацька абнімаў вусатага салдата, нешта гаварыў яму. Людзі смяяліся. А яна душылася слязьмі. Ад радасці.

— Ці чула бо ты, Вулька, пра наша гора?

— Чула, цётка Куліна.

Вольчына маці выцірае пачырванелыя вочы. Яна зайшла праведаць Улю, усё яшчэ нямоглую пасля тыфу.

Волька з Улінай маці памерлі ў адзін дзень. Маці — ад хваробы, Волька — ад родаў. Нямала часу прайшло з тае пары, а слёзы не высыхаюць. Плача Уля. Плача цётка Куліна. Слёзы набягаюць буйнымі гарошынамі. Коцяцца ад памяці, што ў сэрцы.

Цётка Куліна плача ціха, бы саромеючыся, хаваючы ў фартух твар. Яна ведае: плачам з зямлі не ўзнімеш. А трэба перасіліць сябе. Дзеля дзяцей. Іх — што гароху ў струку. Большы меншага не падніме. А тут голаму ды ў голаў: даччыных сіротак двое.

— Я толькі і паплачу — што на людзях,— выцірае яна вочы.— Двоечка ж, Вулька. Ды такія ўдалыя дзяўчаткі, каб ты толькі пабачыла. Не верыцца нават, што сіроткі, што без маці гадуюцца. І назвалі іх — Волькай і Вулькай. Ага... Вы з Волькай неразлучныя некалі былі, па вас і назвалі.

— Хай растуць здаровенькія,— гаворыць Уля.

— Дзякуй табе, Вулечка. Ды і сама ж папраўляйся. Надта бо ты заляжалася.

— Я папраўлюся.

— Дык ты ўжо глядзі, не цурайся нас...— гаворыць Вольчына маці на развітанне.

— Добра, цётка Куліна, буду заходзіць... Занясіце ад мяне дзецям суніцы. Гэта Мікола Просінназбіраў. Мне не трэба, а дзецям ласунак будзе... Бярыце, не бойцеся, я ўжо не хворая. Я — слабая пасля хваробы.

# «ПА ЗАКОНУ— ПРЫВЕТ ПАШТАЛЬЁНУ»

Няўжо і праўда было тое першае пасляваеннае ворыва — дзе плугам, а найчасцей — рыдлёўкай? Няўжо такі гарачы дзяржак рыдлёўкі і цяпер, як быў тады, калі націраў далоні да вадзяных пухіроў?

Няўжо і праўда, такі цяжкі плуг — не павалачы ўчацвярых? Самой дзіўна. А скажы таму, хто не ведае,— не паверыць. Ці то сілы



больш было? Ці зацятасцю, злосцю бралі зямлю? Не, мабыць, дабратой! Сілай, удзесяцяронай вялікай перамогай. Тады гэта адчувалася свяжэй.

А цяпер — от жа што робіць час! — і сама ўспамінае тое ворыва, як штосьці нерэальнае. Быццам хто расказваў, быццам не было яго зусім...

Было. Было, Улляна. Ты ўспомні!

— Не бяры бо, Колька, глыбока. Хаця трохі прысыплем,— гаворыць Прося сыну.

Зранку пасадзілі бульбу Куліне. Колькі сотак у тым яе агародчыку, а рукі і ногі бы свінцом наліліся. Цяпер усе разам цягаюць плуг на Просіных сотках. Бацька ўпрогся ў пастромак першы. Босая нага ўпіраецца ў свежую баразну. Каб распраміцца ў калені, трэба добра наддаць плячыма, памагчы рукамі, якія абхапілі пастромак за сабой. Нага распрамляецца. З свежай зямлі вытыркае пятка. Бацька робіць крок другой нагой. Зноў і зноў. Уля ідзе побач з Кулінай і Просяй. Нібы жураўліны клін за сівым сваім важаком, цягнуцца бабы. Іх упражка нагадвае бурлакоў з мінулага веку. Але Улляне не да параўнанняў. Яна бачыць, як хістаецца ад натугі бацька.

Яна ведае, што думае ён.

Ён думае, што яму трэба пакласці тут сваёй сілы больш, чым каму. Ён жа — мужчына сярод баб. Дужэйшы за ўсіх. Мікола яшчэ падлетак, птушыны падлетак. А ён — адзіны мужчына.

Пачап пастромка, як ты ні старайся, скручваецца ў вяроўку, балюча ўразаецца ў плечы. Крок, яшчэ крок — і, здаецца, парвецца ўсё ў сярэдзіне. Стогнуць па баках цёткі, з усяе сілы напінаецца бацька. Такая работа на старасці, такая работа! Колькі яго асталося, а не здаецца!.. І пасобіць няма чым. Як ні ўпірайся, колькі сілы ні аддавай,

плуг хутчэй не ідзе. А зачэпіць нарогам за камень, тузане ўбок, ажно свет захістаецца.

Самая меншая Кулініна дачка борздзенька бяжыць уперадзе. Кідае ў вузкую разору палавінкі бульбін. Амаль лушпайкі. Лепшага насення няма. Добра, што і з гэтым да сяўбы дацягнулі. Кожны клубень разрэзалі на дзве-тры часткі. Было б вочка, то прарасце. Неглыбока ж.

Дзяўчынка з кошыкам у руках дайшла да плоту і спынілася.

— Доню! — хрыпла гукае цётка Куліна.— Ідзі, доню, за намі пасадзі. Ды бяжы дадому. Можа дзяўчаткі там прызбу разграблі?! Апошнюю баразну мы самі дасадзім.

— І праўда, Кулінка. Паўз плот усім нам не развярнуцца. Там я рыдлёўкай ускапаю. Хай бяжыць,— перарывіста адказвае Прося. Не азіраючыся, просіць сына: — Ну бо, сынок, не апускай нарог. На руках плуг трымай, на руках...

Да Просінага панадворку пад'ехаў на веласіпедзе Міша Ціханчук.

Адразу пасля вызвалення яго прызначылі старшынёй Галіцкага сельсавета. Замест Атаманавіча.

Міша злазіць з веласіпеда, прысланяе яго да плоту. Знімае з пляча чорны нямецкі аўтамат, вешае на рулю. Ідзе да аратых.

— А ну, стойце! — крычыць яшчэ зводдаль.

Сейбіты сталі. Улляна адгортвае мокрыя пасмы валасоў, што выбіліся на твар. Цёткі ўздыхаюць. Ім вядома, што будзе далей. Не да першых пад'язджае старшыня сельсавета. Не першым ім загадае спыніць саматужную сяўбу.

— Вы што ж гэта, га?

— Дык жа нядзеля сёння, Міхаська. Калі ж сабе і пасеяцца, як не ў нядзелю. А заўтра ў калгас пойдзем,— скоранька гаворыць цётка Прося. Аралі ж на яе сотках — яе і адказ першы.

Яна вылузваецца з пастромка, спяшае насустрач Мішу.

Выходзяць з вупражы і астатнія. Ля плуга застаецца адзін Мікола. Ідуць да хаты, каля якой стаіць,— рукі ў бакі,— старшыня сельсавета.

— Хто вам дазволіў на сабе араць? — накідваецца ён на Просю. Улляну, бацьку яе, цётку Куліну, цешчу старшыні заградскага калгаса Федзі Мукавозчыка, ён нібы не заўважае.— Хочаце, каб зафатаграфаваў хто, га? На каго вы працуеце? На амерыканскіх імперыялістаў!

— На сябе працуем, Міша,— падыходзіць і гаворыць Уллянін бацька.— Во ўзаром, бульбу пасадзім. А гэта, лічы — хлеб наш!

— А я не дазволю, каб на сабе! Указанне ёсць спыняць саматужніцтва.

— То можа ўказанне нам соткі засее?! Якраз наступная наша чарга,— смяецца Улляна.

Міша Ціханчук кіпяціцца:

— І ты, Уля! Чырвоная партызанка ў пастромкі стала. Э-эх!

— І ёй жа есці трэба,— баязліва зазначае цётка Куліна.

— Не за тое ваявалі, каб на сабе араць! — адрэзвае старшыня сельсавета.

— Дык жа коней няма! Ці сам не ведаеш! Дзве падлы рабрыстыя на брыгаду. Што імі ўзарэш? — спрабуе звесці спрэчку на разважанне бацька.

— Пачакалі б, трактар з МТС прыйдзе,— ужо спакайней гаворыць Ціханчук.

— Чакай Пятра, чалавеча,— сыр з'ясі. Трактару і калгаснага — заваліся. А соткі як, я пытаю? — гаворыць бацька.

На вуліцы аб старшынёў веласіпед чухаецца парася. Брынчаць шчыткі над коламі, скрыгаціць жалеза аб жалеза. Веласіпед аб'язджае паміж коллем уніз, бразгаецца на зямлю. Стукае аб камень аўтамат. Круціцца, прыўзнятае педалем, задняе кола.

— Вось табе і на, абярнуўся конь! — з'едліва, нібы толькі адна яна заўважыла, гаворыць Улляна.— Ідзі пастаў.

Старшыня сельсавета бянтэжыцца. Махае рукой:

— Ладна.

— Будзе ладна, калі парася не на тое наступіць ці лычам капышкане,— аднымі вачыма смяецца Улляна.

Ціханчук пераводзіць позірк то на яе, то на вуліцу. Нарэшце выходзіць да веласіпеда, ставіць яго на ранейшае месца, а аўтамат ускідвае на кол.

Вяртаецца да сейбітаў.

— Нягожа так, Нічыпар Сямёнавіч. А з Уллянай,— зірнуў на яе,— у нас асобная размова будзе.

— Трэба жыць, як набяжыць...— няпэўна адказвае бацька.

— Адным словам, я — не бачыў! — гаворыць Ціханчук.

Выходзіць з двара, закідвае на веласіпед нагу. Едзе па вуліцы далей.

— Калі ты не ўбачыш, то і амерыканец не ўбачыць,— зазначае бацька.— Хадземце, жанкі, баразну канчаць.

Пад вечар адсеяўся ўвесь гурт. Мікола выцягнуў плуг, абабіў зямлю. Па-маладому хвацка ўскінуў сабе на плечы, аднёс да зямлянкі, у якой жылі Улляна з бацькам. Лёгка зняў плуг, лёгка апусціў на мураву каля ліпы. Прося толькі пакруціла галавой. Куліна пайшла дадому, а яна мыла ля калодзежа на іх панадворку ногі. Ранішняя размова са старшынёй сельсавета не выходзіла ў яе з галавы.

Улляна, разгарачаная работай, чырвоная, як вішня, сядзела побач з бацькам і Міколам на камені ля ўваходу ў зямлянку. Хусткай акрыла калені.

— Бач, Вулька, праўду, калі яна праўда,— ні сказаць, ні паказаць нельга,— гаварыла Прося.— Ці даўно чалавек чалавека з'есці хацеў, сын на бацьку, а бацька на сына ішоў. Дык тое — нічога. Там вайна была, усё апраўдвала. А хіба ж не вайна праклятушчая сёння нас пастромкамі душыла, га? Вайна! Але бы аслеплі людзі. Страшна ім гэта прызнаць. Горкай праўды сваёй самі і баяцца... Нічога, скажуць некалі нашу праўду, папомніш маё слова. Можа Коля раскажа, як маці яго ў плузе хадзіла...

Мікола дастаў з кішэні капшук з тытунём. Сыпнуў шчопаць у кавалак адарванай газеты, падаў Уллянінаму бацьку. Абое памылялі губамі паперу, лізнулі языком — скруцілі.

— Што я бачу, цётка Прося?! — здзівілася Улляна.

Прося азірнулася ад карыта, убачыла ў сына прыкураную папяросу.

— А няхай на ім шэрсць курыць! — адказала на Улін вокліч.— Раней хоць трохі мацеры вараваў, а цяпер байбусу гэтаму хіба я ўказ? Скарэй бы ў армію забралі з мае галавы.

Суседка лаяла сына, а Улляне ў яе словах чуўся грубаваты матчын гонар за сына: «Хай курыць. Цяперашнім светам курыць дзеці панавучваліся, а ён у мяне, дзякуй богу, ужо не дзіця».

І праўда, як яна раней не заўважыла гэтага? Дарма, што Мікола закіданы змалку і выдае хлапчанём. Шыя дык зусім дзіцячая. Доўгая, парослая белым мохам. Але вунь на верхняй губе і на падбародку прабіўся пушок... Вось табе і Коля з рагаткай!

Хлопец нібы і не чуў Улінай гаворкі з маці. Зацягваўся моцным самасадам, пускаў праз нос фантанчыкі дыму. Размаўляў з бацькам. І тое, што пачула Улляна, уразіла яшчэ больш. Стары мужчына і амаль хлапчук гаварылі, як роўныя, разумелі адзін аднаго, як таварышы. Можа лёгкая чырвань, якую стараўся Мікола прыхаваць за густым дымам папяросы, толькі і выдавала яго хлапечую сарамяжасць.

Бацька выцягнуў перад сабой ногі, цяжка апусціў уніз рукі. Гаварыў:

— Заляжалася зямля. Вытапталі яе, як ток. А зямлі, брат, плуг трэба. І жывое каліва. Незасеяная зямля, што непачатая баба — пустая. І грэх чалавеку, калі зямля пустая.

Адразу пасля вайны кожную зіму ездзілі ў «кубаметры». З раёна даводзілі план кожнаму калгасу, а ў калгасе — кожнаму двару, дзе быў мужчына.

Аднаўляўся Данбас. Вугальная качагарка прасіла драўніны. На падпоркі ў шахтах, на дошкі, на крóквы ў дамах.

Паўнормы «кубаметраў» вырэзвала і Улляна. Гэтыя паўнормы прызначаліся бацьку. А ён за апошнія гады падупаў здароўем. Летам яшчэ амаль без староннняй помачы вытраляваў на хату лесу. А з восені рэдка злазіў з печы. Куды ж яго пасылаць у «кубаметры»! Хіба не дачка яна яму?

«Кубаметры» рэзалі ў Ліпені. Так называўся леспрамгас. Тут і сапраўды шмат было ліпаў. Тоўстых, у некалькі абхватаў. Як кажуць, векавых. Былі і іншыя пароды дрэў. Магутныя дубы пад самым злым сіверам ледзьве пагойдвалі верхавінамі. Затое прамыя вынасістыя грабы, парослыя знізу зялёным мохам, спявалі, як нацягнутыя струны скрыпкі. Хвоя і елка пракідаліся рэдка.

Уля помніла яго, гэты лісцёвы лес. Упершыню падзівілася яму, калі партызанская брыгада манеўрам па глухіх дарогах выйшла з апошняй блакады. Тут некалькі дзён быў іх халодны лагер. Кастроў паліць не дазвалялі, бо ў небе часта пралятаў нямецкі самалёт-разведчык. А зверху ў голым лесе няцяжка заўважыць людзей і без кастроў.

Цяпер яна рэзала сваю нядаўнюю схованку. Валілі стройныя грабы і магутныя дубы. Працавалі ўдваіх з Міколам. І конь у іх быў адзін і адна вострая, Міколава, піла. Выбіралі таўсцейшыя дрэвы, каб выйшла больш кубоў. Адзін дуб валілі цэлага паўдня. Ён быў шырэй як на захват пілы. Падразалі кругом. Мікола высякаў падрэзанае, а яна адпачывала. Пасля зноў браліся за работу. Затое, калі звалілі і вывезлі да вузкакалейкі, больш пяці кубаметраў абмераў дзесятнік.

Быў вечар. Цёплы, адліжны. А можа проста здалося Улляне пасля распаранага ў працы дня. Хацелася хутчэй дабрацца да хаты гаспадыні, у якой яна кватаравала, кінуцца ў пасцель і — спаць, спаць, спаць! А тут раптам Мікола прапанаваў:

— Сёння танцы ў клубе. Сходзім?

Яна спачатку не зразумела. Паглядзела на яго, як на дзівака. Паціснула плячыма, не ведаючы, што адказаць.

— Я пастаўлю каня, перакушу і забягу да цябе.

Не то крыўда, быццам яе абразілі, не то збянтэжанасць варухнулася ў яе душы. Потым стала неяк дурасліва весела.

— Што ж, па-суседску можна... А ты дазвол хадзіць на танцы ў маці браў?

Мікола нічога не адказаў. Палазы адарваліся ад прашэрхлага насту, віснулі аглоблі ў віцінах. Хлопец праехаў міма.

Яна зразумела, што пакрыўдзіла яго. Сказала лішняе. Вядома — лішняе. Не напамінала ж пра маці, калі Мікола пад канец дня цягаў і пілу і яе разам з пілой. Добра было адпачываць, калі ён, сцягнуўшы ватоўку, гахаў вакол падрэзаў. На сваю перавагу ва ўзросце тады забывалася. Захацелася папрасіць прабачэння, сказаць нешта прыемнае, каб загладзіць віну. Але Мікола знік у прыцемку. А крычаць наўздагон не станеш. Пайшла да гаспадыні...

На танцы ў той вечар яны пайшлі разам. Мікола зайшоў па яе. Вясёлы, жартаўлівы, быццам ніякіх падкавыкаў і не было. Яна ўпершыню ўбачыла яго такога...

У лесе ён быў ненатольны да работы. Дрэвы выбіраў вышэйшыя і таўсцейшыя. «Што я, цуркі прыехаў рэзаць?» — адказваў ён Улі.

Хто лічыў сябе хітрэйшым, той валіў выгоністыя грабы. А колькі іх трэба на кубаметр? Многа. На пяць кубаметраў — яшчэ больш. Яно хоць і лягчэй насіць танчэйшыя, а паспрабуй, знасі ў адно месца — па кругляку. Усё роўна, што па запалцы карабок напаўняць. А яны хоць і папамучацца, пакуль дрэва зваляць, затое, як ускоцяць кругляк — у санях капылы трашчаць!

Аднойчы выбралі тоўстую разгалістую ліпу. Падрэзалі з аднаго боку, перайшлі на другі. І адразу піла скрыгатнула аб нешта цвёрдае. Мікола абчасаў сякерай тое месца. Неглыбока, пад карой, знайшоў кулю. Выкалупнуў, падаў Улі.

— Нямецкая,— пазнала яна.

— Ага, нямецкая. Колькі іх тут у людзях, у дрэвах сядзіць...

Ламаючы галіны, ліпа цяжка вухнула долу. Белае воблака снежнага пылу ўзнялося між дрэў.

Мікола паабсякаў галіны. Тапарышчам размераў ствол. Пачалі рэзаць ад камля. Адвалілі адзін кругляк, другі. За трэцім разам піла пайшла спачатку лёгка, быццам дупло ў сярэдзіне было, затым стала заціскаць. Рэз быццам змазалі смалой. Ледзьве перапілавалі.

Верхавіна ліпы сапраўды была дуплястая. А дупло — з начынкай. Ды яшчэ з якой! Спод тоўстага кругляка, нібы ступа, быў заліты воскам. Вывалілася на снег, на жоўтыя апілкі некалькі круглых вашчын. Воск быў стары, з падгарам. З разбураных сотаў жывіцай сачыўся мёд. На снезе варушыліся ледзьве жывыя ад холаду дзікія пчолы.

Мікола сцягнуў з галавы цёплую шапку. Яны пазбіралі са снегу пчол, і ён пабег у пасёлак.

Вярнуўся з драўлянай дзежачкай і з Улінай гаспадыняй.

Працу ў той дзень скончылі раней. Мікола не забавіўся з канём і праз якой паўгадзіны быў у іх хаце. Гаспадыня паліла ў печы, варыла бульбу. Дзежачка з пчоламі і мёдам стаяла на падлозе пад палком. Памытая Міколава шапка сушылася на юшцы.

Мікола перш-наперш пацікавіўся, ці ёсць у гаспадыні салома. Салома была ў хляве. Ён папрасіў, каб яна прынесла ахапак у камору, туды трэба было пераставіць дзежачку. Там пастаянны дух. А хатніх пахаў пчолы не любяць. Трэба перанесці дзежачку ў камору, абгарнуць саломай. Там ім будзе цяплей, чым зімаваць у лесе на дрэве.

Пакуль гаспадыня насіла салому, Мікола накалупаў гліняную міску мёду. Ні раней, ні пасля Уля не піла такога чаю. Гэта быў не просты чай. Гэта быў кіпень з чорнага аплеценага гляка. Кіпень з мёдам і кіславатай перапечкай. У дзяцей ад прыемнасці і старання абрасяніла потам насы. Пасярод стала красавалася гліняная міска. А ў ёй амаль яшчэ да краёў наздраціліся і паблісквалі мёдам соты.

— Калі ім да вясны свайго корму не хопіць, вы дастаньце патакі або падсаладзіце вады і пастаўце ў дзежачку. Закажыце за зіму рамовік. Вясной цэлую сям'ю пчол — як знойдзеце! — гаварыў Мікола гаспадыні.

Жанчына прыкметна павесялела. Яна думала, што пчол хлопец забярэ сабе.

Пачаставаўся мёдам і Аўгусцін. Разам з імі ён таксама працаваў на вывазцы «кубаметраў» у Ліпені.

Аўгусцін пастукаў у дзверы і зайшоў у хату.

— Добры вечар гаспадыні з дзеткамі, землячкам-заградцам! Што гэта вы сёння з лесу так рана? — заклапочана спытаў ён.— Можа што здарылася? Рашыў зайсці, праверыць...

Гаспадыня запрасіла яго да стала. Падала карац з варам, паклала да міскі яшчэ адну лыжку.

— Чуў, чуў, Мікалай, пра тваю знаходку. Во шчасце прываліла! Іншы яго ўсё жыццё жджэ, а яно — шусь, ды ў другія рукі!

Дзеці засмяяліся.

— То можа мядовухі зробім на ад'езд? — павярнуўся Аўгусцін да Міколы.

— А вы з гаспадыняй пагаварыце. Мёд — яе.

— Не-не, што вы кажаце! — замахала рукамі жанчына.— Пчол губіць я не дам.

Аўгусцін густа намазаў хлеб, зверху паклаў кавалак вашчынкі. Мёд цяжкай ніткай ліўся са скібкі ў растапыраную далонь, на пальцы. Аўгусцін адкусіў са скібкі, злізаў з далоні мёд, хітравата прыжмурыўся:

— Гаспадыня вам — як свацця, гляджу. І пасадзіла ля акна на покуці, як маладых.

— А мы хіба старыя? — з выклікам адказала Уля.

— Ды я і не гавару... Я — так...— паціснуў плячыма Аўгусцін.

Яна і сама не заўважыла, як прыгарнулася душой да Міколы. Спачатку спачуваючы нечаму, шкадуючы яго, як старэйшая сястра шкадуе малодшага брата. Яна бачыла, як цягнуўся ён да яе, зусім малады і нявопытны. Калі быў побач, стараўся выдаваць самавітым, сталейшым. Ёй здавалася, што ён шукае ў яе нейкай спагады, нейкага адказу.

Ён запрашаў яе на танцы, і яна ахвотна ішла. Ішла з горда ўзнятай галавой, з насмешкай над яго, зялёным для хлопца, узростам. Так, так, з насмешкай! Няма чаго маніць сабе. Яна пыталася ў дзяўчат, калі разыходзіліся дамоў, а хлопцы — пасляваенныя хлапчукі — горача і няўмела ўпрошвалі музыканта пайграць яшчэ, дзе яе жаніх. Пыталася, каб усе чулі. Бо паміж імі,— яна давала гэта зразумець усім,— нічога, акрамя суседства, не магло быць. Наўмысна пры людзях брала яго пад руку і вяла з хаты, дзе былі вячоркі, дамоў.

Яна шмат наглядзелася гора за сваю маладосць. За прайшоўшую маладосць. А можа толькі адыходзячую? Уля не думала пра гэта. Па-першае, не выдалася часу падумаць як след пра сябе; па-другое, маладосць уяўлялася вечнай. Уля яшчэ дагоніць яе, вернецца ў свае гады. Хай толькі падужэе бацька, скончаць хату, выберуцца з зямлянкі... Тады яна пакіне свайго старога ў цяпле і ў дастатку, а сама падасца ў горад за сваімі аднагодкамі. Не адкладваючы — на наступны ж год! І яна цвёрда верыла, што жыве ў Заграддзі часова. Апошнюю зіму. Апошнюю вясну...

Лета...
Восень...

Ці можна назваць каханнем тое пачуццё, якое адчула яна да Міколы? І калі яна яго адчула? Тады, як Аўгусцін прывёз з Ліпеня плётку пра іх? Тады, калі яна на танцах клала сваю руку на плячо Міколу? Тады, калі ён да ночы заседжваўся ў іх зямлянцы? А можа на ўваходзінах у новую хату?

Уваходзіны не забудуцца ўсё жыццё. Радасці колькі было, хоць і выбіраліся з зямлянкі амаль апошнія! Гэта ж яна і наймала работнікаў і пыніла сама. Бацька зусім пахіснуўся здароўем. Больш курыў з мужчынамі ды грэўся летам у кажуху на сонцы.

І на табе! Прося — ачарніла радасць... Яна не прыйшла разам з усімі. Прыйшла пасля. Не як госця, а як вораг. Увайшла ў хату з дубцом, не павіталася. Знайшла вачыма сына за сталом. Насунулася, як хмара, і, ні слова не сказаўшы, давай хвастаць яго. Па плячах, па твары... Ён не адбіваўся, не спрабаваў выхапіць дубец, а толькі закрываўся рукамі і прасіў: «Мама!» Прасіў: «Мама!» і закрываўся рукамі. «А я ж табе гаварыла. А я ж цябе прасіла не хадзіць сюды. А ты ўсё роўна не вылазіш ад іх!» — прыгаворвала Прося. І ўсё сцябала і сцябала сына.

Ён выбег на двор. Прысаромлены, прыніжаны. Тады Прося накінулася на яе. Не з дубцом,— са словамі. І словы тыя сцябалі мацней, чым дубец. Ранілі ў самае сэрца. «Ці бачылі вы, га? Ці бачылі, людзі,— баба хлопца са свету зводзіць! Дзіця загубіць хоча! — крычала Прося.— Хто ты такая? Ці табе не хапіла, калі ў лесе валялася?..»

Мікола пасля такой ганьбы забягаў радзей, заседжваўся нядоўга. Радзей яны сустракаліся і ў полі, і на вуліцы.

Не частыя ў Заграддзі былі танцы. Але і іх прапускалі. Адчувалі кожны па-свойму, што здарылася нешта непапраўнае, што кладка над вадой праламалася і яе ніяк не перайсці.

Ад людзей яна дачулася, што ён ідзе ў армію. Запросіць на праводзіны ці не запросіць? Яна рашыла ўжо, што не пойдзе, калі і запросіць. А сэрца не сунімалася: пайдзі, пайдзі, пайдзі...

Яе запрасілі — і яна не пайшла.

Паўз іх двор правялі музыкаў. Неўзабаве заспявалі. Неўзабаве пачулася гамана на панадворку.

Не прыбраўшы ўсяго ў хаце, яна хутчэй затушыла лямпу. Хай не падумаюць, што чакае, пакуль прыйдуць яе перапрошваць.

Успароўся на печы бацька. Кашаль глуха забухаў у яго грудзях.

— Навошта ты выкруціла кнот? — запытаў ён.— Людзей баішся? З'ядзяць яны цябе? Падумай, дачка, даўно час падумаць, хто ты: дзеўка, баба ці ўдавіца?..

Яна змоўчала. Навобмацак разаслала ложак.

Бацька кашляў доўга. Яна легла, а ён усё кашляў, і чакаў адказу.

— Праўду кажуць: у каго сем — тым і доля ўсем, а ў каго адно — і тое не ладно.

Са стогнам лёг. Варочаўся на печы. Яго ніяк не браў сон.

Не спала і Улляна. «Хто ты: дзеўка, баба ці ўдавіца?» — стаялі ў вушах словы. Яна даўно не спрачалася, не пярэчыла бацьку. Даўно прывыкла да яго цяжкага характару. Што б ні сказаў, перапускала. Ён жа — бацька! А яны — двое родных людзей на белым свеце.

«Дзеўка, баба ці ўдавіца?..» — яна і сама не ведала, хто яна?

— Удавіца! Удавіц-ца. Удавіцца...

...Хведар Мукавозчык прынёс з фронту два медалі і адну руку.

— Добра яшчэ, дзядзька Нічыпар, што правую,— гаварыў Хведар.

Правай рукой з-за спіны ён залазіў сабе ў левую кішэнь, выцягваў кісет з махоркай, запалкі. Памагаючы падбародкам, аддзіраў кавалак газеты. На стале сыпаў туды шчопаць тытуню. Вёртка бегалі пальцы, скручваючы цыгарку. Прытуляў да грудзей карабок, чыркаў запалкай, прыкурваў.

Бацька кожны раз здзіўляўся:

— Бач ты, чаму гора людзей вучыць. Як той фокуснік, даруй госпадзі...

Хведар Мукавозчык паставіў, вярнуўшыся з вайны, новую хату. Непадалёк ад таго месца, дзе стаяла бацькава. Забраў ад цешчы, цёткі Куліны, сваіх дзяўчатак — Вольку і Улю. Цяжка было без жаночай помачы. «Людзі кажуць, на адны рукі двайня, а ў мяне — на адну руку»,— горка жартаваў ён. Сваталі яму маладзіц, паўвёскі было ўдоў, а выбраць па душы жонку Хведар не мог. Дзяўчаткі ў школу пайшлі, а ён усё аставаўся бабылём. Не то ўсур'ёз, не то жартам гаварыў ён і Улляне, каб выходзіла за яго замуж. Гэтакім жа чынам яна адмаўлялася.

— Хачу, бацька, з Уллянай і з вамі пагаварыць. Сур'ёзна,— сказаў, зайшоўшы, Хведар. На нейкую хвіліну змоўк, шукаў, як павесці гаворку далей...— Дзяўчаткі мае падгадаваны. Клопату з гэтага боку менш. Так што рашай, Уля...

Яны сядзелі адно насупраць другога. Яна — на ложку, ён — на канапе. Бацька быў на печы.

Што яна магла адказаць? Во так адразу і рашыцца? У чужую хату, да чужых дзяцей... Тыдзень таму назад хлопец яе ў армію пайшоў, а тут — за ўдаўца!

Балюча стала Улляне, крыўдна. Чаму людзі не хочуць лічыцца з яе спадзяваннямі? Няўжо ўсе думаюць, што зайшло яе сонца, што яна застанецца ў Заграддзі навечна, прыкарэе да дому. Паправіцца бацька — і яна рынецца ў вялікі свет, які пачынаўся адразу за палеткам, за лесам. Яна сваё дагоніць. Яна ж яшчэ маладая!

Так ёй падумалася, а сказала другое:

— Ой, Федзечка, сорам ад людзей будзе. Скажуць, што пайшла за сяброўчынага мужыка. Падумаюць, што я вам з Волькай ліха жадала. Ты прабач мне...

— Чаго ты чакаеш? Каго? Ты ж ведаеш, што хлопцаў тваіх пабілі,— гаварыў бацька, калі Хведар Мукавозчык, пасядзеўшы, пайшоў ні з чым.

— Ідзі бо, Вулька, замуж за нашага Федзю. Цяжка ім. Падумай, дзіцятка, і — ідзі...

Гэта гаварыла цётка Куліна.

Праз год казаў бацька:

— Жыццё маё канчаецца, дачка... А род свой — табе завяшчаю.

Праз тры гады:

— Ты ўжо не гневайся, Вуллянка, што вам з Колем я не дала сысціся. Каб пажаніліся тады, то можа ён каля дому астаўся б. А так, бач, дэмабілізаваўся і на стройку камсамольскую паехаў. І ажаніўся

там, ты ж ведаеш... Во картку прыслаў. І жонка, і ён, і дзіцятка, унучак мой, Алежка...

Гэта сказала Прося. Прынесла пісьмо. Пахваліцца, парадавацца ўнуку.

Улляна ўзяла канверт. Пазнала Міколаў почырк. Першы год з арміі ён пісаў ёй. Пісаў, хоць яна і не адказвала. «Па закону — прывет паштальёну» — кожны раз было выведзена на фартушку канверта. І фіялетавы трохкутнік: «Салдацкае пісьмо бясплатна».

На канверце, што падала Прося, не было ні «бясплатнага» трохкутніка, ні прывітання паштальёну.

Спакойна ўзяла Улляна канверт, доўга, наўмысна доўга, каб спадабалася Просі, углядалася ў фотакартку. Двое маладых, а пасярод іх — дзіця галышом. Пухленькія ручкі і ножкі. Бы перарэзаны ніткай. Маленькі тварык з кірпатым, як у маці, носікам. Мабыць, ва ўсіх малых кірпатыя насы і кругленькія тварыкі. Сказала:

— На Міколу падобны. І на яе трохі.

Прося паскардзілася, што кепска бачыць, папрасіла прачытаць пісьмо. Дома, канешне, яна чытала яго не раз, але жанчыне хацелася паслухаць сынавы і нявестчыны словы з другіх вуснаў.

Улляна чытала. І ні рэўнасці, ні затоенай злосці не адчувала ні да маладой жанчыны, ні да яе маленькага сына. На каго крыўдаваць? На Міколу? Ён жа не вінаваты, што адказаў спагадай, гарачай, шчырай юначай спагадай на яе дабрату. Ён не вінаваты, што лічыў гэта за каханне. Ды і ў яе яго не было. Шмат вады сплыло ў мора з таго часу. Хапала і одуму і роздуму. Калі б было ў яе сэрцы каханне да Міколы, яна не адступілася б так лёгка ад яго...

Яшчэ праз колькі гадоў:

— Прыйдзіце, цётка Улляна, да нас у школу ў Галіцу. На камсамольскі сход. Пра герояў-землякоў раскажаце. Пра партызанства сваё, пра Атаманавіча. Там, каля брацкай магілы, мы сход праводзім. І тата наш будзе...

Рэдка яна бачыла Хведаравых дзяўчатак. Больш — калі малыя былі. Сяды-тады заходзіла. Шыла сукеначкі, калі прыносіла Куліна. І — усё. Саромелася нечага. Старанілася. А яны, бач, як горнуцца да яе...

І не раз і не два спавядалася яна і перад сабой і перад бацькамі, якія пусцілі яе на свет. Перад самой прыродай.

Хіба тая сіла і тое цяпло, якімі надзелена жывая істота, даюцца ёй адной?! Побач другі чалавек прагне твайго цяпла, твайго голасу, тваіх пакалечаных рук, а ты маўчыш, як халодны камень. Жыве той чалавек, мучыцца. Пакуль ты не надумаеш чаго, даволі яму пабачыць цябе, зайсці ў тваю хату. І пражыве адзін. Бо ён моцны чаканнем гэтак жа, як ты моцная зацятасцю. Як ты няўмольна перад сваім спадзяваннем, што нешта вернецца, што ўсё перамелецца. Дык яно даўно перамалолася. Ты і не заўважыла — калі. А вецер разнёс і тую муку, і той пыл.

Чаму ж за ўсе гады адзіноцтва ні разу табе не прачнуцца так, як у тую раніцу перад вайной, калі ты зразумела набліжэнне сталасці, калі ўпершыню адчула, што ты — чалавек?!

Куваюць у бары зязюлі. Лічаць гады. Стаяць у празрыстым бярэзніку Уля з Волькай. Наструнiліся, каб не прапусціць ніводнага «ку-ку» — Хведаравы дочкі.

...Дальні ад Заграддзя луг скрозь парос кустоўем. З густога прылесся выбеглі выносістыя арэшыны, хоць абручы высякай; на больш высокіх месцах перапляліся задзірысты ажыннік з рахманай, непрыкметнай крушынай,— ажно лезці боязна, каб не напароцца на якую поскудзь. А дзе ніжэй, дзе вясной надаўжэй затрымліваецца вада, там царуе раскошны, прысадзісты вербалоз. Чым далей ад лесу і бліжэй да вёскі, кусты радзеюць, знікаюць зусім. Дзікі луг саступае месца лугу, дагледжанаму чалавекам. З пракладзеным дранажом. Укатаны зверху каткамі. Той луг лепш бы, мусіць, назваць полем. Разбягаецца яно на ўсю шырыню вёскі, пакуль зноў, у другім яе канцы, не сустракаецца з лесам. Каторы год сеюць на палетку «культуру», люцэрну і клевер, як пачалі з лёгкай рукі старшыні ды агранома называць канюшыну. Няма коней — няма і канюшыны. Ёсць — клевер. Косяць касілкамі. Роўна, як пад нулёўку.

Улляне больш мілы падлесны луг, у кустоўі, у барадаўках купін. Ён мае асаблівы пах, асаблівы звон. А там, пры вёсцы, і горача, як у парыльні, і па-драцяному шорстка.

Не адзін доказ ва ўнутранай спрэчцы яна магла б прывесці. І — за, і — супраць. Ды лавіла сябе на думцы, што без дай прычыны, прарываецца ў ёй шмат непатрэбнай, злой непрыязнасці да «акультуранага», роўнага, як стол, поля. Ёй хацелася быць аднолькавай у амаль адухоўленай любві да роднай прыроды.

Але, як бы там ні было, грабсці сена ў падлессі куды ахвотней. Лічы, адна і тая ж работа, што — тут, што — пры доме. Калі не цяжэйшая?! Паўвіхайся з граблямі вакол кожнага куста, дзе косамі паабівалі мужчыны,— рукі, як пры вывіху, заныюць. Затое сена якое! Зімой, калі плывуць па вуліцы да фермы бухматыя сані, на рыпучых палазах едзе, здаецца, чырвонае лета. Паднімеш клок сена, што спадзе з воза на блішчастую пісяжыну дарогі, паднясеш да твару. У руках — засохлая галінка маладой ракіты, парыжэлая і размохраная макаўка дзяцелеўніку, лёгкія таўкачыкі чабору, мятлушка, конскае шчаўе... Якіх траў там толькі няма! Заварка да чаю, дый толькі! Божа ты мой, як пахне лёгкім, белым снегам і пераспелым летам! Радасна рыпяць палазы. І холад і цяпло — у згодзе.

...Грабельніцы яшчэ не прыйшлі. Рана. Сонца не наскрозь прабіла пракосы. Падыспадам,— Улляна мацала рукамі,— сена падвялае. Яна толькі пасядзіць. Пачакае, калі прыйдуць жанкі. У іх жа каля дому клопату больш: мужыкоў паадпраўляць на работу, дзяцей дагледзець. Улляне прасцей. Выгнала пастуху карову, замяшала парсюку, зачыніла хату і — гайда!

Заходзіў учора Хведар Мукавозчык. Ён брыгадзірам цяпер. Сказаў ісці ў падлессе сена зграбаць. І дочкі яго будуць, Волька з Уляй. Сказаў гэта Хведар, мабыць, для таго, каб напомніць, што дочкі паканчалі школу. Хай ведае і Улляна.

Яна ведала. Паўночы не спала, чакаючы раніцы. Шчымліва-журботная туга прывяла яе першай і на сенажаць.

Прысела ў цяню. Вербалозавы куст дыхаў у спіну прахалодай. Сонца не даймала сюды, і яна зняла з галавы белую хусцінку. Паклала побач.

Побач, на спадку купіны, раслі бяссмертнікі. Жоўтыя і чырвоныя кветкі на матавых варсістых ножках. Ёй захацелася пакратаць іх. Яна пасунулася бліжэй і заўважыла ў сябе пад рукамі тыя ж лугавыя краскі. Быццам пасля сну, бяссмертнікі натужваліся, узнімалі прымятыя ў зямлю макаўкі.

Саладжава-гаркаваты пах кружыў галаву...

ПАЭЗІЯ

• *Начлежныя вогнішчы*



## Анатоль ГРАЧАНІКАЎ



•

*Нэлі*

I

Я вельмі рана ўлады смак спазнаў,
Захмельвалі мяне апладысменты.
Сваю ж пяшчотнасць, нібы аліменты,
Паблажліва табе я выдаваў.

Прыязным, чулым быў для іншых я.
І быў яшчэ, як кажуць, перспектыўным.
Але для нас з табой — кааператывам
Рабілася уласная сям'я.

Прыгнечвала туга, як дождж абложны.
Бяздумна я ўразаўся ў вір забаў.
Бо, ўціснуты ў сям'ю, нібыта ў ножны,
Іржою суму пакрывацца стаў.

Не дзень, не два з мяне гусарства дух,
Як пыл з мяшка, ты ўпарта выбівала
І да мяне маўкліва выплывала
Насустрач, як выратавальны круг.

Жыў у тваёй маўклівасці прысуд.
І калі гнеў твой выбухнуў, раскуты,—
Маё збавенне праз твае пакуты
Прыйшло. Ды не пазбавіла пакут...

II

У самыя гаротныя часы
Шукаюць людзі ад пакут прытулку.
Нібы для продкаў, нашым паратункам
Зрабіліся зарэчныя лясы.

Дзе неба, як зрашэчаны шацёр,
Вылiньвалася з ацішэлым гулам,
Дзе сівізною набухаў касцёр,
Каханая зняможана заснула.

Струменіліся косы паміж траў.
Бязгрэшны твар сляпіў мяне, як сонца.
І я ўтрапёна на калені стаў,
Нібы перад збавіцелькай забойца.

Пад кручай сонна плёхалі ляшчы.
На травы зябка ападалі росы.
Сунічным сокам да лясных лагчын
Туман сплываў, працэджаны праз лозы.

Ні горада паблізу, ні сяла,
Ні крыўды ў безвыходным карагодзе.
І толькі у світальнай пазалоце,
Каханая у новы дзень плыла.

III

Над кручаю на міг застыла ты.
І раптам мільганула бліскавіцай.
Навекі стаўшы для мяне жывіцай,
Ты ад маёй збягала дабраты.

Збягала без папрокаў, без пагроз,
Зірнуўшы ў вочы напаследак строга.
І Сож блакітны радасна панёс,
Панёс цябе да берага другога.

Няўцямліва абрынуўся я ўслед,
Нібыта збіты нечаканым стрэлам,
А у вачах, тужліва скамянелых,
Яшчэ твой адбіваўся сілуэт.

Не даганю цябе я. Апяку
Вадою твар. І Сож няхай прымае!
Ды хваля мяне ўчэпіста трымае
І раптам падае тваю руку...

Натужліва гулі ў траве чмялі,
Гукалі пасажыраў параходы.
Каханая, няўжо пераплылі
Раку сваіх пакут мы назаўсёды?

IV

Начлежнікі спявалі над ракой.
Яны зачаравана так спявалі,
Што салаўі у лозах заціхалі
І падпявалі ціха талакой.

І раставаў у вечнасці паром.
І ноч плыла, вяслуючы туманам.
І нам, і ўсім на свеце закаханым
Касцёр мігцеў далёкім маяком.

І да яго плылі мы напраcткі
Пад зорамі, знямелымі ў Сусвеце,
Плылі па кволым, таямнічым следзе
Праз пералескі, нібы праз вякі.

Абрабаваным бытам гарадскім,
Апаленым успышкамі разладу,
Начлежнікі, вяртаючы нам страты,
Дыханнем абпраменьвалі зямным.

І самі ачышчаліся яны
Ад нарасці мінуўшчыны балючай.
А ноч плыла спакойна і гаюча,
Нібыта ўпершыню пасля вайны.

# ПАЭЗІЯ

• *Я жадаю*

•• *Рыме Шаршнёвай*



Паўлюк ПРАНУЗА



•

Я жадаю, каб дарога
Працягнулася даўжэй,
Каб не знали стомы ногі,
Каб не гаснуў бляск вачэй.

Каб рука ў руцэ не стыла,
Сэрцы гутарку вялі,
Каб жаданні — нашы крылы —
Нас да зорак узнялі.

••

Мы хадзілі аднымі шляхамі,
Чулі птушак адных галасы.
Я на ўсход адыходзіў з баямі,
А цябе прытулілі лясы.

Камсамольскае сэрца скарыцца
Не магло за знявагу зямлі.
Як чума, як напасце, чужынцы
У наш Добруш зялёны паўзлі.

Стаў сасоннік надзейным прытулкам.
Зброю ўзялі мае землякі.
І ад выбухаў помсліва-гулкіх
Узляталі масты, цягнікі.

Білі злосна свінцом кулямёты,
Нарастаў поўны ярасці бой...
Амбразуру варожага дзота
Маладосцю закрыла сваёй.

ПРОЗА



Ганна КРАСНАПЁРКА

Мал. В. ШРАМЯКОВА

# ДАРАГАЯ МАЯ РАВЕСНІЦА

Апавяданні

## ДЗВЕ ПЕСНІ



Немцы назвалі гэту вуліцу «Зігес Штрасе». Тут ад турмы да гестапа — некалькі крокаў. Памятаю яе ўсю: ад прагнілых, падслепаватых хатак да вялікага чырвонага дома, у сценах якога ёсць і мае цагліны.

Тачкі — тры, дванаццаць, сорак. Помню гэту вуліцу, усю залітую трывожнай чырваннню сонца, калі я, крадучыся, прыціскаючыся да дрэў, да абгарэлых сцен, рашылася прыйсці да цябе.

— Паглядзі, якія злавесныя, у чырвоных водблісках хмары...— сказала я, стаўшы на парозе.

— Яны не злавесныя. Яны барвовыя, як наша з табой кроў...

Ты гладзіў мае валасы і як мог супакойваў.

Было шчасце. Я рада была глядзець на цябе і трымаць тваю руку ў сваёй. А позна вечарам я зноў вярталася за калючы дрот.

Мы будавалі той дом. Па начах мне сніліся тачкі і свісткі паліцэйскіх...

А потым цябе забралі. І я часта глядзела на дарогу ад турмы да гестапа, спадзеючыся, што, можа, цябе, як і іншых, павядуць па ёй на допыт.

Я марыла аб тым, каб яшчэ раз убачыць твае вочы і, калі неба зноў будзе трывожнае, сказаць табе:

— Не, яны не злавесныя, гэтыя хмары. Яны барвовыя, як наша з табой кроў...

*Хіба можна запытацца ў дрэва, чаму яно пачынае цвісці?*
*Хіба можна запытацца ў дажджу, чаму ён пачынае ісці?*
*Хіба можа адказаць чалавек, чаму ён пачынае любіць?*

*Гэтак жа не адкажаш, чаму пачынаеш пісаць. Нешта выспявае ў душы і патрабуе выйсця. Не ведаю: можа гэта прыйшло і да мяне. Тады я адчула б сябе шчаслівай. Бо вельмі хочацца расказаць пра тое, што давялося пабачыць і перажыць.*

*Нарадзілася я ў Мінску. У гады Вялікай Айчыннай вайны была ў мінскім гета. А затым санітаркай 12-й партызанскай кавалерыйскай брыгады, што дзейнічала на тэрыторыі Беларусі. У 1949 годзе закончыла аддзяленне журналістыкі Беларускага Дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна. Цяпер працую ў рэдакцыі газеты «Піянер Беларусі».*

*Ганна* КРАСНАПЕРКА.

Але я не ўбачыла цябе. Праходзілі другія: зарослыя, змучаныя, маўклівыя. Я шаптала ім услед самыя гарачыя словы, благаслаўляючы на мужнасць.

Але гэтага было мала. Мне хацелася хоць што-небудзь для іх зрабіць. Гэта ж я чула іх апошнія крокі па зямлі...

Зноў іх вядуць міма мяне: аднаго, другога, трэцяга... Што ж мне зрабіць для іх?

І раптам,— не ведаю, адкуль гэта бярэцца,— голасам, слабым і дрыготкім, я пачынаю спяваць:

Широка страна моя родная...

Я бачу, як вакол мяне спыняюцца тачкі. Я гляджу на тых, каго праводзяць міма. І бачу, як адзін з іх уздымае руку са сціснутым кулаком.



А песню ўжо і другія падхапілі. А свісткі паліцэйскіх усё бліжэй і жудасней...

Але мне ўжо не страшна. І калі я чую, як немец пытаецца ў паліцая: «Вас зінген зі?», я падбягаю да яго і крычу па-нямецку:

— «Гайматлянд, кайн файнд золь дзіх гефердэн...»

...Гэта песня была надрукавана на першай старонцы падручніка для восьмага класа...



Толя Гарнашка, які лячыўся ў нашай санчасці, падарыў мне свой пісталет «ТТ» і пілотку. У пілотцы я потым, пасля вайны, хадзіла два студэнцкія гады. А пісталет... Яго тут жа забраў адзін з нашых камандзіраў. Я не спрачалася, хоць характар у мяне крыўдлівы: яму ён быў больш патрэбны, чым мне.

Тут, каля раненых, мне хапала і карабіна. Праўда, гора то было, а не карабін. Ён часта даваў асечкі, і я баялася, што калі-небудзь ён стрэліць не ў немца, а ў мяне.

У той дзень Вася Радзюкоў прывёў у лагер паліцая. Расказвалі хлопцы, што ён у немцаў да жалезнага крыжа даслужыўся.

Здарылася так, што ноччу паслалі мяне яго вартаваць.

Ноччу лес трывожны і жудасны. Баязліўка я была незвычайная. Шышкі з елак падаюць, а мне здаецца — нехта крадзецца. Конь з прывязі сарвецца, а я думаю — разведка нямецкая прыскакала.

Стаю, тапчуся, карабінам камароў адганяю.

А ў зямлянцы, чую, паліцай крэкча, варочаецца. Не спіцца яму перад расстрэлам. Відаць, і ён паміраць не хоча.

Чую, просіць:

— Дзеўка, а дзеўка! Выпусці па патрэбе...

Маўчу, ведаю: у каравуле гаварыць няможна. А паліцай зноў сваё. Не вытрымліваю:

— Не пушчу! Не прасі, гад!

Імгла пачала радзець. Відаць, сонейка прачынацца стала.

І раптам з зямлянкі песня, працяжная, жаласная:

Здравствуй, мать, привет тебе от сына,
Пишет сын тебе издалека,
Что я жив, но жизнь моя разбита,
Одинока, нищенски горька.

І так горка было мне чуць гэтую песню, гэты голас, хрыплаваты і жаласны, гэтыя сумныя словы аб маці і сыне.

Эх, слабасць мая, чалавечая слабасць! Вось жа яны ў мяне перад вачыма: расстраляныя, складзеныя штабелямі на Кальварыі; вось яны, дзіцячыя галоўкі з навечна закрытымі вачыма — пад Тычынкай; вось у абдымках сястрычка з брацікам, выцягнутая з калодзежа ў Лядах.

— Не спявай! — крычу я немым голасам.

І ледзь не плачу. Хутчэй бы сюды развадзяшчага...

# Я КАХАЛА ЯГО

Я кахала яго. І колькі б мяне ні адгаворвалі родная мама, сакратар камсамольскай арганізацыі і камісар атрада,— я ўсё роўна кахала яго.



Мне гаварылі, што недзе ў яго ёсць жонка — ну і што ж? Я кахала яго. Хоць ні разу не пацалавалася з ім.

Затое часта я падыходзіла да нашага конюха, дзядзькі Палуяновіча, і прасіла:

— Пойдзем на канюшню...

Там, на канюшні, стаяў яго, Андрэя Аляксеевіча, конь Яшка. Ён заўсёды стаяў побач з нашай здыхляцінай, кабылкай з санчасці, якую я назвала прыгожым імем Лаура, а дзядзька Палуяновіч чамусьці называў Лаўрай.

Мне было прыемна, што мая Лаура хрупала адно сена з прыгажуном Яшкам.

Я падыходзіла да Яшкі, цалавала яго ў морду і гаварыла:

— Перадай прывітанне, чуеш?

За Яшку я хвалявалася не менш, чым за яго гаспадара. Баялася, каб у ціліпаўку яго не загрызлі ваўкі і каб у баі не зрэзала варожая куля.

Гаспадар Яшкаў быў са мною ўсюды. У мяне нават пачаліся галюцынацыі на любоўную тэму. Аднойчы ў двух зусім чужых людзях я ўбачыла адразу двух Андрэяў Аляксеевічаў.

Не любіць яго я не магла. Ён выратаваў нам жыццё ў той час, калі мы блукалі па лесе, шукаючы партызан.

Ён быў найпрыгажэйшы з мужчын. І калі неяк Лёнька Сілач сказаў мне, што ў майго каханага таўставатыя губы, я не размаўляла з ім цэлы дзень.

Я была шчаслівая, калі ён пасля цяжкай і небяспечнай аперацыі клікаў мяне да сябе ў зямлянку і гаварыў:

— Пачытай мне вершы...

Зразумела, я пачынала з пісьма Тацяны Анегіну:

«Я вас люблю. Чего же боле?»

Я была шчаслівая, калі ён пасадзіў на гаўптвахту Федзьку Сяргеева, убачыўшы, што той, напіўшыся, лез да мяне цалавацца.

Усё гэта мне здавалася вышэйшай праявай кахання, і не засмучала і тое, што я не чула ад свайго камандзіра самога прызнання.

І ўсё было б добра, калі б аднойчы мяне не паслалі на пост каля штаба.

Лагер спаў. Я вартавала сон майго каханага і прысвячала яму новыя вершы. Радкі набягалі адзін за адным, як ручайкі, і зліваліся ў верш, як у раку.

Раптам хруснулі галінкі, і перада мной з'явілася дзяўчына ў белай

сукенцы. Пры святле месяца была яна на дзіва прыгожая, як з казкі. І само яе паяўленне тут было настолькі неверагодным, што я аслупянела.

— Стой! Хто ідзе? — крыкнула я, хоць пазнала ўжо брыгадную прыгажуню Ніну.

— Не пазнала, ці што? — неяк гулліва засмяялася яна і, не звяртаючы на мяне ўвагі, упэўнена ўвайшла ў зямлянку.

І тут быццам рэзнулі мяне па сэрцы.

Слёзы, горкія, салёныя, цяклі па маім твары. І былі гэта слёзы першай рэўнасці, першага кахання.

Раніцой дзядзька Палуяновіч паклікаў мяне ў канюшню да Яшкі і Лауры.

Я ціхенька паскардзілася:

— Не любіць мяне Андрэй Аляксеевіч. Ноччу яму Ніна вершы чытае... А мяне не кліча...

Дзядзька Палуяновіч, відаць, быў найдабрэйшы чалавек на свеце. Аддаючы мне мех з сенам, ён сказаў:

— А можа і любіць, калі не кліча...

# СУЗОР'Е

Алёша! Я іду да цябе, спяшаюся, лячу! У мяне ў руках твой адрас. Поўнач, далёкая Поўнач. Толькі, што гэта? Я іду не туды, зусім не туды! А на ўсход, на ўсход, на ўсход. Туды, дзе калісьці сустрэла цябе ўпершыню...

...Я бягу, бягу. Ногі мае здранцвелі ад холаду, вось-вось паваллюся. За мной ужо ніхто не гоніцца, але я бягу, бягу. Вунь ужо відна вёска. Можа, яны, Русаковічы? Няўжо, гэта праўда, няўжо, не зманілі і я вас знайду?

— Цётачка! Абагрэцца ў вас можна?

— Можна, заходзь. Толькі адкуль гэта ты?

— А... здалёк. З Вялікіх Лукаў...

Гэта няпраўда. І яна бачыць, што няпраўда. Уздыхае цяжка, глыбока.

— Скажыце, а нашы тут бываюць?

— Нашы? — голас яе здзіўлены, прыцішаны. Але я з такой пакутай паўтараю сваё пытанне, што яна мне адказвае: — Дабірайся да Касаўскага лесу. Вунь туды. Ідзі па бітай дарозе, а потым лявей, лявей. Адтуль яны прыязджаюць...

Я іду па бітай дарозе. А потым лявей, лявей. О, гэтыя калядныя маразы! Толькі б не спыняцца, а то проста прымерзнуць ногі... І я бягу наперад.

Ззаду смерць. Я дагэтуль не разумею, як удалося мне вырвацца з яе кіпцюроў. Калі эсэсаўцы сталі расстрэльваць нас, я кінулася на зямлю. Потым яны пахадзілі побач, палаяліся на мароз і паехалі ў бок горада.

З усёй калоны я адна засталася ў жывых.

Да Русаковіч (раней мне давялося чуць ад сувязнога, што тут бываюць партызаны) дабіралася два дні.

Колькі можна бегчы? Лес не адказвае мне на гэта пытанне. Ён



стаіць халодны, заснежаны, маўклівы. І раптам, як прывід, перада мной коннікі. А наперадзе ты, у кубанцы з чырвонай істужкай наўскасяк.

Праз слёзы я ўжо не бачу вас. І тут жа расказваю ўсё.

Ты моўчкі падштурхоўваеш мяне да каня. Ён сярдзіта тупае капытамі, і я не адважваюся падысці да яго.

— Не бойся! Не Гітлер...— з горкай, балючай усмешкай гаворыш ты мне і ўзвальваеш на каня.

Сам садзішся наперадзе:

— Трымайся! Паедзем у лагер.



Я працую на кухні. Кухня — гэта гаспадарчы ўзвод. Я абіраю бульбу. Перада мной вялізны кацёл. Цікава, дзе гэта партызаны ўзялі катлы? Пытаюся ў дзевак. Аказваецца, калі «разбамбілі» паліцэйскі гарнізон, хлопцы захапілі ўсю варожую гаспадарку. Бабы на кухні кпяць з мяне. Я не злуюся: няхай пасмяюцца. Бульбу абіраць, сапраўды, не ўмею. З іх рук яна выходзіць кругленькая, чысценькая, а ў мяне нейкая вымучаная, брудная, чатырохвугольная. Шалупінкі ў іх тоненькія, зграбныя, а ў мяне тлустыя, непрыгожыя. Што зробіш... Я абіраю бульбу, сотні бульбінак, вялікіх і дробненькіх. Потым буду церці яе. Разам з паварыхай Дашай мы зробім дранікі, мільён дранікаў...

Хутчэй бы ты вярнуўся з разведкі!

Я бягу да цябе, бягу! Спыняюся ля самых тваіх вачэй і вуснаў. Толькі чамусьці не абдымаю цябе. А гавару разгублена і ціха:

— Алёша! Дранікі гатовы. Смачныя, свежыя! Ідзіце есці...



Памятаеш, у атрадзе не было солі? Вырашылі паехаць па вёсках, папрасіць у сялян. Ты ўзяў мяне на гэтую гаспадарчую аперацыю. Мы наскрэблі нямнога, але радаваліся і гэтаму. У адной з вёсак жыў бацюшка. Казалі, што ў яго ёсць добрыя залежы солі.

— Да папа пойдзеш ты,— загадалі мне хлопцы.— Пагаворыш з ім

інтэлігентна, можа і раскашэліцца. А не дасць па дабру — самі возьмем.

Я вельмі рыхтавалася да гэтай размовы. А калі ўвайшлі ў хату, збянтэжылася. Перада мной стаяў не тлусты ў расе бацюшка, як сабе ўяўляла яго, а звычайным, у сялянскім адзенні чалавек.

— Таварыш поп,— звярнулася я і пачула, што ззаду ўсе грымнулі ад смеху.

Смяяўся і бацюшка. Не перастаючы рагатаць, прынёс нам торбу солі. Гэта была перамога.

З таго часу хлопцы звярталіся да мяне: «таварыш пападдзя». Але ты называў мяне інакш...



Я зноў бягу да цябе! Якая цішыня, які водар на нашай паляне. Ты збіраеш суніцы і кладзеш мне на далоні. Твае рукі, такія дужыя, дакранаюцца да маіх. Твае вочы, такія цёплыя, быццам патанаюць у маіх. Тваёй пяшчотнасці хапіла б на некалькіх. Але я шчаслівая — яна ўся належыць мне. Ты разглядаеш мой твар і гаворыш:

— Дзеўчынка, ты ўся з зорак... На тваіх шчоках сем радзімак. Гэта сем зорак. І размясціліся яны сузор'ем, Вялікай Мядзведзіцай...

Ты праводзіш далонню па маім твары і працягваеш:

— Вось ручка, а вось коўш...

Я смяюся:

— Выдумшчык! Ніхто раней не бачыў гэтага. Нават мама...

— А я бачу,— перабіваеш ты мяне.— І ведаеш: сузор'е мне будзе заўсёды свяціць. Днём — на тваім твары. Ноччу — на небе. Я не заблуджуся і не загіну з ім.

Мы развітваемся:

— Бывай, Сузор'е маё...

Тады мы яшчэ не ведалі, што гэта спатканне будзе апошнім...



З таго задання ты не вярнуўся. Ноччу, у лесе, вы нарваліся на засаду. Байцы шукалі цябе і не знайшлі. У лагер прыйшлі без свайго камандзіра. Усе сямёра адводзілі ад мяне вочы.

Партызаны другога атрада падабралі цябе, калі ты, апрытомнеўшы, прабіраўся ў сваю брыгаду. Цяжка параненага, цябе адправілі за лінію фронту. А мне перадалі пісьмо. Думалі, што гэта шыфр:

«Вялікая Мядзведзіца выратавала мяне. Я поўз да сваіх, арыентуючыся на яе. Дзякуй табе, Сузор'е!»



Цяпер ты жывеш на Поўначы. Так здарылася ў жыцці, што жонкаю табе стала другая жанчына, не я... Я зрэдку атрымоўваю ад цябе пісьмы. І тады зноў бягу да цябе... Толькі не на поўнач. А на ўсход, на ўсход, на ўсход.



● *Паэт*

●● *Чорная скульптура*



Уладзіслаў НЯДЗВЕДСКІ



●

**Як салдацкія дзеці
Тады — ў сорак пятым —
Прывыкалі да цукру і да малака,
Так да доктарскіх
Белых халатаў
У бальніцы паэт прывыкаў.
У такія хвіліны
Ўспаміналася маці,
У такія часіны
Забываў ён пра ўсё.
І студэнт-практыкант
За жывот яго мацаў,
Нібы ў Слуцку на рынку
Купляў парасё.
Шмат каму у жыцці
Мог паэт памаліцца,
Прафсаюзны і іншы
Парушыць статут.
Шмат разоў у жыцці
Мог паэт памыліцца,
І таму сёння рыфмы
Адшукваў вось тут.
Ціха думаў паэт
Пра знаёмых і блізкіх...
А яны на сустрэчу
Ў той дзень не прыйшлі,
І ўсплывалі ў ваччу,
Нібы здань, абеліскі,
Што стаяць на яго
Шматпакутнай зямлі.
І таму, замест рыфмы,
Нечакана на вока
Халоднай ільдзінкай
Сляза наплыла.
І паціху за клеткамі
Восеньскіх вокан
Дзесьці клён
Між дажджовых валокнаў
Палаў.**

●●

Яна нараджалася
Маленькай і згорбленай,
Яна нараджалася
Ружовай і кволаю.
Былі ў яе аўтары —
Мужык з-пад Старобіна
І кабета, што беднай жыла
Ды вясёлаю.
Яна вырастала
Між калючымі соснамі
І пясчанымі ўлетку
Хадзіла палеткамі.
Яна сумавала
Над сляпучымі кроснамі
І прыгажэла
Між балотнымі кветкамі.
Ці ад ласкі людской,
Ці нянавісці божае,
Што часамі ў цемры
Маланкамі колецца,
Яна стала
Самаю-самай прыгожаю
У палескай закінутай
Дзіўнай ваколіцы.
І калі пад кашуляю
Грудзі гарачыя
Трапяткімі ў яе,
Нібы рыба,
Зрабіліся,
Калі іх
Паляшуцкія хлопцы
Убачылі —
Па-інакшаму сэрцы
Тых хлопцаў забіліся.
Так скульптура,
Што ў вёсцы
Называлася Волькаю,
Для сваіх гледачоў
Стала шчасцем і ранаю.
Яе вочы
На ўсіх пазіралі аднолькава,
І ў яе жаніхі
Ўсе былі закаханыя.
А скульптура кахала
Суседскага хлопчыка,
Што на сцежцы сляды
Пакідаў свае босыя,
Што зрываць лазіў кветкі
У яе агародчыку
І глядзеў на яе
Пяць гадоў па-даросламу.
І аднойчы удзень
Журавіннаю восенню,
Калі кнігаўкі нешта
Між імхамі высвісталі,
Напаткала дзяцінства
Сваю казку дзівосную,
І яго да шчакі
Тая казка прыціснула.
Рос хлапчук.
І калі бег у школу ён —
Ля парога
Сялянскае хаты пахілае
Цалавала пры ўсіх
Яго казка вясёлая,
Цалавала, як самага
Мілага-мілага.
Ён штоноч яе сніў,
І пакляўся у марах ён,
Што бялюткай, як гай
Ля дарогі бярозавы,
Створыць казку сваю
З найбялейшага мармуру,
Створыць гэткай,
Якой у лясным
Бачыў возеры.
Так дзяцінства жыло
Ў век, вайной пакалечаны.
Прыгажосць так жыла
Ў час, вайною агорнуты.
...На пажарышчы хлопчык
Знайшоў чалавечае
Дзявочае цела —
Чарней вугалю чорнае.
І на момант знямеў,
Як нямеюць у буру, ён.
І дзіцячае сэрца
Зрабілася каменем.
На калені упаў
Ён над чорнай скульптураю,
Да яе асцярожна
Дакрануўся рукамі ён.
На чырвоным снягу
Злосна крыллямі хлопала
Варанне, што па следу
Фашыстаў вярнулася.
А дзявочае цела
Стала кучкаю попелу,
Як рука хлапчука
Да яго дакранулася.
...Попел той і дагэтуль
Б'ецца ў сэрцы паэтавым,
Б'ецца ў ціхія дні
І у раніцы зорныя.
Гэты верш напісаў
Ён для ўсіх,
Хто не ведае,
Як на свеце
Скульптуры ствараюцца
Чорныя.



ПАЭЗІЯ



- Бацькоўская хата
- •• Явар



## Уладзімір ФАМІН

●

Сумуе бацькоўская хата:
Дом новы ёй свет засланяе.
А чым жа яна вінавата,
Што літасці час не знае.

Сваё аджыла, адслужыла,
Людзям непатрэбнаю стала.
І зараз
з нястрыманай сілай
На ганку трава забуяла.

А чым вінавата хаціна,
Што ціша тут дрэмле
нямая?
Было тут нямала радзінаў,
І шчасця было тут нямала.

Рабіць —
За траіх тут рабілі,
У працы
Не зналі спачыну,
Памерацца сілай любілі,
Пад ветрам
не гнулі тут спіну.

Крыўдуе бацькоўская хата,
Не верыць ніяк
у суседа.
Ёй хочацца дужа,
каб радасць
І ў ім прапісалася
Гэтак.

●●

Дзень кінуў у возера
Сонечны якар,
Аж пырскі ляглі на траву.
У шчыльнай калоне
Ўздоўж берага
явар
Глядзіцца ў нябёс сіняву.

І, быццам лапатамі,
Лісцем шырокім
Ён пералапачвае сонца
Штодзень.
Зачэрпне і кіне
Далёка, далёка,
Рассыплецца сонца кругамі
Ў вадзе.

За дзень напрацуецца
Гэтак старанна,
Што к вечару крыллі апусціць свае,
А толькі назаўтра
Абмыецца ранак —
Ён зноў на працоўную вахту ўстае.





**Валянціна РУДАВА**

**Мал. Б. ЛЬДОКАВА**

# ТАНЬКА

Апавяданне

анька сёння прачнулася рана. Ляжала ціха, не варушачыся. Яна не ведала, колькі часу, таму што яшчэ не навучылася лічыць па гадзінніку — ёй жа толькі пяць гадоў, не глядзіце, што рослая. Раптам, нешта ўспомніўшы, яна хутка адкінула коўдру, сунула ногі ў мяккія тапачкі, якія стаялі на дарожцы ля яе ложка, і пабегла ў ванную. Сёння нават зубы пачысціла. Звычайна чысціць зубы яе прымушала мама, а сёння яна ўсё рабіла сама. Старанна выцершы твар ручніком з пеўнікам, вярнулася ў пакой.

Яшчэ з вечара Танька папрасіла, каб мама дазволіла ёй надзець чырвоную, з белымі пасачкамі ўнізе, сукенку, якую падараваў ёй тата Коля. Тата Коля не жыве з імі, ён недзе далёка, у другім горадзе. А калі нядаўна прыязджаў сюды, прывёз ёй гэтую сукенку. Мама тады чамусьці сказала: «Вось, хоча купіць дачку за анучу...» А Таньцы дык вельмі падабаецца сукенка, яна зусім не падобная на анучу, Танька яе сёння надзене першы раз, таму што пойдзе ў сад з татам Ванем, які цяпер жыве разам з імі.

Яна заўсёды хадзіла ў сад з мамай, тата Коля толькі два ці тры разы адведваў яе ў садзе.

Танька любіць тату Колю, але і тата Ваня ёй падабаецца: ён вечарамі чытае ёй цікавыя кніжкі, расказвае казкі, а нядаўна дык купіў веласіпед. У Людкі, у Танінай сяброўкі, таксама ёсць веласіпед, але той, што купіў тата Ваня, лепшы: ён на трох колах. Адно можна

*Вось ужо дванаццаць гадоў я працую ў мастацкай рэдакцыі выдавецтва «Беларусь» — рэдагую будучыя кніжкі. Неяк Аляксей Мікалаевіч Кулакоўскі, з якім не аднойчы даводзілася працаваць: і рэдагаваць яго кніжкі і сёе-тое перакладаць, між іншым папытаў, ці пішу я сама. Я нічога не адказала. Пасля ж задумалася: а што калі паспрабаваць?..*

*Мяне даўно трывожаць праблемы маральна-этычныя: чаму людзі разыходзяцца, чаму дзеці растуць без бацькоў, чаму адзін чалавек прыносіць другому адны пакуты, а другі — адмаўляецца ад уласнага «я».*

*«Танька» — першае маё апавяданне. Яно доўга ляжала ў шуфлядзе стала, перш чым я рашылася аддаць яго ў часопіс...*

*Валянціна РУДАВА.*

зняць, і тады яна будзе ездзіць, як дарослая. Пецька, хлопчык-сусед, не верыць, што тата Ваня купіў ёй веласіпед. Ён наогул кажа, што ніякага таты Вані ў яе няма. А вось сёння пабачыць няхай!

Танька адзелася, абула новыя туфлі, ну, якраз такога колеру, як малако. Малако прымушае піць мама кожную раніцу, кажучы, што ў яе не хапае такога вітаміну, які ёсць у малацэ. Падышла да люстэрка, прычасалася. А вось бант, шырокі белы бант, прыгожа завязаць, як гэта рабіла мама, не здолела. З бантам у руцэ пабегла ў другі пакой, каб пабудзіць маці. А мама ўжо ўстала сама і, убачыўшы дачку адзетай і абутай, ажно ўспляснула рукамі:

— Ты што гэта, дачушка? Толькі ж сем гадзін! Табе спаць яшчэ трэба.

— Але ж я сёння іду ў садзік разам з татам, трэба паспець сабрацца,— зусім як дарослая, адказала Танька.

— Тата яшчэ спіць...

— А ў маім пакоі ўжо бегае сонечны зайчык, ты ж сама казала, што, калі ён паявіцца, трэба ўставаць... І тата няхай устае, а то спозніцца на работу.



— Хадзем, хадзем,— узяла мама Таньку за руку і павяла з пакоя.

А потым яны ішлі па вуліцы. Была цёплая сонечная раніца. Танька трымала тату за руку. Яе маленькі кірпаты носік, здавалася, задраўся ўгору ад важнасці. Раптам на тым баку вуліцы яна ўбачыла Пецьку, які ішоў з мамай.

— Давай пяройдзем,— сказала яна, прыспешыла крок, перагнала Пецьку і, не выпускаючы вялікай татавай рукі, азірнулася і паказала Пецьку язык.

Увесь дзень у Танькі быў добры настрой. Нават ляльку Наташу з аблупленым носам аддала Людзе. А калі Пецька хацеў пабіць Ігара за тое, што той не аддаваў яму каня, падбегла да хлопчыкаў і сказала:

— Ну, нашто вы сварыцеся! Няхай першы на кані пакатаецца Пецька, а потым ты, Ігар. Па чарзе...

Вера Пятроўна, выхавацелька, назіраючы за дзяўчынкай, не магла даўмецца ніяк, што здарылася з Танькай. Яна ж заўсёды больш, чым хто іншы, давала ёй клопату: то пазабірае сабе ўсе цацкі і нікому не дасць, то паб'ецца з Пецькам, бо той таксама не саступіць, то выпэцкаецца немаведама ў што ці парве сукенку. А сёння Таньку не пазнаць, быццам падмянілі.

Вечарам, калі па дзяцей сталі прыходзіць бацькі і Танька пабегла насустрач нейкаму мужчыне ў лёгкім шэрым плашчы, напярэймы дзяўчынцы выскачыў аднекуль з кустоў Пецька і, картавячы, крыкнуў:

— Танька, а Танька, а чаму ў цябе дзве таты?

Тата Ваня — Танька бачыла — сумеўся, хутчэй узяў яе за руку і пачаў нешта гаварыць, нечаканае, паспешлівае і незразумелае. Навошта ён так?

Яна ішла і думала, што дома абавязкова спытае ў маці, чаму гэта ў яе два таты, калі ва ўсіх іншых — па адным...



ПАЭЗІЯ



## Настаўнікам



**Еўдакія ЛОСЬ**

●

Станок тэрміста, ярасныя токі,
а па станку, не верыцца вачам,
прахаджваецца голуб крутабокі,
між металічных вытанчаных рам.

Зваліўся з неба? Прыручылі хлопцы?
Абжыўся ля металу галубок!
Перад вачмі тэрміста у спяцоўцы —
бялявай аблачынкі камячок...

●●

І выкладаць прадмет вы здольныя,
і на вячорках караваць,
і пляшку асушыць супольную,
і вершы пакрытыкаваць...
Хоць не былі ў сталіцы даўненька,
пра ўсё вы чулі навакол,—
правінцыяльныя настаўнікі,
сумленне беларускіх школ!
Дзятвой палюбленыя скептыкі,
рамантыкі і пеюны,
вы не зважаеце на шэпаткі
варожай веку старызны.
Вас замяніць у справе некаму,
гатовыя вы ўсякі год,
як Канстанцін Міцкевіч некалі,
хоць на край свету — за народ!

●●●

Гэта, відаць, навечна:
будуць прыходзіць дзяўчаты,

будуць глядзець сардэчна
рослыя хлапчаняты...
Будзе цікава з імі,—
забудзеш, немаладая,
што над гадамі тваімі
ціха любоў рыдае...
Адзін з малайцоў гулліва
зірне з-пад брыва крутога,—
зробішся ты шчаслівай,
хоць бровы нахмурыш строга...
Гэта, відаць, навечна!..



Тады паўнейшы месяц усплываў
і горы уздымаліся дугою...
Тады па мне ніхто не сумаваў,
і я сама не зналася з тугою.

Тады была пара няўцямных стрэч,
якія ў жарт «раманамі» завуцца...
Не праганяю я ўспаміны прэч,
калі захочуць, самі абарвуцца...

А я без слоў вітаюся з гарой,
якая і сляда майго не помніць...
Мой сум далёка, за другой зарой,
і тая ж прага стрэч істоту поўніць.



Калі б ты ведаў, кінуўся б, нябога,
далей ад неласкавых рук маіх...
Мне голас твой нагадвае другога,
я не адна з табою — мы ўдваіх...

Ты мне гаворыш — пакахаў адразу,
з найпершай стрэчы сэрца апаліў.
А я маўчу замест таго адказу,
які майго другога акрыліў.

Ім дні жыла, яго начамі сніла,
ён гордым птахам плыў перада мной...
Здаецца мне, залішне многа сілы
я крылам тым перадала вясной!



ПАЭЗІЯ

- ● *У дажджыстым тумане*
- ●● *Пытанне*
- ●●● *Снег з ветрам*
- ●●●● *Робім мы віткі*
- ●●●●● *На лавачцы ў парку*



Алесь НАЎРОЦКІ



●

У дажджыстым тумане,
там, дзе поплаў і гаць,
вочы, вочы каханай,
як дзве кроплі, гараць.

Цвёрда знаю: без іх мне
туман гэты клясці.
Цвёрда знаю: да іх мне
не дабрысці.

О вы, лёсу і неба
насмешкі адны —
я вачам тым не трэба,
а мне трэба яны.

●●

За каханне плачу я табе сваім жыццём.
Табою лячу сябе і грэю.
З думкамі пра цябе стаў я дарослым дзіцём.
О, няўжо я дзіцём і састарэю?

●●●

Снег з ветрам калючым шныраюць,
а я ледзь чутна губамі прашу:
«Трава,
прыляці з выраю,
прысядзь на ўзгоркі, на луг, на шашу,
прыляці і прысядзь за вёскай
пад алешын зрудзелых сям'ю,

сакавітым лісцяным голасам
песню мне прашумі сваю;
успамінаючы позірк далёкі
тых вачэй, не жыць без якіх,
буду я ўзлятаць пад аблокі
на зялёных крылах тваіх».



Робім мы віткі па цыферблату.
Быць павінны нервы начыку:
за праезд кароткі выдаць плату
нам на нейкім прыйдзецца вітку.



Пад жоўтай ліпай турботу
і стому стрыножыў я.
Сяджу, да роту
падношу марожанае.
Узбоч па асфальце крочаць,
я ж хвіліны растрачваю,
лапаткай-лыжачкай моўчкі
наварачваю.
Рычагі праляскалі —
праехаў, як прывід,
у сваёй калясцы
інвалід.
А вось гуляе дзіцё.
Прыпынілася, не скача.
Мацярынскае ў ім пачуццё:
ляльку трэба карміць, бо «плача».
У вачах дзіцяці — глыбокі
жанчынны спакой.
Ах, як жа ёй недалёка
да лялькі жывой!
Нейчы смех прачырыкаў.
Кавалеры — як класікі.
Нейкай дзяўчыны цікаюць
шпількі-абцасікі.
Губы ў памадзе адвіслі,
прыпудран нос.
Той памадай падкісліць
нехта свой лёс.
Эх, як жа і мне хочацца
дзіцём не быць,
з рыфмаў-слоў, як з пясочку,
пячурак не ляпіць.
У тэатрах з каханаю
глядзець п'ескі...

. . . . . . . . . .

І я ламаю драўляную
лапатку на трэскі.
Ветрык выплыў,
у жоўтай кроне сціх.
Чуе адна толькі ліпа
мой важкі ўздых...



Агата КРЫСЦІ

Мал. Ю. ПУЧЫНСКАГА

# СПРАВА АДНОЙ БАГАЦЕЙКІ

Апавяданне

З кнігі «МІСТЭР ПАРКЕР ПАЙН, ДЭТЭКТЫЎ»

Містэру Паркеру Пайну далажылі, што на прыём прыйшла місіс Эбнер Раймер. Ён ведаў гэтае імя і таму здзіўлена ўскінуў бровы.

Неўзабаве новая кліентка ўвайшла ў кабінет.

Місіс Раймер была высокая, мажная жанчына. Нават тоўстае футра не магло схаваць нязграбную постаць. Твар круглы, шырокі, чырванаваты. Чорныя валасы прычасаны па апошняй модзе, капялюшык аздоблены страусавым пяром.

Наведвальніца ўпала ў крэсла.

— Добрай раніцы! — сказала яна з грубаватым акцэнтам.— Калі вы наогул на што-небудзь здатныя, скажыце, як мне патраціць свае грошы?

— Вельмі арыгінальна...— прамармытаў Паркер Пайн.— У наш час мала хто задае такія пытанні. Вы сапраўды лічыце гэтую праблему невырашальнай?

— Вядома,—адрэзала наведвальніца.— У мяне тры футравыя шубкі, безліч модных французскіх убораў і ўсяго такога. Маю машыну і дом на Парк-Лэйне. Была і яхта, але я не люблю мора. У мяне мноства першакласнай прыслугі. Трохі паездзіла па свеце, пабачыла чужыя краіны. Але цяпер, бог сведка, усё мне абрыдла, нічога не хочацца ні купляць, ні рабіць.— Дама з надзеяй глянула на містэра Пайна.

— Ёсць яшчэ бальніцы...— сказаў той.

— Што? Так проста аддаць грошы? Дудкі! Грошы зароблены, каб вы ведалі, цяжкай працай. Калі думаеце, што я збіраюся выкінуць іх, вы глыбока памыляецеся. Хачу іх патраціць, але так, каб была якая карысць. Дык вось, калі вам прыйдзе ў галаву якая вартая ідэя, можаце разлічваць на добры ганарар.

— Прапанова ваша мяне зацікавіла,— сказаў містэр Пайн.— Вы не ўпаміналі дачу.

— Забылася. Дача ў мяне ёсць. Страшэнна надакучыла.

— Раскажыце больш падрабязна пра сябе.



— З ахвотай. Мне не сорамна за маё паходжанне. Працавала на ферме. Калі была яшчэ дзяўчынай. Цяжкая была, скажу я вам, работа. Аднойчы пазнаёмілася з Эбнерам — ён працаваў непадалёк. Восем год заляцаўся да мяне, потым мы пажаніліся.

— Замуства было шчаслівае? — спытаўся містэр Пайн.

— Так. Але было і цяжкавата — двойчы ён заставаўся без работы, пайшлі дзеці. У нас было чацвёра, тры хлопчыкі і дзяўчынка. Усе яны памерлі. Можа, калі б выраслі, усё пайшло б інакш.— Твар жанчыны пасвятлеў, стаў крыху маладзейшы.

У яго былі слабыя лёгкія, у Эбнера. Не ўзялі на вайну. На рабоце ўсё ішло добра. Стаў дзесятнікам. Разумны быў чалавек. Удасканаліў нейкі там працэс. Яму добра заплацілі. Ён скарыстаў тыя грошы на новыя пошукі. І пасыпалася! Цяпер ён ужо сам стаў гаспадаром. Наняў рабочых. Купіў два прадпрыемствы... Астатняе пайшло само сабой. Паплылі вялікія грошы. І цяпер яшчэ плывуць. Бачыце, спачатку было нават цікава. Свой дом, шыкоўная ванная, свая ўласная прыслуга. Ужо не трэба было самой гатаваць, скрэбці каструлі, мыць бялізну. Сядзі сабе на шаўковых падушках у гасцінай і звані ў званок, калі захочацца чаю, ну, быццам тая графіня! Смешна было, і нам гэта падабалася. А потым пераехалі ў Лондан. Уборы я шыла ў самых лепшых краўчых. Паехалі ў Парыж, на Рыўеру.

— А потым?

— Прывыклі да гэтага, здаецца. Але праз нейкі час стала неяк не па сабе. Былі дні, калі ежа нам не лезла ў горла,— а мы ж маглі заказаць, што захочацца! А тут яшчэ здароўе Эбнера пагоршылася. Многа плацілі дактарам. Плацілі многа, але яны нічога не маглі зрабіць. Спрабавалі тое, гэтае. Усё дарэмна. Ён памёр. Яшчэ малады чалавек — усяго сорак тры гады.— Жанчына змоўкла.

Містэр Пайн спачувальна паківаў галавой.

— Пяць гадоў прайшло, а грошы ўсё сыплюцца і сыплюцца. Я не магу прыдумаць, што б яшчэ купіць.

— Зразумела,— сказаў містэр Пайн.— Жыццё ваша сумнае. Яно не радуе вас.

— Надакучыла,— сказала місіс Раймер паныла.— У мяне няма сяброў. Новым патрэбны толькі розныя ахвяраванні, за спіной яны смяюцца з мяне. А старыя сябры адышлі. Бянтэжацца, калі бачаць, як я раз'язджаю на машыне. Дапамажыце мне чым-небудзь, парайце! Можаце?

— Магчыма, што і магу,— раздумна адказаў містэр Пайн.— Цяжкавата будзе, але, думаю, ёсць шанц на поспех. Магчыма, мне ўдасца вярнуць вам тое, што вы страцілі — цікавасць да жыцця.

— Якім чынам?

— Гэта,— адказаў містэр Паркер Пайн,— мая прафесійная тайна. Я ніколі загадзя не раскрываю сваіх планаў. Толькі скажыце — ці можаце вы рызыкнуць? Я не гарантую поспеху, аднак, думаю, нейкая магчымасць удачы ёсць.

— Колькі ж гэта будзе каштаваць?

— Мне давядзецца ўжыць незвычайныя захады, таму давядзецца нямала патраціцца. Вазьму з вас тысячу фунтаў, вы іх заплаціце наперад.

— Ну і цана! — амаль у захапленні ўсклікнула місіс Раймер.— Але я рызыкну. Прывыкла за ўсё плаціць утрая даражэй. Аднак, калі я ўжо за што-небудзь даю грошы, дык стараюся абавязкова атрымаць тое, за што заплаціла.

— І вы атрымаеце,— сказаў містэр Паркер Пайн,— не бойцеся.

— Сёння ўвечары прышлю вам чэк.— Місіс Раймер паднялася з крэсла.— Сама не ведаю, чаму даверылася вам! Кажуць, дурні і грошы хутка разыходзяцца. А ў тым, што я дурніца, мне не боязна прызнацца. Вы саманадзейна абвясцілі ў газеце, што можаце зрабіць людзей шчаслівымі...

— Аб'явы ў газеце каштуюць грошай,— сказаў містэр Пайн.— Калі б я не стрымаў свайго слова, усе тыя грошы прапалі б. Я ведаю, дзе прычына няшчасця, таму ўмею стварыць адпаведныя ўмовы для шчасця.

Місіс Раймер недаверліва паківала галавой і пайшла, пакінуўшы пасля сябе водар дарагой парфумы.

Прыгажуня Клод Латрэль хуценька ўвайшла ў кабінет:

— Што-небудзь па маёй частцы?

Містэр Пайн пакруціў галавой:

— Даволі складаная справа. Так, нялёгкі выпадак. Баюся, прыйдзецца пайсці на рызыку.

— Можа, місіс Олівер?

Пачуўшы імя славутай пісьменніцы, містэр Пайн усміхнуўся.

— Місіс Олівер,— сказаў ён,— сапраўды больш за ўсіх падыходзіць. Але я прыдумаў больш дзёрзкі і смелы ход. Дарэчы, пазваніце, калі ласка, доктару Антробусу.

— Антробусу?

— Так. Спатрэбяцца яго паслугі.

Праз тыдзень місіс Раймер зноў з'явілася ў кабінеце Паркера Пайна. Той устаў, вітаючы яе.

— Затрымка, запэўняю вас, была выклікана неабходнасцю,— сказаў ён.— Патрэбна было шмат чаго ўладзіць, заручыцца паслугамі аднаго незвычайнага чалавека, якому давялося праехаць паў-Еўропы.

— Ох! — усклікнула жанчына іранічна. У яе з галавы не выходзіла, што яна выпісала чэк на тысячу фунтаў стэрлінгаў і што па чэку выплачаны грошы.

Містэр Паркер Пайн націснуў кнопку зумера. На выклік у кабінет увайшла маладая смуглявая дзяўчына, апранутая ў белы халат медыцынскай сястры.

— Усё гатова?

— Гатова. Доктар Канстанцін чакае.

— Што вы збіраецеся рабіць? — спыталася місіс Раймер.

— Крыху пазнаёміць вас з усходняй магіяй, мадам,— адказаў Паркер Пайн.

Місіс Раймер услед за сястрой паднялася на наступны паверх. Яе правялі ў пакой, не падобны да іншых у доме. Сцены былі ўпрыгожаны ўсходнімі вышыўкамі. Стаялі канапы з мяккімі падушкамі, падлогу ўсцілалі прыгожыя дываны. Нейкі чалавек сагнуўся над кафейнікам. Калі яны ўвайшлі, ён выпрастаўся.

— Доктар Канстанцін,— сказала сястра.

Доктар быў апрануты па-еўрапейску. Твар меў смуглы, вочы цёмныя, незвычайна вострыя і пранізлівыя.

— Гэта мой пацыент? — спытаўся ён нізкім голасам.

— Я не пацыент,— адрэзала місіс Раймер.

— Целам вы не хворая,— паясніў доктар,— але душою вы стаміліся. Мы, усходнія ўрачы, ведаем, як лячыць гэту хваробу. Сядайце, выпіце кубачак кавы.

Місіс Раймер села і ўзяла ў рукі маленечкі кубак з духмяным напіткам. Пакуль яна няспешна сёрбала, доктар гаварыў:

— Тут, на захадзе, лечаць толькі цела. Гэта вялікая памылка. Цела — усяго толькі інструмент. На ім іграюць мелодыю. Мелодыя можа быць сумная, дакучлівая. А можа весяліць, выклікаць захапленне. Вось апошняе мы ў вас і выклічам. У вас ёсць грошы. Вы са задавальненнем будзеце іх траціць. Жыццё зноў стане для вас цікавым. Гэта лёгка... лёгка... лёгка...

Пачуццё нейкай вяласці найшло на місіс Раймер. Постаці доктара і сястры пачалі расплывацца. На яе наляцела хваля глыбокага шчасця, захацелася спаць. Усё, што было навокал, пачало расці ў яе вачах.

— Спіце,— гаварыў доктар,— спіце. Вашы павекі заплюшчваюцца. Хутка заснеце. Будзеце спаць. Спаць...



Вочы місіс Раймер заплюшчыліся. Яна плыла ў нейкім цудоўным, вялікім прасторным свеце...

Калі яна расплюшчыла вочы, ёй здалося, што прайшло шмат часу. Сёе-тое засталося ў памяці, але нібы ахутанае туманам,— дзіўныя, неверагодныя сны; потым пачуццё абуджэння; затым зноў сны.

Цяпер яна ляжала на сваім ложку.

Але ці яе гэта ложак? Нешта ён не такі, няма той чароўнай мяккасці, да якой яна так прывыкла. Яна паварушылася, ложак зарыпеў. Той, у якім місіс Раймер спала на Парк-Лэйне, ніколі не рыпеў.

Яна агледзелася. Не, ні ў якім разе... Гэта не Парк-Лэйн. Можа, бальніца? Не, падумала яна, не бальніца. І не гасцініца. Пусты пакой, сцены нейкага невыразнага бэзавага адцення. Драўляны сасновы ўмывальнік, са збанам і тазам.

Сасновая камода з бляшанай шуфлядай. На калках вешалкі нейкае незнаёмае адзенне. Ложак з латанай-пералатанай падшыванай коўдрай, а сама яна — у гэтым ложку.

— Дзе я? — запыталася місіс Раймер.

Дзверы адчыніліся, у пакой таропка ўвайшла пухлявая маленькая жанчына, чырванашчокая і дабрадушная з выгляду. Рукавы сукенкі падкасаныя, зверху фартух.

— Ага! — усклікнула жанчына.— Яна прачнулася! Уваходзьце, доктар.

Місіс Раймер хацела была нешта сказаць, але передумала, бо чалавек, які ўвайшоў следам за пухлявай жанчынай, зусім не падобны быў на элегантнага чарнявага доктара Канстанціна. Перад ёю быў згорблены стары. Вочы закрывалі тоўстыя шкельцы акуляраў.

— Вось гэтак лепш,— сказаў ён, падышоўшы да ложка і ўзяўшы руку місіс Раймер.— Неўзабаве вам стане лепш, даражэнькая.

— Што са мной было? — спыталася місіс Раймер.

— Нешта накшталт апаплексічнага ўдару. Вы знаходзіліся ў непрытомнасці дзень або два. Нічога сур'ёзнага.

— Ну і напужалі вы нас, Ганна,— сказала жанчына.— Трызнілі, гаварылі дзіўныя рэчы.

— Місіс Гарднер,— перабіў яе доктар.— Нельга хваляваць хворую. А вы хутка паправіцеся, даражэнькая.

— Наконт работы не турбуйцеся, Ганна,— сказала місіс Гарднер.— Мне дапамагала місіс Робертс, і мы нядрэнна ўправіліся. Ляжыце сабе спакойна, папраўляйцеся, любачка.

— Чаму вы завеце мяне Ганнай? — спыталася місіс Раймер.

— Як жа, гэта ж ваша імя! — здзівілася місіс Гарднер.

— Не, не маё. Мяне завуць Амеліяй. Я — Амелія Раймер. Місіс Эбнер Раймер.

Доктар і місіс Гарднер пераглянуліся.

— Добра, добранька, толькі ляжыце спакойна,— сказала місіс Гарднер.

— Так, так, не хвалюйцеся,— дадаў доктар.

Яны пайшлі. Чаму яны завуць яе Ганнай? Навошта перакінуліся позіркамі, у якіх яна прачытала спагадлівае здзіўленне. Дзе яна? Што з ёю?

Яна ўстала з пасцелі, паволі падышла да маленькага мансардавага акенца і выглянула. Вясковы двор! Канчаткова заінтрыгаваная, яна зноў лягла ў пасцель. Што прывяло яе на ферму, якую яна ніколі і ў вочы не бачыла?

У пакой зноў увайшла місіс Гарднер. Яна трымала паднос, на якім стаяў кубак з булёнам.

— Як я апынулася ў гэтым доме? Хто мяне сюды прывёз?

— Ніхто вас сюды не прывозіў, любачка. Тут ваш дом. Вы ў ім жывяце апошнія пяць год...

— Я жыву тут пяць год? Цэлых пяць год?

— Так. І ведаеце мяне.

— Я тут ніколі не жыла! Вас я ніколі не бачыла!

— Зразумейце, вы хварэлі і ўсё забылі.

— Тут я ніколі не жыла!

— Ну што вы, любачка, гэта ж ваш дом! — Місіс Гарднер раптам кінулася да камоды і падала місіс Раймер выцвілую фатаграфію ў рамцы.

На фатаграфіі было чацвёра: барадаты мужчына, поўная жанчына (місіс Гарднер), высокі цыбаты дзяцюк з прыемнай сарамлівай усмешкай і нехта ў паркалёвай сукенцы з фартухом. Ды гэта ж яна, Раймер!

Місіс Раймер з вялікім здзіўленнем разглядвала фатаграфію. Місіс Гарднер паставіла паднос з булёнам побач з яе ложкам і ціхенька выйшла.

Місіс Раймер піла маленькімі глыткамі з кубка. Булён быў добры, наварысты, гарачы. Хто тут вар'ят? Місіс Гарднер ці яна? Нехта з іх абавязкова. Аднак ёсць яшчэ і доктар!

— Я — Амелія Раймер,— цвёрда рашыла яна.— Упэўнена, што я Амелія Раймер, і хай мне хто-небудзь скажа, што гэта не так!

Выпіўшы булён, яна паставіла кубак на паднос. Яе ўвагу прыцягнула газета. Яна ўзяла газету і зірнула на дату — 19 кастрычніка. Калі ж гэта яна пайшла ў кантору да містэра Паркера Пайна? Пятнаццатага альбо шаснаццатага. Значыць, яна хварэе тры дні.

— Прайдзісвет! — раззлавалася яна на доктара.

Усё ж ёй стала крыху лягчэй. Яна чула пра выпадкі, калі на многа год людзі забываліся, хто яны такія. І баялася, што, можа, нешта падобнае здарылася і з ёю.

Яна пачала перагортваць старонкі газеты, ленавата праглядаючы калонкі, як раптам адна заметка кінулася ёй у вочы:

«Учора ў прыватнае завядзенне для псіхічна хворых была дастаўлена місіс Эбнер Раймер, удава Эбнера Раймера — «гузікавага караля». Апошнія два дні яна ўпарта сцвярджала, што яна не Рай-

мер, а прыслуга па імені Ганна Мурхаус».

— Ганна Мурхаус! Вось яно што! — сказала місіс Раймер.— Яна — гэта я, а я — гэта яна. Нешта накшталт двайніка. Ну, гэта можна хутка паправіць! Калі той ліслівы ашуканец Паркер Пайн задумаў нейкія хітрыкі ці...

Але тут на вочы трапіла прозвішча: Канстанцін, і яна пачала чытаць:

«Заява доктара Канстанціна.

На развітальнай лекцыі, якую доктар Канстанцін прачытаў учора, напярэдадні свайго ад'езду ў Японію, ён прапанаваў некалькі надзвычайных тэорый. Ён заявіў, што ёсць магчымасць даказаць існаванне душы шляхам перамяшчэння яе з аднаго цела ў другое. У працэсе сваіх эксперыментаў на Усходзе яму ўдалося, як ён сцвярджаў, ажыццявіць двайное перамяшчэнне — душа загіпнатызаванага цела А была перамешчана ў загіпнатызаванае цела Б, а душа Б—у цела А. Пасля абуджэння ад гіпнатычнага сну А заявіла, што яна Б, а Б прыняла сябе за А.

Каб эксперымент удаўся, неабходна знайсці двух індывідуумаў, вельмі падобных адзін да аднаго. Неабвержным фактам з'яўляецца тое, што два чалавекі, якія падобны адзін да аднаго, з'яўляюцца гарманічнымі істотамі. Гэта асабліва наглядна заўважалася ў выпадку з двайнятамі, аднак, і два чужыя чалавекі, якія рэзка адрозніваліся сваім сацыяльным становішчам, але вылучаліся незвычайным знешнім падабенствам, праявілі такую ж гармонію».

Місіс Раймер адкінула ад сябе газету.

— Нягоднік! Падлюга! Прайдзісвет!

Цяпер яна ўсё зразумела. Яны пакваціліся на яе грошы! Гэтая Ганна Мурхаус— марыянетка ў руках Паркера Пайна. Разам з гэтым прайдзісветам Канстанцінам ён ажыццявіў неверагодны трук.

Але яна выкрые яго! Яна пакажа ўсяму свету яго сапраўдны твар! Засудзіць яго! Усім раскажа...

Але тут місіс Раймер успомніла першую заметку. Не, Ганна Мурхаус не была паслухмянай марыянеткай. Яна пратэставала, гаварыла, хто яна на самай справе. А які вынік?

— Запхнулі ў вар'яцкі дом бедную дзяўчыну,— сказала місіс Раймер. Халадок прабег па спіне.

Вар'яцкі дом... Адтуль ніколі не выпускаюць. Чым больш гаворыш, што ты ў сваім розуме, тым менш даюць табе веры. Не, місіс Раймер на гэта не пойдзе.

Дзверы адчыніліся і ўвайшла місіс Гарднер.

— А-а, вы ўжо выпілі булён, любачка. Вось і добра. Хутка папravіцеся.

— Калі мне зрабілася дрэнна?

— Дайце прыпомню... Тры дні таму назад — у сераду. Пятнаццатага. Вам стала нядобра каля чатырох гадзін.

Якраз у гэты час місіс Раймер увайшла ў пакой доктара Канстанціна.

— Вы ўскрыкнулі: «Вой!» Вось гэтак: «Вой!» А потым сонным голасам: «Я засынаю. Засынаю». І на самай справе заснулі. Мы паклалі вас у ложак і паслалі па доктара. З таго часу вы тут і ляжыцё.

— Я думаю,— нарэшце адважылася місіс Раймер,— у вас няма ніякіх спосабаў дазнацца, хто я... акрамя, можа, як па твары.

— Дзіўныя вы рэчы гаворыце! Што ж можа пасведчыць у такім выпадку лепш за твар чалавека, хацела б я ведаць? Пасля — у вас яшчэ ёсць радзімка.

— Радзімка? У мяне ніколі іх не было!

— Радзімка пад левым локцем,— сказала місіс Гарднер.— Паглядзіце самі, любачка.

— Вось зараз і праверым. — Місіс Раймер закасала рукаў сваёй начной сарочкі, убачыла радзімку і заплакала.

Прайшло чатыры дні, і місіс Раймер паднялася з пасцелі. Яна прыдумала некалькі планаў, каб дзейнічаць, але, урэшце, усе іх адкінула.

Яна магла б паказаць доктару і місіс Гарднер заметку ў газеце і ўсё ім растлумачыць. Але ці павераць яны? Місіс Раймер была ўпэўнена, што не павераць.

Можна пайсці проста ў паліцыю. Але хіба там дадуць ёй веры? І зноў вырашыла, што не.

Можна наведацца ў кантору Пайна. Гэтая ідэя ёй больш спадабалася. Першнаперш ёй карцела сказаць гэтаму нягодніку, што яна пра яго думае. Але здзяйсненню гэтага плана перашкаджала адна важная акалічнасць. Яна знаходзілася, як даведалася, у Карнуэле, і ў яе не было грошай на паездку ў Лондан. Засталіся толькі два шылінгі і чатыры пенсы.

І вось праз чатыры дні місіс Раймер прыняла рашэнне. Няхай пакуль усё будзе, як ёсць. Раз яна — Ганна Мурхаус, хай будзе Ганнай Мурхаус. Яна ўвойдзе ў гэтую ролю, але пазней, калі збярэ дастаткова грошай, паедзе ў Лондан і смела рынецца ў бойку.

Парашыўшы на гэтым, місіс Раймер пачала самаахвярна іграць сваю ролю. Цяперашняе жыццё нагадвала ёй дзяцінства. Як, здаецца, даўно гэта было!

Праца здавалася ёй трохі цяжкаватай пасля столькіх гадоў лёгкага жыцця, але праз нейкі тыдзень яна звыклася са сваім становішчам.

Місіс Гарднер была лагодная, сардэчная жанчына. Муж яе — мажны негаваркі чалавек — таксама падабаўся місіс Раймер.

Мінаў тыдзень за тыднем. Нарэшце надышоў дзень, калі місіс Раймер сабрала дастаткова грошай на білет у Лон-

дан. Але не паехала. Адклала. Куды спяшацца? — думала яна. Ёй не давала спакою думка пра псіхіятрычную бальніцу. Гэты нягоднік Паркер Пайн хітры. Ён прымусіць якога-небудзь доктара сказаць, што яна вар'ятка, і яе запхнуць у такое месца, пра якое ні адна жывая душа не пранюхае.

— Да таго ж,— гаварыла сабе місіс Раймер,— невялічкая перамена заўсёды на карысць чалавеку.

Уставала яна рана і шмат працавала. Узімку Джо Уэлш, новы работнік, захварэў, і ёй разам з місіс Гарднер даводзілася даглядаць яго. Гэты дужы мужчына быў бездапаможны, як дзіцё.

Настала вясна. Джо Уэлш паправіўся і памагаў Ганне ў рабоце. Яна рамантавала яму адзенне. Іншы раз у суботу яны разам выходзілі прагуляцца. Джо быў удавец. Жонка яго памерла чатыры гады назад. Пасля яе смерці, як ён сам прызнаўся, ён вельмі прыахвоціўся да бутэлькі. Цяпер жа ён не надта ўжо каб выпіваў. Купіў сабе тое-сёе з вопраткі. Гарднеры толькі пасмейваліся.

Ганна нязлосна пакеплівала з яго. Але Джо не злаваўся.

Пасля вясны настала лета — надзвычай тым годам добрае лета. Усе многа працавалі.

Жніво скончылася. Лісце на дрэвах пачырванела і зазалацілася.

Восьмага кастрычніка, падразаючы качаны капусты, Ганна раптам убачыла Паркера Пайна. Ён стаяў, перагнуўшыся цераз паркан.

— Гэта вы! — усклікнула Ганна.— Вы!

І яна сказала ўсё, што думала пра яго.

Паркер Пайн лагодна ўсміхнуўся.

— Я з вамі згодзен,— сказаў ён.

— Махляр і ашуканец, вось вы хто! Разам з вашым Канстанцінам, і гіпнозам, і гэтай небаракай Ганнай Мурхаус, якую вы заперлі разам з псіхамі.

— Не,— адказаў Паркер Пайн,— вось тут вы памыляецеся. Ганны Мурхаус няма ў вар'яцкім доме, таму што яе наогул ніколі не існавала.

— Праўда? А як жа наконт яе фатаграфіі, якую я бачыла на свае вочы?

— Фальшыўка. Такое сфабрыкаваць проста.

— А тая штука ў газеце?

— Уся газета падроблена. Як бачыце, усё ўдалося як найлепш.

— З дапамогай гэтага прайдзісвета — доктара Канстанціна!

— Прыдуманае прозвішча. Яго выдумаў адзін мой сябар.

— Хо! Можа мяне і не гіпнатызавалі?

— Праўду кажучы, не. Вам у каву быў падсыпаны парашок з гашышам. Потым вам увялі і іншыя прэпараты і прывезлі на машыне сюды.

— Значыць, місіс Гарднер была тут увесь час?

Містэр Паркер кіўнуў галавой.

— Пэўна, добра заплацілі!

— Місіс Гарднер мне давярае,— сказаў містэр Пайн.— Калісьці я ўратаваў яе адзінага сына ад катаргі.

Нешта ў яго голасе прымусіла місіс Раймер прыкусіць язык. Потым яна запытала:

— А як з радзімкай?

Містэр Пайн усміхнуўся:

— Яна ўжо блякне. Праз шэсць месяцаў зусім сыдзе.

— Што ўсе гэтыя вашы дурыкі значаць? Пацешыцца з мяне захацелі? Запіхнуць сюды як прыслугу — мяне, у якой такія грошы ў банку! Але якая карысць задаваць вам такія пытанні? Вы, мой дабрадзею, самі ўхапіліся за мае грошы. Вось, што гэта значыць.

— У тым, што вы сказалі, ёсць доля праўды, місіс Раймер, бо калі вы, прыняўшы наркотыкі, далі мне права паверанага, і ў час вашай э-э... адсутнасці я ўзяў кантроль над вашымі фінансавымі справамі. Але запэўняю вас, мадам, што, акрамя тысячы долараў задатку, ніводная ваша манета не трапіла да мяне ў кішэню. Наадварот, ваша фінансавае становішча палепшылася.

— Тады чаму...— пачала была місіс Раймер.

— Хачу задаць вам адно пытанне, місіс Раймер,— перабіў яе містэр Пайн.— Вы сумленная жанчына. І дасцё шчыры адказ, я ведаю. Хачу запытацца ў вас — цяпер вы шчаслівая?

— Шчаслівая! Украў у жанчыны ўсе грошы ды яшчэ пытаецца, ці шчаслівая яна. Верх нахабства!

— Вы сярдуеце,— сказаў ён.— Зусім натуральна. Але на хвілінку забудзьцеся пра гэта. Місіс Раймер, калі год таму назад вы прыйшлі да мяне ў кантору, вы былі няшчасны чалавек. Ці можаце вы зараз сцвярджаць, што вы жанчына няшчасная? Калі так, дык прашу прабачыць мне. Можаце па закону прыняць супраць мяне любыя меры. Больш таго, я вярну вам назад тую тысячу фунтаў, якія вы мне авансавалі. Скажыце ж, місіс Раймер, вы ўсё яшчэ няшчасная?

Місіс Раймер моўчкі пазірала на Паркера Пайна, а калі нарэшце загаварыла, апусціла вочы:

— Не, я не няшчасная.— Ноткі здзіўлення пачуліся ў яе голасе.— Я ніколі не была такой шчаслівай з тае пары, як памёр Эбнер. Я... я хутка выйду замуж за аднаго чалавека, які тут працуе. Джо Уэлш яго імя. У наступную нядзелю ў царкве аб'явяць пра наша ўступленне ў шлюб...

— Але зараз, вядома, усё перамянілася? — спытаў містэр Пайн.

Твар місіс Раймер загарэўся.

— Што вы маеце на ўвазе? Можа, вы думаеце, што, калі б у мяне былі ўсе грошы свету, я б зрабілася лэдзі? А я

не хачу быць лэдзі. Шчыра дзякую! Гэта ж бездапаможная, ні на што не здольная кучка людзей. Мы падыходзім з Джо адзін аднаму і, думаю, будзем жыць шчасліва. Што ж датычыцца вас, містэр Паркер-Махкер, дык ідзіце прэч адсюль і не лезце ў чужыя справы.

Паркер Пайн выняў з кішэні нейкую паперку і падаў яе місіс Раймер.

— Правы паверанага,— сказаў ён.— Можа, парваць? Цяпер вы самі будзеце распараджацца сваім багаццем, як я разумею.

Дзіўны выраз з'явіўся на твары місіс Раймер. Яна адштурхнула руку з паперкай.

— Вазьміце яе назад. Я вам тут шмат чаго нагаварыла, і сёе-тое вы заслужылі. Але ўсё роўна я вам веру. Пакладзіце ў мясцовы банк на маё імя сем тысяч фунтаў — на гэтыя грошы мы купім гаспадарку. Астатнія грошы... хай яны пойдуць на бальніцы.

— Ці не хочаце вы сказаць, што ўсё ваша багацце вы перадаеце бальніцам?

— Якраз гэта я і маю на ўвазе. Джо мілы, добры чалавек, але слабы. Дай яму грошы, ён загубіць сябе. Я адвучыла яго піць і не дам яму зноў узяцца за старое. Дзякуй богу, я ведаю, што рабіць. Не дазволю, каб паміж мною і шчасцем ляглі грошы!

— Вы незвычайная жанчына,— прамовіў містэр Пайн.— Адна з тысячы дзейнічала б так, як вы.

— Значыць, толькі ў адной з тысячы ёсць на плячах галава.

— Здымаю перад вамі капялюш,— сказаў містэр Паркер Пайн нейкім незвычайным голасам. Ён урачыста прыўзняў свой капялюш, павярнуўся і пайшоў.

— А Джо нічога не павінен пра гэта ведаць, глядзіце! — гукнула яму ўслед місіс Раймер.

Яна стаяла з вялікім блакітна-зялёным качаном капусты ў руцэ, адкінуўшы назад галаву, распрастаўшы плечы. Велічная постаць жанчыны-сялянкі на фоне па-вячэрняму нізкага сонца...

З англійскай мовы.
**Пераклад Сямёна ДОРСКАГА.**

## Красавіцкі нумар пазнаёміць вас з аповесцю

## Леаніда ГАЎРЫЛКІНА

## «Зачынен на рамонт»

## і паэмай Веры ВЯРБЫ «Каліна».

*Вы прачытаеце*

*апавяданне Генрыха ДАЛІДОВІЧА,*

*вершы Іосіфа Скурко.*

# ПУБЛІЦЫСТЫКА



- Васіль СВЯТЛОЎ
- Наталля ПАПОВА
- Ігар КРАЎЧАНКА
- Валянцін ЖДАНОВІЧ
- Іосіф ХАЎРАТОВІЧ
- Фёдар ЯФІМАЎ
- Сяргей ПАНІЗНІК

# ЧАЛАВЕК

*Да 100-годдзя з дня нараджэння Аляксея Максімавіча Горкага*



«Наша літаратура — наша гордасць, лепшае, што створана намі, як нацыяй. У ёй — уся наша філасофія, у ёй адлюстраваны вялікія парывы духу; у гэтым дзівосным, з казачнай хуткасцю пабудаваным храме па сённяшні дзень ярка гараць розумы вялікай прыгажосці і сілы, сэрцы святой чысціні — розумы і сэрцы сапраўдных мастакоў».

Так сказаў пра рускую літаратуру Аляксей Максімавіч Горкі ў сваім вядомым артыкуле «Разбурэнне асобы» ў 1909 годзе.

За шэсць дзесяткаў гадоў, што прайшлі з таго часу, у рускую літаратуру прыйшло яшчэ нямала талентаў, якія памножылі яе красу і славу, адкрылі свету новыя гарызонты жыцця, новыя ўзлёты чалавечага духу. І сярод іх першае месца належыць самому Горкаму.

# ЧАЛАВЕЦТВА

Мастака нараджае час. Горкага нарадзіла народная нянавісць да паднявольнага, рабскага жыцця, якая стагоддзямі выспявала ў душы рускага чалавека і выбухнула з такою сілай у рэвалюцыйна-вызваленчым руху пачатку нашага стагоддзя. Горкі быў першы з пісьменнікаў, хто адчуў веліч надыходзячых падзей, гаварыў Луначарскі. І не толькі адчуў — ён аддаў рэвалюцыі і свой талент і сваё жыццё, стаўшы яе прарокам і яе песняром.

Вялікі майстар, нястомны работнік літаратуры, Горкі стварыў для пакаленняў шырокую карціну рускага жыцця, у глыбінях якога выспявала рэвалюцыя. Але гэтая карціна была б не адзіная ў шэрагу іншых намаляваных вілікімі мастакамі Расіі, каб яна не мела свайго, горкаўскага апазнавальнага знаку — шырокай праекцыі на будучыню. Веліч Горкага, апрача ўсяго іншага, заключаецца яшчэ і ў тым, што, творачы як мастак, ён пракладваў новай літаратуры шлях і як філосаф, выпрацоўваючы яе творчы метад — метад сацыялістычнага рэалізму.

Але Горкі быў не толькі вялікі мастак. Грамадскі і палітычны дзеяч, сябар і паплечнік Леніна, ён стаяў ля калыскі маладой савецкай культуры, і кожны крок яе развіцця быў непарыўна звязаны з яго імем. Уважлівы і клапатлівы настаўнік, Горкі выхоўваў і пеставаў не толькі маладых літаратараў, але і маладыя літаратуры, якія набіралі сілу пасля асвяжальных кастрычніцкіх навальніц.

Заўсёды будзе ўдзячны яму наш беларускі народ, абуджэнне якога ўлавіла чуйнае вуха Горкага ў першых творах Купалы і Коласа. Цікавасць Максіма Горкага да літаратуры беларусаў не згасала з часоў «Нашай нівы», чытачом і падпісчыкам якое ён з'яўляўся. Горкі асабіста ведаў Янку Лучыну, цікавіўся творчасцю Максіма Багдановіча, заўважыў і ўпадабаў купалаву «Адвечную песню»: «...слаўная рэч!», быў знаёмы з творчасцю Янкі Маўра. Уплыў жа самога горкаўскага таленту на нашу літаратуру — неацэнны.

Многа вялікіх талентаў у сусветным пантэоне славы. І кожны з іх праменіцца сваёй асабліваю думкаю пра чалавека, пра жыццё. Горкі з небывалаю да яго мастацкаю сілай адкрыў у чалавеку неадольны парыў да ідэалу і гэтым заваяваў сабе пачэснае месца сярод слаўных сыноў нашай зямлі. Любоў да гэтага чалавека, які вызваляўся ад рабства і ад усяго рабскага ў сабе самім, чалавека-змагара і багаборца, і спаліла вялікае сэрца Горкага. І няхай сённяшні чалавек яшчэ далёкі ад ідэалу, няхай яму яшчэ ісці ды ісці да той вышыні, на якую яго ўзнёс Горкі, але ён са светлай удзячнасцю за веру ва ўсё лепшае, што ў ім ёсць, будзе імкнуцца за гордым духам Горкага ўперад — і вышэй. Усё ўперад, і ўсё — вышэй!

# ДЗЕ РАЗГОРТВАЎ КРЫЛЫ

# *БУРАВЕСНІК*



Моцная дружба яднала двух вялікіх людзей — Уладзіміра Ільіча Леніна і Максіма Горкага.

Каб зразумець пісьменніка, сказаў некалі Гётэ, трэба пабыць у яго краіне.

Краіна Максіма Горкага — гэта самыя глыбіні народнага жыцця, дзе нараджаўся і пакутаваў, шукаючы шляхоў да іншага, лепшага жыцця, рускі працоўны чалавек на пераломе двух стагоддзяў, у пярэдадзень вялікіх сацыяльных навальніц, што ўскалыхнулі ўсю планету. У гэтай краіне, як пісаў з болем Горкі, панаваў «дзікі хаос, буйнае кіпенне шматлікіх, дробных і буйных, зусім непрымірымых супярэчнасцей; у масе сваёй яны стваралі пачварную трагікамедыю,— ролю галоўнай гераіні ў ёй іграла прагавітасць уласніка».

Розныя людзі насялялі гэтую краіну, і па-рознаму да іх адносіўся Горкі.

Вось муж і жонка Скалабанавы — гаспадары іканапіснай майстэрні, у якой працаваў у 1882—1883 гадах трынаццацігадовы Алёша Пешкаў і пра якую з такім едкім гумарам расказана ў цудоўным горкаўскім «Дзяцінстве».

Казанскі булачнік Васіль Сямёнаў. Той, пра якога Горкі пісаў у 1912 годзе ў пісьме да Іванова-Разумніка: «Мяне марксізму вучыў лепш і больш, чым кнігі, казанскі булачнік Сямёнаў». Перад тварам такіх бязлітасных эксплуататараў, што выйшлі з народа, ушчэнт развейваліся народніцкія ілюзіі маладога Алёшы Пешкава.

Глядзіш на гэтыя здымкі, і з нейкім шчымлівым смуткам успамінаюцца словы Горкага: «Я не чакаў дапамогі звонку і не спадзяваўся на шчаслівы выпадак, але ва мне паступова расла валявая ўпартасць, і чым цяжэй складваліся ўмовы жыцця, тым мацнейшым і нават разумнейшым я адчуваў сябе. Я вельмі рана зразумеў, што чалавека стварае яго супраціўленне навакольнаму асяроддзю».

Прасочваючы, як з Алёшы Пешкава нараджаўся Максім Горкі, нельга абысці бакалейнай крамы Андрэя Дзеранкова ў Казані. У пакойчыку за крамай у Дзеранкова была багатая бібліятэка рэдкіх і забароненых кніг. Тут і пачаў сустракацца Алёша Пешкаў з рэвалюцыйна на-

строенымі студэнтамі. «Размовы гэтых людзей,—успамінаў пазней Горкі,— падалі на сэрца асвяжальным дажджом».

Калі да Дзеранкова пачаў наведвацца гарадавы Нікіфаравіч, было вырашана, што студэнты будуць прыходзіць сюды як мага радзей. І Горкі ўспамінае:

«Не бачачы іх, я амаль не меў магчымасці пытацца пра незразумелае ў прачытаных кнігах і пачаў запісваць пытанні, якія цікавілі мяне, у сшытак. Але аднойчы, стомлены, заснуў над ім, а пекар прачытаў мае запіскі. Разбудзіўшы мяне, ён спытаў:

— Што гэта ты пішаш? «Чаму Гарыбальдзі не прагнаў караля?» Што такое Гарыбальдзі? І — хіба можна ганяць каралёў?

Сярдзіта кінуў сшытак на скрыню, залез у прыямак і бурчаў там:

— Скажы, калі ласка,— каралёў трэба ганяць яму. Смех. Ты гэтыя выдумкі пакінь. Чытака! Гадоў пяць таму назад у Саратаве такіх чытак жандары лавілі, як мышэй, вот... Табою і без гэтага Нікіфаравіч цікавіцца. Ты пакінь каралёў ганяць, гэта табе не галубы!»

Двух чалавек на зямлі Горкі любіў сваёй вялікай бязмежнай любоўю — Леніна і Талстога. Карней Чукоўскі ўспамінае: «Памятаю ў 1919 або 1920 годзе я слухаў у Анічкавым палацы яго (Горкага.— РЭД.) лекцыю пра Льва Талстога. З асуджэннем і жорстка гаварыў ён пра памылкі Талстога, і адчувалася, што ён ніколі не саступіць Талстому ні вяршка сваёй горкаўскай праўды. І голас у яго быў нядобры, глухі і твар тужліва-непрыязны. Але вось ён загаварыў пра Талстога, як пра «звучный колокол мира сего», і на твары яго паявілася такая ўсмешка закаханасці, якая рэдка бывае на чалавечых тварах. А калі ён дайшоў да ўпамінання пра смерць Талстога, ён не мог вымавіць гэтых двух слоў: «Талстой памёр»,— бязгучна варушыць вуснамі і плача. Такой вялікай была пяшчотнасць да Талстога, якая ахапіла яго ў тую хвіліну. Слухачы, некалькі сот чалавек, разумеючы гэта, спагадліва маўчалі. А ён так і не вымавіў гэтых слоў: пакінуў кафедру і пайшоў у артыстычную. Я кінуўся за ім і ўбачыў, што ён стаіць ля акна і, мнучы папяросу, сіратліва плача па Льву Мікалаевічу. Праз хвіліну ён вярнуўся на кафедру і панура прадаўжаў сваё чытанне».

А вось яшчэ адно фота. На адвароце рукою Горкага напісана:

«Шчыра скажу,— бачыць сябе на картцы з львом рускай літаратуры — мне невыказна радасна. Ганаруся гэтым — страшэнна. Максім Горкі».

У лютым 1905 года Горкі, якому за ўдзел у рэвалюцыйным руху зноў пагражаў арышт (да гэтага ён ужо сядзеў у турме), па заданню ЦК бальшавікоў накіроўваецца ў Еўропу і Амерыку, каб расказаць працоўным усяго свету праўду



Муж і жонка Скалабанавы, уладальнікі іканапіснай майстэрні.

Васіль Сямёнаў, казанскі булачнік. У яго працаваў пекарам Алёша Пешкаў.





Максім Горкі (другі злева) — госць капрыйскіх рыбакоў.

пра рускую рэвалюцыю, наладзіць збор сродкаў для рускіх рэвалюцыянераў, агітаваць супраць прадастаўлення замежных пазык рускаму ўраду. Ленін надаваў гэтай паездцы Горкага вялікае значэнне.

У Амерыцы Горкі прабыў шэсць месяцаў. Там ён напісаў раман «Маці», п'есу «Ворагі»; там нарадзіліся і выспелі яго



Леў Талстой і Максім Горкі.

многія публіцыстычныя артыкулы. Сустракаўся Максім Горкі з Маркам Твэнам у клубе пісьменнікаў у Нью-Йорку. «Я не веру ў варожасць рас і нацый,— сказаў Аляксей Максімавіч.— Я бачу толькі адну барацьбу — класавую».

Максім Горкі не адзін год пражыў на Капры, лечачы хворыя лёгкія. Сіньёр Массіма быў сваім чалавекам сярод капрыйскіх рыбакоў. Адсюль з Сарэнта ён пісаў на радзіму: «Тут я што-нішто зрабіў: напісаў 4 кнігі, закончыў 5-ую, пішу 6... Вось калі закончу яе, зразумела, паеду дамоў і буду ўжо займацца журналістыкай у «Известиях» або «Правде».

Горкі, вярнуўшыся з-за мяжы, хацеў як мага ўважлівей разгледзець рысы новага жыцця, што заквітнела на яго радзіме. Але ж і людзям таксама хацелася ўбачыць вялікага пісьменніка пасля шасцігадовай з ім ростані. «...хадзіў па вуліцах загрыміраваны, з барадою,— успамінаў Аляксей Максімавіч,— гэта адзіны спосаб што-небудзь бачыць, не будучы акружаным гледачамі...»

Ленін і Горкі. «Уладзімір Ільіч блізка пазнаёміўся з Горкім, — успамінае Н. К. Крупская,— на Лонданскім партыйным з'ездзе. Паназіраў за ім, пагаварыў і неяк душэўна зблізіўся з ім». «Свет чакаў гэтага чалавека, чалавек з'явіўся, указаў шлях, і гэтым шляхам людзі пойдуць да канца, маючы перад сабою светлы вобраз неўміручага правадыра»,— сказаў пра Леніна Горкі.

# Як я пішу



Максім Горкі ў 90-х гадах.

**У 1930 ГОДЗЕ «ВЫДАВЕЦТВА ПІСЬМЕННІКАЎ У ЛЕНІНГРАДЗЕ» ПРАПАНАВАЛА ШЭРАГУ ВЯДОМЫХ ПІСЬМЕННІКАЎ АНКЕТУ: «ЯК Я ПІШУ». У АНКЕЦЕ БЫЛО ШАСНАЦЦАЦЬ ПЫТАННЯЎ. ВОСЬ ЯК АДКАЗАЎ НА ІХ А. М. ГОРКІ:**

**1. Падрыхтоўчы перыяд. Працягласць яго.**

Думаю, што пісаць пачаў гадоў з дванаццаці і што штуршком для гэтага паслужыла «перанасычэнне вопытам». Спачатку запісваў пагаворкі, прыказкі, жарты, якія фармавалі мае асабістыя ўражанні: «Эх, жить весело, да — бить некого», або падабаліся мне сваёй фокуснай закавырыстасцю: «Кишка кишке кукиш кажет». Я, зразумела, ведаў, што такое «кукиш», але склад «ку» у другім з канца і літара «т» у апошнім слове здаваліся мне лішнімі, і пагаворку чытаў так: «Кишка кишке — кишка же». Потым пачаў сам складаць пагаворкі: «Сел дед, поел обед, вспотел дед, спросил дед: скоро ли обед?» Запісваў незразумелыя мне фразы з кніг: «Собственно говоря, никто не изобрел пороха». Я доўга не мог зразумець, што азначае «собственно говоря», а слова «никто» было ўспрынята мною як «некто», «кто-то». Гэтае непаразуменне настолькі моцна ўелася ў маю памяць, што ў 1904 годзе ў п'есе «Дачнікі» адзін з яе герояў на пытанне «Никто не был?» адказвае: «Никто не может быть или не быть». Складаў вершы і, памятаю, у адным з вершаў над словамі:

«Карета едет» —

доўга думаў: хто едзе — карэта ці конь? Чытаў — многа, асабліва многа перакладаў з замежнай літаратуры. Любіў чытаць біблію, а таксама «Іскру» — сатырычны штотыднёвік Курачкіных, які выдаваўся адкупшчыкам Кохаравым.

## БЕЛАРУСКІЯ ПІСЬМЕННІКІ ПРА МАКСІМА ГОРКАГА

*ЯНКА КУПАЛА:*

*Хто мяне прыкмячаў да рэвалюцыі?*

*У гэты радасны дзень я павінен заявіць, што ў сваім сэрцы я на працягу многіх год хаваю чысцейшую і бязмежную любоў да вялікага рускага народа і яго геніяльнага пісьменніка Аляксея Максімавіча Горкага, які ў тыя змрочныя часы заўважыў маю песню. Глыбока ўзрушыў мяне тады цёплы водзыў Аляксея Максімавіча і яго пераклад верша «А хто там ідзе?»*

*(З прамовы Я. Купалы на ўрачыстым пасяджэнні, прысвечаным 35-годдзю яго творчасці, снежань, 1940 год.)*

*ЯКУБ КОЛАС:*

*...Горкі плённа ўздзейнічаў на мой светапогляд. Ён быў для мяне ўзорам пісьменніка-грамадзяніна.*

*Ён вучыў нас, што самая вялікая школа пісьменніка — жыццё, блізкая і непасрэдная сувязь з народам. Хто па-сапраўднаму пачуе голас зямлі, пранікнецца яе паэзіяй,— той перадасць гэты голас мнагатысячным рэхам ва ўсе самыя далёкія куткі нашай радзімы.*

*(З аўтабіяграфіі, 1956 год.)*

*ЗМІТРОК БЯДУЛЯ:*

*Яшчэ не адно пакаленне пісьменнікаў і нашага Савецкага Саюза і ўсяго свету будзе вучыцца ў Горкага дабірацца да самых глыбінь чалавечай думкі і пачуцця, выклікаць у чалавека з масы гонар і імкненне да барацьбы, каб вырваць працоўнае чалавецтва з-пад ярма няволі і накіраваць яго творчыя імкненні на будаўніцтва шчасця на зямлі.*

*(З артыкула «Прыклад таго, як жыць і працаваць».)*

---

З кнігі «Максім Горкі і Беларусь», якая выходзіць у выдавецтве «Беларусь» да 100-годдзя з дня нараджэння А. М. Горкага.

*МІХАСЬ ЛЫНЬКОЎ:*

*Ён, лепшы сын народа, геніяльны пісьменнік і рэвалюцыянер, адданы друг Леніна, заўсёды нам сваю неўміручую нянавісць да ворагаў. У яго крышталёвай совесці ўвасобіў народ сваю ўласную совесць, совесць чалавекалюбца, совесць народа-будаўніка, народа-змагара і воіна за светлую будучыню чалавецтва.*

*(З артыкула «Горкі заўсёды з намі».)*

*АНДРЭЙ АЛЕКСАНДРОВІЧ:*

*Многа, вельмі многа па-бацькоўску добрага зрабіў Аляксей Максімавіч Горкі для беларускай літаратуры. Усім вядомы яго пераклад на рускую мову верша Янкі Купалы «А хто там ідзе?», выказванні аб беларускай літаратуры ў пісьмах да А. Чарамнога, М. Кацюбінскага. У артыкуле «Аб пісьменніках-самавучках» Горкі пісаў: «Я звяртаю ўвагу скептыкаў на маладую літаратуру беларусаў — самага занядбанага народа Расіі». У артыкуле «Здалёку» Горкі з прыемнасцю падкрэслівае, што «зачынаецца культурны рух у Беларусі». У артыкуле «Аб казках» Горкі з захапленнем гаворыць пра беларускую народную творчасць, спасылаючыся на выдадзены ў 1887 годзе зборнік Раманава «Беларускія казкі». Горкі не раз сустракаўся з беларускімі савецкімі пісьменнікамі, гутарыў з імі. Усё гэта ўвайшло залатой старонкай у гісторыю развіцця беларускага мастацкага слова».*

*(З артыкула «Заўсёды з намі».)*

*ЯНКА БРЫЛЬ:*

*«Які ўплыў на Вашу творчасць зрабіў Максім Горкі?» Такое пытанне даводзілася ўжо чуць. Ды і само яно папрасілася на паперу. А адказаць — нялёгка... Які, напрыклад, уплыў на тое, што я адносна ў добрым здароўі пражыў ажно цэлае паўстагоддзе, зрабілі сонца, паветра, хлеб, вада? Станоўчы? Вялікі? Выключны?.. Што ні скажы — банальна. Але ж і праўда, сто разоў праўда, што з Горкім і мне было добра, што і я люблю яго, а любячы, не мог, не магу не вучыцца таму, што мне ў яго здаецца добрым, прыгожым, трывалым.*




Друкавацца пачаў з 1892 года, але да 1895 года не верыў, што літаратура — мая справа. Маленькія апавяданні для газет не здаваліся мне сур'ёзнаю справай, і гэта было памылкова,— вучыцца пісаць трэба якраз на маленькіх апавяданнях, яны прывучаюць аўтара эканоміць словы, пісаць болей густа.

**2. Якім матэрыялам пераважна карыстаецеся (аўтабіяграфічным, кніжным, назіраннямі і запісамі)?**

Карыстаўся пераважна матэрыялам аўтабіяграфічным, але — ставіў сябе ў пазіцыю сведкі падзей, пазбягаючы высоўвацца, як сіла дзеючая, каб не перашкаджаць самому сабе, апавядальніку пра жыццё. Гэта не азначае, што я баяўся ўнесці ў рэчаіснасць, якую адлюстроўваю, нешта «ад сябе» — тую «выдумку», пра якую гаварыў І. С. Тургенеў і без якой — няма мастацтва. Але калі аўтар, малюючы, любуецца самім сабою — сваім розумам, ведамі, трапнасцю слова, пільнасцю вока,— ён амаль немінуча псуе, скажае тое, што завецца «мастацкай праўдай». Псуе ён свой матэрыял і тады, калі, гвалцячы сацыяльную прыроду сваіх герояў, прымушае іх гаварыць чужымі словамі і рабіць учынкі, арганічна немагчымыя для іх. Кожны чалавек, якога паказвае пісьменнік, падобны да руды — ён фармуецца і дэфармуецца пры пэўнай ідэалагічнай тэмпературы. «Халоднай апрацоўкай» з чалавекам нічога не зробіш, толькі сапсуеш яго,

таму пісьменнік павінен крышку любіць свой матэрыял — жывога чалавека — або хаця б любавацца ім, як матэрыялам.

**3. Ці часта прататыпам дзеючых асоб з'яўляюцца для Вас жывыя людзі?**

Амаль заўсёды. Але само сабой зразумела, што характар героя робіцца з многіх асобных рысачак, узятых ад розных людзей яго сацыяльнай групы. Неабходна вельмі добра прыглядзецца да сотні — другой папоў, крамнікаў, рабочых для таго, каб прыблізна дакладна напісаць партрэт аднаго рабочага, папа, крамніка.

**4. Што Вам дае першы імпульс да работы (чуты расказ, заказ, вобраз і гэтак далей)? Дадзеныя ў гэтых адносінах аб якіх-небудзь Вашых асобных работах.**

Безумоўна, уражанне, якое атрымана непасрэдна і дзейнічае станоўча ці адмоўна на вопыт, ужо спрасаваны ў светаадчуванне, светаразуменне, сірэч — на ідэалогію. Выпадкаў, калі я карыстаўся іншым матэрыялам, два: аповесці «Споведзь» і «Лета». «Споведзь» напісана па расказу аднаго ніжагародскага сектанта і па артыкулу пра яго Кудрынскага — «Багдана Сцепанца», выкладчыка Ніжагародскай семінарыі. «Лета» — па запісках адзіночкі-прапагандыста, эсэра, які працаваў, відаць, у разанскай вёсцы і памёр у 910 або 9 годзе ў бальніцы г. Мцэнска.



**Пасля вяртання ў Расію. (1914).**

**5. Калі працуеце: раніцай, вечарам, ноччу? Колькі гадзін у дзень — максімум?**

Працую раніцай з 9 гадзін да гадзіны дня, вечарам з 8 да 12. Больш паспяхова — раніцай.

*Калі ж гаварыць не так шырока ды агульна, дык сёння я мог бы сказаць, што Горкі дапамог мне быць смялейшым у шчырасці, не баяцца ды не саромецца гаварыць адкрыта тое, што ты перажыў сам, лічыць любую літаратурную форму, любы жанр — сродкам для выражэння сваіх адносін да жыцця, да высокага абавязку быць чалавекам.*

*(З артыкула* ***«Быць чалавекам».****)*

## *ІВАН ШАМЯКІН:*

*Гімн, які праспяваў Горкі мужнаму чалавечаму розуму і працы, што стварае ўсе багацці свету і самога чалавека-творцу, знайшоў самы жывы водгук у сэрцах маладых будаўнікоў новага грамадства. Бадай ніхто з папярэдніх вялікіх мастакоў не заяўляў так гучна, на поўны свой магутны голас: «Чалавек—гэта гучыць горда». Гэтым была сцверджана вялікая сіла чалавека-рэвалюцыянера, пераўтваральніка свету. Нарэшце, гэта нараджала веру людзей у саміх сябе, клікала да самаўдасканалення, да ведаў, да актыўнага ўдзелу ў жыцці, у барацьбе. І мы, дзеці сялян, рабочых, каму савецкая ўлада шырока адчыніла дзверы ў навуку, неслі гэтыя горкаўскія словы, як сцяг.*

*(З артыкула «Гімн чалавеку».)*

## *ВАСІЛЬ БЫКАЎ:*

*...У той спякотны ранак... горкаўскія словы напомнілі нам пра нашу нацыянальную веліч, якая надавала нам сілы і будзіла ў нас адчуванне іначкшага жыцця, чым тое, якім мы жылі тры гады на вайне, і мы разумелі тады, што хоць і цяжка, і марудна, і пакутна, але мы будзем ісці да яго праз усе выпрабаванні, пакуль не прыйдзем і не даможамся міру.*

*(«Недачытаная кніга».)*

## *ЮРКА ГАЎРУК:*

*Мне думаецца, што больш за ўсё Аляксей Максімавіч цаніў у чалавеку здольнасць працаваць і тварыць... ён увабраў у сябе ўсё тое лепшае, што на вузкіх сцежках, на шырокіх рэках, на рабочых акраінах гарадоў расло і множылася, гаварыла аб сваёй крыўдзе, шукала сваёй праўды і працавала, працавала, не пакладаючы рук.*

*(«З народам і для народа».)*



Максім Горкі і Марк Твэн у нью-йоркскім клубе пісьменнікаў.

На заводзе «АМО».



**6. Прыкладная прадукцыйнасць — у аркушах у месяц.**

Не ведаю. Ніколі не падлічваў. Бывалі выпадкі, калі пісаў круглыя суткі і болей, не ўстаючы з-за стала. Так напісаны: «Ізергіль», «Дваццаць шэсць і адна». А «Нараджэнне чалавека» — за тры гадзіны. Нават, здаецца, меней.

**7. Наркотыкі ў час работы. У якой колькасці?**

Куру. Многа. Цяпер — амаль бесперапынна ў час работы.

**8. Тэхніка пісьма: аловак, пяро або пішучая машынка. Ці робіце ў час работы малюнкі? Колькі разоў перапісваеце рукапіс? Ці многа выкрэсліваеце ў канчатковай рэдакцыі?**

Пяро. Пішучая машынка, мне здаецца, павінна шкодна ўплываць на рытм фразы. Рукапісы праўлю два, тры разы. У канчатковай рэдакцыі выкідваю цэлыя старонкі, сцэны.

**9. Ці складаеце папярэдні план і як ён мяняецца?**

Плана ніколі не раблю, план ствараецца сам сабою ў працэсе работы, яго выпрацоўваюць самі героі. Лічу, што дзеючым асобам нельга падказваць, як яны павінны паводзіць сябе. У кожнага з іх ёсць свая біялагічная і сацыяльная логіка дзеянняў, свая воля. З гэтымі якасцямі аўтар бярэ іх з жыцця, як свой матэрыял, але як «паўфабрыкат». Далей ён «распрацоўвае» іх, шліфуе сілаю свайго асабістага вопыту, сваіх ведаў, дагаворваючы за іх не сказаныя імі словы, давяршаючы ўчынкі, якіх яны не зрабілі, але павінны былі зрабіць у сілу сваіх «прыродных» і «набытых» якасцей. Тут — месца «выдумцы» — мастацкай творчасці. Яна будзе болей ці меней дасканалая тады, калі аўтар дагаворыць і даробіць сваіх герояў у строгай адпаведнасці з іх асноўнымі ўласцівасцямі. У Дастаеўскага амаль усе героі яго, а асабліва Іван і Дзмітры Карамазавы, князь Мышкін, Стаўрогін, Грушанька — дагавораны да канца, гэта — тыпы. Але Раскольнікаву ён скруціў галаву — негрунтоўна, недастаткова апраўдана, падпарадкаваўшыся хрысціянскай, бесчалавечнай ідэі выратавальнасці пакуты. Зусім закончанымі тыпамі я, зразумела, лічу Гамлета, Фауста, Дон-Кіхота, Рабінзона Круза, Вертэра, madame Бавары. Манон Леско. Гэта для мяне ўжо манументальная творчасць, як, мабыць, для ўсіх, хто мала-мальскі адчувае поўную гармонію, паказаную хоць бы іншы раз і ў адмоўным вобразе. Прыклады: тыпы Гогаля ў «Мёртвых душах», «Рэвізоры», Юдушка Галаўлёў Салтыкова-Шчадрына, Домбі-бацька і іншыя характары Дзікенса, Квазімода Гюго і г. д. Паўтараю: майстар павінен не толькі добра ведаць, але і любіць свой матэрыял, ці правільней — любавацца ім. Мармеладаў, Карамазаў-бацька і многія іншыя падобныя да іх героі Дастаеўскага — агідныя, але зусім зразумела, што яны зроблены Дастаеўскім з найвялікшай любоўю, хоць у сапраўднасці ён, мне здаецца, не любіў людзей.

**10. Што аказваецца для вас цяжэйшым: пачатак, канец, сярэдзіна работы?**

Цяжэй за ўсё — пачатак, менавіта, першая фраза. Яна, як у музыцы, дае тон усяму твору, і звычайна яе шукаеш вельмі доўга. Тут адказ і на 12 пытанне — «Ці ставіце Вы сабе якія-небудзь музычныя, рытмічныя патрабаванні».

**11. На якіх успрыняццях часцей за ўсё будуюцца вобразы: зрокавых, слухавых, адчувальных?**



**Віталь ЦВІРКО. Зацвіла вярба.**



Людміла ІЗМАЙЛАВА. Узоры.

З РЭСПУБЛІКАНСКАЙ

ЮБІЛЕЙНАЙ

МАСТАЦКАЙ

ВЫСТАЎКІ.



Аляксей ГЛЕБАЎ. Чырвоная конніца.



Аляксей ГЛЕБАЎ. Янка Купала і Максім Горкі.

Зразумела, на ўсіх успрыняццях.

**13. Ці правяраецца работа чытаннем уголас (сабе ці другім)?**

Рэдка чытаю ўголас свае рэчы, але люблю чытаць чужыя. Добрыя.

**14. Якія адчуванні звязаны ў Вас з заканчэннем работы?**

Заканчваючы работу, прачытваю яе ўсю з цяжкасцю і, амаль заўсёды з цяжкім пачуццём няўдачы.

**15. Ці мяняеце Вы тэкст пры наступных выданнях?**

Спрабаваў скараціць тэкст у 23 годзе пры першым выданні збору твораў. Работу гэтую не закончыў, узнікла жаданне знішчыць палову напісанага.

**16. Ці аказваюць на Вас які-небудзь уплыў рэцэнзіі?**

Рэцэнзіі ніколі і ніяк не ўплывалі. Сучасныя асабліва не здольны ўплываць, таму што бачыш, што рэцэнзенты чытаюць кнігі няўважліва, няўмела і часта не разумеюць прачытанага. Гэта, вядома, адносіцца не толькі да маіх кніг, а з'яўляецца агульнай заганай рэцэнзентаў. Ад яе вельмі моцна церпяць маладыя «пачынаючыя» пісьменнікі. Трэба ўпамянуць пра неахайныя адносіны рэдактараў да рэцэнзій: рэдактары, відавочна, таксама няўважліва чытаюць іх. Калі наогул чытаюць.





# У БАРАЦЬБЕ ЗА КАЛЕКТЫЎНАГА ЧАЛАВЕКА

Савецкае грамадства — грамадства калектывістаў. Усе калектывы людзей, якія яго складаюць, дружалюбныя, у іх адна мэта і адзіная накіраванасць. Чым бліжэй да камунізма, тым усё болей будзе ўзрастаць роля калектыву ў жыцці людзей. Вось чаму цяпер, у перыяд разгорнутага будаўніцтва камунізма, так важна завастрыць увагу на барацьбе супраць індывідуалізму, супраць спроб стаць над калектывам, супрацьпаставіць сябе яму, супраць усялякіх тэндэнцый культу якой бы там ні было асобы.

У выхаванні калектыўнага чалавека заўсёды аказвала і будзе аказваць нам неацанімую паслугу літаратурная спадчына і практычная дзейнасць такіх двух вялікіх выхавацеляў нашага часу, якімі былі А. М. Горкі і А. С. Макаранка.

Пачынаючы з першых сваіх апавяданняў і канчаючы эпапеяй «Жыццё Кліма Самгіна», вялікі пралетарскі пісьменнік А. М. Горкі ўсюды ўскрываў унутранае ўбоства індывідуалістаў, паказваючы маральны крах тых, хто спрабуе стаць над масай. «...героем нашых дзён з'яўляецца чалавек з «масы»,—гаварыў ён.—На масу, на выхаванне ў ёй такіх герояў і павінна быць звернута асаблівая ўвага».

Культываванне буржуазна-індывідуалістычнага «вождизма», дзе б і ў чым бы яно ні праяўлялася, заўсёды выклікала ў Горкага гнеў і абурэнне. Ён рэзка выступаў супраць гэтай з'явы ў літаратурным быце. У 20-я гады, як вядома, у нашай літаратуры ўзнікла многа ўсялякіх адасобленых групачак. З гэтага поваду Горкі гаварыў, што яны ствараюцца «не ў сілу неаб-

ходнасці «творчых» рознагалоссяў, а з непрыкрытага імкнення славалюбаў іграць ролю «вождей». «Вождизм»,— гаварыў ён,—гэта хвароба: развіваючыся з атрафіі эмоцыі калектывізму, яна выражаецца ў гіпертрафіі індывідуальнага пачатку».

Максім Горкі першы ў савецкай літаратуры стварыў вобраз вялікага правадыра рэвалюцыі У. І. Леніна, абышоўшыся без містычнага ідалапаклонства, без падымання «героя» над «натоўпам». У вобразе Леніна Горкі настойліва падкрэсліваў прастату, сувязь з масамі, чалавечнасць. У прамове на ўрачыстым пасяджэнні Массавета, прысвечаным 50-годдзю Ільіча, Горкі гаварыў: «Ленін у палітыцы вялікі, але ў той жа час ён рэальны, зямны, просты чалавек».

А. С. Макаранка глыбока ўспрыняў горкаўскую ідэю выхавання калектыўнага чалавека і зрабіў яе галоўнай ва ўсёй сваёй педагагічнай дзейнасці. Ён не толькі сам дэталёва вывучаў кнігі і артыкулы А. М. Горкага, але і часта чытаў іх сваім выхаванцам, расказваючы ім біяграфію пісьменніка, які выйшаў з нізоў народа. Гэта было ў руках Макаранкі магутным выхаваўчым сродкам, хоць на першым часе справа прыняла зусім непажаданы кірунак.

Спачатку тытанічны вобраз пісьменніка выклікаў у здзіўленых каланістаў уяўленне пра Горкага, як пра нейкага звышчалавека, які стаіць над усім светам і якому можна толькі пакланяцца. Яны адносіліся да Горкага з «амаль рэлігійнаю пашанай, лічылі яго істотаю, вышэй за ўсіх людзей, і падражаць яму ім здавалася амаль кашчунствам. Яны нават не верылі, што ў «Дзяцінстве» апісаны падзеі з жыцця пісьменніка, і былі перакананы, што Горкі і «пацаном быў не такі, як усе».

Горкі, вядома, вельмі многа значыў для каланістаў. У адным з пісем да яго Макаранка гаварыў: «Ваша імя і Ваша асоба для нас усіх лепшы доказ, што мы таксама людзі». Таму, натуральна, любоў дзяцей да Аляксея Максімавіча была вялікая. Але сам Горкі, што-нішто падказваючы Макаранку, дзе-нідзе яго тактоўна папраўляючы, імкнуўся рассеяць у каланістаў уяўленне аб сабе, як аб выключным чалавеку.

У калоніі штогод вельмі пышна адзначаўся дзень нараджэння Горкага: урачыста выносілі сцяг да партрэта пісьменніка, каля якога гаварылі прамовы, наладжвалі парад, а потым садзіліся за стол з імянінным пірагом. Сцяг стаяў ля партрэта ўвесь дзень, і каля яго змянялася ганаровая варта.

У адным з пісем напярэдадні свайго 60-гадовага юбілею Горкі пісаў Скварцову-Сцяпанаву: «Уладзімір Ільіч вельмі правільна сказаў у дзень яго 50-годдзя: «Смешная штука гэтыя юбілеі». Натуральна, Горкаму не маглі спадабацца пірагі і цырыманіял каля яго партрэта, пра які яму расказаў у пісьме Макаранка. У кароткім адказе ён ні словам не ўспамінае пра гэтыя завочныя ўшанаванні, нібыта моўчкі адводзіць іх ад сябе, але затое заканчвае пісьмо так: «Прывітанне работнікам, гэта заўсёды—самыя вялікія героі ў гісторыі чалавецтва», нібы ўказваючы гэтымі словамі на тых, хто сапраўды заслугоўвае самай вялікай пашаны.

У наступным пісьме Макаранка зноў гаворыць пра імянінныя ўрачыстасці, просіць Горкага прыслаць партрэт і выказвае захапленне з поваду таго, што «мы ўсе трымалі ў руках ліст, які трымалі і Вы». У кароткім адказе Горкі зноў нічога не гаворыць ні пра ўрачыстасці, ні пра партрэт, нібыта зноў моўчкі адводзячы ад сябе ўсё гэта.

У чарговым пісьме Макаранкі да Горкага чытаем: «Вашы пісьмы робяць з намі цуд... Трэба быць мастаком, каб паказаць наш настрой пасля Вашых пісем... У гэты час зала ніяк не можа настроіцца на дзелавы лад. Вочы ва ўсіх скачуць, пачуцці таксама скачуць, і ўсё гэта хоча даскочыць да Вашага партрэта і што-небудзь зрабіць такое...» І вось тут ужо, бачачы, што яго асоба становіцца літаральна прадметам пакланення, што на яго партрэт ледзь не моляцца, Горкі, не выказваючы свайго незадавальнення, проста, мякка, але рашуча асудзіў запанаваўшы ў калоніі «культ вялікага Горкага». У сваім адказе ён пісаў: «Мне хацелася б, каб асеннімі вечарамі каланісты прачыталі маё «Дзяцінства», з яго яны ўбачаць, што я зусім такі ж чалавек, як і яны, толькі з юнацтва ўмеў быць настойлівым у сваім жаданні вучыцца і не баяўся ніякай працы».

Гэтыя словы прымусілі Макаранку глыбока задумацца. Ён пачынае настойліва пераконваць каланістаў у глыбокай праўдзе горкаўскай думкі, у тым, што і таленавітаму чалавеку трэба многа працаваць і вучыцца. Ён імкнецца прызямліць вобраз вялікага чалавека. Паступова ў Горкім каланісты сталі бачыць «жывыя рысы жывога чалавека». З вялікім задавальненнем Макаранка падводзіць вынік праробленай работы: «Ажыўленне вобраза Горкага ў каланісцкім калектыве нарэшце дасягнула нормы, і толькі тады я пачаў заўважаць не рэлігійную пашану перад вялікім чалавекам, не ўшаноўванне вялікага пісьменніка, а сапраўдную жывую любоў

да Аляксея Максімавіча і сапраўдную ўдзячнасць горкаўцаў да гэтага далёкага, крыху незразумелага, незвычайнага, але ўсё ж сапраўднага жывога чалавека».

Дзякуючы ўпартай і разумнай рабоце Макаранкі, вобраз Горкага сваёй грандыёзнасцю не давіў на дзяцей, якія толькі-толькі пачыналі далучацца да культуры, не выклікаў у іх пачуцця сваёй нікчэмнасці, а наадварот— абуджаў чалавечую годнасць, пачуццё бязмежнай перспектывы, якая перад імі адкрывалася, бо яны цяпер ведалі, што гэты сусветна-вядомы пісьменнік—не бог, а такі ж чалавек, як і яны.

Калі калонія пераехала ў Кураж, высветлілася, што куражане нічога не ведаюць пра Горкага. Для іх быў наладжаны спецыяльны горкаўскі вечар. На гэты раз Макаранка пастараўся пазбегнуць памылкі, дапушчанай раней. Таму ён у гутарцы, прысвечанай Горкаму, імкнуўся паказаць куражанам у вялікім чалавеку перш за ўсё чалавечнасць і прастату. Гэтай мэце служыла таксама і тая абстаноўка, у якой адбываўся горкаўскі вечар. Макаранка падкрэсліваў, што ён «быў праведзены вельмі сціпла. Я свядома не хацеў надаваць яму характар канцэрта або літаратурнага вечара. Мы не запрасілі гасцей. На сціпла прыбранай сцэне паставілі партрэт Аляксея Максімавіча...» Макаранка расказаў куражанам пра жыццё і творчасць пісьменніка, а старыя каланісты прачыталі ўрыўкі менавіта з той кнігі, на якую ўказваў Горкі ў сваім пісьме,— з «Дзяцінства».

Вынік уздзеяння на куражан гэтай гутаркі быў выключны. «На другі дзень,—піша Макаранка,—я іх не пазнаў. Адсопваючыся, крэкчучы, верцячы галовамі, яны сумленна, хоць і з вялікай цяжкасцю, перасільвалі спрадвечную чалавечую ляноту. Яны ўбачылі перад сабой самую радасную перспектыву: каштоўнасць чалавечай асобы».

Думаецца, што да гэтага ж выніку,—абуджэння ў дзяцей пачуцця каштоўнасці чалавечай асобы, павагі да яе,—павінны імкнуцца ўсе нашы педагогі, калі яны расказваюць вучням і пра Горкага, і пра Макаранку, і пра іншых выдатных і вялікіх дзеячоў грамадскага жыцця, навукі і мастацтва. А гэта магчыма толькі тады, калі вобразы гэтых дзеячоў будуць раскрывацца без «хрэстаматыйнага глянцу», без катурнаў на нагах і німба вакол галавы, а ва ўсёй жыццёвай і гістарычнай праўдзівасці.

Самога Макаранку каланісты любілі, відаць, не меней, чым Горкага. Але і тут выдатны педагог змог дабіцца правільнага тону, здаровых адносін. Ён не дапускаў ні пад якім выглядам пакланення сваёй асобе.

Макаранка рэзка выступаў супраць тых педагогаў, якія ўвесь сэнс работы, усю сутнасць выхаваўчага працэсу бачаць толькі ў тым, каб абавязкова стаць «любімым настаўнікам». «У мяне былі проста геніі ў выхаваўчай рабоце,—гаварыў ён неяк пра сваіх памочнікаў,—але я іх пераконваў, што меней за ўсё трэба быць любімым выхавацелем. Я асабіста ніколі не дабіваўся дзіцячай любві і лічу, што гэтая любоў, якая арганізоўваецца педагогам для свайго ўласнага задавальнення, з'яўляецца злачынствам. Магчыма, некаторыя камунары мяне і любілі, але я лічыў, што 500 чалавек, якіх я выхоўваю, павінны выйсці грамадзянамі і сапраўднымі людзьмі, навошта ж да гэтага яшчэ дабаўляць нейкую прыпадачную любоў да мяне...

Гэтае какетнічанне, гэтая пагоня за любоўю, гэтая пахвальба любоўю прыносіць вялікую шкоду выхавацелю і выхаванню... Я пераканаў сябе і сваіх таварышаў, што гэтай прывažкі... не павінна быць у нашым жыцці».

У артыкуле «Мэта выхавання» Макаранка ўказваў, як канкрэтна зараджаецца асабістая адданасць, і папярэджваў пра вынікі, да якіх яна можа прывесці.

Макаранка разбірае выпадак, апісаны ў аддзеле кансультацый часопіса «Камуністычная асвета». Настаўнік, даведаўшыся, што адзін вучань украў у таварыша тры рублі, нікому не сказаў пра гэта, а пагаварыў з тым вучнем адзін на адзін. Кансультант пахваліў настаўніка «за чуласць», за тое, што ён не стаў «ганьбіць хлопчыка перад класам». Макаранка рашуча не згодзен з гэтым. Ён гаворыць, што гэта звычайны выпадак «парнага маралізавання». Яго трывожыць перш за ўсё тое, што «хлопчык застаўся незалежным ад грамадскай думкі калектыву, для яго рашаючым з'явілася хрысціянскае ўсёдараванне настаўніка. Ён не пераўжыў сваёй адказнасці перад калектывам, яго мараль пачынае складвацца ў формах індывідуальных разлікаў з настаўнікам. Гэта не наша мараль... Мараль адасобленай свядомасці гэта ў лепшым выпадку мараль «добрага» чалавека, а большай часткай гэта мараль двурушніка».

Рабская асабістая адданасць вышэйстаячай персоне, калі гэтая персона становіцца амаль што богам і засланяе сабою жывое жыццё і ёй даруюцца ўсе яе промахі і памылкі, а часам нават траціцца здольнасць гэтыя промахі і памылкі бачыць,—усё

гэта абсалютна несумяшчальнае з адданасцю агульнай справе, калектыву, народу, справе камунізма.

Будучы педагогам-марксістам, Макаранка добра разумеў, што ён абавязаны не толькі выхоўваць, але і выхоўвацца ў жывой рабоце з калектывам. Ён шмат разоў гаварыў, што вучыўся ў сваіх камунараў, а тыя не саромеліся яго вучыць. «Я вельмі ўдзячны камунарскаму калектыву за тое, што ў адказ на мае патрабаванні да іх яны прад'яўлялі патрабаванне да мяне»,—гаварыў педагог.

Горкі, прабыўшы ў калоніі некалькі дзён, добра разгледзеў характар узаемаадносін паміж кіраўніком і каланістамі, якія, па словах пісьменніка, гаварылі пра Макаранку «тонам такога гонару, нібыта яны самі стварылі яго». «На сходзе камандзіраў,—пісаў Аляксей Максімавіч,—Антон Макаранка сядзіць у баку і толькі зрэдку ўстаўляе ў гутарку два-тры словы. Амаль заўсёды гэта словы папроку, але ён гаворыць іх як старэйшы таварыш. Яго слухаюць уважліва і не саромеюцца спрачацца з ім, як з дваццаць пятым таварышам, які прызнаны дваццаццю чатырма разумнейшым, больш вопытным, чым яны».

Зразумела, гэта вельмі далёка ад растварэння асобы выхавацеля ў калектыве выхаванцаў. Заяўляючы, што выхавацель павінен быць таварышам выхаванцаў, Макаранка заўсёды падкрэсліваў яго перадавую, актыўную ролю. Разам з выхаванцамі і ўперадзе іх—так вызначаў А. С. Макаранка пазіцыю выхавацеля.

За доўгія гады сваёй практычнай работы Макаранка прыйшоў да вываду, што на чале пярвічнага дзіцячага калектыву павінен быць абавязкова адзінаначальнік, які па тыпу сваёй улады, аднак, з'яўляецца «не дырэктарам, а ўпаўнаважаным гэтага калектыву».

Арганізацыйная будова калектываў, якія ўзначальваў Макаранка, была надзвычай дэмакратычная і гнуткая. Кіраўнік часта быў не згодзен з тым ці іншым рашэннем савета камандзіраў, але ў пару росквіту гэтых калектываў ён, звычайна, і такім рашэнням падпарадкоўваўся. Але, зразумела, Макаранка не заўсёды мог прымірыцца з рашэннямі і жаданнямі каланістаў, якія ўсё-такі заставаліся дзецьмі. Толькі і тут ён ніколі не ішоў па шляху голага адміністравання, хоць і меў на гэта фармальнае права: ён заўсёды стараўся пераканаць каланістаў у сваёй думцы, як бы цяжка гэта ні было.

У камуне імя Дзяржынскага быў, напрыклад, такі выпадак. Савет камандзіраў рашыў, што летам камунары паедуць у Крым. Макаранка ж настойваў на паездцы ў Маскву, таму што гэта было дзешавей і, акрамя таго, прыемнае спалучалася з карысным: у сталіцы можна будзе пахадзіць па музеях, тэатрах і г. д. Макаранка перанёс пытанне на агульны сход, унёсшы папраўку: у гэтым годзе—у Маскву, у будучым—у Крым. На сходзе члены савета камандзіраў адстойвалі сваё рашэнне, і ім удалося дабіцца поспеху большасцю ўсяго толькі трох галасоў. Гэта дало Макаранку падставу наставіць у савеце камандзіраў пытанне аб пераглядзе рашэння. На гэты раз яго прапанова сабрала ў савеце больш галасоў, чым першы раз, але ўсё ж не перамагла. Тады Макаранка зноў пераносіць пытанне на агульны сход, і толькі на гэты раз пры падтрымцы самых дарослых каланістаў і камсамольцаў яму ўдаецца заваяваць болей двух трэціх галасоў. Вось да якіх складаных дзеянняў, што патрабуюць часу, сіл і цярпення, прыходзілася звяртацца часам Макаранку, каб толькі не камандаваць, а пераконваць і тым самым развіваць у дзяцей дух самастойнасці і ініцыятывы. Такому цярпенню, такой любві да дзяцей трэба вучыцца і вучыцца.

А. С. Макаранка клапаціўся не толькі пра тое, каб самому не стаць над калектывам, але і ўсяляк культываваў самы паслядоўны дэмакратызм, які рабіў немагчымым паяўленне сярод каланістаў людзей, прывілеяваных, якія супрацьстаўлялі б сябе ўсёй масе выхаванцаў. Гэтаму садзейнічала сістэма выбараў камандзіраў атрадаў і самі адносіны да камандзіра ў калектыве. Калі кіраўнік калоніі з'яўляўся, па сутнасці, упаўнаважаным усяго калектыву камуны, то камандзіры атрадаў былі ўпаўнаважанымі адпаведных пярвічных калектываў. Назначаць важакоў пярвічных калектываў, лічыў Макаранка, кіраўнік можа толькі тады, калі гэтыя калектывы яшчэ не згуртаваліся, а камсамольская арганізацыя ў іх покуль слабая. Калі ж калектыў ужо моцны, то камандзіраў трэба абавязкова выбіраць на агульным сходзе або назначаць на савеце камандзіраў пасля дэталёвага папярэдняга абмеркавання ў камсамольскай арганізацыі і на педсавеце. «Камандзіры,—падкрэсліваў ён,—павінны заўсёды адчуваць сваю сувязь з калектывам, які іх упаўнаважыў, і сваю адказнасць перад ім».

Макаранка разумеў, якую шкоду прыносяць дутыя, штучна створаныя аўтарытэты. Таму ён дабіваўся таго, каб камандзіры заваёўвалі свой аўтарытэт поспехамі ў працы, добрымі паводзінамі, камсамольскай прынцы-

повасцю. Камандзіры ў яго не карысталіся ніякімі прывілеямі, у іх было толькі больш абавязкаў.

Для тых, хто асабліва імкнуўся стаць начальнікам, непераадольнай перашкодай была сістэма зводных атрадаў, у якіх камандзіры былі на становішчы радавых, і кароткі тэрмін камандзірства—ад трох да шасці месяцаў. «Абюракраціцца» за такі тэрмін, вядома, цяжка. Гэтыя дзве меры, з аднаго боку, абмяжоўвалі магчымае самавольства камандзіраў, якія заўтра станавіліся радавымі каланістамі, а з другога—давалі магчымасць вельмі вялікай колькасці выхаванцаў прайсці «школу камандзірства». Гэта развівала ў іх ініцыятыву і арганізатарскія здольнасці, пазбаўляла камандзірскую пасаду арэолу недаступнасці, выключнасці, прывучала глядзець на «ўладу», як на адказную і ганаровую грамадскую нагрузку. Акрамя таго, выхаванец, які ўчора быў радавым каланістам, сёння—камандзір, а заўтра зноў будзе радавы, прывучаўся не толькі камандаваць і кіраваць, але і падпарадкоўвацца. У падпарадкаванні выхаванцы Макаранкі не бачылі ніякага для сябе прыніжэння. Камунары, — гаварыў педагог,—«умеюць падпарадкоўвацца сваім камандзірам у бягучай справе, на рабоце, у страі, але затое незалежна трымаюцца ў грамадскім жыцці і ў асаблівасці на агульным сходзе. Тут камунары наогул не схільныя разбіраць, хто камандзір, а хто не».

Дзякуючы ўсім гэтым мерам, Макаранка дабіўся таго, што камандзірам станавіўся проста чарговы старэйшы каланіст, які толькі адным адрозніваўся ад усіх астатніх—паўнамоцтвамі і адказнасцю.

У 1933 годзе па даручэнню ўрада Украіны на адну вельмі адказную і цяжкую работу трэба было выдзеліць сто камунараў. Лепшых камунараў паслаць было нельга, таму што гэта былі ў асноўным вучні 9—10 класаў. Макаранка паслаў «сераднякоў», а камандзіраў сярод іх назначыў проста па алфавіту. Усе сто камунараў, і асабліва камандзіры, цудоўна справіліся з заданнем. Вядома, гэтага поспеху можна было дабіцца толькі ўпартай шматгадовай работай, але для такой работы нельга шкадаваць сіл, бо, па сутнасці, гэта ёсць прыступ да практычнага ажыццяўлення ленінскай мары аб тым, каб навучыць майстэрству кіравання дзяржавай любога грамадзяніна нашай краіны.

**Уладзімір ГРЫГОР'ЕЎ.**



***У чацвёртым нумары старонкі з індыйскага сшытка прапануе нашым чытачам Янка БРЫЛЬ.***

**АБ ПЕРШЫХ ЮНАЦКІХ ГАЗЕТАХ У БЕЛАРУСІ РАСКАЖА РЫГОР БУЛАЦКІ.**

ВЫ ПРАЧЫТАЕЦЕ ТАКСАМА НАРЫС АБ БУДНЯХ СЕЛЬСКІХ КАМСАМОЛЬЦАЎ, РАСКАЗ ПРА МАЛАФЕЕВА І, ЗРАЗУМЕЛА, ПРА ФУТБОЛ.

# У ЦАРСТВЕ ХОЛАДУ



Акадэмік М. М. Сірата.

Самымі суровымі лічацца ў нас якуцкія маразы. Пры выдыханні з роту пара імгненна ператвараецца ў крышталікі лёду, якія тут жа сутыкаюцца адзін з другім, і мы чуем нейкі шорхат. Гэта значыць, мароз пераваліў за пяцьдзесят градусаў.

Але такі холад можна назваць лёгкім марозікам у параўнанні з тэмпературамі, якія атрымліваюць штучным шляхам. Калі дадатныя тэмпературы дасягаюць мільёнаў градусаў, адмоўныя не існуюць ніжэй за 273 градусы па Цэльсію. Гэтая велічыня так і завецца — абсалютны нуль.

Каб пазнаёміцца больш падрабязна з гэтай яшчэ мала вывучанаю сферай нізкіх тэмператур, я наведаў Інстытут фізікі цвёрдага цела і паўправаднікоў Акадэміі навук БССР, гутарыў там з дырэктарам інстытута акадэмікам **Мікалаем Мікалаевічам СІРАТОЮ.**

— Фізіка нізкіх тэмператур, — сказаў Мікалай Мікалаевіч, — гэта асобная навука. З'явы, што адбываюцца ва ўмовах звышхаладу, вельмі незвычайныя. Некаторыя праваднікі нечакана ператвараюцца ў звышправаднікі. У іх знікае супраціўленне. Насуперак усім законам фізікі, плёнка вадкасці па сценках пасудзіны як быццам паўзе ўгару. І такі цуд адбываецца заўсёды каля абсалютнага нуля.

Інстытут фізікі цвёрдага цела і паўправаднікоў адзіная навуковая ўстанова ў Беларусі, дзе ў вялікіх колькасцях атрымліваюць вадкі гелій, тэмпература якога пры нармальным ціску набліжаецца да абсалютнага нуля. Яна роўная мінус 269 градусам.

Перш чым расказваць пра незвычайныя з'явы, якія назіраюцца ва ўмовах звышхаладу, трэба хоць у агульных рысах пазнаёміцца з тым, як атрымліваюцца звышнізкія тэмпературы. Зробім экскурсію па залах інстытута, дзе звычайнае паветра ператвараецца ў вадкасць.

Атрымліваць нізкія тэмпературы даволі цяжка. Каб наблізіцца да абсалютнага нуля, вучоныя ўжылі розныя хітрыкі. Як вядома, чым вышэйшая тэмпература, тым больш інтэнсіўны рух малекул. І наадварот, пры нізкай тэмпературы рух малекул запавольваецца. Калі мы награваем цвёрдае рэчыва, яму перадаецца энергія. Малекулы пачынаюць рухацца з большымі хуткасцямі. Калі награванне працягваць далей, наступіць такі момант, што цвёрдае цела ператво-

рыцца ў вадкасць. Пры далейшым павышэнні тэмпературы малекулы пачнуць рухацца так хутка, што пойдзе працэс адрывання ад вадкасці. Атрымаецца пара.

Але чаму мы можам награваць целы амаль бязмежна і не маем магчымасці ахалоджваць іх ніжэй за 273 градусы? Вельмі проста. Разам са змяншэннем тэмпературы слабее і рух малекул. Яны як быццам бы заміраюць.

Пазнаёмімся з найбольш распаўсюджаным спосабам атрымання звадкаваных газаў. Уявіце сабе, што мы напампоўваем паветрам сталёвы балон. Работа, якую мы затрачваем, ідзе на павелічэнне ўнутранай энергіі газу — ён награецца. Калі прымусіць сціснуты газ працаваць, напрыклад, рухаць поршань, яго можна ахаладзіць, таму што частка ўнутранай энергіі газу будзе патрачана на выкананне работы.

Гэта прыблізна можна параўнаць з утварэннем хмар. Маса паветра ад зямлі падымаецца ўгару і там пашыраецца, бо ў верхніх пластах атмасферы ціск меншы. У выніку хуткага пашырэння паветра ахалоджваецца. Утвараюцца кропелькі вады, з якіх і складаюцца хмары.

Газ можна ахаладзіць і не прымушаючы яго выконваць якую-небудзь работу. Уявіце сабе, што паветра пад вялікім ціскам прапускаюць праз порыстую перагародку. У часе праходжання праз яе, ціск газу рэзка падае. Адбываецца ахалоджванне.

У тэхнічных халадзільных устаноўках пад вялікім ціскам газ прапускаюць праз вузкую шчыліну ў так званым дросельным вентылі. Тэмпература газу рэзка зніжаецца. Утвараецца вадкае паветра. Яно змяшчае ў сабе некалькі звадкаваных газаў: азот, кісларод, вадарод, аргон, вуглекіслы газ, неон, гелій, крыптон, ксенон і іншыя. Як жа адбываецца іх падзел? Зусім нялёгка выдзеліць кожны газ паасобку. Для гэтага яго трэба выпарыць з вадкага паветра. Як жа гэта зрабіць?

Мікалай Мікалаевіч растлумачвае:

— У сумесі вадкага паветра ёсць некалькі газаў з рознымі тэмпературамі кіпення. Напрыклад, кісларод кіпіць пры тэмпературы мінус 183 градусы. Азоту патрэбна мінус 195,8 градуса, вадароду — мінус 252,8 градуса, гелію — мінус 268,9 градуса і г. д. У першую чаргу выпарваецца той газ, які мае меншую тэмпературу кіпення.



**Эма Аўсяйчук і Валеры Шулакоў рыхтуюць дослед па звышправоднасці.**

Працэс падзелу адбываецца ў спецыяльных апаратах. Іх называюць рэктыфікацыйнымі калонамі. Унутры калоны ёсць гарызантальныя перагародкі — талеркі. Зверху па гэтых талерках сцякае вадкае паветра, а знізу ўгару падымаецца пара адпаведнага газу. У выніку ўнізе калоны выцякае, напрыклад, вадкі кісларод, а ўверсе — вадкі азот.

Асобнай навуковай і тэхнічнай праблемай з'яўляецца атрыманне вадкага гелію. Папярэдняе ахалоджванне гэтага газу робіцца з дапамогаю вадкага азоту. Толькі калі да абсалютнага нуля застаецца якіх-небудзь чатыры градусы, гелій пераходзіць у вадкі стан.

Захоўваюць вадкія газы ў спецыяльна прыстасаваным ізаляваным посудзе, які ахоўвае іх ад знешняга цяпла пластам вадкага азоту і вакуумнай сарочкай.

Мікалай Мікалаевіч заканчвае гутарку, і перад маімі вачыма паўстае мёртвы, халодны свет... Добра, што ён існуе толькі ў лабараторыях. Наведаўшыя гэты лабараторны свет зямныя рэчывы часта мяняюць свае ўласцівасці. На маіх вачах у вадкі азот апусцілі кавалак гумы, пасля яго дасталі і

кінулі на падлогу — гума рассыпалася ў друзачкі.

У адной з лабараторый інстытута я назіраў дзіўную з'яву, якая некалі ўразіла ўвесь навуковы свет — з'яву звышправоднасці. Яе адкрыў у 1911 годзе галандскі фізік Камерлінг-Онес.

Вядома, што кожны праваднік мае адпаведнае супраціўленне. Для перадачы электрычнага току нявыгадна карыстацца праваднікамі з вялікім супраціўленнем. Камерлінг заўважыў, што пры вельмі нізкіх тэмпературах у некаторых металаў і сплаваў супраціўленне знікае. З такога свінцовага звышправадніка ён зрабіў колца і прапусціў праз яго электрычны ток. Вопыт працягваўся вельмі доўга: некалькі месяцаў па колцу ішоў ток, не сустракаючы ніякага супраціўлення ў метале.

Пры зніжэнні тэмпературы супраціўленне зніжаецца да строга адпаведнай мяжы, і варта толькі на якія-небудзь сотыя долі градуса перайсці гэтую мяжу, як супраціўленне зноў паяўляецца. Кожны метал мае сваю пэўную тэмпературу, пры якой пачынаецца звышправоднасць.

Пасля гэтага вельмі важнага адкрыцця ў інжынераў з'явілася думка выкарыстаць яго для стварэння магутных электрамагнітаў, таму што ў звычайным электрамагніце моцна награецца абмотка, па якой праходзіць ток, бо на перадоленне супраціўлення праваднікоў затрачваецца значная колькасць энергіі.

Аднак пры ажыццяўленні гэтай ідэі вучоныя сутыкнуліся з нечаканай перашкодай. Аказалася, што пры вялікіх токах звышправоднасць знікае, нягледзячы на тое, што тэмпература па-ранейшаму застаецца нізкая. Доўга шукалі шляхі вырашэння гэтай задачы. І вось зусім нядаўна ўдалося стварыць такія сплавы, якія застаюцца звышправаднікамі нават у вельмі моцных магнітных палях.

Упершыню звышправоднасць была выкарыстана ў вымяральнай тэхніцы. Створаны гальванометр з рамкаю са звышправадніка. Ён мае рэкордную адчувальнасць.

Гэтая ж уласцівасць звышправоднасці, у спалучэнні з магчымасцю пераводзіць звышправаднік з дапамогаю магнітнага поля са звышправоднага стану ў нармальны і наадварот, была выкарыстана для стварэння ўзмацняльнікаў вельмі малых токаў і напружанняў. Гэта надта важна для вельмі тонкіх і дакладных фізічных і медыка-біялагічных эксперыментаў. У такім узмацняльніку слабы пастаянны сігнал трапляе на звышправодны дрот у пераменным магнітным полі, якое пераводзіць дрот то ў звышправодны стан, то ў нармальны. Атрымліваецца пераменны ток. А яго лёгка ўзмацніць.

Праблема моцных магнітных палёў таксама з даўняга часу цікавіла навуку і тэхніку. Такія палі патрэбны для стварэння магнітагідрадынамічных генератараў, якія ператвараюць цеплавую энергію ў электрычную. Цяпер на звышправодных электрамагнітах атрыманы вельмі моцныя магнітныя палі.

Дзякуючы звышнізкім тэмпературам стала магчымым стварэнне хуткадзеючых вылічальных машын. Яны будуць кампактныя і, здаецца, заменяць існуючыя грувасткія вылічальныя збудаванні з электроннымі лямпамі.

Вялікую даследчую работу вядуць маладыя вучоныя Інстытута фізікі цвёрдага цела і паўправаднікоў. Атрымана нямала каштоўных звестак. Але, здаецца, самыя цікавыя і важныя будуць яшчэ здабыты.

**Васіль СВЯТЛОЎ.**

**Джына выпусцілі з бутэлькі — вадкі азот расцякаецца па падлозе.**



# ДЛЯ ТЫХ, ХТО МАРЫЦЬ СТАЦЬ ІНЖЫНЕРАМ

**Наталля ПАПОВА, дацэнт,
заг. кафедры вышэйшай матэматыкі БПІ,
кандыдат фізіка-матэматычных навук.**

Аўтару гэтых радкоў многа разоў даводзілася прымаць удзел у правядзенні ўступных экзаменаў па матэматыцы ў Беларускім політэхнічным інстытуце. Хочацца падзяліцца некаторымі вынікамі сваіх шматгадовых назіранняў.

На ўступных экзаменах у БПІ звычайна праводзіцца па матэматыцы два экзамены: вусны і пісьмовы. Выключэннем з'яўляюцца абітурыенты, якія паступаюць на такія спецыяльнасці, як «Архітэктура», «Металазнаўства» і іншыя. Яны здаюць толькі вусны экзамен па матэматыцы.

У мінулым годзе на пісьмовых экзаменах прапаноўвалася адна задача і два прыклады. Задача была па стэрэаметрыі з прымяненнем трыганаметрыі і насіла комплексны характар. Пры рашэнні яе абітурыент павінен быў паказаць свае веды па трыганаметрыі, а таксама ўменне дзейнічаць з прасторавымі вобразамі.

Прыклады былі па алгебры і трыганаметрыі. Вусны экзамен праводзіўся па білетах, у якія ўключаліся ўсе асноўныя пытанні праграмы па матэматыцы для сярэдняй школы. Акрамя таго, на вусных экзаменах прапаноўваліся таксама задачы і прыклады.

Вынікі мінулагодніх экзаменаў паказалі, што большасць выпускнікоў сярэдніх школ здавальняюча падрыхтавана па матэматыцы. Як правіла, добра здаюць экзамены медалісты, выпускнікі тэхнікумаў і тыя абітурыенты, якія вучыліся на падрыхтоўчых курсах пры БПІ або іншых тэхнічных ВНУ. На жаль, усё яшчэ адстаюць у падрыхтоўцы выпускнікі вячэрніх школ і некаторых школ з сельскай мясцовасці.

У параўнанні з мінулымі гадамі значна палепшыліся веды па такіх тэмах, як пабудова графікаў функцый, метад каардынат і дзеянні з абсалютнымі велічынямі (модулямі лікаў). Калі раней толькі моцны абітурыент мог пабудаваць графік функцыі віду $y = |ax^2 + bx + c|$, то цяпер пабудову графікаў такіх функцый ведаюць амаль усе. Цяпер, калі выкладчык хоча задаць пытанне больш цяжкае па гэтай тэме, ён дае, напрыклад, пабудову графіка такой функцыі:

$$y = |\log_2 |x||.$$

Лепш начале выпускнікі сярэдніх школ разбірацца і ў пабудове графіка функцыі віду $y = Af(ax + b)$ па зададзенаму графіку функцыі $y = f(x)$.

Рашэнне задач па стэрэаметрыі з прымяненнем трыганаметрыі ўсё яшчэ выклікае ў абітурыентаў вялікія цяжкасці. Некаторыя з наступаючых на пісьмовых экзаменах добра рашаюць прыклады, а за задачы па стэрэаметрыі нават не бяруцца. Выяўляецца адсутнасць прасторавага ўяўлення, якое так неабходна будучаму інжынеру. Відаць, дарэмна цяпер для выпускнікоў сярэдняй школы няма пісьмовага экзамена па стэрэаметрыі з прымяненнем трыганаметрыі. Калі такі экзамен раней праводзіўся, паступаючыя ў тэхнічныя ВНУ, як правіла, рашалі на ўступных экзаменах гэтыя задачы лепш.

На нашу думку, на выпускных экзаменах па матэматыцы абавязкова павінен быць адзін экзамен пісьмовы. Вельмі ж многія паступаючыя не ўмеюць правільна запісаць тлумачэнні да рашэння задач і ў выніку атрымліваюць паніжаную ацэнку, нават у тым выпадку, калі задачы і прыклады рашылі правільна.

Многія паступаючыя выявілі недастатковыя веды па трыганаметрыі, а таксама па тэмах «Лагарыфмы», «Няроўнасці», «Комплексныя лікі».

Большасць абітурыентаў дрэнна рашае трыганаметрычныя ўраўненні. Некаторыя адчуваюць цяжкасці нават пры рашэнні прасцейшага ўраўнення віду $\sin x = m$. Тут дрэнны ўплыў аказвае тое, што цяпер з праграмы сярэдняй школы зусім, па сутнасці, выключаны адваротныя трыганаметрычныя функцыі: $y = \arcsin x$, $y = \arccos x$, $y = \operatorname{arctg} x$ і $y = \operatorname{arcctg} x$. А гэтыя ж функцыі вельмі патрэбны будучым інжынерам. У вышэйшай школе з імі сустракаюцца пры інтэграванні функцый і ў іншых раздзелах вышэйшай матэматыкі.

З вялікім задавальненнем трэба адзначыць, што некаторыя паступаючыя на мінулагодніх уступных экзаменах паказалі выдатныя веды, уменне лагічна мысліць і прымяняць свае веды на практыцы. Да такіх адносяцца, напрыклад, Ю. Слюсар з Варапаеўскай сярэдняй школы Пастаўскага раёна, Н. Піваварава з Даманаўскай сярэдняй школы Брэсцкай вобласці, С. Пячэнік з Давідгарадоцкай сярэдняй школы № 2, В. Няпомнячая з сярэдняй школы № 79 г. Мінска, З. Лукацэвіч з сярэдняй школы № 63 г. Мінска, Я. Буднікаў

з Дзянісаўскай сярэдняй школы Крупскага раёна, В. Іванцоў з сярэдняй школы № 18 г. Гомеля, І. Шышанкоў з сярэдняй школы № 35 г. Мінска, С. Смірноў з сярэдняй школы № 73 г. Мінска і іншыя.

На жаль, мелася многа выпадкаў, калі абітурыенты паказалі вельмі дрэнныя веды па матэматыцы. Напрыклад, Л., які паступаў у наш інстытут у 1967 годзе, не змог пабудаваць графіка функцыі $y = \frac{k}{x}$ і рашыць няроўнасць $x^2 - x < 0$; Х. не пабудавала графік функцыі $y = \left(\frac{1}{2}\right)^x$, не рашыла ўраўненне $\sin 6x = \sin 4x$, не рашыла няроўнасць $x^2 - 2x > 0$. Абітурыент Ш. не ведаў комплексных лікаў, не рашыў ураўнення $\cos 2x = \frac{\sqrt{2}}{2}$ і $\operatorname{tg} x = 1$; П. не змагла пабудаваць графік лінейнай функцыі, Д., які скончыў у 1967 годзе школу з сярэбраным медалем, на ўступных экзаменах у пісьмовай рабоце дапусціў грубейшыя памылкі і атрымаў нездавальняючую ацэнку.

Часам бываюць зусім анекдатычныя выпадкі. Напрыклад, абітурыент Л. піша «$\sin 270° = 60°$» (!), абітурыент Б. піша: «$\sin x = m$, значыць $x = \frac{m}{\sin}$» (!). Абітурыент К. вылічае лагарыфмы так: «$\lg \frac{5}{2} = 4$», а яго таварыш П. піша: «$\lg (x - 1) = \lg x - \lg 1$» (!). Паступаючы У. не ўмее дзейнічаць з радыкаламі, ён піша «$\sqrt{3} \cdot \sqrt[3]{4} = \sqrt[5]{12}$», а Ш. не змог рашыць нават квадратнае ўраўненне $x^2 - 5x + 6 = 0$.

Як паказалі ўступныя экзамены, асноўным недахопам многіх выпускнікоў сярэдняй школы з'яўляецца фармалізм у ведах. Многія выпускнікі, напрыклад, добра завучылі графікі прасцейшых функцый, але пабудаваць графік функцыі, карыстаючыся яе ўласцівасцямі, не ўмеюць. Яны аб уласцівасцях функцыі мяркуюць па віду яе графіка, а не наадварот.

Пры падрыхтоўцы да ўступных экзаменаў у ВНУ трэба звярнуць вялікую ўвагу на такія важныя для будучага інжынера тэмы, як трыганаметрыя, рашэнне няроўнасцей, дзеянні з лагарыфмамі, пабудова графікаў функцый і іншыя.

Ніжэй прыведзена некалькі задач і прыкладаў такой цяжкасці, якую мелі задачы, што даваліся ў папярэднія гады на пісьмовых уступных экзаменах у БПІ.

1. У трохвугольнай пірамідзе ўсе бакавыя рэбры і два рабры асновы роўны $a$. Вугал паміж роўнымі рэбрамі асновы роўны $\alpha$. Вызначыць аб'ём піраміды.

Адказ: $V = \frac{a^3 \sin\alpha}{6 \cos\frac{\alpha}{2}} \sqrt{\sin\left(60° + \frac{\alpha}{2}\right) \cdot \sin\left(60° - \frac{\alpha}{2}\right)}$.

2. Грані паралелепіпеда — ромбы, якія роўны паміж сабой і размешчаны так, што сустракаюцца разам тры вострыя плоскія вуглы. Знайсці аб'ём паралелепіпеда, калі бок ромба роўны $a$ і востры вугал роўны $\alpha$.

Адказ: $V = 2a^3 \sin\frac{\alpha}{2} \sqrt{\sin\frac{3}{2}\alpha \sin\frac{\alpha}{2}}$.

3. Сума трох паслядоўных членаў геаметрычнай прагрэсіі роўна 62, а сума іх дзесятковых лагарыфмаў роўна 3. Знайсці гэтыя члены прагрэсіі.

Адказ: *2, 10, 50*, або *50, 10, 2*.

4. Праверыць справядлівасць роўнасці:

$$\sin^4\frac{\pi}{8} + \sin^4\frac{3\pi}{8} + \sin^4\frac{5\pi}{8} + \sin^4\frac{7\pi}{8} = \frac{3}{2}.$$

5. Рашыць ураўненне: $\lg 2 + \lg(4^{x-2} + 9) = 1 + \lg(2^{x-2} + 1)$.

Адказ: $x_1 = 4$; $x_2 = 2$.

6. Прывесці да віду, зручнаму для лагарыфмавання:

$$\frac{\cos 3x - \cos 5x}{\cos 3x + \cos 5x} - \frac{\cos 2x - \cos 4x}{\cos 2x + \cos 4x}.$$

Адказ: $\frac{\sin\alpha \cdot \operatorname{tg}\alpha}{\cos 4x \cdot \cos 3x}$.

7. Прывесці да віду, зручнаму для лагарыфмавання:

$$\frac{\sin\alpha + 2\sin 2\alpha + \sin 3\alpha}{\cos\alpha - 2\cos 2\alpha + \cos 3\alpha}.$$

Адказ: $-\operatorname{tg} 2\alpha.\ \operatorname{ctg}^2\frac{\alpha}{2}$.

# РАШЭННЕ ЗАДАЧ ПА ФІЗІЦЫ, ЗМЕШЧАНЫХ У № 2 НАШАГА ЧАСОПІСА




Мал. 1.




Мал. 2.

**Задача № 1.**

Калі бак быў бы нерухомы, то ўзровень вады ў ім быў бы гарызантальны (пункцірная лінія на мал. 1). Пры руху бака з паскарэннем $a$ вада, імкнучыся захаваць ранейшае становішча (па інерцыі), адносна бака будзе рухацца з паскарэннем $a_{ін} = -a$, і ўзровень вады зменіцца — стане паралельным нахільнай плоскасці. Тады на выдзелены вельмі малы аб'ём вадкасці масай $M$ будзе дзейнічаць сіла інерцыі $F_{ін} = M \cdot a_{ін}$ *(Мал. 1)*. На гэты аб'ём дзейнічае сіла цяжару $P_1 = Mg$, (раскладзеная на дзве састаўныя: $P_п$ і $F_{ск}$), і з боку прылягаючых слаёў вадкасці і рэзультыруючая сіла $N_1$, нармальная да паверхні, бо вада рухаецца ўся як цэлае. У сілу гэтай умовы

$$N_1 = -P_п \text{ і } F_{ін} = -F_{ск},$$

г. зн. $Ma_{ін} = -Mg \cdot \sin\alpha$; тады $-a_{ін} = g \cdot \sin\alpha$. Значыць, для таго, каб узровень вады быў паралельны нахільнай плоскасці, неабходна, каб бак рухаўся з паскарэннем

$$a = g \cdot \sin\alpha.$$

Разгледзім цяпер рух бака з вадой як адзінага цэлага. На яго дзейнічаюць сілы: шукаемая $F$, цяжару $P$ (раскладзеная на дзве састаўныя $f_п$ і $f_{ск}$), трэння $F_{тр}$ і нармальнай рэакцыі апоры $N$ *(Мал. 2)*.

Згодна другога закону Ньютана маем:

$F + f_{ск} - F_{тр} = m \cdot a$, або $F + mg \cdot \sin\alpha - k \cdot m \cdot g \cdot \cos\alpha = mg \sin\alpha$. Тады $F = k \cdot m \cdot g \cos\alpha$, г. зн. шукаемая сіла па велічыні павінна быць роўна сіле трэння.




Мал. 3.

**Задача № 2.**

Частату вярчэння грузіка вызначаем па формуле:

$$\nu = \frac{1}{T} = \frac{v}{2\pi R}.$$

На грузік у пункце $A$ дзейнічаюць сілы: нацяжэння ніткі $Q$ і цяжару $P$, іх рэзультыруючая $F_{цс}$ забяспечвае неабходную цэнтраімклівую сілу *(Мал. 3)*. Раскладаўшы сілу цяжару $P$ на дзве састаўныя $P_1$ і $F_{цс}$ і ўлічваючы падабенства трохвугольнікаў $OAC$ і $PAF_{цс}$, атрымаем

$$\frac{F_{цс}}{P} = \frac{R}{h}, \text{ або } \frac{mv^2}{R\cdot mg} = \frac{R}{h}.$$

Вызначыўшы адсюль хуткасць руху $v$, падставім яе значэнне ў зыходную формулу. Тады атрымаем:

$$\nu = \pm\frac{1}{2\pi}\cdot\sqrt{\frac{g}{h}}.$$

Знакі $\pm$ адпавядаюць вярчэнню грузіка па гадзіннікавай або супраць гадзіннікавай стрэлкі.

**Задача № 3.**

Выбярэм узровень $OO_1$ адлічэння патэнцыяльнай энергіі па самаму ніжняму становішчу цела ў вадзе *(Мал. 4)*. Тады на аснове закону захавання і ператварэння энергіі маем:

$$A = E_C - E_D,$$

дзе $A = -F\cdot h_x$, $E_C = 0$, $E_D = P\cdot(h + h_x)$.

Сілу $F$ вызначым па закону Архімеда:

$F = V\cdot d_1$, дзе $V$ — аб'ём цела, $d_1$ — удзельная вага вады. Вага цела $P = V\cdot d$.

З атрыманых ураўненняў знаходзім глыбіню пагружэння цела ў ваду:

$$h_x = \frac{d}{d_1 - d}\,h.$$

Час усплывання цела на паверхню вады вызначым з ураўнення: $h_x = \frac{a\cdot t^2}{2}$.

Паскарэнне руху $a$ знойдзем, выкарыстоўваючы другі закон Ньютана: $F - P = m\cdot a$, або $V\cdot d_1 - V\cdot d = \frac{V\cdot d}{g}\cdot a$. Тады $t = \frac{d}{d_1 - d}\cdot\sqrt{\frac{2h}{g}}$.

Калі цела будзе мець значныя памеры, то пры паступовым яго пагружэнні ў ваду выштурхоўваючая сіла будзе мяняцца ад нуля і дасягне максімальнага значэння пры поўным пагружэнні. Характар гэтага змянення будзе залежаць ад характару змянення аб'ёму пагружанай часткі цела, г. зн. ад формы цела (не трэба блытаць з залежнасцю сіл трэння і лабавога супраціўлення ад формы і памераў цела). Таму глыбіня пагружэння цела ў ваду і час яго ўсплывання на паверхню (пры тым жа лабавым супраціўленні) некалькі павялічацца. Калі лабавое супраціўленне будзе значнае, то велічыні $h_x$ і $t$ зменшацца.




Мал. 4




Мал. 5.

**Задача № 4.**

Зарад на пласціне кандэнсатара вызначым з формулы: $q = C \cdot U$, дзе $C$ — электраёмкасць складанага кандэнсатара, $U$ — напружанне на яго пласцінах. Складаны кандэнсатар можна разглядаць як паслядоўнае злучэнне двух кандэнсатараў: паветранага з адлегласцю паміж пласцінамі $\frac{1}{3}d$ і запоўненага дыэлектрыкам з адлегласцю паміж пласцінамі $\frac{2}{3}d$ (*Мал. 5*).

Тады $C = \frac{C_1 \cdot C_2}{C_1 + C_2}$, дзе $C_1 = \frac{\varepsilon_0 S}{\frac{1}{3}d}$ і $C_2 = \frac{\varepsilon \cdot \varepsilon_0 S}{\frac{2}{3}d}$; або $C = \frac{3 \cdot \varepsilon \cdot \varepsilon_0 S}{d(\varepsilon + 2)}$.

Значыць, $q = \frac{3\varepsilon \cdot \varepsilon_0 \cdot S \cdot U}{d \cdot (2 - \varepsilon)}$.




*Мал. 6.*

**Задача № 5.**

З трохвугольніка $AOF$ (*Мал. 6*) вынікае, што $AF = OF \cdot \operatorname{tg} \alpha$, дзе $AF$ — велічыня, роўная палавіне дыяметра ўлюстроўка Сонца на экране $MN$, які будзе размешчаны ў факальнай плоскасці лінзы, таму што можна лічыць, што Сонца знаходзіцца на бясконцай адлегласці; $OF$ — галоўная фокусная адлегласць лінзы.

Тады $AB = 2F \cdot \operatorname{tg} \frac{\alpha}{2} \approx 2{,}6$ *см.*

*Заўвага.* Падобныя задачы можна знайсці ў наступных дапаможніках:

**В. А. Балаш.** Задачы па фізіцы. Выдавецтва «Асвета», Масква, 1964, №№ 78, 6 (раздзел III), 460, 466, 467, 469.

**М. П. Шаскольская, І. А. Эльцін.** Зборнік выбраных задач па фізіцы. Дзяржаўнае выдавецтва фізіка-матэматычнай літаратуры. Масква, 1959, № 181.

**М. П. Шаскольская, І. А. Эльцін.** Зборнік выбраных задач па фізіцы. Выдавецтва «Навука», Масква, 1967, № 8, 50.

**В. Г. Зубаў, В. П. Шальноў.** Задачы па фізіцы. Дзяржаўнае выдавецтва тэхнічна-тэарэтычнай літаратуры. Масква, 1954, № 145.

**Г. А. Бендрыкаў, Б. Б. Бухаўцаў, В. В. Кержанцаў, Г. Я. Мякішаў.** Задачы па фізіцы для паступаючых у ВНУ. Выдавецтва Маскоўскага ўніверсітэта, 1966, № 253.

Бацька Аляксея Глебава любіў жывапіс і разьбу па дрэве. У сенцах стаяў варштат, над якім на паліцах ляжалі долаты, гэблікі. Тут жа стаяў самаробны мальберт з палітраю. Другім яго захапленнем былі коні. У кірмашовыя дні каля стайні збіраўся гаманкі натоўп людзей, і бацька выводзіў на паказ прыгажуноў-рысакоў, часам тут жа купляў новых.

Старэйшы брат, Канстанцін, напярэдадні імперыялістычнай вайны займаўся ў Строганаўскім мастацкім вучылішчы.

Маці будучага скульптара, адукаваная па тых часах жанчына, доўгімі зімовымі вечарамі чытала Аляксею казкі, вершы, расказвала пра тэатр.

Рана скончылася дзяцінства — памерлі бацькі. Неўзабаве пачалася грамадзянская вайна. У Чырвоную Армію пайшлі старэйшыя браты.



# У «СЕЙФЕ» ШМАТ ЗАДУМ

— Жыў я ў цёткі, добрай і суровай жанчыны, класнай дамы гімназіі,—успамінае Аляксей Канстанцінавіч Глебаў.— Яна ўстанавіла мне жорсткі распарадак дня — заняткі ў школе, чытанне дома. Мяне ж цягнула на вясковую вуліцу, па якой на ўзмыленых скакунах ехалі на Заходні фронт коннікі Гая. Мы, хлапчукі, частавалі чырвонаармейцаў гуркамі і яблыкамі, і вялікая была радасць, калі ад іх у падзяку даставаўся стрэлены патрон.

Калі з фронту вярнуўся Канстанцін, то забраў Аляксея да сябе ў мястэчка Рудню, дзе настаўнічаў. Ён стварыў пры школе гурток малявання. Тады разам у гуртку займаліся вядомыя цяпер беларускія мастакі, рудзенскія сябры Аляксея К. С. Касмачоў і А. П. Мазалёў. Скончыўшы школу, яны падаліся ў Віцебскі мастацкі тэхнікум, адзіную ў той час мастацкую навучальную ўстанову на Беларусі.

Паступаючы ў тэхнікум, Аляксей Глебаў не марыў пра скульптуру, яго захапляў жывапіс. Але на першым жа праглядзе ён паказаў некалькі кампазіцый з гліны. На іх звярнулі ўвагу выкладчыкі і дырэктар тэхнікума скульптар Міхаіл Аркадзьевіч Керзін. Гэта і вырашыла далейшы лёс мастака.

У трыццатыя гады А. Глебаву давялося пакінуць вучобу і пачаць самастойнае жыццё. Працаваў мастаком-жывапісцам на рэспубліканскай сельскагаспадарчай выстаўцы, пасля бутафорам Віцебскага драматычнага тэатра. Тут з удзелам М. Д. Натарэвіча і С. М. Вронскага юнак вылепіў восем конскіх статуй для аднаго са спектакляў, і галоўны мастак Д. А. Крэйн рэкамендаваў маладога скульптара ў МХАТ-ІІ для рэстаўрацыі бутафорскай статуі Мінервы для п'есы «Пётр І». Выдатна выканаўшы заданне, Глебаў застаецца працаваць у Маскве ў Малым Акадэмічным тэатры.

«Тады складваўся мой эстэтычны светапогляд,— расказвае далей Аляксей Канстанцінавіч.— Мне пашчасціла працаваць з такімі вялікімі мастакамі тэатра, як Дзмітрыеў, Акімаў, Нівінскі, Фаворскі, Натарэвіч. Я гадзінамі слухаў незабыўныя расказы Якаўлева, захапляўся яго непаўторным майстэрствам. Я жыў у сям'і такіх гігантаў сцэны, як Гіяцынтава, Бярсенеў, Бірман, Папова.

У каморку пад лесвіцай, дзе я ў вольныя хвіліны практыкаваўся ў лепцы з натуры і ствараў кампазіцыі, часта заходзіла Вера Ігнатаўна Мухіна. Яна расказвала пра важнейшыя законы пластыкі і кампазіцыі. Там я ўпершыню пазнаёміўся з Іванам Дзянісавічам Шадрам, а таксама Мяркуравым і Манізерам.

У гэты час на Беларусі разгортвалася вялікае будаўніцтва. Узводзіліся будынкі прамысловых прадпрыемстваў, раслі грамадскія і культурныя ўстановы. Адзінай сям'ёй з будаўнікамі жылі і мастакі рэспублікі. Вялікія дзяржаўныя заказы выпалі і на долю скульптараў. Трэба было афарміць Дом урада, Дом Чырвонай Арміі, оперны тэатр... Міхаіл Аркадзьевіч Керзін запрасіў свайго былога вучня прыняць удзел у гэтых работах. У час адпачынку Аляксей

Глебаў едзе ў Мінск і выконвае велічны бюст М. В. Фрунзе для Дома ўрада, а ўжо ў 1934 годзе Керзін канчаткова дабіваецца пераводу маладога скульптара ў Мінск. На рыштаваннях Дома ўрада ён працуе побач з Манізерам і Керзіным, Арловым і Бембелем, Азгурам і Ізмайлавым. Адначасова стварае вялікую конную статую К. Я. Варашылава і эскіз помніка вызвалення Беларусі ад белапольскіх акупантаў. Дарэчы, над батальнай тэмай скульптар працуе амаль усё жыццё, і сёння ў яго майстэрні шмат накідаў, эскізаў і завершаных работ на тэму грамадзянскай вайны. Батальная тэма, якая вырашаецца ў коннай кампазіцыі, праходзіць праз усю творчасць А. К. Глебава.

У тыя ж трыццатыя гады ён стварае другую конную групу — «Рэўваенсавет Першай коннай арміі». Унутраны змест вобразаў вырашыла мова лаканічнай пластыкі і кампазіцыі. Рашучы момант атакі. Наперадзе праслаўленыя камандзіры — Варашылаў, Будзённы, Шчадзенка. Гэтая праца была добра сустрэта гледачамі на першай беларускай дэкадзе ў Маскве ў 1940 годзе.

У той час А. К. Глебаў разам з архітэктарам Заборскім працуе над эскізам помніка ўз'яднання беларускага народа і ўдзельнічае ва ўсесаюзным конкурсе. Але пачалася вайна. У эскізах засталося шмат незакончаных твораў, сярод іх бюст Янкі Купалы, праект помніка першадрукару і асветніку Францыску Скарыне, некалькі партрэтаў беларускіх артыстаў і конных кампазіцый. Аляксей Канстанцінавіч з жонкай і дзецьмі эвакуіруецца ў Саратаўскую вобласць, працуе ў калгасе, а з восені сорак першага — ён радавы Чырвонай Арміі. Лютая ваенная зіма застала скульптара, а цяпер кулямётчыка, у акопах пад Масквой. У адным з баёў Аляксей Канстанцінавіч быў паранены і трапіў у шпіталь, дзе быў начальнікам палкоўнік Гілер.

Успамінаючы тыя дні, Аляксей Канстанцінавіч гаворыць:

— Гэта быў цудоўнай душы чалавек. Выдатны арганізатар і знаўца мастацтва. Калі шпіталь перабраўся пад Вязьму, ён у бярозавым ляску змог збудаваць сапраўдны зямлячны горад, стварыў самадзейнасць, а нам, мастакам, даў магчымасць працаваць і арганізаваў шпітальную выстаўку. Тут беларускі скульптар не толькі прымае ўдзел у афармленні шпіталя, але і стварае кампазіцыі — барэльеф «Вынас раненага» і групы «Донар» і «Медсястра». Персанажамі кампазіцыі А. К. Глебава былі яго сябры-салдаты, іх бачыў скульптар на полі бою. Перажытае і ўбачанае дапамагло дасягнуць у гэтых творах высокага эмацыянальнага гучання, і



**Праект помніка Скарыне ў Полацку.**

яго творы мелі вялікі поспех сярод раненых салдат і афіцэраў.

18 мая 1943 года Аляксея Канстанцінавіча выклікаюць у Маскву ў штаб партызанскага руху. Тут былі вядомыя беларускія пісьменнікі, журналісты, мастакі. Пачыналася работа па афармленню партызанскіх часопісаў, лістовак, плакатаў. Акрамя таго, падрыхтоўвалася мастацкая выстаўка да 25-годдзя БССР.

Скульптар-салдат натхнёна ўзяўся за даручаную справу. Верны сваёй традыцыі анімаліста, ён зноў стварае праект помніка — конную статую генерала Даватара. На ўздыбленым кані з шабляю воін нібы паказвае шлях да перамогі. Другі твор — скульптура Янкі Купалы. Натхнёны і задумлівы, з нязменнаю кавенькаю, Купала ідзе па зямлі, якую зноў бачыць вольнай. На гэтай жа выстаўцы скульптар паказвае кампазіцыю «У рабстве» і дзве невялікія конныя статуі князёў Уладзіміра Полацкага і Васілька Мінскага.

Ішоў 1944 год, год вызвалення Беларусі. 3 ліпеня быў вызвалены Мінск. Тут фашысты знішчылі ўсё. Але горад жыў. Змяніўшы аўтаматы і вінтоўкі на рыдлёўкі і насілкі, будавалі мінчане новы Мінск. Да іх, як і ў трыццатыя гады, далучыліся беларускія скульптары. У адбудаванай нашай сталіцы, у яе фасадах і інтэр'ерах ёсць і доля працы А. К. Глебава.

У пасляваенныя гады скульптар стварае партрэты правадыроў камуністычнага руху і савецкай дзяржавы Маркса, Энгельса, Леніна. Разам з архітэктарам Заборскім працуе над праектам помніка Янку Купалу, лепіць двухфігурную кампазіцыю «Я. Купала і М. Горкі».

І сёння ў майстэрні на станках — пачатыя і завершаныя вобразы вядомых беларускіх паэтаў. Не пакідае мастак і колішняй сувязі з тэатрам — ён стварае партрэты артыстаў, едзе ў калгас і прывозіць бюсты «Стары калгаснік», «Ільнаводка», кампазіцыі «Вечар на цаліне», «Вяртанне з працы», «На палявым стане». Яго новы твор — статуя вялікага рускага фізіка П. Лебедзева ўпрыгожвае будынак МДУ на Ленінскіх гарах. На стылабаце манумента Перамогі ў г. Мінску ўстаноўлены гарэльеф «Рэйкавая вайна», які належыць А. К. Глебаву.

На выстаўках можна ўбачыць паэтычную конную кампазіцыю «Элегія» і віхурную «Атаку».

Працуючы выкладчыкам у тэатральна-мастацкім інстытуце, Аляксей Канстанцінавіч заўсёды з моладдзю, жыве з ёю адзінымі клопатамі, падзяляе яе цягу да новага. Аб гэтым сведчаць яго новыя творы — статуі «Веславальшчык», «Гімнастка», драўляныя кампазіцыі «Юнацтва». Адна з іх упрыгожвала беларускі павільён на Лейпцыгскім кірмашы.

Вобраз вялікага правадыра і настаўніка Уладзіміра Ільіча хвалюе мастака ўсё жыццё. Ён стварае рэльефы, бюсты і помнік Уладзіміру Ільічу для горада Горкі Магілёўскай вобласці. Да саракагоддзя Савецкай улады скульптар падрыхтаваў шматфігурную кампазіцыю «Сустрэча Леніна на Фінляндскім вакзале ў красавіку 1917 года».



**Студэнтка.**

Творчы шлях А. К. Глебава — гэта натхнёнае самаадданае служэнне свайму народу. Вобразы, створаныя ім, заўсёды хвалююць гледача высокім напалам, вялікай эмацыянальнай напружанасцю.

У 1955 годзе А. К. Глебаву прысвоена званне Народнага мастака БССР, а напярэдадні пяцідзесяцігоддзя Вялікага Кастрычніка да яго баявых і працоўных узнагарод прыбавілася яшчэ адна, самая высокая ўзнагарода Радзімы — ордэн Леніна.

Зараз у майстэрні шасцідзесяцігадовага скульптара завершана работа над бюстам-помнікам народнаму пісьменніку Якубу Коласу. Створаны праект помніка Скарыне для горада Полацка. Ідуць творчыя пошукі для помнікаў Янку Купалу ў г. Мінску і генералу Даватару ў г. Віцебску. А ў «сейфе», як гаворыць Аляксей Канстанцінавіч, яшчэ шмат задум. Чакаем іх здзяйснення.

**Ігар КРАЎЧАНКА,**
**скульптар.**




# 1968 ГОД

## КРАСАВІК

# ЗНАМЯНАЛЬНЫЯ ДАТЫ З ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ

### 10—14

50 гадоў назад (1918) у Смаленску працаваў II з'езд Саветаў Заходняй вобласці.

### 12

20 гадоў назад (1948) пачаў работу I з'езд Беларускага тэатральнага аб'яднання.

### 17 КРАСАВІКА — 28 МАЯ

40 гадоў назад (1928) адбываўся судовы працэс «133-х» над членамі КПЗБ, КСМЗБ і левымі прафсаюзнымі дзеячамі Заходняй Беларусі.

### 22

Нарадзіўся У. І. Ленін (1870). Дзень памяці У. І. Леніна.

### КРАСАВІК

20 гадоў назад (1948) уступіў у строй Мінскі гіпсавы завод.

---

Падрыхтавана аддзелам навуковага выкарыстання дакументальных матэрыялаў і інфармацыі Архіўнага ўпраўлення пры Савеце Міністраў БССР на падставе матэрыялаў, прадстаўленых цэнтральнымі і абласнымі дзяржаўнымі архівамі рэспублікі.

# СПАРТЫЎНЫЯ АНТРАКТЫ

Фотарэпартаж Валянціна ЖДАНОВІЧА

Рапіра — родная сястра шпагі, і Дыяна Нікапчыкава часта ідзе на трэніроўку са сваім мужам. А Нікапчыкаў III — трохгадовы Вова — трэніруецца ў мамы.



На спартыўным небасхіле штогод успыхваюць новыя зоркі. А ёсць і такія, што даўно саграваюць сваёй цеплынёй сэрцы балельшчыкаў — урачоў, настаўнікаў, механікаў, кібернетыкаў, гадзіннікавых майстроў, аграномаў, сацыёлагаў, інжынераў чалавечых душ і проста інжынераў, касманаўтаў, міністраў...

Хварэць спортам пачынаюць з дашкольнага ўзросту і хварэюць на працягу самага доўгага жыцця.

Хоць спартыўнымі журналістамі спісана шмат цэнтнераў паперы, але складаны балельшчыцкі механізм яшчэ не вывучаны.

Тым не менш, адна яго ўласцівасць добра вядома. Гэта — дасціпнасць. Каб чалавецтва мела такую «дасціпнасць» і ў астатніх сваіх справах, то мы б ужо глядзелі матчы паміж мінскім «Дынама» і марсіянскай «Аэлітай».

Адным словам, балельшчык хоча ведаць пра спартсменаў усё і — нават крыху больш. Яму мала двух таймаў, каб назіраць за Малафеевым, мала афіцыйных табліц і газетных артыкулаў — ён хоча ведаць, які ў форварда памер буцаў і колькі ў яго дзяцей. Балельшчыку абавязкова трэба ведаць працэнтныя адносіны запраўчнай сумесі для гоначных машын, колькі важыць барцоўскі дыван і з чаго зроблены молат Рамуальда Кліма.

— З вальфраму, даражэнькі, з вальфраму,— так адказаў алімпійскі чэмпіён.

Мы таксама вырашылі крыху аддзячыць балельшчыку за яго турботы і паказаць некаторых спартсменаў не ў той час, калі яны знаходзяцца на фінішнай прамой, і не тады, калі, рыхтуючыся пабіць сусветны рэкорд, яны за адну трэніроўку падымаюць па дзесяць тон жалеза, а ў спартыўных антрактах.

Першы з першых — Аляксандр Мядзведзь. Беларускі спартсмен № 1 і сусветны асілак № 1 славіцца сваёй ветлівасцю. Давай, балельшчык, завітаем да яго на кватэру. Зірнем на яго ў той час, калі ён снедае. Так і спытаемся ў яго:

— Чым ты, асілак, сілкуешся?

Але Аляксандр Мядзведзь у Маскве.

— Вось так заўсёды,— крыўдзіцца балельшчык,— або ў Маскве, або ў Токіо, а хутка і ў Мехіка...

Не сумуй, бедалага, хадзем далей.

— Да Кліма?

— Да Кліма.

Рамуальд Клім... у Маскве.

Мне сорамна зірнуць балельшчыку ў вочы, бо там паступова нараджаецца ўспамін пра белага бычка. Ратуемся тым, што хуценька бяжым да Аляксея Нікачныкава. Ён жа, напэўна, дома: аспірант педінстытута ўвесь вольны час прысвячае заняткам.

Аляксей Нікачныкаў таксама... у Маскве.

І тады я чую злосны шэпт свайго падапечнага:

— Мы з табой ішлі? Кажух знайшлі?..

Усё ж такі я размочваю сухі лік. Жонка двухразовага чэмпіёна Дыяна Нікачныкава, наша залатая рапіра, ветліва расчыняе перад намі дзверы. З яе лёгкае рукі пачаліся сустрэчы ў антрактах. Але не раз яшчэ і мае вароты трашчалі ад моцна пасланага мяча.

Што ж, на тое яны і зоркі, каб іх рэдка бачыць.

Іншы раз дзеці не толькі ідуць па слядах бацькоў, але і... плывуць. Калісьці ў Беларускі інстытут фізкультуры паступіла ленінградка Тамара Муна. Яшчэ ў Ленінградзе яна пабіла дзявочы рэкорд краіны па плаванню. Потым ёй належалі рэкорды Беларусі. Цяпер Тамара Пятроўна—вядомы трэнер. А яе дачка Лена на Усесаюзнай спартакіядзе школьнікаў у Ленінградзе, у тым жа басейне, дзе пачынала спартыўную кар'еру Тамара Пятроўна, заваявала залаты медаль.

Лена вучыцца ў 9-м класе, яна майстар спорту. Трэніруе яе Тамара Пятроўна. Пасля вялікіх нагрузак у басейне кравецкая справа—прыемны адпачынак для маці і дачкі.






Калі на вуліцы вы сустрэнеце чалавека з чорнай сумкай, на якой напісана «Пума», ведайце, гэта — Ён! Агульны фаварыт, самы трапны бамбардзір краіны, уладальнік спецыяльнага футбольнага прыза. Ён, які забіў той самы гол у матчы з кіяўлянамі. Ён-ён-ён! Вы не горш за мяне ведаеце, хто гэта. Зразумела, Міхаіл Мустыгін.



А вось Ігар Ромін. Фотарэпартаж яшчэ не стаў галоўным заняткам Ігара. Але сямейная хроніка — таксама важная справа. Асабліва, калі маеш такую жонку. Ніна Роміна (Старкова) — вядучая беларуская гімнастка, майстар спорту. Балельшчыкі заўсёды сустракаюць воплескамі яе вольныя практыкаванні і апорныя скачкі.



Каралева спорту — лёгкая атлетыка мае свайго вернага рыцара, заслужанага майстра спорту Уладзіміра Булатава. Яго імя грымела на ўсіх стадыёнах свету. Цяжкая траўма вымусіла Булатава адкласці шэст, з дапамогай якога ён браў 464 сантыметры. Цяпер ён трэнер. Апошнія паўтара года ён трэніраваў скакуноў Кубы. Кубінцы аказаліся здольнымі вучнямі. А іх настаўнік у вольны час паляваў у празрыстых водах Карыбскага мора. Цяпер кватэра Булатава стала сапраўднай кунсткамерай.

# Яны вам знаёмыя



У спорце здараюцца вельмі крутыя павароты. Кандыдат у майстры па кіданню кап'я Тацяна Бурло даўно марыла набыць матацыкл. Каб з ветрыкам ездзіць на трэніроўкі. Яна купіла «Яву», а потым яе матор заспяваў на ўсю рэспубліку. Таня стала чэмпіёнкай па мотакросу. Кажуць, што тут у яе больш шансаў стаць майстрам. А Тацяна ўсё яшчэ вырашае дылему: што лепш—кап'ё ці матацыкл?!. Каб марна не траціць часу, яна трэніруе і лёгкаатлетаў і маладых гоншчыкаў.



Трэба мець вялікае цярпенне, каб дачакацца вынікаў шасцідзесяці стрэлаў. Таму ў Ігара Бакалава нямнога балельшчыкаў, хоць ён рэкардсмен свету і чэмпіён краіны па стральбе з пісталета. А галоўны занятак снайпера — радыё. Вы бачыце Ігара за пультам радара. Ён студэнт трэцяга курса Мінскага радыётэхнічнага тэхнікума.



Ёсць і такія віды спорту, дзе інтэлект адыгрывае не меншую ролю, чым сіла і пластыка. Мастацкая гімнастыка знаходзіцца дзесьці на грані паміж фізічнай культурай і прыгажосцю. Трох сябровак—Наташу Сакалову, Таню Новік і Люду Гумянюк—рэпарцёр сустрэў у мастацкім музеі. Яны—студэнткі ўніверсітэта. Наташа і Люда ўжо майстры спорту. Сяброўкі не аднойчы выступалі ў міжнародных спаборніцтвах.



# ТАК ПАЧЫНАЛАСЯ ПАРТЫЯ

Стрэлкі гадзінніка, што вісіць на сцяне ў невялічкай зале гэтага зялёнага доміка на Ленінскім праспекце, спыніліся, паказваючы дваццаць пяць мінут на дванаццатую. Захавалася, дакладней сказаць, узноўлена, уся абстаноўка, якой яна была з 1 па 13 сакавіка 1898 года, калі тут праходзіў I з'езд РСДРП. Тады ў гэтым доміку жыў служачы Лібава-Роменскай чыгункі Павел Васільевіч Румянцаў. Калісьці сам ён сядзеў за рэвалюцыйную дзейнасць у турме. Таму не дзіва, што аддаў сваю кватэру для пасяджэнняў з'езда.

...Яны сабраліся нібыта адсвяткаваць дзень нараджэння гаспадыні. Іх было ўсяго дзевяць чалавек, што прыехалі з розных мясцін Расіі: П. Л. Тупчанскі — удзельнік Кіеўскага «Саюза барацьбы», Б. Л. Эйдэльман — таксама з Кіева — адзін з арганізатараў з'езда, С. І. Радчанка — дэлегат з Пецярбурга, М. А. Вігдорчык — прадстаўнік ад кіеўскай «Рабочай газеты», А. І. Крэмер — дэлегат Бунда, Ш. Кац — таксама бундавец, К. А. Петрусевіч — дэлегат ад Екацярынаслаўскага «Саюза барацьбы» і прадстаўнікі маскоўскага «Саюза барацьбы» А. А. Ваноўскі і А. Мутнік.

Яны праводзілі пасяджэнні ў двух невялічкіх пакоях, а насупраць праз вуліцу знаходзіўся будынак коннай жандармерыі. Адзін з удзельнікаў гэтага гістарычнага з'езда ўспамінае, што фармальна ні старшыні, ні прэзідыума не выбіралі. I ўсё ж, нягледзячы на гэта, I з'езд РСДРП адбыўся і прыняў адпаведны маніфест, у якім да назвы РСДП упершыню была дабаўлена назва «рабочая». Партыя праз свой камітэт рашыла ўступіць у зносіны з іншымі рэвалюцыйнымі арганізацыямі.

Уладзімір Ільіч Ленін на I з'ездзе РСДРП не прысутнічаў, хоць і правёў вялікую падрыхтоўчую работу. Вестку пра з'езд і пра яго Маніфест У. І. Леніну ў сяло Шушанскае прывезла ў маі 1898 года Н. К. Крупская.

Старыя бальшавікі, хто разам з Ільічом быў тады ў ссылцы ў Сібіры, успамінаюць, што ён «радаваўся, як дзіця», калі пачуў гэтую вестку. «Мы,— пісаў П. М. Лепяшынскі,— нібыта адразу выраслі ў сваіх уласных вачах».

За семдзесят гадоў, што прайшлі з часу адкрыцця з'езда, мы сапраўды непазнавальна выраслі. Зялёны з'ездаўскі домік стаіць не на ўскраіне Мінска, як некалі, а ў цэнтры. Бясконцым патокам штодзень прыходзяць на яго парог экскурсанты — рабочыя, калгаснікі, студэнты, школьнікі — усе, для каго дарагая гісторыя нашай партыі. Тут пабывалі працаўнікі і кіраўнікі многіх сацыялістычных краін. Стаіўшы дыханне, слухалі яны экскурсавода. Многія на развітанне і на ўспамін пакінулі

запісы ў кнізе ганаровых гасцей. Навуковыя супрацоўнікі з радасцю паказваюць гэтыя запісы новым наведвальнікам. Вось запіс, пакінуты А. І. Мікаянам: «З вялікім хваляваннем агледзелі Дом-музей І з'езда РСДРП. У спрэчцы з Верай Засуліч у 1913 годзе У. І. Ленін пісаў, што партыя на справе была заснавана ў 1898 годзе. 20.VI.65 г.».

А гэтыя словы напісаў Янаш Кадар: «Партыйная дэлегацыя Венгерскай сацыялістычнай рабочай партыі, што прымала ўдзел у рабоце XXIII з'езда КПСС, з павагаю аддае належнае заснавальнікам Расійскай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі. 2.IV.66 г.».

І яшчэ адзін запіс, зроблены в'етнамскімі патрыётамі: «Хоць гэты домік і маленькі, ён мае вельмі вялікае значэнне, таму што тут адбыўся І з'езд РСДРП, партыі, якая прывяла рускі народ да Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя аказала вялікі ўплыў на рэвалюцыю ў В'етнаме і працягвае аказваць уплыў на вызваленне Паўднёвага В'етнама ад амерыканскіх імперыялістаў.

Мы шчаслівыя, што мелі магчымасць наведаць гэты музей».

Такіх запісаў шмат. За мінулы год зялёны Дом-музей наведала 150 тысяч экскурсантаў. А ў дзень 14 студзеня г.г. толькі з аднаго горада Херсона прыехала 414 чалавек, каб пабачыць сваімі вачыма мясціну, дзе пачыналася наша камуністычная партыя.



**В'етнамскія студэнты ў пакоі, дзе абмяркоўваўся першы маніфест нашай партыі.**

Фота **В. Ждановіча.**

**Уладзіслаў ЯКІМАЎ.**



# САРАТНІК ІЛЬІЧА

12 сакавіка 1868 года ў невялічкім мястэчку Студзянец Клімавіцкага павета Магілёўскай губерні ў сям'і святара Мікалая Лепяшынскага нарадзіўся сын, якога назвалі Панцеляймонам. У хуткім часе пасля гэтага сям'я пераехала ў вёску Літвінавічы Кармянскай воласці (цяпер Кармянскі раён Гомельскай вобласці).

Айцец Мікалай збіраўся накіраваць сына, які з дзіцячых год захапляўся кнігамі, па сваёй дарозе. Але Панцеляймон выбраў другі шлях — праўды і змагання. У трынаццаць гадоў, будучы навучэнцам Магілёўскай гімназіі, ён уключаецца ў работу нелегальных гурткоў, дзе гімназісты знаёміліся з творамі рэвалюцыйных дэмакратаў, чыталі забароненыя кнігі. Не дзіўна, што ў выпускной характарыстыцы начальства не прамінула адзначыць схільнасць здольнага гімназіста Лепяшынскага да «злачыннага вальнадумства».

Сапраўдным падпольшчыкам П. М. Лепяшынскі стаў у Пецярбургскім універсітэце, куды ў 1886 годзе ён паступіў на фізіка-матэматычны факультэт. Тут ён узначальваў беларускае зямляцтва, прапагандаваў і распаўсюджваў забароненую літаратуру і адозвы, уступіў у групу маладых нарадавольцаў.

У 1890 годзе за ўдзел у арганізацыі масавай студэнцкай сходкі студэнта 4-га курса Панцеляймона Лепяшынскага выключаюць з універсітэта з «воўчым білетам» і высылаюць са сталіцы. Першую сваю ссылку ён адбываў у Пінску. Тут, у глыбіні Палесся, грунтоўна вывучаючы творы заснавальнікаў навуковага камунізма, ён канчаткова пераконаўся, што вызваленне працоўных з-пад ярма эксплуатацыі магчыма толькі ў класавай барацьбе. Праз чатыры гады, і, вядома, без дазволу, Лепяшынскаму ўдалося вярнуцца ў Пецярбург і ўладкавацца на сціплую пасаду ў дзяржаўнай камісіі па пагашэнню пазык.



Старанны і ціхі чыноўнік з зайздроснай хуткасцю прасоўваўся па службовай лесвіцы. Адзінай «заганай» у вачах саслужыўцаў і начальства было яго кнігалюбства—у нядзельныя дні ён гадзінамі выстойваў ля букіністычных крамак і кнігарань.

А «сціплы чыноўнік» тым часам разгарнуў актыўную рэвалюцыйную дзейнасць сярод піцерскіх рабочых. На пустэчы за Неўскай заставай альбо за Волкавым могільнікам збіраліся невялікія групы рабочых. Іх чакаў высокі, стройны, з русай бародкай «паляўнічы», звычайна ў балотных ботах і ссунутай на патыліцу скуранай шапцы. Рабочыя ўважліва слухалі задушэўныя і простыя гутаркі маладога прапагандыста пра самае набалелае: чаму заводчык жыве багата, хоць і не працуе; як дорага абыходзіцца народу ўтрыманне царскай сям'і і ўсёй яго шайкі, што трэба рабіць, каб скінуць царызм і змяніць існуючы эканамічны лад.

Часта пры развітанні малады «паляўнічы» вымаў з-за халяваў ботаў акуратны скрутак адозваў і прасіў раздаць іх таварышам на заводзе. Часам такія гутаркі праводзіліся пад выглядам прагулак па заліву на невялічкім катэры, якім кіравалі знаёмыя матросы-фіны.

Неўзабаве паліцыя дазналася пра гэтыя рэгулярныя сустрэчы «паляўнічага» з рабочымі і пачала сачыць за ім. У снежні 1895 года яна напала на кватэру Лепяшынскага якраз у той момант, калі ён разам са сваім земляком Гуляніцкім друкаваў на гектографе лістоўку, у якой усерасійскі імператар называўся «аўгусцейшым быдлам». Лепяшынскага абвінавацілі ў супрацоўніцтве з членамі Пецярбургскага «Саюза барацьбы за вызваленне рабочага класа» Ульянавым, Запарожцам, Старковым, Цедзербаўмам і іншымі, хоць у той час ён яшчэ не ведаў аб існаванні «Саюза».

Асабістае знаёмства Панцеляймона Лепяшынскага з кіраўнікамі пецярбургскіх сацыял-дэмакратаў адбылося па дарозе ў трохгадовую ссылку, да якой усе яны былі прыгавораны пасля 14 месяцаў папярэдняга зняволення.

У заснежаным драўляным Мінусінску на кватэры Глеба Максімільянавіча Кржыжаноўскага пад новы, 1898 год адбылася першая сустрэча Панцеляймона Мікалаевіча з Уладзімірам Ільічом Леніным. З гэтага часу і да апошніх дзён жыцця Ільіча яны былі шчырымі сябрамі. У ліку 17 палітычных ссыльных марксістаў Лепяшынскі падпісаў вядомы «Пратэст расійскіх сацыял-дэмакратаў», накіраваны супраць маніфеста «эканамістаў» «Credo». У газетах «Енисей», «Сибирская жизнь» ён час ад часу друкаваў публіцыстычныя артыкулы, агляды, карэспандэнцыі, у якіх выкрываў манархічны і грамадскі лад тагачаснай Расіі.

На жаль, многія з іх яшчэ і цяпер не знойдзены і не надрукаваны, як не надрукаваны і некаторыя яго выдатныя літаратурныя творы, напісаныя ў савецкі час.

У 1900 годзе, адбыўшы ссылку, Панцеляймон Мікалаевіч па прапанове У. І. Леніна пасяліўся ў Пскове. Горад знаходзіўся ў зручным месцы для ажыццяўлення сувязі паміж Пецярбургам і заграніцай. Таму Пскову адводзілася роля аднаго з галоўных цэнтраў па распаўсюджванню агульнарускай сацыял-дэмакратычнай газеты «Искра». Адгэтуль Лепяшынскі пад псеўданімамі «Лапаць», «Олін», «Пскавіч» пісаў карэспандэнцыі ў «Искру» аб рэвалюцыйных падзеях у Пецярбургу, Пскове, Казані і іншых гарадах Расіі, перапісваўся з Уладзімірам Ільічом і Н. К. Крупскай, прымаў самы актыўны ўдзел у распаўсюджванні «Искры», у зборы сродкаў на яе выданне.

Тут на кватэры ў Лепяшынскага 1 лістапада 1902 года адбылася Усерасійская сацыял-дэмакратычная канферэнцыя, на якой быў выбраны арганізацыйны камітэт па падрыхтоўцы II з'езда партыі. У склад аргкамітэта ўвайшоў і Панцеляймон Лепяшынскі. Пасля гэтага яго зноў арыштоўваюць і на гэты раз ссылаюць у Мінусінск ужо на шэсць гадоў.

1903 год. Лепяшынскі з пашпартам

на імя мінусінскага мешчаніна Быкава ўцякае з ссылкі. Пасля доўгага блукання па чыгуначных станцыях, каб замесці сляды, яму ўдалося перайсці граніцу і апынуцца ў Жэневе, дзе ў той час жылі Ленін, Пляханаў і іншыя кіраўнікі РСДРП.

Работа поплеч з Леніным садзейнічала ідэйнаму і палітычнаму росту Лепяшынскага. Разам з Бонч-Бруевічам, Вялічкам, Лядавым і іншымі бальшавікамі ў маі 1904 года ён піша «Адкрыты ліст т. Г. В. Пляханаву» і прымае дзейсны ўдзел у падрыхтоўцы III з'езда партыі, замяшчае нейкі час загранічнага прадстаўніка ЦК, працуе сакратаром Савета партыі і інш. Ён быў адным са стваральнікаў бібліятэкі і архіва ЦК РСДРП.

У гады першай рускай рэвалюцыі Лепяшынскі вярнуўся ў Расію, супрацоўнічаў у бальшавіцкіх газетах «Вперёд», «Волна», «Эхо», «Казарма». Не спыніў ён партыйнай работы і пасля падаўлення рэвалюцыі 1905 года. Але, хаваючыся ад жандарскага вока, ён вымушаны быў часта мяняць месца жыхарства: жыў у Оршы, Екацярынаслаўе, Пецярбургу, Шчолкаве, нейкі час працаваў у статыстычным бюро пры Маскоўскай гарадской управе. Працуючы ў 1907 годзе настаўнікам матэматыкі ў Аршанскім рэальным вучылішчы, ён разам з жонкай Вольгай Барысаўнай стварыў на чыгуначным вузле партыйную групу.

Пасля лютаўскай рэвалюцыі 1917 года аршанцы выбіраюць Панцеляймона Мікалаевіча гарадскім галавой. Аднак, калі контррэвалюцыйная большасць гарадской думы адмовілася прызнаць савецкую ўладу, Лепяшынскі склаў з сябе паўнамоцтвы і адкрыта апеляваў да мас. На трэці дзень пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі Аршанскі Савет, зацвярджаючы гарадскі Ваенна-рэвалюцыйны камітэт, выбраў ганаровым старшынёй П. М. Лепяшынскага.

У канцы лістапада Лепяшынскі паехаў у Петраград. Цёплай была яго сустрэча з Уладзімірам Ільічом. Панцеляймон Мікалаевіч распачаў работу ў Камісарыяце народнай асветы.

Летам 1918 года, параіўшыся з Леніным, Лепяшынскі рашыў на вопыце праверыць правільнасць сваіх тэарэтычных палажэнняў аб працоўным політэхнічным выхаванні ў новай савецкай школе. Месцам размяшчэння першай савецкай вопытнай працоўнай школы Панцеляймон Мікалаевіч выбраў сваю родную вёску Літвінавічы. Ён прыехаў туды разам з жонкай Вольгай Барысаўнай, дачкой Вольгай, стрыечным братам Мадэстам Кернажыцкім, сынам Інэсы Арманд Іванам Разумавым і іншымі педагогамі.

Мясцовыя сяляне насцярожана сустрэлі бальшавіцкую школу без папа. Але ў хуткім часе набралася каля сарака вучняў. Разам з імі настаўнікі прывялі ў парадак будынак царкоўна-прыхадской школы, і пачалася вучоба. Тут дзеці навучаліся слясарнай, сталярнай справе і іншым рамёствам. Лепяшынскі вёў грамадазнаўства. Ён аддаваў школе ўвесь свой час, усе свае сілы. Настаўнікі разам з актывістамі са зброяй у руках ахоўвалі школу ад бандытаў і кулацкіх налётаў. У вёсцы таксама была створана школа для дарослых, а ў валасным цэнтры Карме — партыйная школа. Вясной 1919 года ў сувязі з кулацкімі мяцяжамі на Гомельшчыне школа-камуна, а з ёй і дваццаць два яе вучні былі пераведзены ў Маскву, дзе працягвалі вучобу.

У 1921 годзе Лепяшынскі па рашэнню ЦК РКП(б) быў пераведзены на работу ў камісію па вывучэнню гісторыі Камуністычнай партыі (гістпарт). У гэты час ён шмат піша і рэдагуе навуковых прац па гісторыі рэвалюцыйнага руху ў Расіі, піша свае ўспаміны пра У. І. Леніна, выдадзеныя пад назвай «На павароце», вядзе выкладчыцкую работу ў Маскоўскім універсітэце і Камуністычнай акадэміі, уваходзіць у склад рэдкалегій многіх часопісаў. Ім напісана некалькі артыкулаў па гісторыі ўстанаўлення Савецкай улады на Гомельшчыне і Магілёўшчыне.

Выдатны вучоны і журналіст, перад якім былі адчынены дзверы самых салідных выданняў, ніколі не грэбаваў адгукнуцца на якую-небудзь падзею ў раённай газеце. Яго карэспандэнцыі можна было сустрэць і ў «Звяздзе», і ў «Калгасніку Кармяншчыны» і ў іншых. І на ўсё хапала ў яго нястомнай энергіі.

У 1923 годзе камсамольцы Кармянскай вобласці выбралі свайго славутага земляка ганаровым камсамольцам. Панцеляймон Мікалаевіч быў ганаровым камсамольцам Беларусі, ганаровым членам Аршанскага райкома КПБ.

Памёр Панцеляймон Мікалаевіч 30 верасня 1944 года. У радах актыўных змагароў за народнае шчасце, у слаўнай кагорце бліжэйшых саратнікаў Леніна Панцеляймону Мікалаевічу Лепяшынскаму належыць ганаровае месца. Памяць пра яго — аднаго з найбольш блізкіх паплечнікаў Леніна — жыве не толькі ў назвах школ, клубаў, санаторыяў, вуліц, але ў тых вялікіх справах, пачынальнікам якіх ён быў.

**Іосіф ХАЎРАТОВІЧ,**
**кандыдат гістарычных навук.**

**Каханне. Як свет, старая і вечна новая праблема. Інтымныя адносіны мужчыны і жанчыны, шлюб, сям'я заўсёды займалі розумы і сэрцы людзей, перш за ўсё — моладзі. У наш час цікавасць да гэтай праблемы не меншае. Наадварот, расце з кожным годам.**

**У нашай краіне і за рубяжом выдаецца ўсё больш кніг, прысвечаных праблемам маралі і выхаванню.**

**«ПАДРУЧНІК ШЛЮБНАГА ЖЫЦЦЯ» — так назвалі сваю кнігу Ганна і Абрахамс Стоун. Яна вытрымала 40 выданняў толькі ў ЗША. Кніга набыла вялікую папулярнасць як у чытачоў, так і сярод спецыялістаў. Не ўсё ў ёй прымальна для нас, людзей, якія жывуць ва ўмовах сацыялістычнага ладу, па законах сваёй, камуністычнай маралі. Але, трэба меркаваць, яна будзе мець цікавасць для кожнага, каго хвалююць пытанні сям'і і шлюбу. Расказ вядзецца ў форме адказаў на пытанні, якія задаюць маладыя субяседнікі.**

**Нямецкі ўрач Р. Нейберт выдаў кнігу «ПЫТАННІ ПОЛУ (КНІГА ДЛЯ МОЛАДЗІ)», у якой асвятляе гэтую складаную праблему з іншага боку, грунтуючыся на прынцыпах новай, камуністычнай маралі.**

**Друкуем раздзелы з гэтых розных, але цікавых па думцы кніг, у якіх юнакі і дзяўчаты знойдуць для сябе нешта карыснае і павучальнае.**

# АДКАЗЫ ДАЮЦЬ ГАННА І АБРАХАМС СТОУН

**Чым адрозніваецца функцыя сучаснай сям'і ад функцыі сям'і ў мінулым?**

Змена функцыі сям'і, між іншым, заключаецца і ў тым, што сёння яна не з'яўляецца эканамічна незалежнай адзінкай, як у ранейшыя часы. Члены сям'і не працуюць разам, і сама сям'я ўжо не з'яўляецца важнейшым цэнтрам выхавання, працы і адпачынку ці абароны сваіх членаў. Раней дом быў фабрыкай, школай, месцам забаў і бальніцай. Людзі нараджаліся, выхоўваліся, жылі і паміралі ў сям'і. Сёння многія з гэтых функцый перайшлі да грамадскіх або дзяржаўных устаноў. Функцыі сям'і, як і яе формы, змяняюцца ў адпаведнасці з новымі культурнымі ўмовамі.

**Аднак факт, што столькі шлюбаў рушыцца на нашых вачах і многія шукаюць выйсце ў разводзе — хіба гэты факт не гаворыць за тое, што сем'і сёння менш шчаслівыя, чым раней?**

Канфлікты паміж мужам і жонкай — рэч не такая ўжо рэдкая. Нават Адаму і Еве не заўсёды ўдавалася мірыцца ў раі. З незапамятных часоў муж і жонка часта не згаджаліся адно з другім, сварыліся, а потым мірыліся. Аднак у мінулым шлюб лічыўся непарыўным, у разлік не прымаліся ніякія канфлікты. У наш час для таго, каб сям'я была трывалая, неабходны фактары, якія б згуртоўвалі яе знутры — пачуццё адзінства, агульнасці, узаемнай прыналежнасці. Узрастанне колькасці разводаў у Амерыцы паказвае перш за ўсё на тое, што ад сям'і чакаюць нечага большага, чым у мінулым. Як большая колькасць хворых у бальніцы не заўсёды сведчыць пра павелічэнне захворванняў, так і ўзрастанне колькасці разводаў азначае толькі тое, што людзі схільныя звяртацца да больш радыкальных сродкаў у выпадку хваробы «сям'і». Сучасная сям'я не распадаецца і не знішчаецца. Яна толькі прыстасоўваецца да сучасных грамадскіх умоў.

**А што вы лічыце галоўнай прычынай канфліктаў у сямейным жыцці?**

Сямейныя нелады могуць быць па розных прычынах. Гэтыя прычыны можна падзяліць на тры групы. Па-першае, муж ці жонка, або адразу абое, аказваюцца зачастую недастаткова пастаяннымі ў сваіх пачуццях. Па-другое, шлюбная пара можа аказацца не добра падабранай. Паміж мужам і жонкай могуць быць розныя інтарэсы, разыходжанні ў поглядах на каханне, можа быць недастатковасць

пачуцця, незадаволенасць ад палавога жыцця. Па-трэцяе, канфлікты ўзнікаюць па знешніх прычынах, напрыклад, з-за грамадскіх і эканамічных умоў. Інакш кажучы, ядром канфлікту аказваюцца муж, жонка ці іх акружэнне. Не заўсёды, аднак, гэтую прычыну можна выявіць, каб аднесці яе да пэўнай катэгорыі. Іншы раз у клубок сплятаецца мноства прычын.

**Вы ўжо неяк успаміналі пра ролю асобы ў шлюбе. Ці не думаеце вы, што гэта важны фактар у сумесным жыцці?**

Але, я гэтак лічу. Шчасце ці няўдача ў сямейным жыцці ў многім залежыць ад таго, што ўяўляюць сабою муж і жонка. Іх характар, тэмперамент, сталасць думкі больш за ўсё ўплываюць на трываласць сямейных сувязей. Людзі з хваравітай псіхікай цяжка прыстасоўваюцца да супольнага жыцця наогул. Тым цяжэй ім у шлюбе, калі трэба штодзённа паміж сабою сутыкацца. Маладая жонка, напрыклад, вельмі прывязаная да бацькоў, як толькі ўзнікнуць самыя нязначныя цяжкасці, уцякае да іх. Маладому мужу, калі ён часта злуе без дай прычыны, стараецца пазбегнуць адказнасці за сям'ю, таксама нялёгка стаць сапраўдным сем'янінам. У такім выпадку прычынай разладу становяцца адмоўныя рысы асобы, а не сам па сабе шлюб.

**Але хіба сямейнае жыццё не ўплывае на развіццё асобы?**

Я згодзен, што сямейнае жыццё стварае новую форму быцця, якая не можа не ўплываць на маладых. Некаторыя ва ўтульнай атмасферы сям'і хутка сталеюць. Але звычайна як муж, так і жонка ўносяць «у агульны кацёл» і сваю асобу, якая аблягчае або абцяжарвае жыццё.

Даследаванні паказваюць, што людзі, далікатныя, дабрадушныя, цярплівыя і схільныя да супрацоўніцтва, маюць большы шанс стаць добрымі мужам і жонкай. З другога боку, малады чалавек, які прывык не несці адказнасць за свае ўчынкі, ніколі не зменіцца пасля жаніцьбы; нецярплівая, нястрыманая дзяўчына можа застацца такой жа, калі выйдзе і замуж. У такім выпадку і мужчына, які разлічвае перавучыць жонку, і жонка, якая спадзяецца «перавыхаваць» мужа,— абое яны павінны лічыцца з магчымым фіяска.

**Вы ўжо гаварылі пра сталасць пачуццяў. Што гэта такое?**

Сталасць у большай меры тое ж, што і дарослась. Напэўна, дзіця не адказвае за сваю фізічную і разумовую нясталасць. Яно залежыць ад іншых — яго кормяць, выхоўваюць. Дзіця не можа аналізаваць свае ўчынкі і пачуцці. Але з цягам часу яно набіраецца сілы, становіцца фізічна незалежным, праяўляе разумовыя здольнасці, кантралюе свае думкі. Некаторыя дзеці дрэнна развіваюцца фізічна, іншыя адстаюць у разумовым развіцці. І атрымліваецца, што некаторыя і не дасягаюць сталасці ў поўным сэнсе слова і застаюцца дзецьмі — у сваіх учынках, у мысленні і пачуццях...

**Чаму людзі так розняцца па характару, па ступені сталасці?**

Няма двух чалавек, якія былі б аднолькавыя. Усе адрозніваюцца адно ад другога. Наш арганізм і наша мысленне — гэта ўрэшце вынік уплыву спадчыннасці і сацыяльных фактараў, некаторыя прызнакі мы ўнаследавалі ад продкаў, некаторыя з'явіліся пад уплывам асяроддзя.

Уплыў асяроддзя адбываецца таксама па-рознаму ў кожным канкрэтным выпадку, і тут мы бачым розніцу ў паводзінах асобных людзей. Многае з таго, што было пeражыта ў дзяцінстве, пераносіцца на перыяд сталасці і ўздзейнічае на асобу, на яе прыстасаванне да сямейных умоў.

**Дык нялёгка, мусіць, дасягнуць сталасці ў поўным сэнсе слова?**

Ваша праўда. У большасці з нас надоўга застаюцца «радзімыя плямы» ад нясталасці. Але ж калі мы спрабуем зразумець прычыны нашых паспешлівых учынкаў, становімся зразумелымі ў адносінах да тых, хто нас акружае,— гэта само па сабе з'явіцца аптымістычным паказчыкам узроўню духоўнай сталасці.

**А калі маладыя муж і жонка розняцца па ўзроўню адукаванасці, цікавяцца зусім празнымі рэчамі? Ці не з'явіцца гэта сур'ёзнай перашкодай для шчасця?**

Адрозненні такога роду могуць стаць прычынай многіх сур'ёзных канфліктаў. Муж і жонка могуць быць вельмі ўраўнаважанымі людзьмі, але калі адрозніваюцца адно ад другога ў сваіх поглядах, густах, схільнасцях, іх прыстасаванне адно да другога становіцца справай даволі складанай.

Каб не быць галаслоўным, раскажу вам такую гісторыю. Ён прыйшоў да мяне, каб параіцца, як быць. Між імі часта ўспыхвалі спрэчкі. Джону было 29, Мэры — 25, але шлюб узялі дзевяць месяцаў таму назад. Джон выхоўваўся ў патрыярхальнай сям'і, дзе слова бацькі было законам. Дзяцей трымалі ў строгасці, ім рэдка дазвалялі выходзіць на вуліцу, сябраваць з дзецьмі з суседніх двароў. Мэры, наадварот, выхоўвалася ў «дэмакратычных» умовах, у доме панаваў прынцып поўнай роўнасці і роўнай адказнасці паміж бацькамі. Джон сустрэў яе на вечары, яны пакахалі адно аднаго і праз шэсць месяцаў пажаніліся. Неўзабаве пасля вяселля выявілася, што яны па-рознаму разумелі свае сямейныя абавязкі; разніліся яны ў поглядах і на тое, якой павінна быць сям'я. Гэтыя адрозненні і сталі

прычынай заўсёдных спрэчак. Джон быў уладалюбівы і вялікі раўнівец. Ён хацеў толькі аднаго, каб Мэры не выходзіла з дому, пакуль ён на рабоце. Не дазваляў ёй сустракацца са школьнымі сябрамі. Ён лічыў сябе гаспадаром дома і патрабаваў, каб жонка выконвала кожнае яго жаданне. Мэры як магла змагалася з навязанай ёй дыктатурай. Яна хацела адстаяць свае права на самастойнасць; ёй падабалася наведваць сяброў, час ад часу запрашаць іх у госці да сябе. Такія прычыны канфлікту.

Мне давялося вельмі доўга размаўляць з імі, выявіць, у чым разыходзяцца іх погляды на сямейнае шчасце. Каб яны зразумелі, што адзіным выхадам для іх з'явіцца адмова ад некаторых эгаістычных настрояў і ўзаемная памяркоўнасць.

**Такое яшчэ пытанне. З размоў з сябрамі можна зрабіць вывад, што ўмяшанне сваякоў у сямейнае жыццё можа быць небяспечным для маладажонаў.**

Вядома, непаразуменні са сваякамі часта з'яўляюцца прычынай канфліктаў. Яны могуць стаць сур'ёзнай перашкодай у стварэнні трывалай маладой сям'і. Ускладненні ўзнікаюць у асноўным па наступных двух прычынах: ці маладажонам цяжка пазбавіцца ад залежнасці, ці самі бацькі не жадаюць адмовіцца ад кантролю за дзецьмі. Многія маладыя людзі трымаюцца за «маміну спадніцу», хоць ужо даўно сталі дарослымі. Ім не хапае пачуцця самастойнасці і незалежнасці. Стаўшы маладажонамі, яны ўсё яшчэ азіраюцца на бацькоў. Пры ўзнікненні якой-небудзь цяжкасці яны тут жа бягуць дадому, каб выплакацца там, знайсці параду і падтрымку. Нядаўна, напрыклад, адзін малады чалавек з вялікай незадаволенасцю расказваў мне, што яго жонка цалкам і поўнасцю залежыць ад маці. Пасля таго, як яны пажаніліся, яна яго папрасіла, каб некаторы час пажыць у яе бацькоў. І пазней, калі ў іх з'явілася свая кватэра, яна амаль увесь час праводзіла з маткай. Цешча падбірала для іх мэблю, посуд, ішла з дачкой, калі ёй трэба было нешта купіць. Калі ўзнікалі хатнія праблемы, жонка замест таго, каб параіцца з мужам, бегла да маці.

Пасля таго, як мы з ёю некалькі разоў пагутарылі, яна сама вырашыла не весці сябе па-дзіцячаму і ўзяла ролю гаспадыні дома ў сваёй сям'і.

У некаторых сітуацыях бацькі самі не хочуць выпускаць «лейцы» з рук. Яны сочаць за кожным крокам маладых, вымяраюць іх жыццё сваёю меркай і перашкаджаюць развіццю новай сям'і. У такіх выпадках умяшанне бацькоў можа стаць крыніцаю сур'ёзных канфліктаў.

**Як ацаніць: удалы быў выбар ці не?**

Адзіны надзейны крытэрый, які мне вядомы, гэта крытэрый часу і выпрабавання. Перш чым маладыя людзі возьмуць шлюб, яны павінны мець дастаткова часу. Каб добра ўведаць адно другога, трэба паназіраць, як ваш партнёр паводзіць сябе ў розных сітуацыях, як ён рэагуе на розныя абставіны, усё роўна ўдваіх вы ці сярод таварышаў. Патрэбна праверыць яго адносіны да цябе і ўзаемныя магчымасці і здольнасці. Калі маладыя людзі адкрыюць у сабе блізкія рысы характару і аднолькавыя схільнасці, то, напэўна ж, яны будуць шчаслівыя і ў шлюбе.

**Ці не хочаце вы гэтым сказаць, што са шлюбам нельга спяшацца?**

Вы правільна мяне зразумелі. Бываюць, вядома, выключэнні, але шансаў на поспех куды менш, калі шлюб быў узяты толькі ў выніку хвіліннага рамантычнага захаплення. Нядаўна, напрыклад, неўзабаве пасля вяселля мяне наведаў малады чалавек, каб расказаць пра непаразуменні, што ўзніклі ў яго з жонкай. Дзяўчына прыехала ў яго родны горад, каб пагасціць тры тыдні ў сваякоў. Сустрэліся яны ў кафэ. Праз дзесяць дзён ён заявіў, што кахае, і яшчэ праз два тыдні яны распісаліся. Прайшло пяць дзён, і аказалася, што ў іх няма абсалютна нічога агульнага.

Калі я спытаў у яго, чаму ён зрабіў так неразважліва, ён адказаў: «Мне вельмі спадабалася, як яна смяялася, калі я жартаваў». Прайшоў час, жарты страцілі свежасць, і аказалася, што рашэнне, прынятае імі, было занадта паспешлівае.

**Ці можна лічыць каханне самай істотнай гарантыяй шчасця ў шлюбным саюзе?**

Так. Без кахання няма шчасця ў сямейным жыцці. Яно з'яўляецца асновай здаровых, сяброўскіх адносін паміж мужам і жонкаю.

*(Заканчэнне ў наступным нумары).*




**Уладзімір ПАЎЛАЎ. Светацені. Выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1967**

# НА ПОДСТУПАХ ДА СТАЛАСЦІ

Пры першым чытанні ствараецца ўражанне, што гэтая кніга напісана ўпэўненай рукой сталага паэта. Забягаючы наперад, скажу,— каб не мучыць чытача і самога аўтара,— што пры паглыбленым чытанні ўражанне гэтае не прападае, хоць у сім-тым і карэкціруецца.

Добрае ўражанне робіць перш за ўсё сам верш—моцны, адшліфаваны, зроблены, як кажуць, сумленна. Ён гладкі, але без гладкапісу, радкі суцэльна-літыя, без дзялення на ступенькі «лесвіцы», якія ў большасці выпадкаў не з'яўляюцца неабходнымі ў вершах маладых паэтаў; ён музыкальны, чоткі і часам нават сухаваты, як добры дом сучаснай архітэктуры, пабудаваны без лішніх «упрыгожванняў».

Мяне пяруп наводмаш перыў.
І я за тое дакараў,
Што не заўсёды сябру верыў,
А хціўцу часам давяраў.

Могуць запярэчыць: версіфікацыйны ўзровень сучаснай паэзіі наогул высокі і такім пісьмом нашага чытача ўжо не здзівіш. Гэта, вядома, правільна, але ж я папярэджваў: такое толькі першае ўражанне, беглы позірк на тое самае адзенне, па якім сустракаюць. Урэшце чытач пераконваецца, што ў большасці вершаў Уладзіміра Паўлава ёсць тое, дзеля чаго яны пішуцца,—думка. Яна жыве, б'ецца ў вершы, як пругкая рыбіна, што трапіла ў сеці; яна прысутнічае тут, побач з намі, мы адчуваем яе... Шкада толькі, што часам вельмі малыя ячэйкі сеці не дазваляюць нам бачыць гэтую думку ва ўсіх падрабязнасцях, у чыстым выглядзе. Нават пачатак такога верша, як «Мяне пяруп...», які абяцаў развіць вялікую і вельмі сучасную думку пра мужную і цяжкую пераацэнку каштоўнасцей, не падмацоўваецца наступнымі строфамі, не ўзмацняецца, не прасвятляецца:

За пахвальбу — пустыя гукі —
Я аддаваў сябе ўсяго.
І сам без просьбы і прынукі
Адразу кідаўся ў агонь.

Гэта праўда, што за пахвалу, ад каго б яна ні ішла, не трэба аддаваць усяго сябе, але чаму гэта абавязкова—«пустыя гукі»? Чыя гэта пахвала—сяброў альбо ворагаў, што за пахвала, за што? І ў які агонь кідаўся герой верша? Тут можна падумаць, што гэта--добра, а можна падумаць, што і дрэнна, калі не раскрыць сэнс слова «агонь». Наступныя радкі верша на гэтае пытанне адказу не даюць:

Пякла насмаленая глеба,
Трашчалі ў лісцях жалуды.
І сіпява густая неба
Была той шклянкаю вады.
Якую нельга ўзяць самому,
К якой рукі не дацягнуць,
Сябры якую цераз стому,
Як паратунак, падаюць.

Альбо вось яшчэ адзін верш. Відаць, ён дарагі аўтару, магчыма, нават выражае яго крэда, таму што назва яго стала назвай кнігі. У самой назве ўжо ёсць нейкі намёк на тое, што верш гэты сугучны прыведзенаму вышэй: святло і цені, дабро і зло, барацьба паміж імі,—як і сутыкненне паміж сапраўдным і лжывым у папярэднім вершы. Чытаеш верш «Светацені», і нельга не прызнаць, што

ўскладнёны рух думкі, па сутнасці, ускладняе і зацямняе простае і яснае:

Калі ж праменне сонца звесіць
Над вырубкай лабатых пнёў,
Наровіць цень схавацца ў лесе
Пад кронамі, ля камялёў.
Ён нас, як бежанцаў, прымае
У веснавы пагодны дзень.
І ўжо да костак працінае
Увосень той жа самы цень.
Набытак наш — не ў летуценні,
Не белізна і не загар.
А ў тым, відаць, што светацені
Кладуцца промнямі на твар.

Так, у розныя перыяды нашага жыцця адносіны да нас навакольнага і нашы да навакольнага мяняюцца, і менавіта таму паяўляюцца на твары маршчыны (светацені таксама). Але ці трэба гэта ўсё супрацьстаўляць летуценням? І навошта тут—у адцягненым вершы—такія сезонныя паняцці пра белізну і загар. І нарэшце, што ж—добры гэта ці благі набытак? Дае ён нам што ці адбірае ў нас?

Вось жа варушыцца, б'ецца, трапечацца думка, а ніяк не можа вызваліцца ад трывалых вершаваных путаў, ніяк не можа зажыць самастойным жыццём.

І раптам я, чытач, пачынаю разумець, або нават спачатку падазраваць, што няяснасць думкі ёсць вынік не да канца аформленых і яшчэ не сфармуляваных дакладна адносін да разнастайных з'яў жыцця, да яго «праклятых» пытанняў.

У гэтым выпадку паэт ва Уладзіміру Паўлаву сталее, апярэджваючы сталенне ў ім чалавека.

Думка гэтая пацвярджаецца, калі пачынаеш чытаць другі раздзел кнігі «Светацені». Большасць вершаў гэтага раздзела—пра вайну. І яны—лепшыя ў кнізе. Тут паэт і чалавек роўныя ў сваёй сталасці. Чаму? Ды таму, што адносіны да такой з'явы, як вайна, вызначаны—няхай нават і не самім паэтам, а задоўга да яго—раз і назаўсёды. Ад гэтага вершы ясныя, глыбокія; уменне пісаць іх цэментуецца глыбокім веданнем таго, з чым і за што трэба ваяваць.

І мы цішынёю раптоўнай кантужаны,
Выглядваць бацькоў на застрэшкі
ўзлазілі.
А недзе раўлі ўжо маторы натужана,
І атамны гром калаціўся над Азіяй.

Застрэшак беларускай хаты і Азія—побач, у адной страфе. Свет ушчыльніўся так, што падзяліць яго немагчыма. Паэт мог бы вельмі доўга пералічваць тое, што ўваходзіць у гэты трагічна ўшчыльнёны свет, але ён абрывае радкі—вельмі горкія радкі—гаворачы пра галоўнае:

А недзе...
А недзе...
І так без канца —
То атамны прывід, то посвіст свінца,
І нам ад сяўні адрывацца прыходзіцца,
Шынель прымяраць і па дому
маркоціцца.

А гэтых «нас»—не так многа, магло быць куды больш. Пра гэта паэт гаворыць у адным з лепшых вершаў:

Калі ўстане ўсяго па адным
Ад загінуўшых армій і рот,
. . . . . . . . . . . .
З тых магіл, што ўтоіў палын,
З дна марскога, з-пад цяжкіх валоў,
То народзіцца ў краі маім
Больш за тысячу тысяч сыноў.
Ды не ўстане ніхто з-пад муроў
І магіла і мора маўчыць.
І не маю я столькіх сяброў,
Што не зможа ніхто падлічыць.

Смутак па ненароджаных, смутак па тых, хто, нарадзіўшы сына, дачасна ідзе ў магілу з апошняю думкай, каб не паўтарылася трагедыя, каб у яго сына не было адабрана права нарадзіць сына:

Ад разрываў удухай душыла іх горкай,
Іх намацвалі чэргі сваім пісягом.
І сягоння яны на зялёным пагорку,
Прыкрываючы вёску, ляжаць ланцугом.

«Песні ваенных гадоў», «Балада», «Старыя самалёты»—разумныя і журботныя вершы чалавека, для якога вайна магла б быць ужо гісторыяй, калі б не пагражала стаць яго будучыняй. Якраз гэта, апошняе, і прадыктавала паэту вершы пра сучасную армію, пра будні абаронцаў краіны, аднагодкаў паэта. І вершы гэтыя ўдалыя, магчыма, па той прычыне, што і вершы пра мінулую вайну. Паэт разумее, якая смяртэльная небяспека навісла над светам і як неабходна змагацца супраць яе. Вось верш пра афіцэра запасу, пра сябе. І як добра сказана ў ім пра «запас», як па-сялянску асэнсавана гэтае слова:

Усемагутныя сёння кванты.
Ды не робіць бяды запас —
У малодшыя лейтэнанты
Вызначае эпоха нас.
Пазнаю ў прахадной завода,
З тапарамі на гулкай сцяне
Асабовы састаў узвода,
Не хрышчонага на вайне.

Каштоўнасць другога раздзела кнігі «Светацені», такім чынам, не толькі ў тым, што кожны верш, за рэдкім выключэннем (напрыклад «Песня пра Івана Чуклая»), добры сам па сабе, але яшчэ і ў тым, што ўсе яны складаюць нейкае адзінства, ідэйнае і мастацкае.

Ёсць, аднак, удачы і іншага плана.

Там, дзе не ўзнікае неабходнасць даследаваць думку, дзе схоплена і пададзена толькі мімалётнае — факт, карціна, падзея, адным словам, у вершах-настроях—Уладзімір Паўлаў таксама дамагаецца поспеху. Такія вершы маюць законнае права на існаванне ў паэзіі і могуць быць, паводле слоў Ражэ Гарадзі, цудоўныя гэтак жа, як цудоўнае, напрыклад, дрэва ў квецені.

Няма ж, здаецца, нічога асаблівага ў гэтым вось кароценькім вершы:

Ах, як сена насохлае пахне,
Быццам мёд, хоць па чарках разлі.
Туманы падхапілі пад пахі
І на луг басанож павялі.
Не палоньце ж навечна за тое,
Што мне родны прастор лугавы,—
Ёсць яшчэ ў мяне поле жытное,
Ёсць яшчэ ў мяне Сон Баравы,—

але ён хвалюе гэтак жа, як і верш з вялікай думкай.

А вось яшчэ адзін верш таго ж плана—«Сонечная ноч». Апісанню паўночнай ночы, якая зрабіла на паэта надзвычай моцнае ўражанне, магчыма, і бракавала б яркіх дэталей, але глядзіце, якая ў верша свавольная, па-дзіцячы непасрэдная, смешная канцоўка (гаворка ідзе пра гусей):

А нам здаецца, чуем крык тужлівы.
Калі ж і дзе гняздо яны пачнуць?
Дык знімем шапкі і шпурнём з абрыва,
Няхай у іх, у цёплых, адпачнуць.

Здаецца, толькі адзін настрой не ўдаецца ўлавіць Уладзіміру Паўлаву—каханне. І тут нельга не задумацца: чаму ў нашых маладых паэтаў «не выходзяць» вершы пра каханне? Чаму на гэтую вечную шчымлівую тэму, якая дала свету столькі цудоўных твораў мастацтва ва ўсіх яго галінах, пішуцца вершы вялыя, разважлівыя, ледзь-ледзь цёплыя? Мне здаецца, прычына тут у тым, што паэты не асмельваюцца чамусьці пісаць пра сваё каханне, а пішуць пра каханне наогул. Але паколькі пра каханне наогул сказана—і як сказана!—вельмі многа, то ўсё, сказанае цяпер «наогул», проста паўтарае тое, што ўжо было. Выхад, відаць, адзіны: пісаць пра сваё каханне, імкнучыся як мага дакладней выказаць яго, таму што індывідуальнае пачуццё заўсёды непаўторнае.

А што ж ва Уладзіміра Паўлава? Знаёмае чытачу шкадаванне аб ростанях, прыдарожная рабіна, якая памятае пра гарачыя сустрэчы, рэўнасць—няма тэлеграм. І сярод гэтай бутафорыі натыкаешся на такія больш-менш свежыя радкі з верша «Над палямі»:

І вясёлка будзе сіліцца пад неба
І зямлю, і нас з табой падняць.

Але і тут болей выдумкі, чым пачуцця.

Смешна і сумна. Кахаць мы больш-менш умеем, а пісаць пра гэта—не. Выходзіць, трэба вучыцца.

Яшчэ адна заўвага: у вершах—асабліва напісаных па народных матывах—здаецца неправўдападобным ужыванне такіх слоў, як «парасон», «срэбразвонныя», «вышыты зорамі»—гэта штампы прафесіянальнай паэзіі. Аднак гэта ўжо дробязі, якія залежаць больш ад здольнасцей да рэдагавання. Апроч таго, іх вельмі мала, каб яны пагоршылі кнігу паэта, ад якога беларуская паэзія можа чакаць многага.

**Фёдар ЯФІМАЎ.**




# СВАЁ ПРАЗ ЧУЖОЕ

Гэтая кніжка падобна на этажэрку, на паліцах якой знойдзеш амаль усё, што аўтар чытаў і чытае. Ёсць на паліцах і сваё, але яно стаіць побач з чужым так шчыльна, што яго трэба адслойваць, прычым нават самабытны верш аказваецца закрануты дыфузіяй чужога зместу і чужой формы. Тут ёсць і Эдуардас Межалайціс, і Юсцінас Марцінкявічус, і японская танка, і французскі верлібр, і ...Анатоль Вярцінскі, грамадскі рэдактар гэтай кніжкі. Называецца яна **«НЕПАЗБЕЖНАСЦЬ»**, аўтар — малады паэт **Мікола КУПРЭЕЎ.**

Грэх было б гаварыць, што Мікола Купрэеў толькі перараймальнік, што яго паэзія — суцэльнае эпігонства. Не, ён, безумоўна, паэт, паэт у многім цікавы, са сваімі думкамі і сваім бачаннем свету, але гэтыя свае думкі і незапазычаныя карціны жыцця ўвасабляе пакуль што пры дапамозе такіх сродкаў і прыёмаў, якія знойдзены не ім. Не заўсёды, праўда, але вельмі часта.

Якім асеннім днём ці вечарам
яны зрабілі тут апошні круг?
Калі? Не разумею... Снег і нечага
не хапае...
Падае з вышыняў белы пух.

Гэта «Буслы». І хоць у вершы не тры радкі, а пяць і ёсць рыфма, ён па-вучнёўску захоўвае рытмічны і эмацыянальны малюнак танкі. І справа тут не ў перапісванні, тут дзейнічае закон літаратурнай рэмінісцэнцыі. Гэтак жа ён дзейнічае ў вершы «І за нас».

...І за нас
на ўвесь свет,
на ўвесь свет
...смейцеся, хлопчыкі...

Пачуў некалі паэт песню на словы Булата Акуджавы «Спрашивайте, мальчики, спрашивайте», уразіла яна яго сваімі рытмамі, інтанацыйнай напружанасцю і адбілася на яго, Міколы Купрэева, вершы, дакладней, не адбілася, а прабілася праз яго, як леташняя травіца на баразне, якую хоць і сам узараў, але травіцу тую не саскуб.

І ў той жа кніжцы чытаеш такое:

Паліла сонца — дажджу хацелася,
дажджы наваліліся—сонца хацелася,
быў хлапчуком—пасталець хацелася,
выйшаў за трыццаць — юнацтва схацелася.
Стаў паміраць — жыць захацелася.
У сонцы,
у ліўнях,
у юнацтве,
у сталасці
і — таму што жыў на зямлі!—
плакаў прад сконам ад гора і радасці.

Пранізлівы верш, крык адчаю і шчасця: і трапеча і б'ецца, як само сэрца... А многія і многія мясціны з паэмы «Арыніна студня»! А «Як зямля верціцца»! А «Найвялікшае адкрыццё»! Хораша, сурова, пяшчотна і — чалавечна...

Дык чаму ж у кніжцы пераважаюць вершы, далёкія ад гэтых? Чаму ў ёй столькі чужых інтанацый, манернасці, «элегантнай» саладжавасці? Ды таму, што паэт, чаго б гэта ні каштавала, хоча быць інтэлектуалам, хоча ствараць выключна інтэлектуальную паэзію. Асуджаць яго за гэта нельга — доўгі час у беларускай паэзіі панавала «вясковая» тэматыка, амаль не было «гарадскіх» паэтаў. Праўда, вясковы чалавек Максім Танк яшчэ ў гады свайго юнацтва даў бліскучыя ўзоры самых складаных форм, тых, якія лічацца прыналежнасцю «інтэлектуальнай» паэзіі. Нарэшце, у беларускай паэзіі ёсць выдатная традыцыя Максіма Багдановіча. Аднак абмежаванасць была, і ад гэтай абмежаванасці літаральна ўцякае Мікола Купрэеў.

Але куды ён уцякае? На жаль, вельмі часта ў кніжнасць, у палон прыгожых слоў. Ён карыстаецца чужымі гарлачыкамі, наліваючы ў іх сваё віно. А вядома, што сасуд перадае сваю форму таму, што ў яго наліваюць.

«Інтэлектуалізм» многіх вершаў маладога паэта ўяўны, вонкавы, часам проста парадыйны:

О ноч маіх вершаў!
Гімнаў не будзе.
Шэптам грымне элегія...

Міколу Купрэеву здаецца, што самі па сабе словы «элегія», «паланез», «трыпціх» і ім падобныя робяць верш інтэлектуальным, але ж сапраўдны інтэлектуалізм — гэта склад мыслення, стан душы — яго не падменіш словамі. І ў вершы таго ж М. Купрэева «Непазбежнасць» яго больш, чым ва ўсіх гэтых разважаннях наконт таго, «ці будзе ноч апошняй элегіі»...

З гэтым, відаць, не згаджаецца крытык В. Гніламёдаў, які, рэцэнзуючы ў часопісе «Дружба народаў» кнігу вершаў Міколы Купрэева, расхваліў якраз тое, што перашкаджае маладому паэту быць самім сабой. Вось чым выклікана гэтая рэпліка. А паэту «ісці да светлых вытокаў» і гаварыць пра сваё па-свойму, каб напаткала яго «найвялікшае адкрыццё»—складаная і цяжкая прастата праўды.

**Валянцін ТАРАС.**

*Думкі, выкліканыя артыкулам Алеся Яскевіча «Гэты дальні гарызонт», выказалі крытыкі, паэты, празаікі за круглым сталом «Маладосці».*

*Стэнаграфічную справаздачу аб гэтай сустрэчы чытайце ў адным з бліжэйшых нумароў часопіса.*

# СВЯЦІЦКІ І БЕЛАРУСЬ



скарбы архіўных паліц

У 1905 годзе Львоў у руках шостага, лічачы ад пачатку заснавання, гаспадара пачынаў 133-ю гадавіну панавання Аўстра-Венгерскай імперыі. Узніклы ў глыбінях украінскага народа, усё ўзмацняўся і рос на Галіччыне рух за нацыянальнае і сацыяльнае разняволенне. Расце цікавасць да памятак украінскай даўніны, народнага мастацтва. Асобныя аматары і даследчыкі пачынаюць збіраць даўнія рукапісы, старадаўнія абразы, старадрукі, дэкаратыўную разьбу па дрэве, розныя рэчы прыкладнога мастацтва. Так узніклі невялічкія, спачатку прыватныя калекцыі на Прыкарпацці, а ў Львове — збор мастацкіх твораў пры Стаўрапігійскім інстытуце (дзе, між іншым, захаваліся цікавыя дакументы перапіскі з Беларуссю з часоў узнікнення брацтваў), а таксама пры Навуковым таварыстве імя Тараса Шаўчэнкі і Народным доме.

На люты месяц 1905 года прыпадае пачатак арганізацыі Нацыянальнага музея ў Львове. Ён павінен быў насіць назву Царкоўнага музея. Гэтая акалічнасць мае дачыненне да нашай гаворкі, бо тутэйшы мітрапаліт (з-за крывавай дзейнасці ў часе апошняй вайны ён не заслугоўвае нават, каб назваць яго імя) пажадае потым здабываць царкоўныя рэчы і на Беларусі, дзе ён спадзяваўся быць таксама мітрапалітам.

Толькі ж не такія людзі рабілі гісторыю. Тысячы сённяшніх наведвальнікаў Музея ўкраінскага мастацтва на вуліцы Драгаманава ў Львове ўдзячны тым шчырым і самаадданым людзям, сярод якіх быў арганізатар і першы дырэктар Нацыянальнага музея Іларыён Сямёнавіч Свяціцкі.

Калі нават не разглядаць яго дзейнасць як заснавальніка беларускага аддзела ў сваім музеі, асоба Свяціцкага мае вельмі вялікую цікавасць для Беларусі. Ён з'яўляецца піянерам беларусістыкі на Украіне і адным са значных дзеячоў еўрапейскай беларусістыкі. У 1908 годзе ўбачыла свет яго першая праца на 58 старонках, прысвечаная беларускай літаратуры. Гэта «Адраджэнне беларускага пісьменства». Аўтар ужо два гады як быў знаёмы з Цёткай — беларускай эмігранткай у Львове, стаў яе шчырым сябрам, дарадцам. І, магчыма, яе настаўнікам, як больш асвечаны ў мастацтве чалавек, хоць Іларыён Сямёнавіч і быў аднагодкам Цёткі.

У сваёй кніжцы Свяціцкі аналізуе творчасць беларускіх пісьменнікаў, а таксама вершы з двух зборнікаў Цёткі, выдадзеных у Жолкве ў 1906 годзе. Ён прыводзіць цытаты з тых варыянтаў зборнікаў паэтэсы, якія былі выдадзены лацінкай, а не кірыліцай. Напэўна, каб аблегчыць галіцкім чытачам азнаямленне з паэзіяй Цёткі.

У 1914 годзе Свяціцкі друкуе «Асновы адраджэння беларускага пісьменства», а ў 1918 годзе — «Росквіт культурна-нацыянальнага жыцця Усходняй Беларусі». На шматлікіх старонках ён расказвае пра Ф. Скарыну, С. Буднага. Пра беларускае кнігадрукаванне піша ён і ў кнізе «Пачаткі кнігадрукавання на землях Украіны». Тэма Беларусі гучыць і ў працы Свяціцкага «Смаленская грамата 1229 г.» ды ў іншых.

Хто ж ён такі, даўні сябар беларусаў?

Нарадзіўся Іларыён Сямёнавіч Свяціцкі 7 красавіка 1876 года на Львоўшчыне ў сям'і народнага настаўніка. Даўнія ж продкі яго паходзяць з Беларусі. У 1899 годзе закончыў філасофскі факультэт Львоўскага ўніверсітэта і паступіў у археалагічны інстытут у Пецярбурзе.

У 1905 годзе арганізаваў Нацыянальны музей, дырэктарам якога працаваў аж да 1952 года. Акрамя гэтага, выкладаў у Львоўскім універсітэце. Тут у 1913 годзе ён атрымаў званне дацэнта славянскай філалогіі. З 1939 года Свя-





**Шмат такіх старадрукаў адкрыў чытачу доктар Свяціцкі.**

ціцкі — старшы навуковы супрацоўнік Інстытута мовазнаўства Акадэміі навук УССР і прафесар Львоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Івана Франка. Неўзабаве атрымаў вучоную ступень доктара філалагічных навук. Пасля Айчыннай вайны Свяціцкі становіцца кіраўніком аддзела мовазнаўства Інстытута грамадскіх навук АН УССР і загадчыкам кафедры славянскай філалогіі ў Львоўскім дзяржаўным універсітэце. Неаднаразова выбіраўся дэпутатам Вярхоўнага Савета УССР.

Памёр Іларыён Свяціцкі 18 верасня 1956 года.

Чым жа тлумачыцца такая шырокая зацікаўленасць Свяціцкага Беларуссю? Мусіць тым, што ён наогул быў даследчыкам славянства, і супольнасцю лёсаў бяспрыкладна блізкіх у славянскім свеце двух народаў: беларускага і ўкраінскага, ды, напэўна, кроўнай яго роднасцю з беларусамі. Таму столькі намаганняў прыклаў Свяціцкі, каб «пазнаёміць... са становішчам і імкненнямі... найбліжэйшых братоў», а таксама паказаць парадненне беларусаў і ўкраінцаў «як становішчам, так і ідэйным жыццём». Немалаважнае значэнне мела і тое, што адным з настаўнікаў маладога Свяціцкага быў Павел Смалікоўскі з Беларусі. Ён і даў свайму вучню першыя звесткі пра Белую Русь, пасяліў у ім любоў да беларускага народа.

*Як жа разгортвалася дзейнасць Іларыёна Свяціцкага як збіральніка мастацкіх каштоўнасцей беларускай культуры?*

У 1908 годзе Іларыён Свяціцкі пісаў, што музей мае на мэце сабраць, сістэматычна ўпарадкаваць і зберагчы для навукі памяткі культурна-царкоўнага жыцця паўднёва-заходняй Русі. Для гэтага музей падзяляўся на наступныя часткі:

а) Бібліятэку царкоўнаславянскіх і славяна-рускіх выданняў, царкоўнаславянскіх і рускіх рукапісаў, старадрукаў;

б) Архіў актаў і грамат па гісторыі рускай царквы, асабліва — Уніі;

в) Збор абразоў славяна- і руска-візантыйскага і руска-польскага (заходнееўрапейскага) стыляў;

г) Збор рэчаў царкоўных і рэлігійнага культу;

д) Падручную бібліятэку па бібліяграфіі старадрукаваных кніг, рукапісаў, выдавецтваў, па гісторыі мастацтва і арнаменту;

е) Гістарычна-этнаграфічную калекцыю;

ж) Беларускі аддзел.

«З таго і выцякае далейшая задача Музея,— пісаў яго дырэктар,— сабраць па магчымасці ўсё, што можна будзе толькі дастаць з памятак нашага культурнага жыцця, а другія аддзелы дапоўніць настолькі, каб даць магчымасць вучоным без лішняй траты часу і сродкаў працаваць на месцы для роднай навукі».

Ужо ў сакавіку — ліпені 1905 года адбылося першае падарожжа па Украіне, Расіі, Беларусі для папаўнення фондаў музея. Свяціцкі адпраўляецца ў далёкую дарогу, каб закупіць кнігі, вывучыць антыкварны рынак, сустрэцца з архіўнымі даследчыкамі. Пачаеў, Бярдзічаў, Жытомір, Кіеў, Чарнігаў, Масква, Пецярбург, Віцебск, Смаленск, Мінск, Вільня — вось назвы гарадоў, у якіх ён пабываў. Пад гэты час у асноўным фондзе музея ўжо былі беларускія гістарычныя акты, рэдкія палемічныя друкі XVI — XVII ст. ст., партрэты (напрыклад, віленскага каноніка Янкоўскага, Іасафата Кунцэвіча, Рыгора Хадкевіча), рызы,

**1908 год. Выйшла з друку першая праца Свяціцкага аб беларускай літаратуры.**

Відроджене білоруського письменства





ЛЬВІВ

[illegible]

1908

царкоўны посуд з гістарычна вядомых цэркваў Беларусі. Цікавасць да цэркваў у тыя часы мае сваё вытлумачэнне, бо «ў паняволенага народа,— пісаў Свяціцкі,— толькі царква магла яшчэ зберагчы тое-сёе з прыдбанняў нацыянальнай культуры».

Свяціцкі даведаўся ад львоўскага вучонага Міхаіла Паўлыка аб прыватным беларускім архіве-музеі Генрыка Татура ў Мінску. Пабачыцца з гэтым музейнікам яму ўдалося толькі ў 1906 годзе, калі Свяціцкі зноў паехаў у Маскву, Пецярбург і па Беларусі.

Прыкметныя змены, якія адбыліся на нашай зямлі ў выніку рэвалюцыі 1905 года, адразу кідаліся ў вочы прыезджаму чалавеку. Свяціцкі пільна прыглядаецца да першых крокаў культурна-нацыянальнага жыцця ў Беларусі. Толькі чалавек, які выдатна ведаў гісторыю беларускага народа, здолеў так абагуліць свае назіранні: «Не трэба нават доўга даказваць, што маем поўнае права гаварыць пра беларускае адроджанае пісьменства».

Свяціцкі, выкарыстоўваючы дзелавую паездку, сустракаецца з прадстаўнікамі беларускай культуры. І не толькі «эстэтычнымі» бакамі навакольнага свету цікавіўся вучоны, а, як з добрым пачуццём гумару зазначае ён, «адначасова капаўся па сапраўдных норах, дзе ўсякія нашчадкі гогалеўскага Плюшкіна прывыклі складваць усё рызманнё часам разам з каштоўнейшымі скарбамі даўніны». Памагаў яму старшы «посміцюх». (ад слова «сметнік»), музейнік з абласной імперскай археалагічнай камісіі — вышэйпамянёны Генрык Татур.

Цікава апісаў Іларыён Свяціцкі знаёмства з гэтым чалавекам. «Яго сядзіба за мінскаю электрычнаю станцыяй, на ўскраіне горада, была па-сярэдневяковаму абнесена высокім парканам і частаколам. З вуліцы трэба было моцна стукаць кулакамі і бразгаць клямкаю, пакуль на страшны брэх сабак выйшаў прысадзісты, рудаваты, з нізкаю мясістаю шыяй, з выразнымі скуламі — адным словам — татарын. Гэта і быў сам гаспадар Татур. Размаўляў толькі па-польску, напэўна, з мясцовым «літоўска-беларускім» акцэнтам. Рускіх чыноўнікаў, бацюшак, манахаў не любіў і з'едліва высмейваў іх за тую дабрадушную даверлівасць, з якой яны перадавалі яму каштоўныя скарбы мінуўшчыны. Сам ён асабіста быў добрым псіхолагам і ўмеў чытаць праз знешні вобраз вобраз у душы. Не дзіва, што ўдалося яму сабраць сапраўды нямала».

Калі львоўскі госць вытрымаў у Татура трохдзённыя іспыты на цярплівасць, а таксама паказаў яму веды ў музейных справах і некалькі ўвайшоў у давер, тады гаспадар стаў паказваць сваё дабро. Бязмерна хваліць і высока ацэньваць паасобныя рэчы — было ўла-



**Са збораў Свяціцкага: славутая скарынаўская «Біблія».**

**Гэткімі літарамі аздабляў Скарына свае кнігі.**



сціvасцю характару Татура. Не абышлося без гэтага і цяпер. Але да куплі рэчаў з калекцый мінскага музейніка нельга было прыступіцца, бо Татур запрасіў за ўсё выбранае ці не 10 тысяч рублёў, з чаго ўступаў толькі 300 рублёў у выглядзе «парукавічнага».

Так ні з чым Свяціцкі і паехаў ад Татура. Справы закупкі беларускіх рэчаў для музея закончыліся ў снежні 1907 года пасля знаёмства з вучнем і памочнікам Татура — Янкам Луцкевічам. Той даў згоду прадаць музею значную колькасць шаўковых слуцкіх паясоў, некалькі партрэтаў, нямала актаў, антымінсаў.

У лютым 1908 года Іларыён Свяціцкі трэці раз наведаў Беларусь. Ён ужо быў знаёмы з многімі віднымі дзеячамі беларускай культуры. Асабліва шчырыя адносіны ўстанавіліся ў яго з Янкам Купалам. Яны мелі між сабой перапіску. Іларыён Свяціцкі вельмі цікавіўся новымі здабыткамі беларускай літаратуры, складаў беларускую бібліятэку і часта пасылаў Купалу лісты з просьбай прысла́ць яму новыя кнігі. Наогул, у Львоў даволі часта прыходзілі лісты Купалы, бо ён яшчэ меў перапіску і з Цёткай. Вельмі шкада, што львоўскі архіў Цёткі вывезены Кейрысам за мяжу і лёс яго амаль невядомы.

Адной з галоўных прычын трэцяга прыезду Іларыёна Свяціцкага ў Беларусь быў выкуп і перавозка рэчаў з музея Татура. Сам гаспадар к таму часу памёр, і ўсе справы прыйшлося весці з Янкам Луцкевічам. Свяціцкі апісвае гэтыя падзеі так: «Татурава дабро магло быць перадана «крадком ад шпіёнаў», якія тады сачылі за дзейнасцю Беларускай сацыялістычнай грамады, а Грамада ў тыя часы распараджалася ўсёй маёмасцю Татура.

Прывезеныя ад Татура рэчы, у дадатак да прыдбаных раней, сталі асновай Беларускага аддзела Нацыянальнага музея ў Львове. Пазней гэты аддзел узбагаціўся выдатнымі матэрыяламі актаў і стадрукаў Скарыны, даволі добрым падборам узораў беларускага народнага мастацтва.

Калі ў першыя гады існавання музей абмяжоўвае сваю дзейнасць зборам старадаўняга мастацтва, то пазней, дзякуючы намаганням энтузіястаў, ён ператвараецца ў культурную ўстанову мастацкага значэння. У 1913 годзе Нацыянальны музей размясціўся ў спецыяльна прыдбаным прыгожым палацы (дзе знаходзіцца і цяпер) і быў адкрыты для публічнага наведвання. Ён становіцца шырока вядомым не толькі ў Заходняй Украіне, але і за яе межамі, і ўстанаўлівае сувязі з многімі музеямі свету. Ва ўмовах сацыяльнага і нацыянальнага ўціску буржуазна-памешчыцкай Польшчы, не зважаючы на матэрыяльныя цяжкасці, музей увесь час папаўняўся. Дзякуючы Свяціцкаму, мацнеюць сувязі музея з Беларуссю.

Мне не раз даводзілася аглядаць экспазіцыю Музея ўкраінскага мастацтва. Але на гэты раз перада мною стаяла зусім іншая задача — самому ўбачыць фонды беларускага аддзела.

І вось дачка заснавальніка музея Вера Іларыёнаўна Свяціцкая паказвае мне збор закупленых у Беларусі слуцкіх паясоў. Іх дваццаць тры. Тканыя ў дзве, у чатыры столкі, розных узораў і адценняў, з металічным утокам і без яго, яны даносяць з векавой даўніны цеплыню рук і сэрцаў беларускіх майстроў. А вось і «кветкі радзімы»: пераліваецца сінім бляскам вытканы на ўсю шырыню пояса букет васількоў. О, праз колькі рук, варожых і ласкавых, прайшлі вы, а не звялі, не зліня́лі, дарагія васількі з горкіх, але вечных палёў радзімы! З кірылічных пергаментаў музей мае тры кірылічныя рукапісы беларускай рэдакцыі XIII—XIV стагоддзяў. Але самае вялікае багацце бібліятэкі — гэта беларускія старадрукі. У бібліятэцы музея захоўваецца частка пражскіх выданняў Ф. Скарыны 1517—1519 гг., а таксама яго кнігі, надрукаваныя ў Вільні ў 1525 годзе. На паліцах размяшчаюцца кнігі, выдадзеныя ў дваццаці старадаўніх беларускіх друкарнях. Сярод іх: з віленскай друкарні Мамонічаў — Евангелле, Псалтыр Мсціслаўца 1575—1576 гг., Статут літоўскі 1588 г. і іншыя; з віленскай манастырскай Свята-Троіцкай друкарні; віленскай брацкай Свята-Духаўскай друкарні; з віленскай і гродзенскай стараабрадных друкарань; адзінаццаць кніг з Еўя (Граматыка Мялеція Сматрыцкага, 1619 г.); кнігі заблудаўскага, кутэйнскага друку, з друкарань М. Вашчанкі і Богаяўленскага брацтва ў Магілёве; дваццаць адзін том з Супрасля. Усяго каля 100 экземпляраў беларускіх кніг.

Так адкрываецца перад намі яшчэ адна старонка жыццядайных творчых сувязей двух славянскіх народаў-братоў, умацаванню якіх так шмат аддаў ведаў і энергіі шчыры сябар беларускай культуры Іларыён Сямёнавіч Свяціцкі.

**Сяргей ПАНІЗНІК.**

# ЗАВОЧНАЕ ВЯСЕЛЛЕ

Рэпартаж Антося Цыбулькі, праілюстраваны мастаком Анатолем Волкавым




Хочаце верце, а хочаце не верце, але гэтае вяселле адбылося ў нашым глыбінным палескім гарадку.

Праўда, падзеі набылі такі паварот, што жаніху Антосю Гароху адразу ж з ЗАГСа давялося несці заяву ў нарсуд.

А пачалося ўсё так. Уся бяда ў тым, што Антось жаніўся... завочна. У гарадку заклалі падмурак новага дзесяцікватэрнага дома на цэнтральнай вуліцы. Антось Гарох — участковы ўпаўнаважаны — першы раз за сваё жыццё тады пайшоў да старшыні гарпасялковага савета. Захацелася яму мець сваю кватэру, а пасля ўжо справіць вяселле з Аленай Арабінкінай — паштальёнам.

Старшыня гарсавета паслухаў яго ды і кажа: «Ты, Антось, атрымаеш кватэру, але трэба спачатку стаць сямейным чалавекам».

Акрылёны надзеямі, Антось адразу з гарсавета пайшоў у раённы ЗАГС і пакінуў там заяву, што ён хоча ажаніцца з Аленай Арабінкінай. Супрацоўнік ЗАГСа забраў заяву і сказаў: «Прыходзьце з нявестай праз тыдзень, прынасьце пашпарты, я шлюб ваш зарэгіструю». Настрой у Антося падняўся да неба. Ён бягом кінуўся на пошту да Алены. І вось там пачаліся яго першыя пакуты — Алена Арабінкіна толькі што ўзяла чарговы адпачынак.



Цётка яе, куды Антось пабег з пошты, сказала, што Алена паехала да сваіх бацькоў у вёску і вернецца не раней як праз тыдзень. Сумны і невясёлы вярнуўся Антось дадому. Так мінула некалькі дзён. Справы патрабавалі канкрэтных і неадкладных дзеянняў таму, што гарсавет пачаў дзяліць у тым доме кватэры, пры тым, як і паабяцаў старшыня, іх давалі толькі сямейным. Яшчэ некалькі дзён Антось бегаў, нібы ў гарачцы: Алена з вёскі не вярталася. Тады ён рашыў пайсці на хітрасць: паслаў да Аленінай цёткі позву, каб тая тэрмінова прынесла яму Аленін пашпарт для замены або прыслала да яго Алену.



Алена не з'яўлялася, і пашпарта не было. Антось Гарох сам пайшоў да цёткі дамоў. Тая, убачыўшы змучанага бяссонніцай участковага, пашкадавала яго і тут жа адчыніла шуфлядку стала. Пры гэтым яна гаварыла: «Вы не сумуйце, малады чалавек. Хоць Алены няма, затое яе пашпарт я вам дам. Вось ён, бярыце, калі ласка». Антось ледзь не падскочыў ад радасці. Схапіўшы пашпарт сваёй будучай жонкі, ён выскачыў з дому. Нават дзверы не зачыніў. Калі ён бег па вуліцы, прахожыя толькі рукамі разводзілі: маўляў, зноў недзе здарэнне нейкае.

Супрацоўнікі ЗАГСа, калі Антось Гарох падаў ім свой дакумент і пашпарт на імя Арабінкінай, пачалі запаўняць нейкія бланкі. Затым загадчыца дастала з сейфа прамавугольны штамп. Антось увесь гэты час паціраў рукі і прасіў: «Хутчэй афармляйце! Хутчэй! А то я застануся без кватэры!» Загадчыца ЗАГСа паставіла штамп на дакументы маладой пары і нечакана заўважыла, што перад ёю толькі адзін малады. «Чакайце, чакайце, а дзе ж ваша нявеста?» Антось неразборліва пачаў адказваць: «Яна... Яна захварэла і не змагла прыйсці...» Загадчыца хуценька схавала штамп у жалезны сейф, адгарнула першую старонку пашпарта жонкі — і ледзь не страціла прытомнасць: з пашпарта на яе і на жаніха-ўчастковага пазірала старая жанчына — Аленчына цётка.

Суд скасаваў гэты скараспелы шлюб і апраўдаў цётку. Антось Гарох атрымаў першую ў жыцці вымову на службе. Пакуль што ён цярпліва чакае вяртання Алены.



## ХОЦЬ МНЕ СЯГОННЯ ПЯЦЬДЗЕСЯТ...

Здаецца, ўчора нарадзіўся,  
Нядаўна быў яшчэ хлапчом...  
І вось я дзядзькаю зрабіўся  
І, кажуць, нават байкаром.  
Не песціў лёс мяне суровы.  
Быў радавы ў жыцці салдат,  
І зараз ў бой ісці гатовы,  
Хоць мне сягоння пяцьдзесят!

**Эдуард ВАЛАСЕВІЧ.**

Сяброўскі шарж М. Лісоўскага.

**Мікола ВЯРШЫНІН**

## ЗВЫШГАНАРЛІВАСЦЬ



**Як павысілі ў чыне яго,**  
**Напісалі аб ім у газеце,**  
**Дык ён сам сябе пасля таго**  
**Перастаў пазнаваць на партрэце.**




Свой новы творчы год Антось Цыбулька пачаў даволі арыгінальна. Куды б, вы думалі, ён трапіў? 9—10 студзеня Антось засядаў на VIII з'ездзе мастакоў Беларусі! Разам з дэлегатамі з'езда ён уважліва заслухаў справаздачны даклад праўлення Саюза мастакоў БССР, звышуважліва ўспрыняў даклад рэвізійнай камісіі, а ў перапынку ў вестыбюлі сустрэў свайго сябра мастака Міхася Лісоўскага. Той сядзеў у роздуме каля вялікага ліста «Грэшнік». Побач вісела яшчэ з дзесятак такіх жа лістоў, прысвечаных мастакам і рабоце з'езда. Цыбулька падбег да мастака: «Хочаш, падпішу? Усё будзе ў рыфму!»

Пакуль на з'ездзе мастакі і скульптары, класікі і маладыя, «ламалі коп'і», пакуль выбіралі новае праўленне і рэвізійную камісію, Антось скрэмзаў тры блакноты, сапсаваў дзве аўтаручкі. І зрабіў подпісы пад з'ездаўскія лісты Міхася Лісоўскага.

# ПАКУЛЬ СОХНУЦЬ ПЭНДЗЛІ



●

**Яшчэ не паспеўшы**
**На свет нарадзіцца,**
**Пачаў Анікейчык**
**«Знішчэнне» традыцый.**



— А як нам спавіць іх!
— А дзе іх усмешкі! —
Пытаюць Савіцкі
І Малішэўскі,
Калі немаўлятак
Сваіх, як батоны,
Прыносяць у хату
Класічнай мадонны.



Хаця задум сваіх хапае
І тэмы ёсць у нас для твораў —
Мы штось шукаем у Дунаі
І у Карыбскім ловім моры.
Пакуль сушыцца пэндзлі будуць
І краб кляшнёю будзе пляскаць —
Куды б цяпер закінуць вуды,
У дыме думае Паплаўскі!..



Раней сцвярджалі ўсе на свеце,
Што на бацькоў падобны дзеці.
Цяпер — усё наадварот:



Пад свой партрэт прысеўшы,
Гаворыць Малішэўскі:
— Змест —
Недаступны гледачу...
А форма — што ж, навейшая.
Я сам мастак і, як хачу,
Усё так перамешваю...



Бацькі старыя — без барод,
А дзеці, нібыта бязродныя,
З вусамі ходзяць і з барадамі!

Раздзел вядзе
Аляксей СУЭЦІН,
міжнародны гросмайстар

# НАШЫ ШАХМАТЫ СЁННЯ І ЗАЎТРА

### Крызіс ці новыя праблемы?

Міжзанальны турнір і вынікі міжнародных сустрэч прымушаюць сур'ёзна задумацца пра далейшы лёс і развіццё нашай шахматнай школы. Што сталася з нашымі вядучымі шахматыстамі? Чаму яны так часта пачалі саступаць першыя месцы сваім зарубежным калегам? У 1967 годзе Б. Ларсен тройчы—у Тунісе, Гаване і Канадзе—здолеў абысці дзевяцярых нашых гросмайстраў экстра-класа, кожны раз становячыся на чале турнірнай табліцы. Двойчы—у Скопле і ў Монтэ-Карла—гэта зрабіў Р. Фішар.

На старонках «Праўды» ад 13 лістапада 1967 года быў апублікаваны артыкул гросмайстра А. Котава, у якім аналізуюцца недахопы ў рабоце нашай шахматнай арганізацыі. У чым жа бачыць А. Котаў адну з галоўных прычын крызісу нашай шахматнай эліты? А. Котаў указвае на два фактары: заніжаныя патрабаванні да гросмайстарскіх нарматываў і страту творчай бескампраміснасці, якая часта падмяняецца спартыўным, «ачковым», разлікам.

Наконт гэтых двух пунктаў хочацца таксама зрабіць некалькі заўваг. Котаў піша: «Паслабленне патрабаванняў не толькі зніжае гросмайстарскі клас, але адмоўна ўплывае на вышэйшую эліту: не бачачы ніякай небяспекі з боку тых, што ідуць ззаду, некаторыя вядучыя гросмайстры сталі менш працаваць». Канкрэтна ён гаворыць пра адзінаццаць нашых гросмайстраў, якія выканалі неабходныя ачковыя нарматывы ў міжнародных турнірах, а не ў першынствах нашай краіны. Але нельга, вядома, не прыняць пад увагу, што большасць гэтых гросмайстраў «60-х гадоў» на працягу многіх год складаюць асноўны касцяк фіналаў і першынстваў нашай краіны (адбор жа на гэтыя першынствы вельмі сур'ёзны). У штогадовыя паўфіналы першынства нашай краіны выходзяць 2—3 пераможцы, звычайна, за рэдкім выключэннем, адны і тыя ж шахматысты. Ці ж не з'яўляецца гэта доказам, што іменна яны значна пераўзыходзяць асноўны ўзровень майстэрства астатніх майстроў?

Невядома яшчэ і тое, ці сапраўды знізілася ў нас унутраная канкурэнцыя? На пастаўленае пытанне можна з упэўненасцю сказаць: не, канкурэнцыя ў нас ёсць і не зменшылася. Прыгадаем хоць бы занальныя турніры СССР 1964 і 1967 гадоў. У барацьбе за шчаслівыя тры (у 1964 годзе) і чатыры (у 1967 годзе) месцы за бортам заставалася большасць нашых самых вядомых гросмайстраў. Ствараецца ўражанне, што ў нас у самых адказных занальных фіналах існуе нават празмерная канкурэнцыя, якая вядзе да нервовых і творчых зрываў, нават у самых апрабіраваных гросмайстраў. І тут зусім правамерна ўзнікае пытанне: а ці нармальна абмежаванне прадстаўніцтва СССР у міжзанальным турніры толькі чатырма месцамі? Ці не тормаз гэта для нашага шахматнага развіцця? Ці не стрымлівае гэта наша развіццё і ці не змяншае нашы поспехі?

Магчыма, час паставіць гэтае пытанне перад ФІДЭ.

### Прэтэндэнты і гросмайстры

Ці кожны гросмайстар павінен быць прэтэндэнтам на сусветную шахматную карону? Звернемся да гісторыі. Возьмем такія імёны, як Г. Мародзі, Э. Шыферс, О. Дурас, Р. Шпільман, С. Тартаковер, Р. Рэці. Ці былі яны ў свой час рэальнымі прэтэндэнтамі на сусветную карону? Не, не былі. Але ці знойдзецца хто-небудзь, хто змог бы адмовіць ім у сапраўдным гросмайстарскім класе гульні? Вядома, не. Гэтак жа і цяпер. Выдатнымі поспехамі, ў пяцідзесятыя гады вылучаўся гросмайстар А. Толуш, які, тым не менш, ніколі

не быў прэтэндэнтам на сусветную карону. Гэта датычыць і іншых нашых выдатных гросмайстраў старэйшага пакалення, у тым ліку і А. Котава.

Усё гэта даводзіць, што стары тэрмін «гросмайстар» застаецца ў сіле на ўсе часы: гэта — выдатны майстар з арыгінальным творчым падыходам да вырашэння шахматных праблем, які нярэдка пакідае значны след у шахматнай гісторыі і тэорыі. Натуральна, што спартыўныя дасягненні гросмайстра значна пераўзыходзяць сярэдні ўзровень, а яркія ўспышкі яго таленту дазваляюць на нейкі прамежак часу ў тых ці іншых спаборніцтвах пераўзысці нават самых вядомых шахматыстаў свету.

Цяпер аб прэтэндэнтах. Уся гісторыя шахмат сведчыць, што лік прэтэндэнтаў заўсёды быў і ёсць меншы за лік гросмайстраў. І, здаецца, ніколі яшчэ не было так шмат «супермайстроў», як у наш час.

З таго часу, як у 1948 годзе сусветная шахматная карона перайшла да нас, большасць прэтэндэнтаў была ў нашай краіне. У перыяд 1948—1951 гадоў шахматнаму «трону» Міхаіла Батвінніка рэальна пагражалі чатыры нашы гросмайстры: П. Керас, В. Смыслоў, Д. Бранштэйн і І. Баляслаўскі. У 1952—1953 гадах на шахматную арэну выйшла наступнае пакаленне савецкіх гросмайстраў ва ўзросце 24—30 год. З гэтай плеяды і выйшаў сучасны чэмпіён свету Ціграй Петрасян. Крыху пазней — у 1956—1957 гадах — прыйшлі ў шахматы васемнаццацігадовы Б. Спаскі і дваццацігадовы М. Таль. Цяпер лік прэтэндэнтаў-супермайстроў павялічыўся ў нас да 7—8, што з'яўляецца рэкорднай лічбай не толькі для адной краіны, а і наогул. А калі мы дададзім яшчэ, што нашу шахматную эліту папоўнілі такія выдатныя майстры, як В. Карчной і Л. Штэйн, то будзе зразумела, што канкурэнцыя ў нас узрасла, нават улічваючы тое, што хто-ніхто з гэтых майстроў за дваццаць год выйшаў з ліку прэтэндэнтаў.

1965 год быў годам гістарычнай змены чэмпіёна. Адмовіліся ад барацьбы нашы ветэраны М. Батвіннік і П. Керас. Цяпер мы маем 5—6 «супермайстроў», г. зн. не менш, чым мелі ў 50-я гады.

### Пра нашы правы і пра зарубежных прэтэндэнтаў

Абмежаванні для савецкіх шахматыстаў на ўдзел у барацьбе за першынство свету ўвайшлі ў сілу, фактычна, у 1958 годзе. Пакажам гэта толькі на лічбах:

**Міжзанальныя турніры**

| Год | Дзе праводзіўся турнір і яго нумар | Колькасць удзельнікаў з СССР |
|---|---|---|
| 1948 | Стакгольм—I | 7 |
| 1952 | Стакгольм—II | 5 |
| 1955 | Стакгольм—III | 6 |
| 1958 | Порта-Рыко—IV | 4 |
| 1961 | Стакгольм—V | 4(—1!) |
| 1964 | Амстэрдам—VI | 5(—2!) |
| 1967 | Сус—VII | 4 |

**Турніры прэтэндэнтаў**

| Год | Дзе праводзіўся турнір і яго нумар | Колькасць удзельнікаў з СССР |
|---|---|---|
| 1950 | Будапешт—I | 7 |
| 1953 | Цюрых—II | 9 (!) |
| 1956 | Амстэрдам—III | 6 |
| 1959 | Югаславія—IV | 4 |
| 1962 | Кюрасао—V | 5 |
| 1965 | Матч—VI | 5 |
| 1968 | Матч—VII | 4—5(?) |

Зноў жа запытаемся: ці не прывяло нашых гросмайстраў да адмаўлення ад барацьбы такое абмежаванне і наступовае, з году ў год, змяншэнне колькасці месц? Прыгадаем, што, напрыклад, І. Баляслаўскі, А. Котаў, С. Флор, Ю. Авербах і іншыя на сутнасці добраахвотна адмовіліся ад вялікай сусветнай арэны задоўга да «крытычнага» ўзросту, у росквіце творчых сіл. Неаднаразова на самым парозе міжзанальных турніраў выходзіў з гульні пястомны М. Тайманаў. І гэта не выпадкова.

А як абстаяць справы ў іншых краінах?

У першыя пасляваенныя гады пагражаць сусветнаму трону рэальна мог толькі С. Рашэўскі. Фашысцкі рэжым амаль дарэшты сцёр шахматныя традыцыі ў многіх краінах Еўропы. А ў нашай краіне, дзякуючы клопатам ЦК КПСС і Савецкага ўрада, у цяжкіх умовах Вялікай Айчыннай вайны былі захаваны асноўныя кадры вядучых шахматыстаў. Яны значна выраслі і за гады вайны і ў пасляваенныя гады, а першыя іх поспехі на сусветнай шахматнай арэне выклікалі небывалую цікавасць да шахмат у шахматыстаў наступнага пакалення. Гэтым тлумачыцца гегемонія ў тыя часы савецкіх шахматыстаў на сусветнай арэне.

Але вось праз дваццаць год вырасла і выхавалася новае пакаленне вядучых шахматыстаў на Захадзе, і сярод іх нямала яркіх талентаў. З такім аб'ектыўным фактам нельга не лічыцца. Б. Ларсен, Р. Фішар, Л. Порціш—канкурэнты самага высокага класа. Здаецца, што няўдачы 1967 года ў многім можна вытлумачыць якраз тым, што нашы гросмайстры не змаглі своечасова псіхалагічна настроіць сябе на сустрэчу з моцным, вырасшым сапернікам і зразумець, што былой перавагі мы ўжо не маем.

### Не лічачыся з тытуламі...

Слушна гаворыць А. Котаў у сваім артыкуле, што пагоня за званнямі не павінна станавіцца самамэтаю. Нават будзе больш карысна крыху «недабіраць» у тытулах, чым «перабраць». А між тым, наша краіна мае рэкордную колькасць гросмайстраў, а тым больш майстроў. Да таго ж, ва ўсякай творчасці значна цікавей тое, што даецца з большымі цяжкасцямі.

Але памылкова было б наогул закрэсліваць заслугі гросмайстраў «60-х гáдоў»: чатыры з іх выйшлі «чыстымі» пераможцамі міжнародных турніраў класа «А». Гіпсліс падзяліў 2—5 месцы ў турніры, дзе ўдзельнічалі адны гросмайстры, а два гросмайстры з гэтай плеяды атрымалі нават вышэйшае права па выніках першынстваў СССР. Добрая ж палова сцвердзіла свае заслужана атрыманыя гросмайстарскія тытулы на міжнародных спаборніцтвах.

І ўсё ж, улічваючы вялікую зацікаўленасць шахматамі ў нашай краіне, трэба самым сур'ёзным чынам змагацца з усялякімі скідкамі, нацяжкамі пры падліках выканання норм, ні ў якім разе не ствараць нейкіх цяплічных умоў і патуранняў у міжнародных турнірах.

Яшчэ больш істотным з'яўляецца пытанне пра фіналы першынстваў краіны. Гэтыя цудоўныя турніры—лепшая школа для маладых шахматыстаў і нават для вядучых гросмайстраў краіны. Нездарма гавораць: «Чэмпіёнам свету можа стаць толькі той, хто спачатку будзе чэмпіёнам СССР». Абавязкова трэба вярнуцца да старога прынцыпу—міжнародныя званні даваць толькі па выніках першынстваў СССР.

Я згодны з А. Котавым і наконт прынцыпаў выхавання нашага юнага пакалення шахматыстаў—майстроў перш за ўсё—праз паўфіналы першынстваў СССР. За апошнія ж пяць год у паўфіналы трапілі толькі два шахматысты да дваццацігадовага ўзросту—Г. Кузьмін і А. Захараў.

Асобнай павінна быць размова пра творчыя паказчыкі. Памылкова было б лічыць, што толькі некалі здольны былі творча гуляць, а цяпер, маўляў, ідзе адно «ачкагонства». Я пераканaны, што працэнт высакаякасных і баявых партый важнейшых спаборніцтваў цяпер не меншы, чым быў раней. Стылі нашых вядучых шахматыстаў, пры ўсёй іх шматлікасці, вызначаюцца баявым падыходам да гульні. І ўсё ж некаторыя міжнародныя турніры ўсё больш навадняюцца кароткімі нічыімі. Чаму гэта так? Здаецца, справа тут не толькі ва ўзросшым майстэрстве абароны, а і ў дзяляцтве. І з гэтым трэба змагацца не ўвядзеннем дадатковых прызоў «за прыгажосць», а перш за ўсё ацэнкаю сілы гульні, зместу партыі, не лічачыся з тытуламі.

### Пра нашу эліту

Пытанне гэта шчыльна звязана з агульнымі задачамі. І ўсё ж, «выратаванне тапельцаў—справа рук саміх тапельцаў»... Мне здаецца, што раней нашы гросмайстры мелі больш дзелавыя шахматныя адносіны. Чаму цяпер не наладжваюцца спецыяльныя зборы гросмайстраў і вядучых маладых майстроў? Нават перад міжзанальным турнірам падрыхтоўка была пушчана на самацёк.

Вельмі сур'ёзнае пытанне аб выданні шахматнай літаратуры ў нашай краіне. Тут знікаюць амаль усе традыцыі: спачатку спынілі выданне зборнікаў фіналаў першынстваў СССР і буйных міжнародных турніраў (прыгадаем 50-я гады), а потым штогоднікі, а цяпер наогул амаль няма новых кніг, і мы іх выпісваем з Югаславіі, ГДР, ФРГ. Я не кажу ўжо пра дэбютныя манаграфіі, падручнікі вышэйшых разрадаў і г. д.

Нельга не кінуць папрок і нашым маладым «супермайстрам»: апрача М. Таля, яны на дзіва «маўклівыя». Л. Штэйн, В. Карчной, Б. Спаскі толькі часам пракаменціруюць партыю, а наогул гуляюць для сябе, хоць маюць усе ўмовы, каб авалодваць літаратурным майстэрствам, перадаваць свой вопыт. Успомнім, якую вялікую ролю адыгралі літаратурныя працы П. Кераса і Д. Бранштэйна аб турнірах прэтэндэнтаў 1948 і 1953 гадоў. Гэта і цяпер—лепшыя дапаможнікі па ўсіх стадыях гульні, і перш за ўсё па сярэдняй яе частцы. А дэбютная энцыклапедыя П. Кераса! А якімі цудоўнымі літаратарамі былі Э. Ласкер, Х. Р. Капабланка, А. Алёхін!

Нашым вядучым шахматыстам трэба памятаць, што, вучачы другіх, мы вучымся самі.

**Аматарам камбінацыйнай гульні ў шашкі прапануем цікавую канцоўку, складзеную чытачом нашага часопіса калгаснікам Уладзімірам ЮШЧАНКАМ.**

Белыя пачынаюць і выйграюць.

1. g3—f4! (Пачынаецца серыя нечаканых ахвяр.)
1. ... e5 : g3
(Калі чорныя б'юць 1. ... g5 : c5, пасля 2. c3—b4! перамога белых не выклікае сумненняў.)
2. c3—b4!! a5 : e5 (Вымушаны ход.)
3. g1—h2!! (Цікавае становішча: чорныя маюць тры лішнія шашкі і чарга хадзіць іхняя, але выратавацца немагчыма ўсё роўна.)
3. ... e5—f4
4. d2—e3 f4 : d2
5. h2 : d6 з выйгрышам.





*Паважаны Валеры П.!*

*Ваш нарыс пад назвай «Смелы хлопец», дасланы ў рэдакцыю часопіса «Маладосць», вельмі характэрны ў тым сэнсе, што ў ім ёсць адзнакі пэўнай схемы, якая выпрацавалася ў многіх нашых аўтараў, што пішуць на спартыўныя тэмы. Ваш парашутыст Сцёпка, як і героі шмат якіх такіх жа твораў, з маленства выношвае мару стаць спартсменам. Вы пішаце, што «калісьці, яшчэ хлапчуком, Сцёпка любіў доўга ўглядацца ў вышыню, дзе ў блакіце шпарка плылі беласнежныя воблакі». І, канечне, ён убачыў у паветры рознакаляровыя парашуты і «аж заззяў ад радасці». І, канечне ж, у яго нарадзілася думка: «А што, калі і я паспрабую?» Задумана — зроблена. Сцёпка ідзе ў аэраклуб. «Трэнер уважліва выслухаў яго і спытаў:*

*— А не баішся?*

*Сцёпка пакруціў галавой.*

*— Ну што ж, паспрабуй,— адказаў трэнер і запісаў яго ў секцыю».*

*Далей ідзе фраза, якая ўжо проста вандруе не адзін дзесятак гадоў у нашых спартыўных карэспандэнцыях: «Так пачала збывацца мара». Сцёпка чытае кніжкі пра ветэранаў савецкага парашутызму, даведваецца пра тое, што «першыя касманаўты — Гагарын і Цітоў — з вялікім майстэрствам акрабатаў рабілі пярэдняе і нават задняе сальта на батутнай сетцы». І, вядома, Сцёпка, па волі аўтара, рашае: «Вось у каго вучыцца!..»*

*Аўтар стараецца пераказаць усю біяграфію свайго героя. «Заняткі ў аэраклубе Сцяпан спалучаў з вучобай у Гродзенскім будаўнічым тэхнікуме, які закончыў паспяхова». «А потым была служба ў арміі. Сцёпка служыў у дэсантных войсках, там выканаў нарматыў майстра спорту»*

*Цяпер у Сцяпана дасягненне за дасягненнем! Але неяк здарылася і няшчасце — «поўны перахлест купала», парашут — не раскрыўся... Што рабіць? «Думаць не было калі. І ўсё ж спартсмен знайшоў правільны выхад. Каб даць магчымасць добра раскрыцца запасному парашуту, Сцяпан вырашыў вызваліцца ад галоўнага купала. Паветраным патокам спартсмена перавярнула на спіну, і тут рука яго пацягнулася да кальца запаснога парашута... Сцяпан прызямліўся як ні ў чым не бывала»...*

*Сцяпана віншуюць трэнер, таварышы. «Малайчына, Сцёпка, смелы ты хлопец!»*

*І — увесь нарыс. Так усё лёгка, хутка і... нецікава. Сапраўднай жа смеласці, мужнасці парашутыста не адчуваецца і не відаць, бо вы не здолелі асэнсаваць матэрыял і—апынуліся ў палоне схематызму. А матэрыял быў, як бачым, удзячны.*

# наш аўтары

●

**ПАЎЛАЎ Уладзімір** нарадзіўся ў вёсцы Замошша, што на Случчыне. Яму трыццаць два гады. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна.

Выдадзены кнігі яго вершаў: «Узлётная паласа», «Далягляд», «Светацені».

●

**ГРАЧАНІКАЎ Анатоль** нарадзіўся ў 1938 годзе ў в. Шарпілаўка на Гомельшчыне. Скончыў Беларускі інстытут інжынераў чыгуначнага транспарту. Працаваў на камсамольскай рабоце. Цяпер — слухач Вышэйшых літаратурных курсаў у Маскве. Выйшаў у свет зборнік яго вершаў «Магістраль».

●

**ПРАНУЗА Паўлюк,** якому 18 сакавіка спаўняецца 50 гадоў, нарадзіўся ў вёсцы Вылева Добрушскага раёна Гомельскай вобласці. Скончыў факультэт мовы і літаратуры Гомельскага педінстытута і працуе настаўнікам. Выйшлі зборнікі яго вершаў: «Разгневаная зямля», «Добрай раніцы», «У дальнім раёне» «Мае землякі».

●

**НЯДЗВЕДСКАМУ Уладзіславу** — трыццаць восем гадоў. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна і настаўнічаў на Лагойшчыне. Потым працаваў на Мінскай студыі тэлебачання.

Выдадзены кнігі яго вершаў: «Вясновыя барозны», «Запрашэнне», «У лясной старане» і аповесць «Хлопцы з другога корпуса», зборнікі сатыры «Начная пагоня» і «Капронавыя галёшы».

●

**ФАМІН Уладзімір** нарадзіўся ў 1935 годзе ў вёсцы Старынка на Мсціслаўшчыне. Працаваў у рэдакцыях раённых газет. Скончыў Мінскую вышэйшую партыйную школу.

Працуе ў райкоме партыі.

●

**ЛОСЬ Еўдакія** нарадзілася ў 1929 годзе ў вёсцы Старына Ушацкага раёна Віцебскай вобласці. Скончыла факультэт мовы і літаратуры Мінскага педагагічнага інстытута імя А. М. Горкага.

Выйшлі ў свет зборнікі яе вершаў: «Сакавік», «Палачанка», «Яснавокія мальвы», «Калі помніць пра сонца» «Хараство», «Купалка» і іншыя.

●

**НАЎРОЦКІ Алесь** нарадзіўся ў 1937 годзе ў Светлагорскім раёне Гомельскай вобласці. Скончыў Мінскі медыцынскі інстытут. Працуе ўрачом хуткай дапамогі ў Мінску. Выдаў зборнік вершаў «Неба ўсміхаецца маланкаю».

●

**КРЫСЦІ Агата,** англійская пісьменніца, нарадзілася ў 1891 годзе. У час першай сусветнай вайны працавала міласэрнай сястрой. Аўтар каля 60 раманаў і 20 п'ес, шматлікіх апавяданняў. Творы Крысці — пераважна дэтэктыўныя. Лепшы з яе раманаў «Н ці М?» (1941).

●

**ЛІСОЎСКІ Міхась** нарадзіўся ў 1931 годзе ў вёсцы Белы Мох на Магілёўшчыне, там скончыў сямігодку, а затым Падсолтаўскую сярэднюю школу Мсціслаўскага раёна. Пасля заканчэння Мінскага мастацкага вучылішча два гады працаваў выкладчыкам Віцебскага педвучылішча. У 1960 годзе скончыў Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут. Цяпер выкладчык Мінскага мастацкага вучылішча.

**ЖУРНАЛ «МОЛОДОСТЬ» № 3**

Мастацкі рэдактар **Янка РАМАНОЎСКІ.** Тэхнічны рэдактар **Пятро ЛЫСЕНКА.** Карэктар **Лідзія ТАЎЛАЙ.**

Рукапісы, аб'ёмам да аркуша, не вяртаюцца.

Тэлефоны: **Б-93-854** — сакратарыят і аддзел крытыкі, **Б-93-592** — аддзелы паэзіі і прозы, **Б-93-892** — аддзелы публіцыстыкі і мастацкага афармлення, **Б-93-775** — аддзел інфармацыі.

Здадзена ў набор 1/II-68 г. Падпісана да друку 29/II-68 г.
АТ 08554. Тыраж 11 117. Зак. 728. Цана 40 кап. Папера 70×108¹/₁₆. Фіз. друк. арк. 16
Умоўн. друк. арк. 13,7. Вуч.-выд. арк. 14,5.

**Друкарня выдавецтва «Звязда», Мінск, Ленінскі праспект. 79.**



А. СЕМЧАНКА. Двое.

З УСЕСАЮЗНАЙ ЮБІЛЕЙНАЙ МАСТАЦКАЙ ВЫСТАЎКІ.